**Леанід Маракоў**

# Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі 1794—1991

Энцыклапедычны даведнік
у трох тамах

Том трэці
Кніга другая

**Лабадаеў—Яцына**

Мінск
2005

УДК 947 «1794—1991» (03)
ББК 63.3 (4 Беи) 2я
М 25

Рэцэнзенты:
*Арсень Ліс, доктар філалагічных навук,*
*Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук,*
*Лідзія Савік, кандыдат філалагічных навук,*
*Янка Саламевіч, кандыдат філалагічных навук,*
*Віталь Скалабан, кандыдат гістарычных навук.*

Аўтар выказвае шчырую падзяку даследчыкам гісторыі беларускай культуры і літаратуры, гісторыкам і архівістам, а таксама родным і сваякам пакутнікаў, якія падзяліліся з ім успамінамі і інфармацыяй, здабытай імі пры азнаямленні са справамі рэпрэсаваных (захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі), што сталася магчымым дзякуючы «перабудоўчай» адлізе 1988—94 г.

**Маракоў Леанід**
**М 25** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991: Энцыклапедычны даведнік: У 3 т. Т. 3. Кн. 2. Лабадаеў—Яцына. — Мінск, 2005. — 744 с.:іл.
ISBN 985-6374-07-3

У энцыклапедычным даведніку прыводзяцца біяграфіі або кароткія звесткі пра літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, якіх рэпрэсавалі ўлады царскай Расіі і савецкай дзяржавы, даваенны польскі, фашысцкі і іншыя рэжымы. Том уключае звесткі і факты, якія на час выхаду першых двух тамоў не былі ўдакладненыя і сістэматызаваныя, а таксама папраўкі і ўдакладненні да тамоў I, II, III (кн. 1), і Імянны паказальнік. Пра шмат каго з пакутнікаў расказваецца ўпершыню. Даведнік разлічаны як на спецыялістаў, так і на самыя шырокія колы чытачоў.



ISBN 985-6374-07-3

# Спіс скарачэнняў

## Крыніцы і літаратура


*$58^{10}$* — $58^{10}$. Надзорные производства Прокуратуры СССР по делам об антисоветской агитации и пропаганде. Март 1953—1991. Аннотированный каталог / Под ред. В.А.Козлова и С.В.Мироненко; сост. О.В.Эдельман. М.: Международный Фонд «Демократия», 1999.

*АЗБ* — *Асветнікі зямлі Беларускай: X — пачатак XX ст.: Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 2001.

*Археалогія і нумізматыка Беларусі* — *Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1993.

*Беларуская мова* — *Беларуская мова: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1994.

*Белая книга* — Белая книга: О жертвах политических репрессий. Самара, 1997—2001. Т. 1—15.

*БП* — *Беларускія пісьменнікі*: *Біябібліяграфічны слоўнік*. У 6 т. Мн.: БелЭн, 1992—1995.

*Бутовский Полигон* — Бутовский Полигон. 1937—1938 гг. М., 1997—2002. Вып. 1—5.

*БЭ* — *Беларуская энцыклапедыя*. У 18 т. Мн.: БелЭн, 1996—2004.

*Возвращенные имена* — *Возвращенные имена*: *Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий* / Сост. и авт. предисл. Н.В.Токарев. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.

*Выншчэнне* — М а р а к о ў Леанід. *Вынішчэнне*. Мн.: ЛМФ «Нёман», 2000.

*Гарбінскі БРД* — Г а р б і н с к і Юрась. *Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя*: *Жыццярысы, мартыралогія, успаміны*. Мінск—Мюнхен, 1999.

*Дэмакратычная апазыцыя* — *Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956—1991. Пэрсанажы і кантэкст. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*Жертвы политических репрессий Иркутской области* — Жертвы политических репрессий Иркутской области: память и предупреждение будущему. А—Б. Иркутск, 1998.

*Из тьмы забвения* — Из тьмы забвения: Книга памяти жертв политических репрессий: 1918—1954. Астрахань, 2000. Т. 1.

*Книга памяти Белгородской обл.* — Книга памяти Белгородской области. Белгород, 1996—2001. Т. 1—3.

*Книга памяти жертв политических репрессий Калининской области* — Книга памяти жертв политических репрессий Калининской области: мартиролог 1937—1938. Тверь, 2000. Т. 1—2.

*Книга памяти жертв политических репрессий Курской области* — Книга памяти жертв политических репрессий Курской области. Курск, 1996—2000. Т. 1—3.

*Книга памяти жертв политических репрессий в Нижегородской области* — Книга памяти жертв политических репрессий в Нижегородской области. Нижний Новгород, 1997—2001. Т. 1—2.

*Книга памяти жертв политических репрессий Омской области* — Забвению не подлежит: Книга памяти жертв политических репрессий Омской области. Омск, 1997—2001. Т. 1—4.

*Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан* — Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан. Уфа, 1997. Т. 1—2.

*Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область* — Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область. Екатеринбург, 1999—2001. Т. 1—3.

*Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан* — Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан. Казань, 2000—2001. Т. 1—4.

*Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия* — Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия. Абакан, 1999—2000. Т. 1—2.

*Книга памяти томичей* — Боль людская: Книга памяти томичей, репрессированных в 30–40-е и нач. 50-х гг. Томск, 1991—1999. Т. 1—5.

*Книга Скорби* — Книга Скорби — Азалы Китап. Расстрельные списки. Алма-Ата, Алмаатинская область. Алматы, 1996.

*Ленинградский мартиролог* — Ленинградский мартиролог: 1937—1938. Санкт-Петербург, 1995—1999. Т. 1—4.

*ЛіМ* — газета «*Літаратура і мастацтва*».

*МАБ* — *Мысліцелі і асветнікі Беларусі*: *Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 1995.

*Мальдзіс, На скрыжаванні...* — Мальдзіс А. *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.).* Мн.: Навука і тэхніка, 1980.

*НАРБ, ІКР* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Індывідуальная картатэка рэпрэсаваных.

*Нацдэмы* — Мяснікоў А. *Нацдэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка*. Мн.: Беларусь, 1993.

*Не предать забвению. Псков* — Не предать забвению. Книга памяти жертв политических репрессий. Псков, 1996—2001. Т. 1—10.

*Не предать забвению. Ярославль* — Не предать забвению: Книга памяти жертв политических репрессий, связанных судьбами с Ярославской областью. Ярославль, 1993—1998. Т. 1—5.

*ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.*

*Покаяние* — Покаяние: Коми республиканский мартиролог жертв массовых политических репрессий. Сыктывкар, 1998—2001. Т. 1—4.

*Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище* — Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище. 1926—1936. М., 1995. Вып. 2.

*Расстрельные списки: Донское кладбище* — Расстрельные списки: Донское кладбище. 1934—1940. М., 1993. Вып. 1.

*Расстрельные списки: «Коммунарка»* — Расстрельные списки: Москва 1937—1941: «Коммунарка», Бутово. М., 2000.

*Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў* — Я н к а С а л а м е в і ч. *Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.).* Мн.: Мастацкая літаратура, 1983.

*Сачанка Б. Сняцца сны...* — С а ч а н к а Б. *Сняцца сны аб Беларусі... Літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв'ю.* Мн.: Мастацкая літаратура, 1990.

*Смоленский мартиролог* — По праву памяти. Книга памяти жертв незаконных политических репрессий. Смоленский мартиролог. А—Я. Смоленск, 2001.

*Улащик. Введение* — У л а щ и к Н.Н. *Введение в изучение белорусско-литовского летописания.* М.: Наука, 1985.

*Улащик. Очерки* — У л а щ и к Н. Н. *Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода.* М.: Наука, 1973.

*Хранить вечно* — Хранить вечно: Книга памяти жертв массовых политических репрессий 30–40-х и нач. 50-х гг. / Ассоц. жертв незакон. репрессий г. Астаны и Акмолин. обл. Астана, 2001. Ч. 1—3.

*ЭГБ — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* У 6 т. Мн.: БелЭн, 1993—2003.

*ЭЛіМБел — Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі.* У 5 т. Мн.: БелСЭ, 1984—1987.

*BS — Byelorussian statehood: Reader and bibliography* / Edited by Vitaut Kipel and Zora Kipel. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988.

*EK — Encyklopedia katolicka*. T. 1—2. Lublin, 1985.

*PSB — Polski słownik biograficzny*. Kraków — Warszawa: Wydawnictwo PAN, 1935—2001.

*SHP — Słownik historyków polskich* / Koncepcja i opracowanie redakcyjne Maria Prosińska-Jackl. Warszawa: Wiedza powszechna, 1994.

## Бібліяграфічныя, палітычныя і геаграфічныя скарачэнні

абл. — абласны (-ая)

*Административно-территориальное деление союзных республик* — СССР. Административно-территориальное деление союзных республик. М., 1987.

АДПУ — Аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне СССР

арт. — артыкул

АУН — Арганізацыя украінская нацыяналістычная.

б. — былы (-ая)

БАН, БелАН — Беларуская Акадэмія Навук (таксама АН БССР, НАН Беларусі), да 1929 Інбелкульт

БАПЦ — Беларуская Аўтакефальная праваслаўная царква

БВА — Беларуская ваенная акруга.

б. г. — без году (выдання)

БДТ — Беларускі дзяржаўны тэатр

БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт

бел. — беларускі

БелАПП — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў

БНС — Беларуская Народная Самапомач

БНР — Беларуская Народная Рэспубліка

БПС-Р — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў

БРГ — Беларуская рэвалюцыйная грамада

БСГ — Беларуская сацыялістычная грамада

БСГА — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія

БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада

БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка

БХД — Беларуская хрысціянская дэмакратыя

БЦР — Беларуская цэнтральная рада

в. — вёска

в. а. — выконваючы абавязкі

ВА — ваенная акруга

ваяв. — ваяводства

вер. — верасень

ВКЛ — Вялікае Княства Літоўскае

ВЛКСМ — Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі

ВКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)

ВМП — вышэйшая мера пакарання

ВМФ — Ваенна-марскі Флот

ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова

вобл. — вобласць

вол. — воласць

*Волости и важнейшие селения* — Волости и важнейшие селения европейской России, в. 5. СПб., 1886.

ВРК — Ваенна-рэвалюцыйны камітэт

ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі

ВЧК (ЧК ) — Усерасійская Надзвычайная Камісія пры Савеце Народных Камісараў па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам

выбр. тв. — выбраныя творы

вып. — выпуск

г. — горад

газ. — газета

губ. — губерня

ГУЛАГ — Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў

г. п. — гарадскі пасёлак

ДА РФ — Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі

ДПУ — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне

жн. — жнівень

зах. — заходні

зб. тв. — збор твораў

Інбелкульт — Інстытут беларускай культуры (з 1929 БелАН)

К. — Кіеў

кастр. — кастрычнік

КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі

КК — Крымінальны Кодэкс

кн. — кніга

КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі

КП(б)ЛіБ — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Літвы і Беларусі

КП(б)У — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Украіны

КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі

КПП — Камуністычная партыя Польшчы

КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза

Кр. — крыніца

крас. — красавік

Кр. геагр. — крыніца геаграфічная

КСМЗБ — Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі

ліп. — ліпень

ліст. — лістапад

літ. — літаратура

ЛКП -— Літоўская Камуністычная партыя

ЛКСМБ -— Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі

лют. — люты

М. — Масква

МБПТ — Мінскі Белпедтэхнікум

МВПІ — Мінскі Вышэйшы педінстытут

МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі

МДУ — Маскоўскі дзяржаўны універсітэт

МЗС — Міністэрства замежных спраў

Мн. — Мінск, Менск

МУС — Міністэрства ўнутраных спраў

мяст. — мястэчка

*Назвы населеных пунктаў* — Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь / Мінская вобл. пад рэд. Лемцюговай В.П. Мн., 2003.

нам. — намеснік

НАНБ — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі

н. — нарадзіўся (нарадзілася)

НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Наркамасветы — Народны камісарыят асветы

НГАБ — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

НДІ — Навукова-даследчы інстытут

НКВД (НКУС) — Народны камісарыят унутраных спраў

НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі

пав. — павет

ПАВ — Польская арганізацыя вайсковая

паліт. — палітычны

ПАРП — Польская Аб'яднаная Рабочая Партыя

пас. — пасёлак

паўдн. — паўднёвы

паўн. — паўночны

Пг. — Петраград

ПНР — Польская Народная Рэспубліка

ППК — Папраўча-працоўны канцлагер

пр. — праспект

*Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў* або *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў* — Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобл. Мн., 1977; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобл. Мн., 1980; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобл. Мн., 1981; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобл. Мн., 1982; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобл. Мн., 1983; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобл. Мн., 1986.

РВС — Рэвалюцыйны ваенны савет

РКП(б) — Расійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў)

р-н — раён

РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя

РСЧА — Рабоча-сялянская чырвоная армія

с. — сяло

сак. — сакавік

сапр. — сапраўднае

СБМ — Саюз беларускай моладзі

с.-г. — сельскагаспадарчы (-ая)

СДКПіЛ — Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы

снеж. — снежань

СНК — Савет народных камісараў

СП — Саюз пісьменнікаў

СПб. — Санкт-Пецярбург
ССРБ — гл. БССР
студз. — студзень
ст. — станцыя
СШ — сярэдняя школа
*СЭС* — Советский энциклопедический словарь. М., 1990.
т. — том
ТАСС — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза
ТБШ — Таварыства Беларускай школы
тв. — творы
тыс. — тысяча
УКДБ — Упраўленне камітэта дзяржаўнай бяспекі
УНКВД — Упраўленне наркамату ўнутраных справаў
УМДБ — Упраўленне міністэрства дзяржаўнай бяспекі
УНР — Украінская Народная Рэспубліка
ун-т — універсітэт
усх. — усходні
УЦВК — Усесаюзны цэнтральны выканаўчы камітэт
фальв. — фальварак
ф-т — факультэт
хут. — хутар
ЦК — Цэнтральны Камітэт
час. — часопіс
ЧК — Чрезвычайная Комиссия
чэрв. — чэрвень
z. — zeszyt (сшытак)

**ЛАБАДАЕЎ Міхаіл Гаўрылавіч*** [1905 мяст. Прапойск Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Слаўгарад Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1927). Да арышту нам. першага сакратара ЦК КП(б)Б, адначасова загадчык асобага сектара (аддзела) ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 26.7.1937 у Мінску па адрасе: зав. Круглы, д. 1, кв. 1. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28.10.1937 «тройкай» НКВД як «удзельнік антысавецкай арганізацыі правых» і за «шкодніцкую работу ў сельскай гаспадарцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.7.1957 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л. № 10751-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

26.7.1937 арыштавана медсястра Мінскай скурна-венералагічнай клінікі, маці дваіх дзяцей, Лабадаева Вольга Ігнатаўна (н. 8.7.1908 у в. Лашанцы Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл.), жонка Міхаіла *Лабадаева*. 28.10.1937 ці 28.11.1937 яна была асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 4.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 6885-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

14.8.1938 у Прапойску арыштаваны Лабадаеў Гаўрыла Паўлавіч (н. ў 1873), верагодна, бацька Міхаіла *Лабадаева*. 2.11.1938 тройкай НКВД асуджаны за

---

* Тут і далей трэба мець на ўвазе, што «асабовая справа» пры далейшых даследаваннях можа стацца і групавой. На час здачы кнігі ў друк дакладна гэта вызначыць не ўяўлялася магчымым.

«шпіянаж і ўдзел у контррэвалюцыйнай партыі» да ВМП і 18.11.1938 расстраляны. Рэабілітаваны 20.7.1960 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 7127-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *НАРБ*.

**ЛАБАЧЭЎСКІ Барыс Іванавіч*** [1905, мяст. Лунінец Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — 14.10.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага інстытута інжынераў воднага транспарту. Арыштаваны 21.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Перавозная, д. 8 б, кв. 64. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЛАБОЎСКІ Фёдар Сазонавіч*** [1883, в. Дзяньгубка Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інспектар па пладова-ягадных гадавальніках Ленінградскага абл. зямельнага ўпраўлення. Арыштаваны 26.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 10-я лінія, д. 25, кв. 21. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛАБУЦЬ Аляксандр Міхайлавіч*** [1882, в. Васюкі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту тэхнолаг завода № 194. Арыштаваны 9.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 22-я лінія, д. 60/5, кв. 16. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). 19.11.1937 асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛАГУН Іван Іванавіч** [1896, в. Страліца Віцебскай губ., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — ?, ГУЛАГ], вайсковец, службовец. Служыў у царскай арміі, афіцэр. У 1930-я г. ў зняволенні ў Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР. 12.9.1937 узяты пад варту. 20.9.1937 асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны ў наваколлі Кемі. Рэабілітаваны пракурорам Карэльскай АССР 27.3.1989.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛАГУТЧЫК Андрэй Спірыдонавіч** [1906, в. Цытва Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 13.11.1943, ГУЛАГ], вайсковец (?). З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Ажаніўся,

гадаваў траіх дзяцей. У 1942—43 у складзе брыгады партызан капітана М.*Нікіціна*. Арыштаваны 10.1.1943. Асуджаны 25.9.1943 за «шпіянаж» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 25.6.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 18058-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў* .

**ЛАГУЦІН Аляксей Іванавіч*** [1894, в. Дзямідаў Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — ?, Віцебск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Віцебскага медыцынскага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 15.11.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 9.1.1959. Асабовая справа Л. № 3933-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ЛАЗАРЭВІЧ Ірына Іванаўна*** [1926, мяст. Крывічы Вілейскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?], служачая. З сялянскай сям'і. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, працавала рахункаводам Крывіцкай раён-

най канторы сувязі. Арыштавана 3.11.1944. Асуджана 11.4.1945 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў адзін з канцлагераў Краснаярскага краю, затым у Тайшэцкі канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. Вызвалена ў 1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 17.7.1962. Асабовая справа Л. № 17775-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛАЗАРЭВІЧ Уладзімір Саламонавіч** [2(14).9.1882, в. Астроўка Сакольскага пав. Гродзенскай губ. (паводле іншых звестак Беласток Гродзенскай губ., цяпер Польшча) — 20.6.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец, педагог. З бел. шляхецкай сям'і. Скончыў Акадэмію Генеральнага штаба (1912). Удзельнік 1-й сусветнай вайны, падпалкоўнік. З 1918 у Чырвонай арміі: ва Усерасійскім галоўным штабе, на Усх. фронце. З ліст. 1919 на Зах. фронце — начальнік штаба фронту, камандуючы 3-й арміі. Пасля на Паўд. фронце камандуючы арміі, дзе вызначыўся пры ўзяцці чангарскіх і сівашскіх пазіцый Урангеля ў Крыме. З 1921 камандуючы Туркестанскім фронтам, з 1922 нам. начальніка ваенна-навучальных устаноў РСЧА, з 1925 начальнік Ваенна-паветранай акадэміі, з 1934 начальнік кафедры Ваенна-транспартнай акадэміі Чырвонай арміі. Член ВКП(б) з 1932. Узнагароджаны 3 ордэнамі. Арыштаваны 4.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Садовая, д. 6, кв. 13. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда

СССР 20.2.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 5.5.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: БелСЭ, т. 6. Мн., 1972.

**ЛАЗУТА Юрый Юр'евіч*** [1905, в. Бародзічы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл. — 31.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Падчас арышту старшыня калгаса в. Акішава. Арыштаваны 4.8.1937 на ст. Адзінцова Кунцаўскага р-на Маскоўскай вобл. па адрасе: Інтэрнацыянальны тупік, д. 7. Асуджаны «тройкай» НКВД 19.10.1937 як «кіраўнік тэрарыстычнай групы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 21.12.1957. Асабовая справа Л. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛАМАКА Канстанцін Данілавіч*** [1898, в. Круціца Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], рэдактар. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў тэхнічным рэдактарам у БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 24.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Ульянаўску. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа Л. і іншых

№ 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛАМАКА Мацвей Севяр'янавіч** [1904, в. Падзіменне (?) Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — 2.1.1938, Белгарад, НКВД], журналіст. Быў членам ВКП(б). Працаваў рэдактарам газеты (?). Арыштаваны 4.2.1937. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.1.1938 за «контррэвалюцыйную дзейнасць, антысавецкую агітацыю» і як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.9.1957.

Кр.: *Книга памяти Белгородской обл.*

**ЛАМАКА Таіса Іосіфаўна*** [1926, Койданава, цяпер Дзяржынск Мінскай вобл. — ?], служачая. З бел. сям'і. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, працавала памочніцай майстра Дзяржынскага хлебнага камбіната. Арыштавана 17.2.1949 у Дзяржынску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 10. Асуджана пазасудовым органам 21.4.1949 за «здраду радзіме» і як «член антысавецкай арганізацыі «Саюз барацьбы супраць бальшавізму» да 25 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. 4.5.1949 трыбуналам БВА мера пакарання зніжана да 10 гадоў. 26.4.1955 вызвалена пастановай камісіі па перагляду спраў з улікам адбытага тэрміну. Далейшы лёс невядо-

мы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 27.7.1962. Асабовая справа Л. №17769-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛАМАКА Фама Васілевіч** [1897, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], службовец. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у ВКП(б). Да арышту працаваў лектарам у раённым прафсавеце Бабруйска. Быў жанаты, меў двух сыноў. Арыштаваны 2.9.1935. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1935 за «ўтойванне ад партыі службы ў белай арміі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 1.4.1936 (?). Працаваў грузчыкам у арцелі «Чырвоны транспарт». Зноў арыштаваны 17.12.1937 у Бабруйску па адрасе: вул. Ручэйная, д. 2. Абвінавачваўся ў «правядзенні антысавецкай агітацыі». 19.12.1937 справа спынена з-за недаказанасці абвінавачвання. Далейшы лёс Л. невядомы. Па першай справе (№ 4912; захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) рэабілітаваны пастановай НКВД БССР 5.2.1937.

**ЛАМСКІ Уладзімір Іванавіч*** [1891, в. Таранаўка Казлоўскага пав. Тамбоўскай губ., цяпер Тамбоўскай вобл., Расія — ?], навуковец, педагог. З дваранскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту прафесар кафедры патафізіялогіі Варонежскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны (верагодна, у Мінску) 23.5.1933. Асуджаны 9.7.1933 калегіяй АДПУ як «член контр-

рэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер НКВД Маскоўскай вобл. Вызвалены 13.3.1936. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 21.8.1956 трыбуналам БВА. Групавая справа Л. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛАПІЦКІ Расціслаў** [1.9.1928, в. Касута Вілейскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 28.10.1950, МДБ, Маладзечна], арганізатар і кіраўнік пасляваеннага антысавецкага падполля. Са шматдзетнай сям'і праваслаўнага святара Аляксандра Лапіцкага. У час 2-й сусветнай вайны сям'я пераехала на Мядзельшчыну, дзе бацька атрымаў у Кабыльніку (цяпер пас. Нарач Мядзельскага р-на Мінскай вобл.) царкоўны прыход. Пасля выгнання нямецкіх войскаў з Беларусі Л. пайшоў вучыцца ў Кабыльніцкую сямігодку. Праз старэйшага брата Алега, семінарыста Віленскай духоўнай семінарыі, далучыўся да падпольнай Віленскай патрыятычнай арганізацыі, якая ўтварылася сярод навучэнцаў Віленскай бел. гімназіі і Віленскай семінарыі. Пасля разгрому арганізацыі і арышту значнай часткі яе ўдзельнікаў 16-гадовы Л. быў асуджаны як малалетні на тры гады зняволення. Аднак па амністыі (у сувязі з перамогай) вызвалены і вярнуўся ў Кабыльнік, дзе працягваў вучыцца ў школе. Зімой 1946/47 сям'я перабралася ў в. Мікасецк непадалёку ад Мядзеля. Сярод мядзельскіх вучняў Л. знайшоў аднадумцаў і ўтварыў падпольную групу. У снеж. 1948 яны напісалі і размножылі на пішучай машынцы антысавецкую лістоўку. Увосень 1949 сям'я перасялілася ў Смар-

гонь, дзе Л. пайшоў у 10 клас мясцовай школы. Тут ён таксама разгарнуў падпольную дзейнасць, утварыўшы групу з аднадумцаў. Пасля масавага з'яўлення ў горадзе антыкамуністычных лістовак (пачатак снеж. 1949) Л. арыштавалі. Аднак пасля тыдня допытаў яго вызвалілі. Нарада падпольнай арганізацыі вырашыла, што Л. трэба пакінуць Смаргонь. І ён тайна вярнуўся на Мядзельшчыну. Нейкі час жыў у Мікасецку, Юшкавічах. Будучы моцна прастуджаным, перабраўся ў Кабыльнік. Тут яго зноў арыштавалі. Да суда ўтрымлівалі ў Вілейскай турме. На допытах Л. жорстка катавалі. Суд над ім і большасцю ўдзельнікаў Мядзельска-Смаргонскага падполля адбыўся ў Маладзечне ў ліп. 1950. Выступленні падсуднага былі абвінавачаннем камуністычнаму рэжыму. Трыбунал БВА прыгаварыў Л. да ВМП. Л. мужна ўспрыняў прысуд і з абурэннем адмовіўся ад прапановы прасіць памілавання. Як сведчыла жыхарка Кабыльніка настаўніца Таіса Камарніцкая (Бяліцкая), увосень 1950 у мясцовай школе абвясцілі аб расстрэле яе былога вучня. Таксама аб расстрэле Л. 28.10.1950 паведаміў Леакадзіі Цыбоўскай (таксама асуджана па справе Мядзельска-Смаргонскага падполля) наглядчык маладзечанскай турмы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі*; *Чарняўскі М.* Да гісторыі мядзельска-смаргонскага падполля // *Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі*: Матэрыялы навук.-практ. канф., Мінск, 27—28 лют. 1998 г. Мн., 1998; *Яго ж.* Школьныя падпольныя арганізацыі Віленшчыны ў пасляваенныя гады: спроба «вуснай дакументалістыкі» // *Гісторыя Беларусі ў еўрапейскім кантэксце*. Мн., 2002; *Валаханович И.А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**ЛАПКЕВІЧ Мікалай Аляксеевіч*** [1904, в. Богаслаўка Варонежскай губ., цяпер Варонежская вобл., Расія — 10.1.1938, Віцебск, НКВД], ветэрынар. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў асістэнтам у Віцебскім ветзаапункце. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Аршанская, д. 35. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 17.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 13.9.1957. Асабовая справа Л. № 6820-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЛАПКО Міхаіл Данілавіч*** [1907, Брэст — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага суднабудаўнічага інстытута. Арыштаваны 21.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. М.Горкага, д. 5, кв. 21а. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЛАПО Леў Дзмітрыевіч*** [1893, Чыстапаль Казанскай губ., цяпер Татарстан, Расія — 27.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец, педагог, сын Дзмітрыя *Лапо*. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы нарміроўшчык Тагурскага лесазавода. Арыштаваны 3.7.1937 у в. Тагур Калпашэўскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 1.8.1937 як «член Партыі святых». Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.4.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЛАЎРОЎ Фёдар Піліпавіч*** [1896, Самарканд, цяпер Узбекістан — ?], работнік культуры. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Пінскім доме афіцэраў. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 20.6.1941 у Пінску па адрасе: вул. Перэца, д. 27. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.6.1941 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 19.11.1966. Асабовая справа Л. № 6297-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ЛАШКЕВІЧ Леанард Янавіч*** [1899, Рыга, цяпер Латвія — 30.10.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1920). Да арышту нам. наркама саўгасаў БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 1, кв. 13. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «шкодніцтва ў галіне жывёлагадоўлі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.3.1957. Асабовая справа Л. № 10143-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕБЕДЗЕВА-ЖДАНОВІЧ Яўгенія Фадзееўна*** [1912, Мінск — ?], спявачка. З сям'і рабочага. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Да арышту артыстка хору Беларускага дзяржаўнага радыёкамітэта. Была замужам, гадавала траіх дзяцей. Арыштавана 19.3.1949 у Мінску па адрасе: вул. Р. Люксембург, д. 21, кв. 1. Асуджана 3.6.1949 за «супрацоўніцтва з нямецкай адміністрацыяй у перыяд акупацыі» да 25 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Тайшэт-Браціс). Вызвалена ў 1956. Рэабілітавана камісіяй прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 13.8.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Л. № 9863-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕБЕРЭХТ Карл Карлавіч*** [1898, в. Неб (?), потым Рэспубліка немцаў Паволжа, цяпер Саратаўская вобл., Расія — 8.2.1938, Мінск, НКВД], педагог. З нямецкай мяшчанскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту выкладчык рабфака Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Беспартыйны. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 21.1.1938 як «агент Германіі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 7.8.1989. Асабовая справа Л. № 12934 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЛЕБСКІ Давыд Іосіфавіч*** [1900, Магілёў — 2.11.1923, Масква, НКВД], навучэнец. З мяшчанскай

сям'і. З 1917 да 1920 быў членам ВКП(б). Падчас арышту студэнт рабфака. Арыштаваны 23.9.1923 у Маскве па адрасе: вул. Валавая, д. 5/1. Асуджаны 31.10.1923 паводле пастановы калегіі АДПУ да ВМП. Расстраляны. Пахаваны тайна на тэрыторыі Яузскай бальніцы (цяпер бальніца № 23). Рэабілітаваны 20.12.1992.

**ЛЕВАНЧУК Барыс Якаўлевіч*** [ліп. 1906, в. Кубельнікі Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], партыйны дзеяч, навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Член КСМЗБ з 1925, ВКП(б) з 1929. У пачатку 1930-х г. загадчык масавага сектара БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1933 у Мінску па адрасе: пас. Камароўка, 6 лінія. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю (Свабодны, цяпер Амурская вобл.). Вызвалены ў 1936. Другі раз арыштаваны 2.1.1938. Вызвалены 20.6.1939. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Л. №10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕВІН Майсей Ізраілевіч*** [1902, Беласток, цяпер Польшча — 31.3.1938, Мінск, НКВД], гісторык, верагодна, брат Манеса *Левіна*. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі партыі. Член ВКП(б). Арыштаваны 26.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Грушаўская, д. 2, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 29.3.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэ-

абілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Л. № 24161-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕВІН Манес Ізраілевіч*** [1898, Беласток, цяпер Польшча — 22.11.1937, Мінск, НКВД], журналіст, верагодна, брат Майсея *Левіна*. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам аддзела інфармацыі яўрэйскай газ. «Октобэр». Член ВКП(б). Арыштаваны 31.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 22. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 17.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Л. № 30453-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕВІН Шая Ільіч*** [1905, Вілкавішкіс, цяпер Літва — 9.7.1938, Мінск, НКВД], педагог, адміністрацыйны работнік. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1928). Працаваў нам. дырэктара Мінскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.3.1938 у Мінску па адрасе: Чэрвеньскі тракт, д. 83, кв. 1. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 26.5.1938 як «літоўскі палітэмігрант» і «з 1924 г. агент Літвы і Польшчы, які нелегальна прыбыў у СССР» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.12.1956. Асабовая справа Л. № 8178-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЛЕВІТАН Леанід Маркавіч*** [1911, мяст. Докшыцы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — ?], адміністрацыйны работнік. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў карэспандэнтам-арганізатарам у Саюздруку. Арыштаваны 12.11.1939 у Валожыне па адрасе: вул. Віленская, д. 46. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 17.8.1940 як «агент польскай паліцыі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі (былы Ухта-Пячорскі) канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 12.8.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 20.10.1989. Асабовая справа Л. № 27874-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЕДНІК Васіль Варфаламеевіч*** [1907, Обруб, цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — 4.11.1937, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту студэнт Томскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 20.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.2.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЕДНІК Іван Фёдаравіч*** [1903, в. Падсвілле Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н

Віцебскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1920 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 8.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Лігаўская, д. 44, кв. 303. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЛЕЙЛАНД Эмілія Карлаўна*** [1885, Добленскі пав. Курляндскай губ., цяпер Латвія — 14.6.1941, ГУЛАГ], архівіст. З латышскай сялянскай сям'і. Працаваць пачала ў 15 гадоў. У 1918 пераехала ў Віцебск, уступіла ў ВКП(б). Накіроўвалася на розныя пасады: загадчыцай сталовай, супрацоўніцай губернскага ЧК, загадчыцай гаспадаркі дзіцячага дома. Адначасова займалася грамадскай дзейнасцю: была членам праўлення Латышскага клуба і інш. З 8.1.1924 да 20.9.1929 працавала загадчыцай Віцебскага губернскага архіва. У 1933 скончыла Віцебскі вячэрні камвуз. З 5.10.1933 дырэктар Паўночна-беларускага аддзялення Цэнтральнага архіўнага ўпраўлення БССР. 1.12.1937 выключана з партыі і звольнена з архіва. Арыштавана 18.1.1938. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 як «член латышскай контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Загінула ў зняволенні. Рэабілітавана трыбуналам БВА

10.3.1970. Асабовая справа Л. № 13815-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Літ.: Витебщина архивная: история, фонды, персоналии (сер. XIX—XX вв.). Минск—Витебск, 2002.

**ЛЕЎЧАНКА Уладзімір Міхайлавіч*** [15.10.1907, Піражын Харкаўскай губ., цяпер Украіна — 10.10.1937, Мінск, турма НКВД]. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту начальнік сектара (аддзела) збыта «Заготзерно». Арыштаваны 21.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Рэспубліканская, д. 11, кв. 8. Асуджаны 7.10.1937 «тройкай» НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 13.10.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л. № 11976-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

17.10.1937 у Мінску арыштавана лабарантка ваенна-харчовага склада Леўчанка Іта Маркаўна (н. 4.6.1911 у в. Рыбніца, цяпер Малдова), жонка Уладзіміра Леўчанкі. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 17.10.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 22.6.1960 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 16434-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕЎЧАНКА Фёдар Рыгоравіч** [1878, в. Кірылаўка Палтаўскай губ., Расія — 5.4.1945, ГУЛАГ], кіраўнік хору Радыёкамітэта (?). З сям'і ўкраінскага святара. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас 2-й

сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 21.9.1944 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 5, кв. 2. Асуджаны 30.12.1944 трыбуналам БВА за «контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 11.11.1957 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Л. № 11058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕШЧЫК Міхаіл Ігнатавіч** [1890, в. Жожава (?) Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 27.11.1937, НКВД], вайсковец. У 1926 уступіў у ВКП(б). Служыў на флоце, радыётэлеграфіст парахода «Свір» Балтыйскага марскога параходства. Арыштаваны 21.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: Сярэдні пр., д. 40, кв. 20. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж і контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЛЁСІК Аляксандр Пракопавіч*** [1938, в. Дзівін Кобрынскага пав. Палескага ваяв., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], вучань Дзівінскай СШ. Арыштаваны 26.3.1953. Асуджаны 17.4.1953 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК (тэрмін зняволення быў скарочаны да 5 гадоў). Вызвалены 31.12.1953. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі 12.8.1994. Асабовая справа Л.

№ 13337-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЁСІК Мікалай Пятровіч** [1904, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 3.11.1937, Масква, НКВД], навучэнец, верагодна, сваяк братоў Язэпа і Аляксандра *Лёсікаў*. Падчас арышту студэнт Маскоўскага інстытута інжынераў камунальнай гаспадаркі. Арыштаваны 25.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Люсінаўская, д. 14. кв. 2. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.11.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 6.10.1958. Асабовая справа Л. П-58642 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛІБЕНТАЎ (ЛІБІНТАЎ) Міхаіл Львовіч*** [1914, Гарадок Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — пасля 1970-х г.], журналіст, службовец. З сям’і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Працаваў нам. старшыні Баранавіцкага радыёкамітэта. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. З 25.5.1942 партызан брыгады Нікіціна. Арыштаваны 10.1.1943 (?). 22.4.1943 асуджаны пазасудовым органам НКВД як «агент нямецкай разведкі» да ВМП. 26.5.1943 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прысуд заменены на

10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Багаслаўскі канцлагер Свярдлоўскай вобл. МДБ СССР. Вызвалены ў студз. 1953. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 8.3.1958. Асабовая справа Л. № 11825-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛІЖЭЎСКІ Стэфан Касперавіч*** [1898, в. Арлоўшчына Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], тэхнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту электрамантажнік Уралвагонбуда. Арыштаваны 6.8.1937 у Ніжнім Тагіле. Асуджаны 27.9.1937 «тройкай» НКВД СССР за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у антысавецкіх тэрарыстычных арганізацыях» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пастановай прэзідыума Вярхоўнага суда СССР 11.4.1989.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛІМАН Веніямін Рыгоравіч*** [10.7.1899, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 14.10.1938, Мінск, НКВД], акцёр. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1923 служыў у Чырвонай арміі. Да арышту акцёр Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Заслаўская, д. 5, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 30.9.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА

27.9.1963. Асабовая справа Л. № 18111-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛІПОЎСКІ Уладзімір Іванавіч*** [1918, в. Горхі, цяпер Пскоўская вобл., Расія — ?], інжынер. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую тэхнічную адукацыю. Арыштаваны 29.12.1950 у Алма-Аце. Асуджаны Алмаацінскім абл. судом 14.3.1951 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда Казахскай ССР 16.12.1988 з-за адсутнасці складу злачынства.

Кр.: *Книга Скорби*.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ЛІСКОВІЧ Майсей Ізраілевіч*** [30.12.1897, Рагачоў Гомельскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], партыйны работнік, муж Соні *Маршовай*. Член ВКП(б) з 1917. Падчас арышту сакратар Сталінскага райкама Мінска. Арыштаваны 2.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 23, кв. 8. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «удзельнік арганізацыі правых» і за «шкодніцкую работу ў сельскай гаспадарцы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.1.1957. Асабовая справа Л. № 9912-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Куйбышава, д. 52, кв. 5 была арыштавана чысцільшчыца люстэрак Мінскай люстэркавай фабрыкі, маці дваіх дзяцей, Мар-

шова Соня Фішалеўна (н. ў 1901 у Гомелі ў сям'і службоўца), жонка Майсея *Лісковіча*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.3.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа М. № 6592-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛІСОЎСКІ Міхаіл Іосіфавіч*** [1892, ? — 29.3.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту эканаміст «Смолветснабсбыта» (?). Арыштаваны 16.2.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.3.1938 за «ўдзел ва ўзброеным паўстанні» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ЛІСОЎСКІ Міхаіл Яфімавіч*** [1887, мяст. Парычы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл. — ?], навуковец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. супрацоўнік Віцебскага навукова-даследчага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 2.1.1933 у Віцебску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 19. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер НКВД Маскоўскай вобл. Вызвалены 21.1.1937. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА

21.8.1956. Групавая справа Л. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения*; *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛІСТМАНГОФ Канстанцін Юр’евіч*** [1883, Невель, цяпер Пскоўская вобл., Расія — ?], медык, навуковец. З сям’і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык аддзела Віцебскага санітарна-бактэрыялагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 17.4.1931 у Віцебску па адрасе: вул. Красная, д. 2. Абвінавачваўся як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме наркамата аховы здароўя БССР». 29.1.1932 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР вызвалены з залікам тэрміну папярэдняга зняволення. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Л. № 6736-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЛІТВІНЕНКА Яфім Лукіч*** [10.1.1902, Корап, цяпер Чарнігаўская вобл., Украіна — 24.11.1937, Мінск, НКВД], хімік, педагог. З сям’і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у ВКП(б) (1925). Працаваў выкладчыкам хіміі ў Мінскім медыцынскім інстытуце. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 30.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 54, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.11.1937 як

«член права-трацкісцкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.6.1957. Асабовая справа Л. № 10619-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЛІХАЧ Аляксей Фаміч*** [1919, Уладзімір, Расія — ?], акцёр. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Падчас арышту акцёр Рускага драматычнага тэатра. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 22.7.1949 у Мінску па адрасе: вул. Дзімітрава, д. 44, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры МДБ 22.4.1950 за «антысавецкую агітацыю» і «пасобніцтва нямецкім акупантам» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Іўдэльскі канцлагер Свярдлоўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 28.5.1997. Асабовая справа Л. № 2387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛІХАЧ Фёдар Рыгоравіч*** [1900, в. Вострава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. З 1926 член БСРГ. Працаваў выкладчыкам на рабфаку БДУ ў Мар'інай Горцы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. Арыштаваны 11.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 28/4. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР

9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Амурскі (?) чыгуначны канцлагер НКВД Хабараўскага краю. З 1941, хутчэй за ўсё, пакаранне адбываў у Свабодненскім канцлагеры Хабараўскага краю. Вызвалены 4.9.1943. У 1943—45 на фронце. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Л. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛОЙКА Іван Вікенцевіч*** [1909, в. Канюхі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Омскага сельскагаспадарчага інстытута. Арыштаваны 5.12.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 16.2.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Омскага абл. суда 4.10.1955.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛОСЕВА Лілія Яфімаўна*** [1926, Мелітопаль Запарожскай вобл., Украіна — ?], служачая. З сям'і службоўца. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, працавала ў рэдакцыі раённай газеты (?). Арыштавана 26.9.1944 у Баранавічах. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 21.11.1945 як «член антысавецкай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоў-

ных работ. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Вызвалена 26.9.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 30.10.1992 пракуратурай Брэсцкай вобл. Асабовая справа Л. № 11303-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЛОСІК Давыд Сямёнавіч*** [1.10.1914, Мінск — ?], акцёр. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Тэатры юнага гледача. Арыштаваны 28.4.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 114, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 22.8.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 22.12.1989. Асабовая справа Л. № 29726-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛУГАВЫ Ёхес Ісакавіч*** [1906, мяст. Гарадок Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю (верагодна, скончыў МБПТ). Працаваў у адной з мінскіх газет. Арыштаваны 30.9.1929. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 13.2.1930 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 17.7.1989. Асабовая справа Л. № 27108-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛУКАШЫК Савелій Іванавіч*** [1895, мяст. Воранава Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 26.9.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту начальнік аддзела эксплуатацыі «Галоўэнерга» наркамата цяжкай прамысловасці СССР. Арыштаваны 22.8.1936 у Маскве па адрасе: вул. Вахтангава, д. 6, кв. 39. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда 26.9.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі». Расстраляны. Рэабілітаваны 10.11.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛУКОЎСКІ Сяргей Фаміч*** [1892, в. Падліпкі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 25.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 2.2.1938 у Маскве па адрасе: Мерзлякоўскі зав., д. 13, кв. 25. Падчас арышту начальнік Галоўфарбы наркамата цяжкай прамысловасці СССР. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі». Расстраляны. Рэабілітаваны 30.11.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛУК'ЯНЧЫК Іосіф Канстанцінавіч** [11.11.1900, в. Кукавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 19.12.1937, Масква (?), турма

НКВД], партыйны работнік, службовец. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту кіраўнік справамі СНК БССР. Арыштаваны 3.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 15/2, кв. 7. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.2.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л.-К. № 11557-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

17.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 15/2, кв. 7 арыштавана хатняя гаспадыня маці дваіх дзяцей Лук'янчык-Каяловіч Марыя Альфонсаўна (н. 16.4.1906 у Магілёве ў сям'і рабочага), жонка Іосіфа *Лук'янчыка*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Багаслоўскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 6.8.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л.-К. № 10654-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

11.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маляўшчыцкая, д. 11, кв. 3 арыштаваны Лук'янчык Канстанцін Канстанцінавіч (н. 21.5.1902 у Мінску; атрымаў вышэйшую адукацыю), верагодна, брат Іосіфа *Лук'янчыка*. 7.6.1938 «тройкай» НКВД ён быў асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў і этапаваны ў адзін з канцлагераў Хабараўскага краю. 14.9.1940 лагернай «тройкай» прыгавораны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 23.7.1964 пленумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Л. № 18950-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛУЦЭВІЧ Антон Аляксандравіч*** [жн. 1907, хут. Гарадзішча Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], літаратурны работнік. З сялянскай сям'і. У 1925—33 член ЛКСМБ. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік газ. «Звязда». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 8.4.1935 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 24/42. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 4.11.1935 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» і за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Варкуцінскі папраўча-працоўны канцлагер Карэльскай АССР, затым пераведзены ў адзін з канцлагераў НКВД Хабараўскага краю. Вызвалены 8.5.1943. Ваяваў на фронце, трапіў у палон. Зноў вызвалены ў 1944 (?). З 1957 жыў у Горлаўцы Данецкай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР 15.2.1961. Асабовая справа Л. № 12864-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛУШЧЫК Пётр Лукіч*** [1896, мяст. Смалявічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту дзяжурны інжынер ГЭС імя Кірава. Арыштаваны 1.10.1937 у пас. «Невбудстрой» Мгінскага (?) р-на Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў», «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛУШЧЫЦКІ Васіль Васілевіч*** [1898, в. Руднае Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў на Тарфяным рабфаку Беларускага політэхнічнага інстытута (?). Арыштаваны 10.4.1933 у Мінску па адрасе: 1-ы Свярдлоўскі зав., д. 11, кв. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Л. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛЫЧКОЎСКІ Максім Піліпавіч*** [1915, в. Хватаўка, цяпер Круглянскі (?) р-н Магілёўскай вобл. — ?], інжынер-гідраакустык, вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас першага арышту служыў у ваеннай часці 40092 Ціхаакіянскага флоту. Арыштаваны 5.11.1952 ва Уладзівастоку. Асуджаны 29.1.1953 за «контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК. Вызвалены і рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР у перыяд 25.6—6.8.1954. Зноў асуджаны 14.12.1957. Абвінавачваўся ў тым, што «зрабіў антысавецкія надпісы на будынках Кіеўскага гарадскога савета, будаўнічага ўпраўлення і інш.». Да-

лейшы лёс невядомы. Асабовая справа Л. № 8315-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *58*[10].

**ЛЫЧ-ЛЫЧКОЎСКІ** (ГРУНІН, ГРУШЫН, ДАБРЫНІН, КУЗНЯЦОЎ, АРЛОЎ) **Аляксандр Міхайлавіч*** [1906, в. Клепачы Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 21.8.1933, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы бухгалтар Ленінскага раённага гандлю. Арыштаваны 23.11.1932 у Маскве па адрасе: вул. Земляны вал, д. 23, кв. 20. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 2.4.1933 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны паводле пастановы прэзідыума Вярхоўнага суда СССР 16.1.1989.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**ЛЬВОВІЧ Давыд Абрамавіч*** [3.1.1898, мяст. Урэчча Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 29.11.1938, Мінск, НКВД], педагог. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Выкладаў у Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школе. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 1.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 8, кв. 10. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 9.4.1938 як «член ПАВ» і за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны праку-

ратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Л. № 25478-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *58*[10].

**ЛЮБІЧ-МАЕЎСКІ Станіслаў Адамавіч** [27.4.1878, Полацкі пав. Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — снеж. 1941, Мінск ?], грамадскі і культурны дзеяч, педагог. Скончыў Віцебскую гімназію (1895), Кракаўскі ун-т (1903). У 1900 стварыў і ўзначаліў у Кракаве «Кола беларускіх студэнтаў». Да 1941 настаўнічаў у Польшчы, Зах. Беларусі. Выдаў больш за дзесятак падручнікаў па гісторыі і геаграфіі, бел. «Лемантар» (Львоў, 1929). З чэрв. 1940 працаваў у савецкай гарадской адміністрацыі ў Вільні, курыраваў школьны сектар. З вер. 1941 у Мінску ў Інспектараце бел. школ. Прымаў удзел у дзейнасці падпольнай антыфашысцкай Арганізацыі беларускіх нацыяналістаў. Па даносе правакатара арыштаваны СД і расстраляны.

Літ.: Жыццяпіс Любіч-Маеўскага // *Спадчына.* 1994. № 1; *ЭГБ,* т. 4.

**ЛЮБОВІЧ Арцём Майсеевіч*** [27.10.1880, Жытомір, цяпер Украіна — 28.6.1938, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны, партыйны і гаспадарчы дзеяч. З украінскай рабочай сям'і. Да 1937 нам. старшыні СНК БССР, старшыня Дзяржплана БССР, нам. наркама сувязі СССР. Арыштаваны 5.7.1937, верагодна, на рабоце. Асуджаны 28.6.1938 «тройкай» НКВД як «удзельнік антысавецкай арганізацыі правых» і за «правядзенне шкодніцтва ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілі-

таваны 29.2.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л. № 5909-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 46, кв. 14 арыштавана сакратар аддзела збыту трэста «Лесбал», маці траіх дзяцей, Любовіч Браніслава Іванаўна (н. 27.8.1892 на ст. Гайсі Паўдн.-Зах. чыгункі Камянец-Падольскай губ., цяпер Украіна, у польскай мяшчанскай сям'і; член ВКП(б) з 1926; у 1937 выключана з партыі ў сувязі з арыштам мужа), жонка Арцёма *Любовіча*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 28.7.1943. Рэабілітавана 17.1.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 6561-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯБЕЦКІ Павел Лявонцевіч*** [17.8.1888, в. Савічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 24.12.1941, ГУЛАГ], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў сацыяльна-гістарычнае (1927) і літаратурна-лінгвістычнае (1929) аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. Выкладаў у мінскіх ВНУ. Падчас арышту выкладчык Мінскага дарожна-механічнага тэхнікума. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 55а, кв. 16 (паводле іншых звестак д. 79, кв. 22). Асуджаны 15.8.1939 асобай нарадай пры НКВД як «агент польскіх разведвальных органаў» і як «сацыяльна небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Но-

васібірскі канцлагер НКВД. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 8.10.1956. Асабовая справа Л. № 7210-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯВІТЭ Адам Ільіч*** [1896, Седльцэ (?), цяпер Польшча — 22.11.1937, Мінск, НКВД], тэатральны дзеяч. Дырэктар Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР. Член ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 81, кв.1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 17.11.1937 як «польскі шпіён-дыверсант» да ВМП. Расстраляны. Асабовая справа Л. № 20674-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯВОНАЎ Уладзімір Апанасавіч*** [1896, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік паравознага дэпо Манчагорскай чыгуначнай веткі, член ВКП(б). Арыштаваны 4.10.1937 у Манчагорску па адрасе: вул. Заходняя, д. 5, кв. 4. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЛЯЛІКАЎ Сяргей Ермалаевіч*** [1908, в. Новая Беліца Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і.

Атрымаў сярэднюю адукацыю. Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 29.12.1932. Асуджаны 15.4.1933 паводле пастановы калегіі АДПУ за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з паўночных канцлагераў. Зноў арыштаваны 7.2.1946 у Акмолінскай вобл., дзе працаваў агратэхнікам у калгасе «Новы быт». Асуджаны (хутчэй за ўсё, за «антысавецкую агітацыю») 25.3.1946 (тэрмін зняволення і далейшы лёс невядомы). Па першай справе № 12680-п (захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.) рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 12.10.1963.

Кр.: *Хранить вечно.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯНЕЦ (ЛЕНЕЦ) Браніслаў Аляксандравіч** [1923, мяст. Ляхавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — ?], службовец. Да арышту рахункавод калгаса «Новы труд». Арыштаваны 24.1.1953 у Ляхавічах. Асуджаны 18.4.1953 за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі АК» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.4.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № П-4511 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯНКЕВІЧ (ЛІНКЕВІЧ) Франц Лукіч*** [1884, Пінск Мінскай губ., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — студз. 1938, ГУЛАГ], педагог. З бел. сям'і. Падчас арышту дырэктар Політэхнічнага тэхнікума Омскай чыгункі.

Арыштаваны 29.9.1936. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 22.7.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Загінуў у адным з канцлагераў Магаданскай вобл. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 28.7.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**ЛЯНКОЎ Мечыслаў Антонавіч** [1896, Беласток, цяпер Польшча — 28.10.1940, Мінск, турма НКВД], адміністрацыйны работнік. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту бурмістр мяст. Сямятычы Брэсцкай вобл. (цяпер Падляшскае ваяв., Польшча). Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.3.1940. Асуджаны 11.12.1940 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 31.7.1989 пракуратурай Брэсцкай вобл. Асабовая справа Л. № 9605-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ЛЯНЦЭВІЧ Канстанцін Іванавіч*** [1894, в. Каршакі Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер-эканаміст Іжорскага завода. Арыштаваны 1.9.1937 у Колпіна Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯСКОВІЧ Вітольд Станіслававіч*** [1891, Вільнюс — 5.4.1941, ГУЛАГ], памешчык. З польскай шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту жыў у сваім маёнтку Філіпішкі ў Лідскім пав. Віленскай губ. Арыштаваны 27.9.1939. Асуджаны 9.1.1941 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 11.10.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Л. № П-10460 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ЛЯСЮК Арсень Сямёнавіч*** [1895, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 11.7.1937 у в. Навадзевічча Куйбышаўскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 4.3.1940 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Куйбышаўскім абл. судом 26.12.1956.

Кр.: *Белая книга.*

**ЛЯЎДАНСКІ Уладзімір Анісімавіч*** [1898, Бабруйск Мінскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], вайсковец. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту казначэй 2-га Беларускага артылерыйскага палка 2-й стралко-

вай дывізіі. Арыштаваны 27.1.1933 у Мінску па адрасе: вул. Дзянісаўская, д. 14, кв. 1. Асуджаны 13.5.1933 калегіяй АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.3.1990 пракуратурай БССР. Асабовая справа Л. № 30651-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Дзянісаўская, д. 14, кв. 1 арыштавана Ляўданская Яніна Ульянаўна (н. ў 1910 у Мінску), верагодна, жонка Уладзіміра *Ляўданскага*. 1.9.1945 асобай нарадай пры НКВД асуджана за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі» да 5 гадоў высылкі ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 22.2.1990 прэзідыумам Мінскага абл. суда. Асабовая справа Л. № 30608-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯЎКОВА Ніна Уладзіміраўна*** [18.2.1902, ст. Мураўёва, цяпер Латвія — ?], гісторык, жонка Максіма *Ляўкова*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). Працавала адказным сакратаром Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ВКП(б)Б. Гадавала дваіх дзяцей. У 1936 выключана з ВКП(б) за «абарону свайго брата», абвінавачанага ў прыналежнасці да трацкістаў. Арыштавана 18.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31. Асуджана асобай нарадай пры НКВД СССР 16.5.1938 як «жонка ворага народа» на 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 12.2.1957. Асабовая справа Л. № 9982-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯЎКОВІЧ Самсон Якаўлевіч*** [10.1.1911, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 26.12.1937, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і службоўца. Да арышту загадчык аддзела мінскай польскай газ. «Orka». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8, кв. 94. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 17.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 7.3.1962. Асабовая справа Л. № 17414-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯЎКОЎ Максім Архіпавіч** [12.5.1894, в. Кавалі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. З 1918 ваенны камісар Рудабельскай воласці Бабруйскага пав. У 1920-я г. атрымаў вышэйшую адукацыю (?). З 1931 наркам юстыцыі і пракурор БССР. Старшыня Цэнтральнай камісіі па справах былых чырвонагвардзейцаў і партызан. З 1933 сакратар ЦВК БССР. У 1932—37 член ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 13.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31. Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 як «агент польскай разведкі і член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны ў бліжэйшую пасля прыгавору ноч. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 21.9.1957. Справа Л. № 10976-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**ЛЯЎЧУК Іван Сямёнавіч*** [20.1.1901, в. Тыневічы Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 10.6.1936 у Мінску па адрасе: вул. Садовая, д. 19, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 21.9.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 19.7.1989. Асабовая справа Л. № 31379-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯЎЧЭНЯ Сяргей Сямёнавіч*** [1.10.1904, в. Забалацце Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. навуковы супрацоўнік Усесаюзнага балотнага інстытута. Арыштаваны 12.6.1938 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 87, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.10.1938 за «шкодніцтва ў галіне балотнай і воднай гаспадаркі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 17.6.1943. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 22.4.1957. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Л. № 10231-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 87, кв. 1 арыштавана выкладчыца Мінскага політэхнічнага тэхнікума Баранава Марыя Ерамееўна (н. ў 1896 у в.

Высачаны Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл.; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Сяргея *Ляўчэні*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа, якая ведала пра контррэвалюцыйную дзейнасць свайго мужа» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 2.4.1957. Асабовая справа Б. № 10316-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛЯХ Ігнат Іванавіч*** [1905, Лепель Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 15.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер-тэхнолаг фабрыкі «Пралетарская перамога» № 1. Арыштаваны 21.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Волкаўская, д. 12/14, кв. 10. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.10.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў», «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЛЯХ Сямён Андрэевіч*** [1895, в. Стан (?) Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі (?) р-н Віцебскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. У 1928 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аб'яднанай ваенізаванай пажарнай каманды завода «Чырвонасцяжнік». Арыштаваны 5.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 31.8.1937 за «шпіянаж», «спробу правя-

дзення тэрарыстычых актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ЛЯХАВЕЦ Іван Купрыянавіч*** [1921, в. Дуброва Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Лельчыцкі р-н Гомельскай вобл. — ?], падчас арышту навучэнец тэхнікума павышэння кваліфікацыі. Арыштаваны 27.3.1957 ва Ухце Комі АССР. Асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР 29.5.1957 за «антысавецкую агітацыю» да 4 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯШОК Андрэй Георгіевіч*** [1889, в. Гошава Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў на Зыранскім элеватары. Арыштаваны 8.10.1934. Асуджаны 9.8.1935 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 11.7.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯШЧУК Іван Сцяпанавіч** [н. 15.3.1932, в. Паніквы Брэсцкага пав. Палескага ваяв., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл.], аўтар антыбальшавіцкіх вершаў, прапаведнік хрысціянскіх каштоўнасцяў. Апазіцыйным

да камуністычнага рэжыму пачаў сябе адчуваць, калі вучыўся ў СШ. 20.6.1953, праз два гады пасля сканчэння школы, арыштаваны за вершы, у якіх распавядалася пра бяспраўе і галечу калгаснага жыцця. Знаходзіўся ў брэсцкай турме. 28.7.1953 асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ (заменена на 6 гадоў). Тэрмін пакарання адбываў ва Усць-Вымскім канцлагеры МУС Комі АССР (17.6.1953—1.10.1954). У зняволенні стаў вернікам. Пасля вызвалення неаднаразова чуў пагрозы аб новым зняволенні ад лектараў атэістычных курсаў, якіх Л. ставіў у тупік сваімі пытаннямі з пазіцый хрысціянства. З пачаткам «перабудовы» актыўны ўдзельнік акцый дэмакратычных сілаў, выступаў на мітынгах. Пісаць і ўдзельнічаць у апазіцыйных акцыях працягвае і сёння, нягледзячы на тое, што зняволенне ў юнацкім узросце каштавала яму зроку. З 1959 да 1994 працаваў у Беларускім таварыстве сляпых. Цяпер пенсіянер, жыве ў Пінску. Рэабілітаваны 19.10.1993. Асабовая справа Л. № 12531-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Літ.: Мы вас памятаем! // *Маю права! Бюлетэнь Пінскага рэгіянальнага аддзяленьня БХК*. 1998. № 3 (5); *Сьнітко Т*. Уладзімір Баравікоў // *Шуфляда*. Т. 2. 2001.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯШЧЫНСКІ Аркадзь Аляксандравіч*** [16.7.1899, в. Пляшэвічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1926 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г.

нам. наркама асветы БССР. Арыштаваны 6.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Лодачная, д. 7, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «член тэрарыстычнай арганізацыі правых і нацфашыстаў, мэта якіх — знішчыць кіраўніцтва партыі і ўрада» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 11.6.1957. Асабовая справа Л. № 10534-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Лодачная, д. 7, кв. 4 арыштавана рэгістратар Ляхаўскай паліклінікі Ляшчынская Ганна Ісакаўна (н. 30.7.1897 у Слуцку), жонка Аркадзя *Ляшчынскага*. 16.5.1938 «тройкай» НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 2.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 11029-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЛЯШЧЫНСКІ Іосіф Аляксандравіч*** [1901, Мінская губ., цяпер Мінская (?) вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў на ст. Купіна Омскай чыгункі. Арыштаваны 19.3.1921. Абвінавачваўся ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці». 25.4.1921 Омскай губернскай надзвычайнай камісіяй справа накіравана ў Маскву ў міжведамасную камісію па прымяненні амністыі. Канчатковае рашэнне па справе не прынята. Далейшы лёс Л. невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 24.7.1996.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЛЯШЭВІЧ Валяр'ян Гаўрылавіч*** [2.2.1903, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 1980-я г., Мінск], рэдактар, літаратурны работнік. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік аддзела літаратуразнаўства Беларускага дзяржаўнага выдавецтва ў Мінску. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 8/28, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 13.12.1933 як «актыўны член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК (замененых на 3 гады ссылкі). Тэрмін адбываў у Валагодскай вобл. Вызвалены ў 1936. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 16.4.1957. Асабовая справа Л. № 10240-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАГЕР Максім Пятровіч*** [1897, в. Будзішча Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 16.10.1941, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір корпуса, член ваеннага савета Ленінградскай ВА. Арыштаваны 8.4.1941 у Ленінградзе па адрасе: вул. Рылеева, д. 11, кв. 11. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1941 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.10.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЁР Рыгор Іванавіч** [сак. 1899, в. Ражыска, Усх. Галіцыя, Аўстра-Венгрыя, цяпер Украіна — 16.9.1938, Мінск, турма НКВД], вайсковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту — камандзір дывізіёна ваеннай часці № 5889 у г. п. Ждановічы Мінскага р-на. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 28.4.1938. Асуджаны 2.7.1938 «тройкай» НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 7.12.1957 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа М. № 11077-с захоўваецца з фотаздымкам ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЗАЛЯКА Мікалай Васілевіч*** [9.5.1899 в. Старыца Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], служ-

бовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту начальнік аддзела збыту Наркамлеса БССР. Арыштаваны 15.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 35, кв. 3. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 13.6.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 10552-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 35, кв. 3 арыштавана рабочая Мінскага шклянога завода, маці траіх дзяцей, Мазаляка Варвара Аляксандраўна (н. 4.12.1901 у Баранавічах Навагрудскага пав. Мінскай губ. ў сям'і рабочага), жонка Мікалая *Мазалякі*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК. Вызвалена ў 1944. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 5.8.1957 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа М. № 10623-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЗУР Ігнат Мікалаевіч** [22.9.1890, в. Ператокі Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1958], грамадскі дзеяч, журналіст. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў 3-класную царкоўна-прыходскую школу, Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў у школе в. Гібайлавічы Крупскага р-на Мінскай вобл., потым у школе в. Сморкі Барысаўскага р-на Мінскай вобл. У 1-ю сусветную вайну прызваны ў армію, удзельнічаў у баях. У грамадзянскую вайну камандзір батальёна 41-й дывізіі на Паўд. фронце. Паранены. У 1918 уступіў у ВКП(б). Быў выбраны начальнікам гарнізона Царыцы-

на. У 1920—23 вучыўся ў Акадэміі сацыяльнага выхавання ў Маскве. Пасля заканчэння прыехаў у Мінск, працаваў загадчыкам 7-гадовай школы. У 1926—31 старшы інспектар школ і ВНУ пры наркамаце асветы, адказны рэдактар час. «Асвета». З 1932 старшы кансультант сацыяльна-культурнай групы кіравання справамі Саўнаркама БССР. Аўтар «Чырвонай змены» і «Чырвонай Беларусі» (у суаўтарстве з М.*Калінічэнка*) — хрэстаматыяў для СШ. За тое, што ў артыкуле «Аб туберкулёзе» прывёў дадзеныя аб тым, што ў СССР хворых на сухоты больш чым ва ўсім свеце, выключаны з партыі і звольнены з работы. Арыштаваны 22.6.1941. Пры этапаванні на ўсход, начальнік канвоя нечакана адпусціў М. і іншых вязняў. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Рэабілітаваны ў 1954. Памёр ад туберкулёзу, за артыкул пра які і быў пакараны.

**МАЗУР Фёдар Трафімавіч*** [1906, в. Заполле Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — ?, ГУЛАГ], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У другой палове 1920-х г. тэхнічны сакратар БРСГ. У пачатку 1930-х г. студэнт Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 17.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Студэнцкая, д. 10, кв. 10. Асуджаны «тройкай» НКВД 23.5.1933 за «сувязь з польскімі агентамі» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Мядзведжагорскага р-на Карэла-Фінскай АССР. У зняволенні ўзяты пад варту і 20.9.1937 асуджаны «тройкай» НКВД за «антысавецкую шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзве-

джая Гара (Сандармох). Рэабілітаваны пракурорам Карэліі 29.4.1989, пракуратурай БВА 23.6.1989. Асабовая справа М. № 23909 захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЗУРКА Васіль Навумавіч*** [15.9.1905, в. Дыя Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік Мінскай станцыі механізацыі. Арыштаваны 6.11.1937 у Мінску па месцу работы. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 8.1.1938 за «сувязь з польскай агенткай Вышынскай*, праз якую вёў шпіянаж» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалены 6.5.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 14.5.1955. Асабовая справа М. № 5756-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАЗЭЛЬ Елізар Якаўлевіч*** [1895, Палтава, цяпер Украіна — 30.10.1937, Віцебск, НКВД], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адука-

* Верагодна, маецца на ўвазе Ганна Мікалаеўна Вышынская, 1904 года нараджэння, асуджаная «тройкай» НКВД 9.12.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП і расстраляная 27.12.1937. Яе асабовая справа № 30505-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Рэабілітавана пракуратурай БВА 24.7.1989.

цыю. Падчас арышту нам. дырэктара па навуковай рабоце Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі. Арыштаваны 26.4.1937 у Вицебску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «ўдзел у складзе антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.9.1957. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

10.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19 арыштавана хатняя гаспадыня Мазэль Разалія Львоўна (н. ў 1899 у Палтаве ў сям'і купца), жонка Елізара *Мазэля*. 14.12.1937 пастановай НКВД асуджана за «дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП і 9.1.1938 расстраляна ў Віцебскай турме НКВД. Рэабілітавана 27.10.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *НАРБ*.

**МАІСЕЕЎ Іван Майсеевіч*** [1871, в. Хацечына, цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — 21.3.1938, Віцебск, НКВД], архімандрыт. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны 24.1.1938 па месцы пражывання. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.2.1938 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Віцебскай вобл. 18.10.1989. Асабовая справа М. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**МАІСЕЕЎ Іван Максімавіч*** [1908, в. Роўкавіча Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чачэрскі р-н Гомельскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса «Украінскі пралетарый». Арыштаваны 24.7.1938 у Кагановіцкім р-не Омскай вобл. Абвінавачваўся ў «антысавецкай агітацыі і прапагандзе». 11.11.1938 апраўданы судовай калегіяй па крымінальных справах Омскага абл. суда. Рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАІСЕЕЎ Леў Абрамавіч*** [15.11.1897, Веліж Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Смаленскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1919). Служыў у Чырвонай арміі. Падчас арышту сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б. Арыштаваны 8.8.1937 у Барысаве па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 12. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28.10.1937 «тройкай» НКВД як «член трацкісцкай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.12.1956 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 9857-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

13.11.1937 у Барысаве арыштавана загадчыца дзіцячага сада пры заводзе імя Молатава, маці дваіх дзяцей, Маісеева Марыя Рыгораўна (н. ў 1903 у Мінску; член ВКП(б) з 1925), жонка Льва *Маісеева*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка

радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 13.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 30.10.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа М. № 7411-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ*.

**МАЙ Іван Паўлавіч*** [19.10.1890, мяст. Броды Радамскай губ., цяпер Польшча — 1938, ГУЛАГ], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Верагодна, добра валодаў англійскай мовай. Працаваў выкладчыкам, дацэнтам, загадчыкам вучэбнай часткі Мінскага індустрыяльнага (?) інстытута. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Падчас арышту навуковы супрацоўнік «ОЖДС» (?). Арыштаваны ў 1933 у Мінску. Асуджаны калегіяй АДПУ СССР у 1934 (?) як «член контррэвалюцыйнага паўстанцкага атрада, арганізаванага з мэтай звяржэння савецкай улады» і як «агент англійскай разведкі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Далёкаўсходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. У зняволенні за «распальванне незадаволенасці сярод вязняў» прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 28.11.1956. Першая справа М. № 8169-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЙЗЕЛЬ Лейб Ёселевіч*** [1911, мяст. Чырвоная Слабада Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, літаратар. З сям'і служ-

боўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік газ. «Піянер Беларусі». Арыштаваны 29.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Акольная, д. 13/12, кв. 10. Асуджаны рашэннем органаў дзяржаўнай улады 21.1.1938 як «член контррэвалюцыйнай яўрэйскай нацыяналістычнай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі, потым Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. У 1949 высланы ў Нарыльск. Вызвалены 14.7.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.7.1955. Асабовая справа М. № 5524-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАЙКОЎСКІ Станіслаў Кліментавіч*** [1881, Мінск — 15.10.1937, Томск, НКВД], аграном. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту аграном-пладавод Тайгінскага аддзялення райтрансгандальхарчу Томскай чыгункі. Арыштаваны 29.9.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай кадэцка-манархісцкай і эсэраўскай арганізацый» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.2.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**МАЙСКІ Міхаіл Сямёнавіч*** [1906, Беласток, цяпер Польшча — 1.9.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і рабочага. Член КПЗБ з 1926, сакратар ЦК камсамола Зах. Беларусі. Да арышту прадстаўнік польскай секцыі (аддзела) «КІМа». Арыштаваны

17.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камуністычная, д. 16, кв. 5. Асуджаны 26.5.1938 «тройкай» НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны.

17.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камуністычная, д. 16, кв. 5 арыштавана студэнтка МВПІ Майская Лідзія Майсееўна (н. ў 1907 у Вільні, цяпер Вільнюс, Літва, у сям'і службоўца), жонка Міхаіла *Майскага*. 15.6.1938 «тройкай» НКВД яна была асуджана як «агент польскай разведкі» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана разам з мужам 1.6.1959 трыбуналам БВА. Справа сям'і М. № 14234-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАКАВЕЙСКІ Уладзімір Мікалаевіч*** [1894, в. Пятніцкая Перамышльскага пав. Калужскай губ., цяпер Калужская вобл., Расія — ?], навуковец, педагог. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прафесар, загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 8.1.1933 у Віцебску па адрасе: вул. Нікольская, д. 3а. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 16.9.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены ў сак. 1947. 18.6.1949 пастановай асобай нарады МДБ СССР высланы ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа М. і інш. № 10333-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**МАКАЛЬ Іван Васілевіч** [1875, в. Крупава Гродзенскага пав., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], юрыст. Скончыў Томскі ун-т. Арыштаваны 28.4.1921. Абвінавачваўся Омскай губернскай ЧК у «контррэвалюцыйнай дзейнасці». 9.5.1921 справа М. была спынена, а ён вызвалены. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны 2.12.1999 пракуратурай Омскай вобл.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**МАКАЛЬ Сямён Якаўлевіч*** [1888, в. Крушын Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Столінскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту юрысконсульт Аблметалсаюза. Арыштаваны 1.4.1938 у Новасібірску як «замежны агент». 29.7.1939 вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАКАРАНКА Фёдар Калістратавіч** [1928, Барысаў — ?]. З бел. рабочай сям'і. Да арышту студэнт філалагічнага ф-та БДУ. Арыштаваны 29.9.1950 у Барысаве па адрасе: вул. Лагойская, д. 36. Асуджаны 9.1.1951 за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.7.1990 прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа М. № 31594-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАКАРЭВІЧ Сцяпан Барысавіч*** [1908, в. Гірымшчына Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — 4.3.1938, Мінск, НКВД], журналіст, рэдактар. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю, уступіў у ВКП(б). Падчас арышту выконваў абавязкі загадчыка замежнага аддзела газ. «Чырвоная змена». Арыштаваны 11.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 64. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 15.2.1938 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа М. № 24080-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

13.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 64 арыштавана інспектар наркамата аховы здароўя БССР Турніцкая Міра Абрамаўна (н. ў 1904 (?) у Гродне), верагодна, жонка Сцяпана *Макарэвіча*. 21.1.1938 «тройкай» НКВД асуджана як «агент польскай разведкі» да ВМП і 29.11.1938 расстраляна ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітавана 15.2.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Т. № 5850-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАКАЎЧЫК Юстын Мікалаевіч*** [1899, в. Пацавічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1932 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інспектар па працы абл. камітэта Саюза рабочых камунальна-жыллёвага будаўніцтва. Арыштаваны 26.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: канал Грыба-

едава, д. 109, кв. 27. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.12.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАКЕЙЧЫК Марыя Паўлаўна*** [1921, в. Дубілаўка, цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — ?], служачая. З бел. сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала сакратаром Любанскага раённага выканаўчага камітэта. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 25.9.1944 у Любані. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.7.1945 як «член антысавецкай арганізацыі «Саюз барацьбы супраць бальшавізму» і за «работу ў нямецкіх акупантаў» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана, хутчэй за ўсё, ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай чыгункі. Вызвалена 1.12.1948. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 3.2.1956. Асабовая справа М. № 5942-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАКЛАКОЎ Глеб Нічыпаравіч*** [1908, Мінск — ?], фізік. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Балотнага інстытута «ВСКШ» (?). Арыштаваны 18.12.1936 у Мінску па адрасе: вул. Красівая, д. 7/1, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 8.6.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэ-

абілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 11.4.1959. Асабовая справа М. № 13975-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАКОЎСКІ Анатоль Міхайлавіч*** [1902, Коўна, цяпер Каўнас, Літва — 16.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер-механік завода імя Кірава № 3 Сульфіттрэста. Арыштаваны 22.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Чайкоўскага, д. 38, кв. 31. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.12.1937 за «контррэвалюцыйную здрадніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**МАКСІМУК Мікалай Іванавіч*** [1929, в. Радзевічы Брэсцкага пав. Палескага ваяв., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Вучыўся ў няпоўнай СШ Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. Арыштаваны 14.3.1944 (?). Асуджаны пазасудовым органам 20.5.1946 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 23.5.1990. Асабовая справа М. № 10387-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛАКОВІЧ Пракоп Дзянісавіч** [8(20).7.1895, в. Зубарэвічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер

Глускі р-н Магілёўскай вобл. — 26.9.1937, Масква, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Вёў рэвалюцыйную работу сярод салдат асобай 11-й арміі Паўд.-Зах. фронту. З 1917 старшыня палкавога камітэта. У 1918—20 ваенны камісар Бабруйскага Дарагабужскага пав., ваенны камісар сувязі Зах. фронту. З 1922 наркам унутраных спраў БССР. З 1923 старшыня Амурскага губернскага рэўкама, выканкама. З 1927 старшыня Гомельскага акруговага выканкама. З 1931 начальнік Упраўлення падрыхтоўкі кадраў наркамата сувязі СССР. Арыштаваны 19.4.1937 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2, кв. 48. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.9.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі правых», «шкодніцкую работу ў сістэме наркамата сувязі» і за «падрыхтоўку тэрарыстычных актаў, накіраваных супраць кіраўнікоў ВКП(б) і Савецкага ўрада» да ВМП. Расстраляны і пахаваны з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 25.5.1957.

Кр.: *Расстрельные списки. Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МАЛАЎ Барыс Міхайлавіч*** [ліст. 1904, Мінск — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Член ВКП(б). Да арышту загадчык аддзела хлебнай групы наркамата ўнутранага гандлю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 8, кв. 15. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй

маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.3.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 11563-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЛАХАЎ Іван Сямёнавіч** [1906, Мінская губ. — ?], лётчык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. З 1928 у Чырвонай арміі. Падчас арышту служыў у 1-й асобнай трэніровачнай эскадрыллі. Арыштаваны 29.12.1942 у Маскве. Асуджаны 18.3.1943 НКВД за «контррэвалюцыйную прапаганду і агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 29.9.1956 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа М. № 7880-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў .*

**МАЛАХОЎСКІ Іван Антонавіч*** [1898, в. Гарбэчава Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Расонскі р-н Віцебскай вобл. — 5.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту аграном Драгельскага райза. Арыштаваны 26.7.1937 у пас. Няболчы Драгельскага р-на Ленінградскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.11.1937 за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛЕВІЧ Аляксандр Мацвеевіч*** [1893, в. Гулі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н

Мінскай вобл. — 4.11.1937, Томск, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную медыцынскую адукацыю. Працаваў у 3-й хірургічнай клініцы Томска. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 18.10.1937 як «член «Сібірскага брацтва» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.2.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАЛЕЕЎ Якаў Ігнатавіч*** [1890, в. Усохі Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], навуковец, педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык кафедры фізічнай геаграфіі Магілёўскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты. Арыштаваны 24.6.1941. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.2.1942 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абл. суда 25.5.1957. Асабовая справа М. № 2669-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛЕШКА (МЯЛЕШКА) Андрэй Мацвеевіч*** [1901, Дрыса Віцебскай губ., цяпер Верхнядзвінск Віцебскай вобл. — 1938, Курган (?), НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — начальнік Курганскага паравознага аддзялення Паўднёваўральскай чыгункі. Арыштаваны 28.2.1938. Асуджаны лінейным судом Паўднёваўральскай чыгункі 21.4.1938

за «прыналежнасць да антысавецкай трацкісцкай арганізацыі» і за «падрыўную работу» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом РСФСР 28.7.1962.

Кр.: *Осуждены по 58-й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области*. Курган: Зауралье, 2002. Т. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛІНОЎСКІ Маўрыкій Вікенцевіч*** [27.6.1907, Мінск — 3.11.1937, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага медыцынскага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 23.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 15, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 26.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай яўрэйскай дыверсійнай паўстанцкай і шпіёнскай арганізацыі ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.9.1957. Асабовая справа М. № 10942-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЛІНОЎСКІ Мікалай Нічыпаравіч*** [1897, в. Евангелевічы (?) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі (?) р-н Мінскай вобл., паводле іншых звестак — Бесарабія — ?], медык. З бел. сям'і. Да арышту працаваў фельчарам. Арыштаваны 28.9.1940 у в. Кірэеўскае Кажэўнікаўскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 14.1.1941 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 24.6.1992.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**МАЛІНОЎСКІ Мікалай Нічыпаравіч*** [1909, в. Галавачы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Гродзенскі (?) р-н — ?], навучэнец, поўны цёзка М.Н.*Маліноўскага*. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Омскага сельскагаспадарчага інстытута. Арыштаваны 9.10.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 10.12.1937 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 29.5.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛІНОЎСКІ Уладзімір Яўгенавіч** [2.7.1897, Мінск — ?], службовец. З бел. шляхецкай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Да арышту — сакратар Упраўлення СНХБ (Савета народнай гаспадаркі БССР?). Арыштаваны 10.6.1924 у Мінску па адрасе: вул. Падгорная, д. 54, кв. 1. Асуджаны 5.9.1924 калегіяй АДПУ за «дапамогу польскім агентам» да 3 гадоў ППК. 2.9.1927 пасля сканчэння тэрміну высланы на 3 гады ў Сібір. Працаваў рахункаводам у арцелі ў с. Кукарка Сядзельнікаўскага р-на Сібкраю. Зноў арыштаваны 13.2.1930. Абвінавачваўся ў «правядзенні антысавецкай агітацыі». 26.6.1930 Омскім акруговым аддзелам АДПУ справа спынена за адсутнасцю складу злачынства. 8.10.1930 пазбаўлены на 2 гады права жыць у 12 населеных пунктах і пагранічных раёнах. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе (№ 34067-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны ваенным пракурорам Беларусі 6.6.1992.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**МАЛІНОЎСКІ Якаў Адамавіч*** [1894, в. Мішкава Віцебскай губ., цяпер у межах Віцебска — 16.11.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту галоўны бухгалтар фабрыкі «Пралетарская перамога». Арыштаваны 9.9.1937 у Мыцішчынскім р-не Маскоўскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 15.11.1937 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1956. Асабовая справа М. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛЫШАЎ Мікалай Парфёнавіч*** [1889, Віцебск — ?, Алма-Ата, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Да арышту начальнік Алмаацінскай міжгародняй тэлефоннай станцыі. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.3.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.2.1958.

Кр.: *Книга Скорби.*

**МАЛЫШАЎ Фёдар Васілевіч*** [1.2.1903, в. Дзьякаў, цяпер Лежнеўскі р-н Іванаўскай вобл., Расія — ?], навуковец, педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту рэктар Камуністычнага інсты-

тута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.6.1936 у Мінску ў гасцініцы «Еўропа». Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.10.1936 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, Хабараўскі край; бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Рэабілітаваны. Асабовая справа М. № 24735-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**МАЛЬКЕВІЧ Казімір Сямёнавіч*** [1890, в. Забелле Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл. — 14.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы бухгалтар паравознай службы Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 16.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Дастаеўскага, д. 4, кв. 1. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.10.1937 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛЬЦЭР (МЕЛЬЦЭР?) Абрам Навумавіч*** [20.8.1904, Мінск — 24.11.1937, Мінск, НКВД], навуковец, педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1924 уступіў у ВКП(б). У пачатку 1930-х г. дацэнт кафедры філасофіі, потым (з 1934 да 27.8.1936) дырэктар МВПІ. Арыштаваны 2.12.1936 у Мінску па

адрасе: вул. Савецкая, д. 33, кв. 6. За сувязь з трацкістамі выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.11.1937 як «актыўны член антысавецкай трацкісцка-шпіёнскай дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.8.1957. Асабовая справа М. № 10865-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 33, кв. 6 арыштавана хатняя гаспадыня Авен Ганна Карлаўна (н. ў 1894 у Старапецельскай вол. Відзенскага пав. Ліфляндскай губ., цяпер Латвія, у латышскай сялянскай сям'і), верагодна, жонка Абрама *Мальцэра*. 5.2.1940 асобай нарадай НКВД асуджана як «член латышскай тэрарыстычнай арганізацыі» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Вызвалена 8.6.1942. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 3.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 10330-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЛЮК Казімір Андрэевіч*** [1884 ці 1885, в. Зябкі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік фінансавай часткі ваенізаванай пажарнай каманды завода «Чырвонаармеец». Арыштаваны 4.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЛЯКОЎ *Леанід Іванавіч*** * [1878, в. Бунькова Цвярской губ., цяпер Цвярская вобл., Расія — ?], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прафесар Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 29.8.1933 у Горках па адрасе: вул. Агранамічная, д. 5, кв. 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа М. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЛЯНТОВІЧ Павел Мікалаевіч** [1869, Віцебск — 22.1.1940, Масква, НКВД], паліт. і дзяржаўны дзеяч, юрыст. З сям'і службоўца. Вучыўся на юрыдычным ф-це Маскоўскага ун-та, але быў адлічаны за «рэвалюцыйную прапаганду» і 3 месяцы правёў у турме. Скончыў юрыдычны ф-т Дэрпцкага (Тартускага) ун-та (1893). Працаваў памочнікам прысяжнага паверанага пад кіраўніцтвам Ф.Плявакі, адвакатам. На паліт. працэсах абараняў удзельнікаў паўстання на крэйсерах «Азоў», «Ачакаў», сялян Харкаўскай і Палтаўскай губ., членаў бальшавіцкай фракцыі думы і інш. Быў адвакатам у справе аб 100000 рублёў, якія Сава Марозаў пакінуў для бальшавіцкай партыі. Выйграў справу, атрымаў грошы і, рызыкуючы свабодай, перадаў іх бальшавіку Красіну. З сак. 1917 член Выканкама камітэта грамадскіх арганізацый, таварыш пракурора Маскоўскай судовай палаты, нам. міністра пошты і тэлеграфа, міністр юстыцыі і генеральны пракурор у Часовым ура-

дзе. Выдаў распараджэнне аб арышце У.Леніна. У выніку Кастрычніцкага перавароту 1917 арыштаваны з іншымі членамі Часовага ўрада і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Вызвалены па распараджэнні У.Леніна. З вер. 1921 у Маскве: юрыд. кансультант ВСНГ, адзін з заснавальнікаў савецкай адвакатуры, узначальваў Маскоўскую калегію адвакатаў. У 1930 арыштаваны органамі АДПУ. Пад следствам знаходзіўся некалькі месяцаў. Пасля вызвалення займаўся адвакацкай практыкай. Зноў арыштаваны 2.11.1937 у Маскве па адрасе: Зубаўскі бульвар, д. 16/20, кв. 85. Асуджаны 22.1.1940 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках праз некалькі гадзін пасля прыгавору. Пасля арышту М. органамі НКВД былі арыштаваны і ўсе члены яго сям'і. Па першай справе рэабілітаваны 29.8.1959, па другой 13.5.1992.

1.11.1937 у Маскве па адрасе: зав. Фурманава, д. 6, кв. 11 быў арыштаваны член Маскоўскай гарадской калегіі адвакатаў Малянтовіч Уладзімір Паўлавіч (нар. ў 1895), сын П.*Малянтовіча*. 14.6.1938 тройкай НКВД ён быў асуджаны як «член тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП і расстраляны. Рэабілітаваны 24.11.1956.

16.4.1938 у Маскве па адрасе: Стараканюшанны зав., д. 24, кв. 1 быў арыштаваны член Маскоўскай гарадской калегіі адвакатаў Малянтовіч Георгій Паўлавіч (нар. ў 1897), сын П.*Малянтовіча*. 15.9.1938 тройкай НКВД ён быў асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП і расстраляны. Рэабілітаваны 21.3.1956.

У 1951 органамі МДБ быў арыштаваны Малянтовіч Кірыл Георгіевіч (удзельнік 2-й сусветнай вайны; узна-

гароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1 ступені і многімі медалямі), сын Г.Малянтовіча. У тым жа годзе ён быў асуджаны да 5 гадоў канцлагераў. Вызвалены ў 1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»; Расстрельные списки: Донское кладбище*.

Літ.: БелСЭ. 1973, т. 6; Известия. 2001. 7 июня.

**МАМЧЫЦ Іосіф Мікалаевіч*** [1906, в. Радзівілімонты Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, верагодна, брат Мікалая *Мамчыца*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю (паводле некаторых звестак, скончыў БДУ). Працаваў настаўнікам у Пінскай бел. школе № 1. Ажаніўся, гадаваў дзіця. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Арыштаваны 20.9.1945 у Пінску. Асуджаны 6.4.1946 пазасудовым органам МДБ за «антысавецкую агітацыю» і «супрацоўніцтва з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі» (?) да 8 гадоў папраўча-працоўных работ і 4 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер МДБ Комі АССР. Вызвалены 10.9.1953. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.3.1964. Асабовая справа М. № 5805-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАНАСЗОН Хаім Ісакавіч*** [1884, Масква — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Мінскага медыцынскага інстытута, галоўны ўрач (?) інфекцыйнай клінікі 3-й

бальніцы. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 27.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 30, кв. 11. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа М. № 6743-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАНДРЫНСКІ (АНОХІН) Мікалай (Анатоль) Аляксандравіч*** [1906, мяст. Нарышніна Арлоўскай губ., цяпер Арлоўская вобл., Расія — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, працаваў загадчыкам гадзіннікавай майстэрні. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.8.1944 у Слуцку. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.6.1946 за «здрадніцкія паводзіны ў перыяд нямецкай акупацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай вобл. Вызвалены 19.8.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 26.7.1968. Асабовая справа М. № 19978-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**МАНЦІВОДА Леанід Фаміч** [1897, Мінск (?) — 15.7.1937, Масква, НКВД], службовец, верагодна, брат Мікалая *Манціводы*. З сям'і рабочага. Падчас арышту

начальнік паўночна-цэнтральнага Упраўлення марскога транспарту наркамата вады, член ВКП(б). Арыштаваны 10.3.1937 у Маскве па адрасе: вул. 1-я Мяшчанская, д. 66/68, кв. 27а. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.7.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 28.7.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**МАНЦІВОДА Мікалай Фаміч** [1895, ст. Замір'е (?) Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 9.10.1937, Масква, НКВД], службовец, верагодна, брат Леаніда *Манціводы*. З сям'і рабочага. Падчас арышту рэвізор Упраўлення сувязі Маскоўскай вобл., член ВКП(б). Арыштаваны 4.9.1937 у Маскве па адрасе: пл. Нагіна, д. 4, кв. 165. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 30.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**МАРГУНОЎ Нічыпар Сцяпанавіч*** [1902, в. Дуброўка Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шумяцкі р-н Смаленскай вобл. — ?], педагог. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 7.6.1936. Абвінавачваўся у контррэвалюцыйнай трацкісцкай

дзейнасці. Асуджаны не быў. Вызвалены і рэабілітаваны 21.9.1936 УНКВД Магілёўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа М. № 4297 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *ЭГБ,* т. 5. С. 19.

**МАРЖЭВІЧ Іван Севасцьянавіч*** [1905, в. Шаляпкі Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 25.10.1938, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту студэнт Томскага тэхнікума грамадскага харчавання. Арыштаваны 27.6.1938. Асуджаны 19.10.1938 як «член контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.5.1956.

Кр.: *Книга памяти томичей*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРКАЎ Фёдар Мітрафанавіч*** [1920, в. Старая Буда, цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. З 1936 у Чырвонай арміі. Падчас арышту загадчык справаводства Курскага палявога шпіталя № 4397. Арыштаваны 13.5.1943. Асуджаны 19.6.1943 за «контррэвалюцыйную прапаганду і агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.1.1957. Асабовая справа М. № 7727-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРКЕВІЧ Пётр Пятровіч*** [1897, в. Саленікі Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 17.1.1924, Масква, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту слухач ваеннай школы маскіроўкі. Арыштаваны 8.11.1923 у Маскве па адрасе: Сакольнікі, д. 4. Асуджаны калегіяй АДПУ 14.1.1924 за шпіянаж да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на тэрыторыі Яузскай бальніцы. Рэабілітаваны паводле Закона РСФСР ад 18.10.1991.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРОЗАЎ Васіль Уладзіміравіч** [1901, в. Раманаўка, цяпер Курмышскі р-н Ніжагародскай вобл., Расія — ?], вайсковец. З рускай сялянскай сям'і. Удзельнік грамадзянскай (1918—20), савецка-фінляндскай (1939) і 2-й сусветнай войнаў. У міжваенны час атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у КПСС (1940). Падчас арышту тэхнік-планавік вайсковай часці № 34490. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 9.8.1957 у Брэсце па адрасе: вул. Маякоўскага, д. 8. Асуджаны 3.3.1958 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР (пас. Явас; п/с 385/11) Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 18.4.1980 пленумам Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 7220-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**МАРОЗАЎ Іван Селіверставіч*** [1900, в. Мілашова Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р–н Віцебскай вобл. — 10.11.1937, Ленінград, НКВД], цясляр, верагодна, брат Ігната *Марозава*. З бел. сям'і. Падчас арышту цясляр 210-га ваенна-будаўнічага ўчастка. Арыштаваны 20.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Вялікая Охта, Аб'язная шаша, д. 12, кв. 5. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРОЗАЎ Ігнат Селіверставіч*** [1893, мяст. Дзісна Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец, верагодна, брат Івана *Марозава.* З бел. сям'і. Падчас арышту бухгалтар газ. «Сибирский гудок». Арыштаваны 28.11.1933 у Томску. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны 26.4.1934 як «член трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.1.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРОЗАЎ Сяргей Фёдаравіч*** [1903, Клінцы Бранскай губ., цяпер Бранскай вобл., Расія — ?], навуковец, педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў дацэнтам у БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Інвалід па зроку. Арыштаваны 30.8.1944 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 18.1.1945 як «памагаты немцаў» і за «контррэ-

валюцыйную агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД (Марыінск, Кемераўская вобл.). Вызвалены 7.8.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 1.7.1966. Асабовая справа М. № 19503-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**МАРОШАК Даніэль Давыдавіч*** [н. 1933, Мінск], навучэнец. З сям'і службоўца. Падчас арышту студэнт Мінскага медыцынскага інстытута, член ВЛКСМ. Арыштаваны 19.10.1954 у Мінску па адрасе: вул. К.Лібхнехта, д. 30, кв. 4. Паводле дадзеных следства, з 1951 у размовах са знаёмымі абмяркоўваў праблемы пабудовы сацыялізму ў СССР пасля смерці У.Леніна. Разам з У.*Казловым* распрацаваў «Маніфест рускіх марксістаў-ленінцаў», дзе КПСС называлася «халопскадыктатарскай партыяй», а дзяржаўны лад у СССР «дзяржаўным капіталізмам». Пра становішча яўрэяў у СССР М. пісаў: «Ініцыятывы ўрада (ганебныя ініцыятывы) знайшлі падтрымку ўнізе ў абліччы цемры, забітасці і зайздрасці найгоршай часткі народа ў адносінах да экспансіўных і здольных яўрэяў… Вярхі пачалі распаўсюджваць шавінізм і антысемітызм таму, што гэта з'явілася неабходным следствам усёй палітыкі і ідэалогіі нашай партыі, дакладней, кіраўніцтва партыі». 4.1.1955 пазасудовы орган асудзіў М. за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў ППК і 2 гадоў

пазбаўлення правоў. 15.9.1956 тэрмін зняволення быў скарочаны да 3 гадоў. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі 19.8.1997. Асабовая справа М. № 37027-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 71161.

Літ.: *58*[10], с. 237.

**МАРТУСЕВІЧ Іосіф Іосіфавіч*** [1890, Мінск — 15.12.1937, Мінск, НКВД], архівіст. У 1930-я г. загадчык архіва Дзяржаўнага банка БССР. Арыштаваны 26.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кацярынінская, д. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 7.9.1959. Асабовая справа М. № 14676-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАРТЫНАЎ Дзмітрый Іванавіч*** [1900, Пінск Мінскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — 17.6.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Апошняе месца работы — планавік Арджанікідзеўскага гарадскога савета. Арыштаваны 25.9.1936 у Арджанікідзе па адрасе: вул. Рэвалюцыі, д. 33, кв. 35. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.6.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 26.11.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**МАРТЫНЮК Сцяпан Карнілавіч** [1906, в. Мацяшоўка, цяпер Люблінскае ваяв., Польшча — ?], пажарнік. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 19.11.1957 у в. Тур'я тагачаснага Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. Асуджаны 29.1.1958 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.6.1959 прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа М. № П-6202 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРЦІНКЕВІЧ Іван Іванавіч*** [1905, в. Вуглы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 3.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 33, кв. 5. Абвінавачваўся як «агент польскай разведкі». 18.8.1938 вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення асобай нарадай пры НКВД. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа М. № 24265-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАРЦІНОВІЧ Ксенафонт Піліпавіч*** [1894, в. Лубня Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Мазырскі р-н Гомельскай вобл. — 8.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік чацвёртага галоўнага ўпраўлення нарка-

мата абароннай прамысловасці СССР. Арыштаваны 16.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. 5-я Цвярская-Ямская, д. 30, кв. 8. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 8.4.1938. Рэабілітаваны 21.9.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРЦІНЧЫК Іван Міхайлавіч*** [1903, в. Кубельнікі Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], педагог, брат Мікалая *Марцінчыка*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў у Мінскім аўтадарожным тэхнікуме. Арыштаваны 31.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 22, кв. 8. Асуджаны 9.1.1934 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа М. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАРЧАНКА Пётр Парфёнавіч*** [1882, в. Ліпаўская Сажалка (?) Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі (?) р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту дырэктар базы «Скурабутакзбыт», член ВКП(б). Арыштаваны 23.1.1935 у Омску. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 9.6.1935 за

«контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Сярэднеазіяцкі канцлагер НКВД Ташкенцкай вобл. Узбекскай ССР. Рэабілітаваны прэзідыумам Омскага абл. суда 29.3.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**МАРЧУК Міхаіл Іванавіч** [1891, в. Орля Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 29.7.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны дзеяч. Падчас арышту сакратар Краснадарскага крайкама ВКП(б). Арыштаваны 6.5.1938. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.7.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**МАРЭК Ісак Саламонавіч*** [1902, в. Навакоўна Адэскай губ., цяпер Украіна — ?], навуковец, педагог. З сям'і служачага. Меў вышэйшую або незаконченую вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 10.12.1937. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». 30.11.1938 справа М. № 3852-с (захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) была спынена, а ён вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы.

**МАРЭЦКІ Іосіф Іосіфавіч*** [1897, в. Траццякі Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 9.2.1938, Курск, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атры-

маў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік штаба стралковай дывізіі. Арыштаваны 3.11.1937 у Курску па адрасе: вул. Леніна, д. 31, кв. 2. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.5.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАР'ЯНАЎ Барыс Лазаравіч*** [1894, мяст. Татарск Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. сакратар Дзяржынскага РК КП(б)Б, член ЦК КП(б)Б (з 1937). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.8.1937 у Дзяржынску Мінскай вобл. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 9.5.1959 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 14127-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАСАЛОВІЧ Барыс Дарафеевіч*** [1909, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік Туркестана-Сібірскай чыгункі. Арыштаваны 20.7.1938 у Алма-Аце. Вызвалены і рэабілітаваны НКВД Туркестана-Сібірскай чыгункі 31.12.1939.

Кр.: *Книга Скорби.*

**МАСАЛЬСКІ Якаў Апанасавіч*** [1880, ? — 22.11.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту галоўны арбітр Смаленскага абл. выканаўчага камітэта. Арыштаваны 29.7.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.11.1937 за «антысавецкую шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**МАСЛАКАВЕЦ Георгій Георгіевіч*** [1896, Мінск — 10.11.1938, Мінск, НКВД], навуковец, педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт БДУ. Арыштаваны 4.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Скураная, д. 33, кв. 8. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 22.4.1989. Асабовая справа М. № 27740-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАСТКОЎ Майсей Маркавіч*** [жн. 1888, Мінск — ?], педагог, навуковец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага хіміка-тэхналагічнага інстытута, кансультант Дзяржплана БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 22.2.1931 у Мінску па адрасе: вул. Гандлёвая, д. 18, кв. 15. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў (заменены на ссылку). Далейшы лёс невядомы.

Рэабілітаваны пракуратурай БССР 20.10.1989. Асабовая справа М. № 30690-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАТАЛЬЫЦКІ Аляксей Федасеевіч*** [1921, в. Серадднякі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1939—41 служыў у Чырвонай арміі. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 20.1.1944 (?). Асуджаны 1.3.1944 (?) за «службу ў нямецкіх акупацыйных уладаў і антысавецкую агітацыю» да 15 гадоў папраўча-працоўных работ, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з канцлагераў ГУЛАГу (п/с ж-175). 19.11.1955 тэрмін пакарання быў зменшаны да 10 гадоў, і М. вызвалілі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.12.1967. Асабовая справа М. № 19881-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МАТУЗАЎ Ігар Кузьміч*** [1939, Мінск — ?], гравёр. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў на Мінскім заводзе электронна-вылічальных машын. Арыштаваны 13.10.1960 у Мінску па адрасе: вул. Танкавая, д. 75. Асуджаны 31.1.1961 за «здраду радзіме» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Адпраўлены ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Вызвалены 12.10.1963. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Беларусі 28.11.1997.

Асабовая справа М. № 37071-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАТУСЕВІЧ Вячаслаў Казіміравіч** [1906, Мінск — ?, Масква, НКВД], навучэнец. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту студэнт БДУ. Арыштаваны 5.3.1927 у Мінску па адрасе: Віленскі зав., д. 11, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.10.1927 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Дата смерці невядома. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.4.1993.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**МАТУСЕВІЧ Марк Майсеевіч*** [12.1895, Барысаў Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1918 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. наркама фінансаў БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.10.1937 у Мінску. Выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.12.1966. Асабовая справа М. № 19608-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАТЧЭНЯ Дзмітрый Лявонавіч** [1902, в. Тухавічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі

р-н Брэсцкай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], рабочы, брат Канстанціна *Матчэні.* З бел. сям'і. Падчас арышту шліфавальшчык завода «Чырвоны інструментальшчык». Арыштаваны 1.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАТЧЭНЯ Канстанцін Лявонавіч*** [1894, в. Тухавічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], інжынер, брат Дзмітрыя *Матчэні*. У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту тэхнолаг гарачай апрацоўкі завода «ВАРЗ» (?), былы загадчык групавой прыёмкі сыравіны аддзела тэхнічнага кантролю завода імя Жданава. Арыштаваны 1.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 16-я лінія, д. 27, кв. 6а. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. 19.11.1937 асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**МАЦКЕВІЧ Аляксандр Міхайлавіч*** [13.1.1880, Мінск — ?], друкарскі работнік. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў карэктарам у друкарні. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Фрунзе, д. 21/1, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29.12.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупацый-

ымі ўладамі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з уладзіміраўскіх або чаркаскіх канцлагераў. Вызвалены 15.12.1949. Рэабілітаваны Мінскім абл. судом 6.12.1989. Асабовая справа М. № 29296-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЦКЕВІЧ Кандрат Маркавіч*** [1889, ? — ?], медык. З бел. сям'і. Арыштаваны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» 29.7.1942 у в. Кротаўка Куйбышаўскай вобл. 31.10.1942 ваенным трыбуналам чыгункі імя Куйбышава апраўданы і вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Белая книга.*

**МАЦЮСОВІЧ Міхаіл Людвігавіч*** [1886, в. Койры Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — ?], медык. З бел. сям'і. Падчас арышту фельчар амбулаторыі. Арыштаваны 24.6.1941 на ст. Куламзіно Омскай чыгункі. Асуджаны Омскім абл. судом 3.9.1941 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 29.11.1991.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МАЧАЛЬСКІ Леанід Сяргеевіч*** [1923, Мінск — ?], артыст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, працаваў у Першым беларускім драма-

тычным тэатры (?), жыў у Мінску па адрасе: 2-гі Грыгор'еўскі зав., д. 3, кв. 1. Арыштаваны 2.1.1944 (?). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.7.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 4 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага аблсуда 22.2.1990. Асабовая справа М. № 30589-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЧУЛЬСКІ Аляксандр Мікалаевіч*** [1897, в. Лаўрышова Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык вытворчасці райпрамкамбіната. Арыштаваны 27.2.1942 у Калачынску Омскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 9.9.1942 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 9.12.1992.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МГЕБРОВА (МГЕБРАВА) Яўгенія Міхайлаўна** [1884, Масква — ?], бібліятэкар. З дваранскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў бібліятэцы МВПІ. Арыштавана 1.1.1945 у Мінску па адрасе: вул. Герцэна, д. 10, кв. 1. Асуджана 1.12.1945 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ссылкі ў Цюменскую вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 20.8.1992 пракуратурай Беларусі. Асабовая справа М. № 34565-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЕЖНІНА *Лідзія Паўлаўна**** [1925, Мінск — ?], артыстка. З сям'і рабочага. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працавала ў Беларускім тэатры оперы і балета. Арыштавана 22.1.1945 у Мінску па адрасе: вул. Танкавая, д. 38, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 4.3.1946 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапавана ў Цюменскую вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай РБ 19.11.1992. Асабовая справа М. № 34990-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЕЙСАК Сільвестр Якаўлевіч*** [1899, в. Алянец Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 25.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дывізіённы камісар, нам. начальніка палітаддзела Галоўнага ўпраўлення супрацьпаветранай абароны СССР. Арыштаваны 27.6.1938 у Маскве па адрасе: вул. Пакроўка, д. 20/1, кв. 67. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.8.1938 за «шпіянаж і ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.3.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МЕЛЬНІЧЭНКА Захар Міхайлавіч*** [1897, Ковель, цяпер Валынская вобл., Украіна — 23.6.1938, Масква, НКВД], вайсковец. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік фінансавай

часткі 38-га палка войск АДПУ. Асуджаны ў 1934 да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер НКВД Маскоўскай вобл. Працаваў рахункаводам-бухгалтарам на Ікшынскім участку лагера. 5.4.1938 узяты пад варту. 5.6.1938 «тройкай» НКВД за «контррэвалюцыйную прапаганду сярод зняволеных» і «выказванне спачування да расстраляных ворагаў народа» прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.6.1989. Асабовая справа М. № П-73869 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**МЕЛЯШКЕВІЧ Антон Сцяпанавіч*** [1894, в. Ржаўка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі (?) р-н Мінскай вобл. — 25.12.1937, Масква, НКВД], дзяржаўны дзеяч, дыпламат. З бел. сялянскай сям'і. Меў незаконченую вышэйшую адукацыю. У 1920—21 у Чырвонай арміі. У 1922 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. пастаяннага прадстаўніка БССР пры ўрадзе СССР. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 10.9.1937 у Маскве па адрасе: Філіпаўскі зав., д. 22, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.12.1937 як «член з 1920 г. контррэвалюцыйных арганізацый» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны трыбуналам БВА 8.4.1958. Асабовая справа М. № 11799-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МЕНДЗЯЛЕВІЧ Ісак Львовіч*** [1906, мяст. Смалявічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Полацкага педагагічнага тэхнікума. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 25.8.1936 у Полацку па адрасе: вул. К.Маркса, д. 2, кв. 10. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 4.11.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 20.6.1958. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МЕНДЭЛЬСОН Якаў Хаймавіч*** [1902, мяст. Мелехаў Варшаўскай губ., цяпер Польшча — 9.7.1938, Мінск, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да кастр. 1930 жыў у Польшчы, быў членам КПП. У пачатку 1930-х г. уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык прамыслова-кааператыўнага аддзела мінскай яўрэйскай газ. «Октобэр» («Кастрычнік»). Быў жанаты, гадаваў дзіця. 1.8.1936 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны ў Мінску. 28.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджаны як «агент разведвальных органаў буржуазнай Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.10.1958. Асабовая справа М. № 13160-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЕРАНКОЎ Аляксей Іванавіч*** [1878, в. Мажэцкая Слабада (?) Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., ця-

пер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту нам. старшыні калгаса імя Жданава. Арыштаваны 8.4.1945 у в. Пакроўка Тэўрызскага р-на Омскай вобл. Абвінавачваўся ў «антысавецкай агітацыі і прапагандзе». 25.4.1945 Тэўрызскім раённым аддзелам НКВД Омскай вобл. вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**МІЗГЕР Уладзімір Канстанцінавіч*** [1908, Пінск Мінскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інструктар Томскай аўташколы. Арыштаваны 20.4.1935. Асуджаны 3.9.1935 як «меншавік» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.7.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**МІКЛАШЭВІЧ Пётр Вікенцевіч*** [1902, ст. Чыжаў Ломжынскай губ., цяпер Польшча — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту канструктар канструктарскага бюро пры заводзе мараходных інструментаў Галоўнага ўпраўлення марскіх сіл Чырвонай арміі. Арыштаваны 24.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: Малкаў зав., д. 4, кв. 50. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**МІКУЛІЧ Алена Трафімаўна*** [1926, Вілейка Віленскага ваяв., цяпер Мінская вобл. — ?], навучэнка. З сям'і службоўца. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучылася ў школе. Арыштавана 13.10.1945 у Вілейцы. Асуджана пазасудовым органам 24.5.1946 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 19.6.1996. Асабовая справа М. № 10869-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МІКУЛІЧ Марыя Міхайлаўна*** [1918, Бабруйск, цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], служачая, верагодна, сястра Барыса *Мікуліча*. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала рахункаводам Бабруйскай сплаўканторы. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 28.12.1944. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 1.9.1945 як «член фашысцкай арганізацыі «Саюз барацьбы супраць бальшавізму» да 9 месяцаў (?) пазбаўлення волі. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай чыгункі. Вызвалена 11.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 14.3.1975. Асабовая справа М. № 9519 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**МІЛАЎ Дзмітрый Іванавіч*** [20.10.1884, в. Біркаўка Саратаўскай губ., цяпер Саратаўская вобл., Расія —

16.3.1939, ?], выдавец, рэдактар. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1918 уступіў у ВКП(б). У 1919—20 у Чырвонай арміі, ваяваў на Усх. і Паўд.-Усх. франтах. Падчас арышту загадчык ваеннага сектара (аддзела) Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 29.6.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 61/27, кв. 46. Выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 9.4.1937 за «нелегальную контррэвалюцыйную трацкісцкую работу» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Марыінскі канцлагер. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.11.1957. Асабовая справа М. № 10991-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІЛЬКАМАНОВІЧ Ілья Абрамавіч*** [1889, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — ?], дзяржаўны служачы. З шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік планава-эканамічнага ўпраўлення наркамата фінансаў. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.1.1931 у Мінску па адрасе: вул. Замкавая, д. 6, кв. 6. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 як «член антысавецкай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Пакаранне адбываў у Ленінградскай вобл. (хутчэй за ўсё, у Салавецкім канцлагеры). 17.12.1935 прэзідыумам ЦВК СССР тэрмін скарочаны да 7 гадоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР

11.10.1957. Асабовая справа М. № 11457-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІНАЕЎ Рыгор Кірылавіч*** [23.1.1892, Горкі Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» ў Горках 18.11.1937. Вызвалены 1.4.1938. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа М. № 6018 (спынена пастановай аддзела НКВД БССР 24.3.1938) захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МІНКІН Калман Маркавіч*** [1902, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 24.11.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны служачы. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1921 уступіў у ВКП(б). Да арышту загадчык аддзела друку пры ЦВК БССР. Арыштаваны 27.12.1936 у Мінску. Выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.11.1937 як «актыўны член контррэвалюцыйнай трацкісцка-тэрарыстычнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.8.1957. Асабовая справа М. № 10781-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 2-я Аранская 4б, кв. 2 арыштавана педагог Мінскага гарадскога дашкольнага камітэта, маці дваіх дзяцей, Мінкіна Марыя

Вульфаўна (н. 11.12.1904 у Магілёве ў сям'і рабочага, атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Калмана *Мінкіна*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і здрадніка Радзімы» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Вярхоўным судом СССР 28.4.1956. Асабовая справа М. № 7199-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МІХАЙЛАЎ Дзям'ян Мацвеевіч*** [30.10.1905, в. Хоцімск Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту кансультант упраўлення справамі СНК БССР. Арыштаваны 23.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, 3-ці дом Саветаў, кв. 17. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.9.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 10893-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІХАЙЛОЎСКАЯ Галіна Арсенаўна*** [26.3.1907, Казань, цяпер Татарстан, Расія — ?], мастачка, жонка Паўла *Панкевіча*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў арцелі імя 3-й пяцігодкі. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 28.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 168, кв. 3. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 8.10.1938 як «член сям'і нацыянал-фашыста і здрадніка радзімы» да

3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 17.1.1956. Асабовая справа М. № 6311-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІХАЙЛОЎСКІ Пётр Андрэевіч*** [1911, в. Максімаўка Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — кастр. 1937, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Вучыўся ў Томскім мукамольна-элеватарным ін-це. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 26.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.11.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МІХАЛЬЧЫК Аляксандр Севасцьянавіч*** [1885, в. Вербалаты Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], педагог, верагодна, брат Рыгора *Міхальчыка*. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў настаўнікам у Аршанскай чыгуначнай школе Віцебскай вобл. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 1.8.1938 у Оршы. Асуджаны 28.9.1938 «тройкай» НКВД за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Смаленскім абл. судом 23.11.1957. Асабовая справа М. № 7754-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МІХАЛЬЧЫК Рыгор Севасцьянавіч*** [1898, в. Вербалаты Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], лекар, верагодна, брат Аляксандра *Міхальчыка*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую медыцынскую адукацыю. Падчас арышту асістэнт Хірургічнай клінікі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.4.1933 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 133, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член нацдэмаўскай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа М. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІХЕЕЎ Мікалай Іванавіч*** [1905, Клімавіцкі (?) пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык адной з кафедр Віцебскага ветэрынарнага ін-та. Арыштаваны 7.5.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 за «дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1957. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**МІХНЮК Сямён Пятровіч*** [1902, в. Кваліцікі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вы-

шэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 28.5.1933 у Віцебску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 19. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер Маскоўскай вобл. Вызвалены 11.9.1936. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа М. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІЦКЕВІЧ Цярэнцій Пятровіч*** [1911, в. Радзіца Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — ?], ?. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. У 1942 у партызанскім атрадзе ў Крупскім р-не. Арыштаваны 20.10.1942 (?). Асуджаны асобай нарадай НКВД 7.4.1943 (?) за «супрацоўніцтва з немцамі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 20.7.1992. Асабовая справа М. № 34234-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МІЦЬКОЎ Сяргей Рыгоравіч*** [20.3.1896, в. Косараўшчына (?) Дзісенскага пав. Віленскай губ. — 29

або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Член ВКП(б). Да арышту дырэктар Гідролізнага вопытнага завода Наркамата мясцовай прамысловасці. Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 32, кв. 1. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «актыўны член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.5.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 10379-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІШКОЎ Георгій Андрэевіч*** [1907, в. Пашкова (?) Магілёўскага пав., цяпер Магілёўскі р-н — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. У 1931 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік палігона 53-й авіяцыйнай брыгады. Арыштаваны 15.10.1937. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**МЛЫНОЎСКІ Аляксандр Францавіч*** [1891, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — 15.1.1938, Куйбышаў, НКВД], педагог. З бел. сям'і. Падчас арышту выкладчык Планава-эканамічнага інстытута. Арыштаваны 7.11.1933 у Самары. 4.12.1933 асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ Сярэдняволжскага краю за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да зняволення. 30.11.1937 узяты пад варту. Асу-

джаны «тройкай» НКВД 21.12.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 14.1.1956.

Кр.: *Белая книга.*

**МОЛЧАН Іван Платонавіч*** [1914, в. Сычэва Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям’і. Са жн. 1944 да мая 1945 на 1-м Беларускім фронце. Падчас арышту рахункавод калгаса імя Васілеўскага Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. Арыштаваны 23.9.1950 у в. Сычэва. Асуджаны 14.12.1950 за «сувязь з бандай АУН» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 6.3.1975. Асабовая справа М. № 6793-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МУКЛЕВІЧ Рамуальд Адамавіч** [7.12.1890, мяст. Супрасль Гродзенскай губ., цяпер горад у Падляшскім ваяв., Польшча (паводле іншых звестак Беласток, цяпер Польшча) — 10.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Флагман 1-га рангу. Член РСДРП з 1906. Працаваў на тэкстыльных фабрыках Беластока і Лодзі. З 1912 на флоце. З 1915 унтэр-афіцэр Кранштацкай школы матарыстаў. Удзельнік Лютаўскай рэвалюцыі і Кастрычніцкага перавароту 1917 у Петраградзе. З лют. 1918 у Чырвонай

арміі, удзельнік баёў з германскімі акупантамі. З 1919 камісар Зах. граніцы, начальнік штаба Свянцянскай групы войск, Мінскі губ. ваенны камісар (ліп.—жн. 1919), камісар штаба 16-й арміі, кандыдат у члены ЦВК Польскай камуністычнай групы. У чэрв. 1920 член Магілёўскага ВРК, у ліп.—жн. 1920 старшыня Віленскага губернскага ВРК, член Загранічнага бюро ЦК КП Літвы. У 1921—22 член РВС Зах. фронту, член ЦК КП Літвы. У 1921 узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. З 1923 камісар, нам. начальніка Ваеннай акадэміі РСЧА, пам. начальніка ВПС РСЧА. У 1926—31 нач. (з 1931 інспектар) ВМС РСЧА, член рэдкалегій час. «Красный флот», «Морской сборник». З 1934 начальнік Галоўнага ўпраўлення суднабудаўнічай прамысловасці і адначасова (з 1936) нам. наркама абароннай прамысловасці СССР. Арыштаваны 26 або 28 мая 1937 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2, кв. 334. Асуджаны 8.2.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 26.5.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Яго імя прысвоена гідраграфічнаму судну ВМФ.

Разам з М. была арыштавана яго жонка Ганна Якаўлеўна Муклевіч (нар. ў 1900 у Санкт-Пецярбургу; атрымала вышэйшую адукацыю; член ВКП(б) з 1919; да арышту начальнік Матэрыяльных балансаў Дзяржплана СССР). 25.11.1937 яна была асуджана за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі ПАВ, шкодніцтва, тэрарызм і контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляна і пахавана 26.11.1937 на Данскіх могілках. Рэабілітавана 18.8.1956.

Кр.: *ЭГБ*, т. 5; *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 471.; *Расстрельные списки: «Коммунарка»; Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**МУЛЯРЧЫК Аляксей Мартынавіч*** [1904, в. Зарудаўе Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Мастоўскі р-н Гродзенскай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту студэнт Інстытута савецкага права. Арыштаваны 17.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Ардынарная, д. 5, кв. 32. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МУРАЎЁВА Ганна Еўдакімаўна*** [1924, в. Веляшковічы, цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл. — ?], ?. З бел. сялянскай сям'і. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 12.1.1944 (?). Асуджана судовым органам 28.3.1944 (?) як «агент нямецкай разведкі» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў Асобы лагер № 7 (?). Вызвалена 5.11.1953. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 12.7.1990. Асабовая справа М. № 209690-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МУРАЎЁЎ Фядосій Іванавіч*** [1902, Смаленская (?) губ. — 19.11.1937, Смаленск, НКВД], інжынер. З бел. сям'і. Арыштаваны 28.6.1937. Асуджаны спецыяльнай калегіяй Зах. абл. суда 30.9.1937 за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**МУРАШКА Рыгор Міхайлавіч*** [1876, в. Чарнікоўшчына, цяпер Дзяржынскі (?) р-н Мінскай вобл. — 4.8.1945, ГУЛАГ], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў дырэктарам школы пры Торфазаводзе. Быў жанаты, меў чацвёра (?) дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 20.12.1944 у в. Чарнікоўшчына. Асуджаны 26.12.1945 асобай нарадай пры НКДБ як «памагаты нямецкіх акупантаў» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Уральскі канцлагер НКДБ Свярдлоўскай вобл. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 7.5.1996. Асабовая справа М. № 36796-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

**МУРЫН Іван Максімавіч*** [1875, пас. Замосце, цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту юрысконсульт. Арыштаваны 20.3.1938 у Кандалакшаўскім р-не (Нівабуд). Асуджаны асобай «тройкай» НКВД Карэльскай АССР 5.10.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны каля пас. Кандалакша. Рэабілітаваны пракурорам Мурманскай вобл. 18.5.1989.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю. А. Дзмітрыева.*

**МУХА Аляксандр Маркавіч*** [1890, мяст. Мір Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 15.11.1937, Ленінград, НКВД], служ-

бовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы бухгалтар 1-й псіхіятрычнай калоніі Ленінградскага гарадскога аддзела аховы здароўя. Арыштаваны 29.9.1937 у в. Ламахі Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**МУХІН Павел Максімавіч*** [1907, в. Забалоцце Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык лабараторыі Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 11-я Ветэрынарная, д. 19. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.10.1957. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МЫЛЬНІКАЎ Пётр Міхайлавіч*** [1905, Рыбінск Яраслаўскай губ., цяпер Яраслаўская вобл., Расія — 3.12.1937, Віцебск, НКВД], вайсковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік штаба эскадрыллі (40-я авіяцыйная брыгада). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.7.1937 у Віцебску па адрасе: Авіягара-

док, д. 5, кв. 30. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 13.8.1957. Асабовая справа М. № 12186-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**МЫСІНА-ЗВЯГІНА Кацярына Пятроўна*** [1899, Есентукі, цяпер Стаўрапольскі край, Расія — ?], выдавецкі работнік. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Падчас арышту карэктар у газеце 24-й кавалерыйскай дывізіі. Арыштавана 22.8.1937 у Лепелі. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 16.5.1938 як «член сям'і (жонка?) рэпрэсаванага» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер Мардоўскай АССР. Вызвалена 23.2.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.9.1956. Асабовая справа М. № 11884-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**МЫШКО Сцяпан Сцяпанавіч** [1897, в. Трыбушкі Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 14.7.1938, Мінск НКВД], кінарэжысёр. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту працаваў на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь». Арыштаваны (хутчэй за ўсё, у 1937) у Мінску па адрасе: вул. Чырвоназорная, д. 3, кв. 1. Асуджаны тройкай НКВД 25.5.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 9.2.1959 трыбуналам БВА.

Асабовая справа М. № 13816-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**МЭТЭ Казімір Юльянавіч*** [27.1.1905, в. Бараўляны Мінскага пав. — 28.3.2004, Бараўляны], адзін з арганізатараў Магілёўскага патрыятычнага падполля ў 2-ю сусветную вайну, педагог. З польскай сялянскай сям'і. З 1927 настаўнічаў у Бабруйскім раёне, Мінску, Магілёве. Скончыў Ленінградскі педагагічны інстытут імя А.Герцэна (1931). Да першага арышту выкладаў у Польскім педагагічным тэхнікуме, быў супрацоўнікам БелАН. Ажаніўся, гадаваў дзіця. Арыштаваны 7.11.1933 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 27.2.1934 як «член ПАВ і за антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД (Марыінск, Кемераўская вобл., Новасібірск). Вызвалены 23.7.1936. У ліп. 1941 НКВД Магілёўскай вобл. пакінуты ў тыле немцаў для арганізацыі падпольнай работы. У пачатку 1942 быў у ліку стваральнікаў падпольнай арганізацыі «Камітэт садзеяння Чырвонай арміі», якая аб'яднала многія падпольныя групы, мела сувязі з партызанамі. З сак. 1943 у партызанах. З 1944 выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Зноў арыштаваны 8.6.1946. Абвінавачваўся ў здрадзе радзіме. Асуджаны не быў. Вызвалены і рэабілітаваны 8.5.1947. За актыўны ўдзел у партызанскім руху ў час 2-й сусветнай вайны 9.2.1949 судзімасць з М. была знята. У 1948—64 дырэктар, завуч Бараўлянскай СШ. Па першай справе (№ 14225-с; захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі)

рэабілітаваны калегіяй Вярхоўнага суда БССР 29.5.1959.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**МЯГКОЎ В. А**.* [н. 1949], жыхар Мінска. Паводле даных следства ў жн. 1972 распаўсюдзіў больш за 30 лістовак з заклікамі: «Далоў чырвоную заразу!», «Трэба знішчыць чырвоную сволач!» і інш. 9.4.1973 асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду. Далейшы лёс невядомы. Хутчэй за ўсё, не рэабілітаваны.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 5600.

Літ.: *58[10]*, с. 749.

**МЯДЗВЕДЗЕЎ Іван Іванавіч*** [1904, Беласток Гродзенскай губ., цяпер Польшча — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 8.6.1936 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 52, кв. 8. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 22.7.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 6.6.1989. Асабовая справа М. № 27279-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЯЖЭЦКІ Вікенцій Карлавіч*** [1902, в. Скрыпчана Люцынскага пав. Віцебскай губ., цяпер Латвія — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту палітрук 3-га асобнага інжынерна-

аэрадромнага батальёна, член ВКП(б). Арыштаваны 27.9.1937 у ваенным гарадку ў в. Ропша Красносельскага р-на Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**МЯЗЬЯНАЎ Аляксандр Міхайлавіч*** [1872, Смаленская (?) губ. — 25.11.1937, Смаленск, НКВД], медык. З бел. сям'і. Падчас арышту фельчар Вяземскага дзіцячага прыёмніка. Арыштаваны 2.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 17.11.1937 за «шпіёнскую дзейнасць і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**МЯЛЕШКА Пётр Васілевіч** [1890, в. Кухцінцы Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 12.8.1936], дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. З 1912 працаваў настаўнікам. Удзельнік стварэння нацыянальна-вызваленчых арганізацый, бел. школ у Зах. Беларусі. У 1922 абраны дэпутатам Польскага сейма. Член ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пасля яе разгрому арыштаваны і асуджаны да 12 гадоў турэмнага зняволення. У выніку абмену палітвязнямі з 1930 у СССР. Працаваў старшынёй Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі АН БССР. Арыштаваны 1.9.1933. Асуджаны да 10 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 619.

**МЯЛЬНІЦКІ Фёдар Данілавіч*** [11.2.1911, в. Бранчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту аспірант БелАН. Арыштаваны 25.8.1936 у Мінску па адрасе: Паўночны зав., д. 7, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 4.12.1936 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД (пас. Чыб'ю Комі АССР, цяпер Ухта). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 28.12.1989. Асабовая справа М. № 29932-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МЯНЖЫНСКАЯ Яніна Уладзіслаўаўна*** [1913, Мінск — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала старшым навуковым супрацоўнікам Мінскага дзяржаўнага архіва. Арыштавана 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Слонімская, д. 40, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 21.7.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Вызвалена 28.1.1948. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 28.12.1989. Асабовая справа М. № 29058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЯСТОЎСКАЯ Яніна Антонаўна*** [1904, в. Ізабелін Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваў-

кавыскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштавана 26.7.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ямная, д. 3, кв. 3 (6.5.1937 у гэтай жа кватэры арыштаваны Б.*Арлоўскі*.) Асуджана паводле пастановы калегіі АДПУ 2.3.1934 за «сувязь з членамі «ПАВ» да 3 гадоў ссылкі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай БССР 6.6.1989. Справа М. № 25252-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МЯТЛА Аляксандр Аляксандравіч*** [20.3.1905, в. Касаварына (?) Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі (?) р-н Віцебскай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1925 уступіў у КПЗБ. Супрацоўнічаў з бальшавіцкімі разведвальнымі органамі. Падчас арышту выкладчык Мінскага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: Друкарскі зав., д. 13. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа М. № 10182-с (спынена пастановай КДБ БССР 16.8.1956) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЯТЛА Канстанцін Макаравіч*** [1898, в. Чарасы Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 14.6.1938, Масква, НКВД], службо-

вец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту вядучы інжынер тэхнічнага аддзела 132-га авіяцыйнага завода. Арыштаваны 10.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Малчанаўка, д. 15/11, кв. 18. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.6.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.10.1956. Асабовая справа М. № П-27882 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**МЯТЛА Павел Данілавіч*** [1904, в. Мятла (?) Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі (?) р-н Віцебскай вобл. — 4.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аддзела халоднай спружыны завода імя Будзённага. Арыштаваны 9.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Матроская Цішыня, д. 23, кв. 214. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 27.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.9.1957. Асабовая справа М. № П-37960 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**МЯЦЕЛЬСКІ Васіль Уладзіміравіч*** [1901, мяст. Грэск Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н

Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у ВКП(б) (1924). У 1930-я г. дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У 1933 выключаны з ВКП(б) пры чыстцы. Арыштаваны 11.8.1933 у Горках па адрасе: Ленінскі бульвар, д. 2, кв. 8. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа М. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**МЯЧЫНСКІ Яўген Станіслававіч*** [1898, Херсон, цяпер Украіна — ?], навуковец, педагог. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 11.8.1933. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Групавая справа М. і іншых выкладчыкаў Горацкай акадэміі № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НАВАДВОРСКАЯ Валерыя Ільінічна** [17.5.1950, Баранавічы Брэсцкай вобл.], праваабаронца, паліт. дзеяч, журналістка. Скончыла з сярэбраным медалём сярэднюю школу. Паступіла на французскае аддзяленне па спецыяльнасці «перакладчык і педагог» у Інстытут замежных моваў імя Марыса Тарэза (Масква). У 1969 арыштавана. Абвінавачвалася ў антысавецкай агітацыі і прапагандзе. З чэрв. 1970 да лют. 1972 на прымусовым лячэнні ў псіхіятрычных бальніцах. З 1972 прымала ўдзел у вырабе і распаўсюджванні самвыдату ў Расіі. Працавала педагогам у дзіцячым санаторыі. У 1975—90 перакладчыца медыцынскай літаратуры 2-га Маскоўскага медыцынскага інстытута. У 1977 скончыла вячэрні ф-т замежных моваў абл. педагагічнага інстытута імя Крупскай у Маскве. У 1977—78 спрабавала стварыць падпольную паліт. партыю для барацьбы супраць КПСС. У кастр. 1978 адзін з заснавальнікаў «Свабоднага міжпрафесійнага аб’яднання працоўных», за што перасьледавалася спецслужбамі, неаднаразова прымусова змяшчалася ў спецклінікі. У 1978, 1985 і 1986 асуджана за дысідэнцкую дзейнасць. У 1984—86 супрацоўнічала з пацыфісцкай групай «Давер». У маі 1988 прымала ўдзел у стварэнні партыі «Дэмакратычны саюз». У 1987—91 17 разоў прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за несанкцыянаваныя мітынгі. У вер. 1990 абвінавачвалася ў публічнай знявазе гонару і годнасці прэзідэнта СССР і дзяржаўнага сцяга. У маі 1991 супраць яе ўзбуджана крымінальная справа за заклікі да звяржэння дзяржаўнага і грамадскага ладу. У зняволенні да 23.8.1991, калі была вызвалена «ў сувязі са зменай абстаноўкі ў краіне». У 1992 стала дарад-

цам па правах чалавека прэзідэнта Грузіі Звіяда Гамсахурдзія. У канцы 1992 стварыла «Дэмакратычны саюз Расіі». У кастр. 1993 падтрымала прэзідэнта Б.Ельцына ў яго канфлікце з Вярхоўным саветам РФ, удзельнічала ў заснаванні блока «Выбар Расіі». Засталася ў апазіцыі да новай улады. 19.3.1994 Краснапрэсненская пракуратура распачала праверку дзейнасці Н., звязанай з «прапагандай грамадзянскай вайны і распальваннем міжнацыянальных канфліктаў». У чэрв. 1994 удзельнічала ў заснаванні партыі «Дэмакратычны выбар Расіі». У студз. 1995 Генеральнай пракуратурай Расіі ўзбуджана крымінальная справа з-за зместу артыкулаў Н. у газ. «Новый взгляд», але праз паўгода была спынена. Цяпер Н. — лідэр партыі «Дэмакратычны саюз Расіі».

**НАВАКОВІЧ Мікалай Фёдаравіч*** [1893, Пінск Мінскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — 10.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Цэнтральнага тэлеграфа. Арыштаваны 22.5.1937 у Ленінградзе па адрасе: Абводны канал, д. 63, кв. 12. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 як «удзельнік контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**НАВАРА Леанід Аляксандравіч** [1928, мяст. Сянно Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — ?], падчас арышту ваеннаслужачы вайсковай часці

№ 22819 (належала да войск ВМФ). Арыштаваны 17.11.1952. Асуджаны 23.1.1953 за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі «СБМ» да 25 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў ГУЛАГа (п/с 242/374). Вызвалены 23.4.1956. Рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Н. № П-7260 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**НАВАЦКІ Сяргей Віктаравіч*** [25.11.1896, Ніжнеудзінская акр. Іркуцкай губ., цяпер Іркуцкай вобл., Расія — 1.10.1937, Мінск, НКВД], культасветработнік. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1910-я г. афіцэр Рускай арміі. У 1920-м г. камандзір роты Чырвонай арміі. У 1921 арыштоўваўся як былы царскі афіцэр. У 1930-я г. кіраўнік музычных гурткоў клуба (дома культуры) Чэлябінскага трактарнага завода. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.7.1937 у Чэрвені Мінскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.9.1937 за «контррэвалюцыйную агітацыю і як польскі шпіён» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.5.1959. Асабовая справа Н. № 14226-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**НАВІЦКІ Мікалай Іванавіч*** [1896, ? — 9.8.1938, Масква, НКВД], інжынер. З сям'і бел. святара. Атры-

маў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы інжынер сектара капітальнага будаўніцтва трэста «Мосдеспрам». Арыштаваны 25.2.1938 па адрасе: Маскоўская вобл., Пушкіна, вул. Тургенеўская, д. 44. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 29.7.1938 за «контррэвалюцыйную работу па заданню польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.4.1959. Асабовая справа Н. П-60909 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**НАВІЦКІ Пётр Гіляравіч*** [1895, Санкт-Пецярбург — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту тэхнолаг 4-га механічнага цэха Кіраўскага завода. Арыштаваны 22.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Трактарная, д. 13, кв. 5. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**НАВІЦКІ Сяргей Радзівонавіч*** [1900, Віцебск — 10.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту эканаміст Аўтарамонтнага завода. Арыштаваны 5.9.1937 у Пушкіне Ленінградскай вобл. па адрасе: Кастрычніцкі бульвар, д. 63, кв. 11. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**НАВУМІК Трафім Клімавіч*** [1883, в. Медна Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі р-н — 8.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту адказны выканаўца па забеспячэнню Маскоўскай абл. канторы Дзяржаўнага банка СССР. Арыштаваны 3.11.1937 у Маскве па адрасе: вул. Новаслабодская, д. 10, кв. 25. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.4.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Галоўнай ваеннай пракуратурай СССР 16.12.1991.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**НАЗАРАНКА Ціт Сцяпанавіч*** [1900, ? — ?], службовец, партыйны работнік. З бел. сям'і. Падчас арышту сакратар Балхашскага раённага камітэта КП(б) Казахстана. Арыштаваны і 17.11.1938 асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.8.1955.

Кр.: *Книга Скорби.*

**НАЗАРУК Канстанцін Піліпавіч*** [1905, в. Крывая Бельскага пав. Гродзенской губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер канторы Лентранспраект. Арыштаваны 21.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. 7-я Чырвонаармейская, д. 12, кв. 8. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР

14.12.1937 за «здраду радзіме» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**НАЗАРЭЎСКІ Дзмітрый Уладзіміравіч*** [1927, Баранавічы Навагрудскага ваяв., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], мастак. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 21.8.1947 у Баранавічах па адрасе: вул. Загарадная, д. 100. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 27.9.1947 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 20.3.1990. Асабовая справа Н. № 10317-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**НАПАДОЎСКІ Іосіф Пятровіч*** [6.3.1902, мяст. Ліцін Вінніцкай губ., цяпер Украіна — ?], педагог. З сям'і рабочага. З 1917 працаваў памочнікам слесара. У 1919—21 служыў радавым у батальёне пры Вінніцкай губернскай ЧК. Скончыў Камуністычны ўніверсітэт нацыянальных меншасцей Захаду ў Маскве. Уступіў у ВКП(б) у 1926. Працаваў літсупрацоўнікам газеты «Orka». Падчас арышту дырэктар медыцынскага рабочага ф-та БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Пралетарская, д. 2, кв. 12. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 3.1.1938 як «член ПАВ» да ВМП.

Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 26.8.1957. Асабовая справа Н. № 10736-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн.3.* Мн., 2004. *С. 473—474.*

**НАРКЕВІЧ Георгій Лявонцевіч*** [26.11.1893, в. Ліпава (?) Рэчыцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл. — ?], педагог. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў сына. Арыштаваны 14.7.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 26.3.1938 як «член контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі» да 6 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.1.1940. Вызвалены 4.4.1940. Асабовая справа Н. № № 5189 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**НАРЭЙКА Аляксандр Мікалаевіч*** [18.11.1884, Мінск — 3.2.1941, ГУЛАГ], інжынер-будаўнік. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Будаваў Беларускі тэатр оперы і балета. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 3.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 4, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.2.1940 як «сацыяльна небяспечны элемент» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Загінуў на этапе. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 6.8.1956. Асабовая справа Н. № 6843-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НАСАЧ Рыгор Мікалаевіч*** [1920, в. Гута Багуслаўскага р-на Кіеўскай вобл., Украіна — ?], літаратурны работнік. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 2.8.1944 у Брэсце. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.8.1944 за «работу ў выдавецтве і газеце пры нямецкіх акупантах» да 15 (потым заменена на 10) гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 20.11.1991. Асабовая справа Н. № 10455-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**НАСКАВЕЦ Міхаіл Данілавіч*** [1940, в. Наваселле Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі (?) р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік Казахскага навукова-даследчага інстытута эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі. Арыштаваны 9.7.1981 у Алма-Аце. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Алмаацінскім гарадскім судом 25.9.1981 з-за адсутнасці складу злачынства.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**НАТАНСОН Вольф Саламонавіч*** [1888, Гомель — ?], навуковец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэй-

шую адукацыю. Падчас арышту кансультант, навуковы супрацоўнік НДІ Дзяржплана БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 22.2.1931 у Мінску па адрасе: вул. Урыцкага, д. 8, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 20.10.1989. Асабовая справа Н. № 30690-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НАЎРОЦКІ Пётр Іванавіч*** [1912, в. Шчаўлі (?) Барысаўскага пав. Мінскай вобл., цяпер Крупскі (?) р-н Мінскай вобл. — 4.1.1938, Барысаў, НКВД], літаратар. З сялянскай сям'і. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 10.11.1937 у Барысаве па адрасе: вул. Арджанікідзе, д. 22. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 28.4.1989. Асабовая справа Н. № 25907-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НЕКЛЯПАЕЎ Іван Якімавіч*** [1870, Смаленск, цяпер Расія — 10.01.1938, Віцебск, НКВД], навуковец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 1.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Савецкая, д. 25. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 13.9.1957. Асабовая справа Н. № 6820-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**НЕСЯЛОЎСКІ Францішак Ксаверы** [18.12.1771, мяст. Ляхавічы Навагрудскага пав., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — 15.9.1845], ваенны і дзяржаўны дзеяч. З шляхецкага роду гербу «Кошбак», сын Юзафа *Несялоўскага*. У 1785—88 вучыўся ў Галоўнай ваеннай школе ВКЛ у Вільні. З 1788 камандзір палка пяхоты войск ВКЛ. У 1792 удзельнічаў у баях з расійскімі войскамі пад Брэстам, узнагароджаны крыжам «Virtuti Militari». Браў удзел у падрыхтоўцы паўстання 1794. Вызначыўся са сваім рэгіментам 7.5.1794 у бітве пад Палянамі (каля Ашмян), у чэрв.-ліп. ў рэйдзе па Курляндыі. У вер. 1794 трапіў у палон. У Гродне расійскі генерал Рапнін у адказ на просьбу бацькоў сустрэцца з арыштаваным прапанаваў прысягнуць на вернасць Кацярыне II, але Н. не пайшоў на кампраміс. Быў вызвалены і выехаў у Германію. Вярнуўся ў 1796, але ў 1798 абвінавачаны ў падрыхтоўцы новага паўстання і зняволены ў Вільні. Пасля вызвалення падтрымаў план А.Чартарыйскага адбудаваць дзяржаўнасць пад эгідай Расіі. З 1807 у складзе судова-адміністрацыйнай камісіі Віленскага ун-та. У 1812 падтрымаў Напалеона, уведзены ім у склад Вайсковага камітэта ў Вільні. Пазней у званні генерала брыгады прызначаны інспектарам пяхоты арміі і паспалітага рушэння ВКЛ. Разам з напалеонаўскай арміяй адступіў за мяжу. У 1814 пасля амністыі вярнуўся ў Беларусь, прадаў родавыя маёнткі і выехаў у Польшчу. У 1830 абраны паслом сейма Каралеўства Польскага. Узяў удзел у паўстанні 1830—31: нам. губернатара Варшавы, камандзір брыгады пры абароне горада. Пасля задушэння паўстання арыштаваны і дэпартаваны ў Волагду.

Літ.: *Емяльянчык У.* Паланез для касінераў. Мн., 1994; *ЭГБ*, т. 5; *БЭ*, т. 11.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**НЕСЯЛОЎСКІ Юзаф** [1728— 8.3.1814], дзяржаўны і паліт. дзеяч. З шляхецкага роду гербу «Кошбак», бацька Францішка *Несялоўскага*. У 1762 дэпутат Трыбунала ВКЛ, у 1764 удзельнічаў у абранні каралём Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Староста цырынскі (1756), прэнскі і прапойскі (з 1769), падкаморы навагрудскі, чашнік ВКЛ (1765), кашталян навагрудскі (1765—73), з 1773 ваявода навагрудскі. Член Скарбовай і Вайсковай камісій ВКЛ, з 1778 член Пастаяннай Рады (урада Рэчы Паспалітай). Удзельнік падрыхтоўкі паўстання 1794. Віленскім актам паўстання 24.4.1794 прызначаны старшынёй Найвышэйшай літоўскай рады. Пасля яе роспуску старшыня Скарбовага аддзела Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ. Перад уваходам расійскіх войск арганізаваў эвакуацыю з Вільні скарбу і дакументаў ВКЛ у Гродна і Варшаву. Пасля разгрому паўстання ў Беларусі доўгі час хаваўся ў лясах. У ліст. 1794 схоплены казакамі ў лесе пад Гроднам. Праз нейкі час пад хатнім арыштам у Вільні. Пад ціскам генерала Рапніна напісаў на імя Кацярыны II прашэнне аб памілаванні. Быў амніставаны і канец жыцця правёў у сваіх маёнтках. У Варончы акаомам у яго служыў А.Чарноцкі (З. Даленга-Хадакоўскі).

Літ.: *Емяльянчык У.* Паланез для касінераў. Мн., 1994; *ЭГБ*, т. 5; *БЭ*, т. 11.

**НІЗОЎЦАЎ (НІЗАЎЦОЎ) Мікалай Федасеевіч*** [1896, Вялікі Усцюг Валагодскай губ., цяпер Валагод-

ская вобл., Расія — 8.2.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і службоўца. У 1918 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. наркам земляробства БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Вызвалены ад займанай пасады пастановай пленума ЦК КП9б0Б 29.7.1937. Арыштаваны 4.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 2, кв. 8. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 8.2.1938 як «член антысавецкай дыверсійна-тэрарыстычнай арганізацыі «правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 15.12.1956. Асабовая справа Н. № 8173-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**НІКАЛАЕЎ Уладзімір Аляксандравіч*** [30.12.1921, в. Глазунова Аленінскага р-на, цяпер Цвярская вобл., Расія — ?], піяніст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную музычную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Пасля вайны артыст «Белдзяржэстрады». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 30.4.1951 у Мінску па адрасе: вул. Старавіленская, д. 36, кв. 25. Асуджаны 14.7.1951 за «службу ў немцаў піяністам у групе «Гуслі» да 25 гадоў ППК. Вызвалены 20.2.1956. Рэабілітаваны 31.1.1956 пленумам Вярхоўнага суда СССР. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Н. № 5898-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НІКАН Мікалай Андрэевіч** [3.1.1908, Варшава — 16.6.1999, Мельбурн], настаўнік. З сям'і бел. службоў-

ца. У 1930-я г. выкладаў на настаўніцкіх курсах у Гродне. Падчас арышту настаўнік адной з гродзенскіх сярэдніх школ. Арыштаваны 6.5.1940. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 11.12.1940 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з варкуцінскіх канцлагераў. Вызвалены 15.10.1941, верагодна, як польскі грамадзянін. З 1942 — у арміі генерала У.Андэрса. У шэрагах 2-га польскага корпусу прайшоў праз Сірыю, Егіпет, удзельнічаў у вайсковых аперацыях у Італіі. У 1947 дэмабілізаваўся ў рангу капітана. Браў актыўны ўдзел у арганізацыі Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі. У 1952 пераехаў у Мельбурн (Аўстралія), дзе далучыўся да бел. грамадскага жыцця. Выконваў розныя абавязкі ў бел. арганізацыях Мельбурна: сакратар Згуртавання Беларусаў у Вікторыі, сакратар Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў Вікторыі. Доўгі час быў прадстаўніком БЦКВ у Радзе Паняволеных Народаў. Выкладаў бел. мову і геаграфію ў бел. школе ў Мельбурне. Адзін з ініцыятараў набыцця Беларускага Дома, падтрымаў ідэю арганізацыі Сустрэчаў Беларусаў Аўстраліі. Доўгія гады распаўсюджваў бел. прэсу ў штаце Вікторыя і быў сталым карэспандэнтам розных эміграцыйных выданняў. Рэабілітаваны 30.11.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Н. № 11093-п захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

26.1.1940 у мяст. Вялікая Бераставіца Гродзенскага пав. (цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл.) арыштаваны селянін-аднаасобнік бацька дваіх дзяцей Нікан Георгій Андрэевіч (н. 6.5.1909 у Варшаве), брат Мікалая *Нікана*. 2.7.1940 асобай нарадай пры НКВД асуджаны за «нелегальны пераход дзяржаўнай граніцы» да 8 гадоў

ППК і этапаваны ў адзін з канцлагераў Комі АССР. Вызвалены 20.9.1941, верагодна, як польскі грамадзянін. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 10.9.1992 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Н. № 14722-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Літ.: *Гардзіенка Н.* Беларусы ў Аўстраліі. Мн., 2004.

**НІКІФАРАЎ Васіль Кузьміч** [14.1.1907, в. Малакаўка, цяпер Іванаўская вобл., Расія — ?], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. У канцы 1920-х г. скончыў аспірантуру Маскоўскага дзяржаўнага ун-та. Без абароны дысертацыі (па сукупнасці навуковых работ) яму прысвоена ступень доктара хімічных навук. З 1933 прафесар, загадчык кафедры фізічнай хіміі БДУ. Арганізаваў першую на ф-це групу студэнтаў-даследчыкаў. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 23.6.1938 у Мінску на рабоце (у «хімічным» корпусе універсітэцкага гарадка). Асуджаны 19.2.1940 асобай нарадай пры НКВД як «удзельнік антысавецкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 24.7.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.1.1956. Асабовая справа Н. № 5874-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Прафесары і дактары навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта.* Мн., 2001.

**НІКІЦІН Мікалай Міхайлавіч** [сапр.: Штэйнгардт; 20.12.1907, Смаргонь Віленскай губ. — 3.6.1957,

Магадан], адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл. ў 2-ю сусветную вайну. З яўрэйскай сям'і. У 1922—26 служыў у Чырвонай арміі. У 1926 паступіў у фабрычна-заводскае вучылішча металістаў. Пасля заканчэння накіраваны на завод «Камунар», дзе ў 1928 уступіў ВКП(б). З 1931 курсант Арлоўскага аўтабранятанкавага вучылішча. З 1932 на камандных пасадах у Кіеўскай ВА і БВА. У 1941 удзельнічаў у абароне Гомеля. У партызанах са студз. 1942 — камандзір групы, атрада, да кастр. 1942 камандзір партызанскай брыгады. Арыштаваны 3.12.1942. Абвінавачваўся ў «самавольным сыходзе з акупаванай тэрыторыі» і за тое, што «па загаду немцаў арганізаваў ілжэпартызанскую брыгаду, якая сваімі дзеяннямі супраць мірнага насельніцтва наносіла вялікую шкоду антыфашысцкай барацьбе». Асуджаны 13.10.1943 асобай нарадай пры НКВД да 15 гадоў ППК. Этапаваны ў Магаданскі канцлагер МДБ. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 25.6.1957. Асабовая справа Н. № 18059-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: БелСЭ, т. 7; *Иоффе Э*. Героическая и трагическая судьба капитана Никитина // *Беларусь у XX стагоддзі*. Мн., 2002.

**НІЧЫПАРОВІЧ Уладзімір Іванавіч** (2.3.1900, с. Багародскае, цяпер Сергіева-Пасадскі р-н Маскоўскай вобл., Расія — 31.1.1945), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі. Генерал-маёр (1943). Член КПСС з 1928. Удзельнік Кастрычніцкага перавароту ў Маскве. З 1917 у Чырвонай гвардыі, з 1918 у Чырвонай арміі, удзельнік грамадзянскай вайны. З 1924 на камандных пасадах у БВА. У пачатку 2-й су-

светнай вайны на фронце, камандзір дывізіі. Удзельнік Мінскага парт. падполля. З канца 1941 у партызанах, адзін з ініцыятараў стварэння і камандзір 208-га партызанскага атрада. У крас.— вер. 1942 камандзір Клічаўскага аператыўнага цэнтра. У вер. 1942 адазваны ў Маскву і прызначаны нам. камандзіра 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса. У 1943 арыштаваны. Рэабілітаваны ў 1952. У Пружанах яго імем названа вуліца, устаноўлена мемарыяльная дошка.

Літ.: Беларусь у ВАВ. 1941—1945. Мн., 1995.

**НОВІК Піліп Фёдаравіч*** [1893, Ромны Палтаўскай губ., цяпер Украіна — ?], службовец. З украінскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту галоўны бухгалтар Мінскага аддзялення «Белкаапсаюза». Арыштаваны 5.2.1931 у Мінску па адрасе: 1-ы Каломенскі зав., д. 5, кв. 1 (разам з жонкаю машыністкаю Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, маці двaіх дзяцей, Новік Аляксандрай Канстанцінаўнай; нар. ў 1904 у Ромнах). Асуджаны 23.5.1931 калегіяй АДПУ за «шкодніцтва» да 8 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс сям'і Н. невядомы. Рэабілітаваны 29.4.1990 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР Справа сям'і Н. № 31433-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НОВІКАЎ Канстанцін Лявонавіч** [1894, в. Малыньяк Рэчыцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чачэрскі (?) р-н Гомельскай вобл. — ?], навуковец. Атрымаў вы-

шэйшую прыродазнаўчую адукацыю. Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік Казахскай навукова-доследнай паляўніча-прамысловай лабараторыі. Арыштаваны 28.4.1945 у Алма-Аце. Асуджаны судовай калегіяй Алмаацінскага абл. суда 24.1.1946 за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Казахскай ССР 30.11.1956.

Кр.: *Книга Скорби.*

**НОРКА Іван Афанасевіч*** [1903, в. Лыцэвічы (Лычнікі?) Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У 1927—33 член ВКП(б). Падчас арышту студэнт Ленінградскага хіміка-тэхналагічнага інстытута. Арыштаваны 2.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: Дэрпцкі зав., д. 11б, пакой 182. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**НОРКА Сяргей Ільіч*** [1891, в. Мокрыца Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 23.9.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту працаваў на заводзе «Фіцінг». Арыштаваны 26.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Якіманка, д. 38, кв. 34. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.9.1937 за «ўдзел у шкодніцтве і антысавецкай дзейнасці» да ВМП.

Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны трыбуналам Маскоўскай ВА 3.7.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**НЯМІРСКІ Сігізмунд Янавіч*** [20.4.1887, мяст. Заверцы Пётркаўскай губ., цяпер Польшча — 24.11.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З рабочай сям'і. Член ВКП(б) з 1917. У 1918—21 служыў у Чырвонай арміі (ваенкам). Падчас арышту дырэктар Мінскага хлебазавода № 6. Быў жанаты, меў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 24.11.1937 як «удзельнік шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.12.1966 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Н. № 19607-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, улетку 1938 у Мінску па адрасе: вул. Урыцкага, д. 22, кв. 4 арыштавана рабочая фабрыкі імя Куйбышава, маці траіх дзяцей, Нямірская Фядора Міхайлаўна (н. 14.11.1897), жонка Сігізмунда *Нямірскага*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.3.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа Н. № 24825-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НЯМКОВІЧ Леанід Міхайлавіч*** [1900, Слуцк Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — 21.1.1938, Слуцк,

НКВД], артыст. З сям'і рабочага. Працаваў у Слуцкім акруговым калгасным тэатры. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.9.1937 у Слуцку па адрасе: вул. Рэспубліканская, д. 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.4.1959. Асабовая справа Н. № 14090-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НЯМЦЭВІЧ Уладзімір Міхайлавіч*** [1902, ? — 28.11.1937, Курск, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. камандзіра дывізіёна. Арыштаваны 27.4.1937 у Курску па адрасе: вул. Пастухоўская, д. 20, кв. 3. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.9.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области.*

**НЯМЦЭВІЧ Юльян Урсын** [16.2.1758, в. Скокі Брэсцкага пав., цяпер Брэсцкага р-на — 21.5.1841, Парыж], пісьменнік, паліт. дзеяч, гісторык. Вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме, у 1770—77 у Рыцарскай школе (Кадэцкім корпусе) у Варшаве. Абраны паслом на Чатырохгадовы сейм 1788—92, удзельнічаў у распрацоўцы Канстытуцыі 3 мая 1791. З 1791 член Адукацыйнай камісіі. Пасля перамогі прарасійскай Таргавіцкай канфедэрацыі эміграваў, жыў у Саксоніі, Аўстрыі, Італіі. У час паўстання 1794 ад'ютант і сакратар Т.*Касцюшкі*. Паранены ў Мацяёвіцкай бітве, трапіў у палон; зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбургу.

Пасля амністыі ў 1796 разам з Касцюшкам выехаў у ЗША. Вярнуўся ў Варшаву ў 1807, заняў пасаду сакратара Сената Варшаўскага княства. З 1813 сакратар Сената Каралеўства (Царства) Польскага. У сваім маёнтку Урсынаў пад Варшавай сабраў вялікую бібліятэку. У 1809, 1816 і 1819 зрабіў некалькі падарожжаў па Беларусі з мэтай апісання помнікаў. У 1820 у Віцебску ставілася камедыя Н. «Пан Навіна». З 1827 старшыня Таварыства сяброў навук у Варшаве. Падчас паўстання 1830—31 увайшоў у склад Часовага ўрада, абраны сенатарам-кашталянам. Пасля задушэння паўстання маёмасць Н. канфіскавана, у тым ліку і бібліятэка, якую прадалі на аўкцыёне. Н. эміграваў Парыж. У 1838 заснаваў у Парыжы Польскую бібліятэку. Адзін з найвыдатнейшых польскіх пісьменнікаў эпохі Асветніцтва. Ініцыятар і рэдактар выдання «Збор гістарычных мемуараў пра старажытную Польшчу» (т. 1—7, 1822—36).

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Dzieła poetyckie wierszem i prozą. T. 1–12. Lipsk, 1838–43.

Літ.: *Dihm J.* Niemcewicz jako polityk i publicysta w czasie Sejmu Czteroletniego. Kraków, 1928; *Яго ж*. Niemcewicz jako historyk // *Sprawozdania Polskiej Akademii Nauk*. 1961. Z. 1; *Przemski L.* Opowieść o starym ursynie. Warszawa, 1966; *Грицкевич В.П.* Путешествия наших земляков. Мн., 1968; *ЭГБ*, т. 5; *АЗБ; БЭ,* т. 11.

**НЯХЛЮДАВА Роза Абрамаўна*** [1904, Мінск — ?], літаратурны работнік, жонка Яўсея *Няхлюдава*. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю адукацыю. Падчас арышту працавала ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Арыштавана разам з мужам 27.10.1930 у Мінску па адрасе: вул. Рэспубліканская, д. 3, кв. 3. Асуджана

паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 6.6.1931 за «дапамогу ў злачынстве» да 3 гадоў ссылкі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Беларусі 25.11.1992. Справа сям'і Н. № 35000-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НЯХЛЮДАЎ Яўсей Гіляравіч*** [1893, мяст. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец, муж Розы *Няхлюдавай*. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы інспектар аднаго з наркаматаў БССР. Арыштаваны разам з жонкай 27.10.1930 у Мінску па адрасе: вул. Рэспубліканская, д. 3, кв. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 6.6.1931 за «дапамогу ў злачынстве» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 25.11.1992.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**ОБУХАЎ (АБУХОЎ) Барыс Аляксандравіч*** [1902, в. Чорная Цвярской губ., цяпер Цвярская вобл., Расія — 31.10.1937, Мінск, НКВД], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык кафедры анатоміі Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты. Арыштаваны 25.4.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Ленінская, д. 47. Асуджаны 30.10.1937 у Мінску пазасудовым органам НКВД як «член шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.11.1956. Асабовая справа О. № 6609-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ОКУНЬ Берка Шлёмавіч*** [1888, мяст. Цырын Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 29.6.1938, Мінск, НКВД], педагог. У 1930-я г. дырэктар Мінскага яўрэйскага педагагічнага тэхнікума, член ВКП(б). Арыштаваны 28.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Заслаўская, д. 5, кв. 13. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.6.1938 як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.12.1958. Асабовая справа О. № 13492-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

10.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Заслаўская, д. 5, кв. 13. арыштавана настаўніца школы для малапісьменных Бляхер Яўгенія Маркаўна (н. 17.11.1905 у мяст. Мікуліна Смаленскай губ., цяпер Смаленскай вобл.),

жонка Беркі *Окуня*. 8.10.1938 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і ворага народа, прыгаворанага да ВМП» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 28.12.1989 пракуратурай Мінскай вобл. Асабовая справа Б. № 29489-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ОРДА Напалеон** [11.2.1807, в. Варацэвічы Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 26.4.1883, Варшава], кампазітар, піяніст, педагог, мастак. У 1823 скончыў Свіслацкую гімназію і паступіў у Віленскі ун-т. Належаў да тайнага студэнцкага таварыства «Заране», пасля выкрыцця якога быў выключаны з ун-та (1827). Прымаў удзел у паўстанні 1830—31, пасля задушэння якога эміграваў у Еўропу. Жыў у Аўстрыі, Швейцарыі, Італіі, Францыі. У 1833 пасяліўся ў Парыжы, дзе зблізіўся з Ф.Шапэнам (удасканальваў у яго майстэрства ігры на фартэпіяна) і сябраваў з А. *Міцкевічам*. У 1838 выдаў «Альбом твораў польскіх кампазітараў». У сярэдзіне 1840-х г. быў дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы. Вярнуўся на радзіму ў 1856, жыў у Варацэвічах, Гродне (1862—63), потым перабраўся на Валынь. У 1873 выдаў «Граматыку музыкі», якую высока ацаніў С.Манюшка. Вандруючы па Беларусі, Літве, Польшчы і Украіне, стварыў шмат малюнкаў гістарычных мясцін. Архітэктурныя замалёўкі вылучаюцца дакументальнасцю, таму маюць вялікую каштоўнасць для гісторыі архітэктуры. Паводле яго малюнкаў у 1873—83 мастаком А.Місурэвічам створаны і выдадзены ў Варшаве літаграфіі (260 графічных аркушаў

у 8 серыях). Пахаваны ў Іванаве ў сямейнай грабніцы. У 1997 у Іванаве О. ўстаноўлены помнік.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: *Помнікі архітэктуры Беларусі ў малюнках Напалеона Орды*. Мн., 2001.

Літ.: *Kaczanowska M.* Napoleon Orda twórca widoków architektonicznych: Zarys życia i twórczości // *Rocznik Muzeum Narodowego w Warszawie*. Warszawa, 1968. T. 12; *Дробаў Л.Н.* Напалеон Орда – мастак і збіральнік // *ПГКБ*. 1971, № 3; *Якімовіч Ю.А.* Беларуская архітэктура ў малюнках Напалеона Орды // *Мастацтва Беларусі*. 1983. № 7; *Ахвердава Е.* Друг Мицкевича и Шопена // *Неман*. 1983. № 6; *Яе ж*. Пачынальнікі беларускага піянізму // *Мастацтва Беларусі*. 1985. № 2; *ЭГБ*, т. 5; *АЗБ; БЭ,* т. 11.

**ПАДАБЕД Аляксандр Ігнатавіч*** [1907, в. Лешчанская Гута Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1930 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Курганскага спіртагарэлачнага завода. Арыштаваны 14.10.1937. Абвінавачваўся ў «дыверсійна-шкодніцкай дзейнасці». 23.6.1939 справа П. была спынена. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Осуждены по 58-й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области*. Курган, 2002. Т. 1.

**ПАДЛУБЕЦ Павел Іванавіч*** [1892, в. Баброўнікі, цяпер Польшча (?) — ?], музыкант. З сям'і службоўца. Падчас арышту працаваў у Саюзе работнікаў мастацтваў. Арыштаваны 17.7.1938 у Віцебску. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.9.1938 за «шпіянаж і дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 30.12.1958. Асабовая справа П. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ПАЗНЯК Аляксандр Вікенцевіч*** [1903, в. Круты Бераг Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага інстытута оптыкі і дакладнай механікі. Арыштаваны 31.7.1937 у Ленінградзе па адрасе: 2-і Мурынскі пр., д. 45, кв. 13. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў*.

**ПАЗНЯК Лявон Яўсеевіч*** [1899, в. Сліжы Магілёўскай губ., цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл. — 9.4.1931, Масква, НКВД], ?. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 24.9.1930 у Маскве па адрасе: Мёртвы зав., д. 7, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 3.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.6.1964.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**ПАЗЫНА Яўген Васілевіч*** [1902, в. Ракалупы Люблінскага ваяв., цяпер Польшча — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Восенню 1924 нелегальна прыбыў з Польшчы ў БССР. Падчас арышту рэдактар Бягомльскай (?) раённай газ. «Калгасны змагар». Быў жанаты, гадаваў шасцярых або семярых дзяцей. Арыштаваны 12.9.1935 у Бягомлі (цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.). Абвінавачваўся ў «прыналежнасці да польскай разведкі». Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.4.1936 да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 6.8.1957. Асабовая справа П. № 10645-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЙКІН Залман Герцавіч*** [22.4.1884, Полацк — 29.6.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і служачага. Падчас арышту супрацоўнік Мінскага часопісна-газетнага аб'яднання. Арыштаваны 9.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Рэспубліканская, д. 24 кв. 3. Асуджаны 29.6.1938 асобай нарадай пры НКВД як «член

тэрарыстычнай арганізацыі» і за «антысавецкую прапаганду» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 20.5.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа П. № 11809-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

29.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Мяснікова, д. 17, кв. 2 была арыштавана справавод крэдытнага бюро Белдзяржбанка Пайкіна Шэйна Шоламаўна (н. ў 1889 у Веліжы Смаленскай губ. ў сям'і купца), жонка Залмана *Пайкіна*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 29.7.1943. Рэабілітавана 18.7.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Вярнулася ў Беларусь (да 1959). Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа П. № 12023-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАКЛАДОК Міхаіл Кірылавіч** [1895, Віленская губ. — 9.4.1938, Хабараўск, турма НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. З 1919 у Чырвонай арміі, удзельнічаў у баях супраць Дзянікіна. Член ВКП(б) з 1920. Скончыў Вышэйшую ваенную акадэмію імя Фрунзе. Падчас арышту начальнік разведвальнага аддзела штаба Далёкаўсходняй ВА. Арыштаваны 7.8.1937 у Хабараўску. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 9.4.1938 як «агент германскай і японскай разведак» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.11.1957 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа П. № 18343-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАКНІС Мікалай Леанідавіч*** [1896, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 27.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту палкоўнік, супрацоўнік Разведвальнага ўпраўлення Чырвонай арміі. Арыштаваны 7.10.1937 у Маскве. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.4.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове». Расстраляны. Рэабілітаваны 8.12.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ПАКУТА Міхась Міхайлавіч** [1878, Магілёў — 20.9.1930, Масква, НКВД], педагог, службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. прафесар Маскоўскага дзржаўнага ун-та (?), начальнік тэхнічнага аддзела вытворчага ўпраўлення Усесаюзнага таварыства «Саюзхлеб». Арыштаваны 7.3.1930 у Маскве па адрасе: Доўгі зав., д. 16, кв. 30. Разам з загадчыкам праектна-мантажнага бюро таварыства А.Я.Галабародзькам (н. ў 1885 у в. Вербаўка Кіеўскай губ.) і старшым інжынерам упраўлення мукамольнай прамысловасці таварыства А.А.Друганавым (н. ў 1888 у Разані, Расія) асуджаны калегіяй АДПУ 18.9.1930 за «антысавецкую і шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны і пахаваны на тэрыторыі Ваганькаўскіх могілак. Рэабілітаваны 25.11.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**ПАЛАНЕВІЧ Гіпаліт** [псеўд.: Г.Няміга; 10(23).7.1907, Мінскі пав., цяпер Мінскі р-н — 24.10.1997, ЗША], бел.

грамадска-культурны дзеяч, гісторык, педагог. Скончыў СШ у Мінску, Ленінградскі педагагічны інстытут (1932). Быў рэпрэсіраваны, у 1936—40 вязень Ухта-Іжэмскага канцлагера НКВД Комі АССР. Пасля вызвалення працаваў у школе. Падчас нямецкай акупацыі прымаў удзел у бел. нацыянальным падполлі. З 1944 у эміграцыі. У 1946—50 супрацоўнік бел. гімназіі імя Я. *Купалы* ў Міхельсдорфе (Зах. Германія). З 1950 жыў у ЗША. Працаваў у сістэме нью-йоркскіх бібліятэк. Быў супрацоўнікам Інстытута па вывучэнні гісторыі і культуры СССР (Мюнхен).

Тв.: Інстытут беларускай культуры — Беларуская Акадэмія навук — Акадэмія навук БССР. Мюнхен, 1957.

Літ.: Св. памяці Гіпаліт Паланевіч // *Беларус* (Нью-Ёрк). 1997. № 449; *БЭ*, т. 11.

**ПАЛЕВІКОЎ Яўген Барысавіч*** [1936, в. Кленкі Гомельскага р-на — ?]. З сям'і службоўцаў. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту вучань мантажніка на Мінскім заводзе № 22. Арыштаваны 6.10.1957 у Мінску па адрасе: вул. К.Чорнага, д. 15, кв. 23. Асуджаны 18.12.1957 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 2 гадоў ППК. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Вызвалены 14.2.1959. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 2.3.1990. Асабовая справа П. № 30856-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЛІКАРПОВІЧ Пётр Міхайлавіч*** [1890, мяст. Саматэвічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер

Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. (паводле іншых звестак в. Скіток Магілёўскай губ., цяпер Гомельскі р-н) — ?], навуковец, верагодна, брат археолага Канстанціна Палікарповіча. З сям'і праваслаўнага святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык Мінскай ветэрынарна-бактэрыялагічнай лабараторыі. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 21.5.1931 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 70. Абвінавачваўся як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме Народнага камісарыята аховы здароўя БССР». 29.1.1932 вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Працаваў навуковым супрацоўнікам біялагічнага аддзела Інстытута свінаводства. Зноў арыштаваны 11.1.1933. Прыгавораны 9.7.1933 калегіяй АДПУ як «член шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі БССР» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер АДПУ Новасібірскай вобл. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. 19.1.1945 ваенным трыбуналам войск НКВД Мінскай вобл. асуджаны да 10 гадоў зняволення. Вызвалены (верагодна, па амністыі) 31.3.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Па першай справе (№ 6736-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956, па другой, групавой (№ 10333-с) трыбуналам БВА 21.8.1956. Асабовая справа П. № 6736-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАЛОНСКІ Уладзімір Паўлавіч*** [1898, Мінск — 27.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец.

З сям'і бел. рамесніка. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік Рублёўскай помпавай станцыі. Арыштаваны 17.12.1937 у Маскве па адрасе: Сіроцкі зав., д. 16, кв. 49. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.12.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ПАЛЬЧЫНСКАЯ Ірына Пятроўна*** [1927, в. Лукаўцы Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — ?], медык. З бел. сялянскай сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. У другой палове 1940-х г. атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту фельчар Клецкай раённай паліклінікі. Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 11.7.1951 у Клецку па адрасе: Слонімскі зав., д. 2. Асуджана пазасудовым органам 13.9.1951 як «член антысавецкай арганізацыі СБМ» да 10 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці (тэрмін пакарання зменшаны да 5 гадоў). Этапавана ў лагер Шылуце МДБ Літоўскай ССР (п/с 04-12-3). Вызвалена 16.5.1955. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда БССР 1.11.1967. Асабовая справа П. № 19847-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Уладзімір Іосіфавіч*** [25.7.1906, в. Бабры Віленскай губ., — 21.5.1934, Мінск (?), НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў

вышэйшую адукацыю. Уступіў у КПЗБ (1924). Падчас арышту супрацоўнік Мінскага прадстаўніцтва КПЗБ. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Новамаскоўская, д. 71, кв. 3. Асуджаны 9.1.1934 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа П. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЛЯКОЎ Рыгор Міхайлавіч*** [1899, Орск Арэнбургскай губ., цяпер Арэнбургская вобл., Расія — ?, Алма-Ата, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік упраўлення аэрафлота. Арыштаваны ў Алма-Аце. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.11.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 18.7.1961.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ПАЛЯШЧУК Мікалай Сямёнавіч*** [1927, в. Вулька Дастаеўская Кобрынскага пав. Брэсцкага ваяв., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. У другой палове 1940-х г. атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю, працаваў загадчыкам сепаратарнага пункта ў в. Вулька Дастаеўская. Арыштаваны 24.10.1949. Асуджаны 7.12.1949 за «сувязь з бандай АУН» да 8 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Вызвалены 2.12.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР

3.10.1975. Асабовая справа П. № 6808-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ПАМАЎ Лазар Ісакавіч*** [1901, Слуцк, Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 22.9.1938, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела мінскай яўрэйскай газ. «Октобэр» («Кастрычнік»). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.9.1938 за «прыналежнасць да шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 10.4.1964. Асабовая справа П. № 18725-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАНКЕ Вольга Іванаўна*** [1903, Рыга, цяпер Латвія — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). У 1933—34 супрацоўніца латышскай секцыі Інстытута нацменшасцей, падрыхтавала (разам з Я.Доўгім) практычны бел.-латышскі слоўнік у памеры 20—25 тысяч слоў. Потым працавала старшым бібліятэкарам БелАН. Выйшла замуж, гадавала дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 13.3.1946 у Мінску. Асуджана пазасудовым органам НКВД 27.5.1946 за «здрадніцкую дзейнасць на карысць нямецкіх акупантаў» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана, хутчэй за ўсё, у Маскоўска-вугальны канцлагер НКВД Маскоўскай вобл. 15.9.1954 паводле ўказа аб амністыі ад 27.3.1953 мера пакарання зменшана да 5 гадоў. Вызвалена 6.10.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана

судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 18.12.1959. Асабовая справа П. № 15091-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАНКОЎ (ПАНЬКОЎ) Марк Фаміч** [1893, Арол, Расія — ?], артыст. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1919—21 служыў у Чырвонай арміі. Падчас арышту саліст Беларускага тэатра оперы і балета. Арыштаваны 19.9.1937 у Мінску. Асуджаны тройкай НКВД 4.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 12.12.1956 прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа П. № 8084-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАНКРАЦЬЕЎ Арцём Карнеевіч*** [1902, Аршанскі пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 26.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы інжынер спецаддзела Галоўсельмаша наркамата цяжкай прамысловасці СССР. Арыштаваны 31.1.1938 у Маскве па адрасе: вул. Станкевіча, д. 17, кв. 7. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.4.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 13.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ПАПКОЎ (ПАПКО) Цімафей Васілевіч*** [1903, ? — ?], партыйны работнік. З бел. сям'і. Уступіў у

ВКП(б). Падчас арышту інструктар Куйбышаўскага гарадскога камітэта партыі. Арыштаваны 17.3.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.9.1938 за «шпіянаж» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Куйбышаўскім абл. судом 9.10.1959.

Кр.: *Белая книга.*

**ПАПКОЎСКІ Антон Аляксандравіч*** [1891, Смаленская губ. — 5.1.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту нам. дырэктара дачнага ўпраўлення, член ВКП(б). Арыштаваны 13.11.1937 у пас. Чырвоны Бор Смаленскага р-на. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 25.12.1937 за «шпіянаж» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ПАПЛЕЎКА Іосіф Рыгоравіч** [1900, Мінск — 14.1.1938, Асіповічы, НКВД], гідраметэаролаг. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 21.11.1937 на ст. Асіповічы Магілёўскай вобл. Асуджаны 23.12.1937 «тройкай» НКВД за «шпіянаж і ўдзел у контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 1.8.1963 трыбуналам БВА. Асабовая справа П. № 8664-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ПАПЛЫКА Іван Майсеевіч*** [1890, в. Пачопы (?) Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснаполь-

скі р-н Магілёўскай вобл. — 30.10.1937, Магілёў, турма НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю, уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. начальніка штаба, палкавы камісар 16-га стралковага корпуса Чырвонай арміі. Арыштаваны 7.6.1937. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД за «ўдзел у «антысавецкай змове і шкодніцкай дзейнасці» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 25.8.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа П. № 8131-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

6.11.1937 у Магілёве арыштавана загадчыца чытальнага зала Магілёўскай цэнтральнай бібліятэкі, маці траіх дзяцей, Паплыка Юлія Іванаўна (нар. ў 1895 у Смаленскай губ. ў сям'і службоўца), жонка Івана *Паплыкі*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК (заменена ссылкай у Краснаярскі край). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 3.11.1956 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа П. № 2374-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

7.11.1937 у Магілёве арыштаваны тэхнік-будаўнік Магілёўскага «Гаржылбуда» Паплыка Канстанцін Іванавіч (н. ў 1917 у Смаленскай губ.; атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю), сын Юліі і Івана *Паплыкаў*. Абвінавачваўся ў «антысавецкай дзейнасці». Асуджаны не быў. Вызвалены 7.8.1938. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа П. № 3745 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ПАПОЎ (ДАЛІНСКІ) Андрэй Андрэевіч*** [1891, Казань, цяпер Татарстан, Расія — 28.11.1938, Мінск (?),

НКВД], акцёр. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Віцебскім гарадскім тэатры. Арыштаваны 28.4.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Канатная, д. 34. Асуджаны «тройкай» НКВД 12.11.1938 як «агент японскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 21.8.1989. Асабовая справа П. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ПАПОЎ (ПАЎЛАЎ, СТАНЧАЎ) Багдан (Павел) Мартынавіч (Станчавіч)*** [8.11.1903, Балгарыя — 27.11.1938, Мінск, НКВД], фатограф. З балгарскай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1923—32 — член Балгарскай камуністычнай партыі, у 1932 уступіў у ВКП(б). У 1937 выключаны з партыі. Падчас арышту фатограф фотаатэлье № 2 «Белсаюзфота». Арыштаваны 25.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 9, кв. 2. Асуджаны 12.11.1938 тройкай НКВД як «агент балгарскай буржуазнай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 7.4.1956. Асабовая справа П. № 6637-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАПОЎ Вячаслаў Уладзіміравіч*** [26.7.1908, Варонеж, цяпер Расія — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік Магілёўскага навукова-даследчага інстытута (?). Арыштаваны 17.4.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі»

да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 3.9.1937. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа П. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАПОЎ Яўген Іванавіч*** [1888, в. Трабы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту юрыст Зыранскага пункта збожжанарыхтоўкі. Арыштаваны 8.10.1934 у Зыранскім Томскай вобл. Асуджаны 9.8.1935 за «тэрарызм» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 11.7.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАПЯЛЫШКА Аляксандр Іванавіч*** [1893, Мглін, цяпер Бранская вобл., Расія — 17.3.1938, ГУЛАГ], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Дзяржплана БССР. Арыштаваны 5.12.1930 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 10, кв. 4. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 30.5.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД СССР (Новасібірск). 12.3.1938 асобай нарадай пры НКВД Новасібірскай вобл. асуджаны да ВМП. Расстраляны ў канцлагеры. Рэабілітаваны тры-

буналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа П. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ПАПЯНЫШАВА Варвара Сяргееўна*** [1893, Белеў Тульскай губ., цяпер Тульская вобл., Расія — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Дзяржплана БССР. Арыштавана 2.12.1930 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 11. Асуджана паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 30.5.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбывала ў Казахстане. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа П. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ПАРФЁНАЎ Міхаіл Кузьміч*** [н. 1915, в. Ніжняя Ташчыца, цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл.], механік. З бел. сялянскай сям'і. Верагодна, атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту (4.9.1938) загадчык вучэбнай часткі будаўнічага атрада ва Уладзівастоку. 1.11.1938 асуджаны за «контррэвалюцыйную прапаганду і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў адзін з магаданскіх канцлагераў. Пасля вызвалення

жыў у Магаданскай вобл. Паводле дадзеных следства, з лета 1956 слухаў перадачы замежных радыёстанцый і пераказваў іх змест сваім таварышам па рабоце. Асабліва абмяркоўвалася задушэнне Венгерскай рэвалюцыі 1956. Зноў асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» 30.4.1957. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны па першай справе пленумам Вярхоўнага суда БССР 6.8.1958, па другой 8.1.1960. Асабовая справа П. № 8751-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 77597; *НАРБ, ІКР.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *58*[10], с. 306.

**ПАСЮКЕВІЧ Пётр Восіпавіч*** [1898, в. Быстрыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 29.6.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1919). У 1930-я г. — начальнік упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. Падчас арышту старшы інспектар ЦК Чырвонага Крыжа. Арыштаваны 11.12.1937 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 7, кв. 4/5. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны 29.6.1938 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» і за «шкодніцтва ў партыйным апараце рэспублікі і ў галіне мастацтва» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 25.3.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа П. № 11598-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

29.7.1938 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 7, кв. 4/5 арыштавана настаўніца СШ № 13 Пасюкевіч Таіса Фёдараўна (н. 14.10.1902 у Гомелі ў сям'і рабочага; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Пятра *Пасюкевіча*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 28.1.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа П. № 11384-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАТАПЕЙКА Уладзімір Дзмітрыевіч*** [1907, в. Гарожа (?) Бабруйскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 14.12.1941, Саратаў, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Скончыў Мінскі інстытут савецкага будаўніцтва і права. З 1934 — адказны інструктар ЦК КП(б)Б, з 1935 — сакратар парткама Гомельскага механічнага шклозавода імя Сталіна, потым сакратар Жыткавіцкага райкама КПБ(б). З 1937 — трэці сакратар ЦК КП(б)Б. На ІІІ пленуме ЦК КП(б)Б абвінаваціў першага сакратара В. Шаранговіча ў шкодніцтве. Падчас арышту начальнік Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР, член ЦК ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 11.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 7, кв. 1. Ва ўнутранай турме НКВД закатаваны да вар'яцтва і перавезены ў Магілёўскую псіхіятрычную бальніцу. Калі жонка П. дабілася сустрэчы з мужам, той яе не пазнаў. З Магілёва П. быў адпраўлены ў Маскву. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.5.1940 за «шкодніцтва, тэрор» да 15 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з

канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Саратаўскую турму № 12. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.12.1954. Асабовая справа П. № 4534-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Памяць*. Гіст.-дакум. хоніка Мінска. У 4 кн. Кн. 3-я. С.481—482. Мн., 2004.

**ПАТАПОВІЧ Барыс Адамавіч*** [1888, Мінск — 31.5.1938, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту адказны выканаўца трэста па перасоўванню дамоў. Арыштаваны 16.3.1938 у Маскве па адрасе: Ленінградская шаша, д. 20, кв. 180. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.5.1938 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць на карысць Польшчы і перадачу сакрэтных звестак пра тармазны завод і яго абсталяванне» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 15.9.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ПАТРЫШАЎ Віктар Іосіфавіч*** [1885, Мінск — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту тэхнічны кіраўнік Прамысловага камбіната ў Акмолінскай вобл. Казахскай ССР. Быў жанаты, меў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 13.6.1942 у Шартандах Акмолінскай вобл. Асуджаны Акмолінскім абл. судом 24.3.1943 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 1.12.1962.

Кр.: *Хранить вечно.*

**ПАЎЛАЎ Іван Андрэевіч** [1892, в. Антонаўцы Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 3.6.1927, Масква, ДПУ]. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Жыў у Вільні. Арыштаваны 21.6.1926. Асуджаны калегіяй АДПУ 30.5.1927 як «кур'ер-разведчык польскага генштаба» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.10.1991.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАЎЛОЎСКІ Аляксандр** [1909, Гарадзеншчына — ?], удзельнік 2-й сусветнай вайны, вязень савецкіх канцлагераў. Удзельнік вераснёўскай кампаніі 1939. З 1939 — у савецкім палоне. У вер. 1941 вызвалены, як польскі грамадзянін, уступіў у армію пад камандаваннем генерала У.Андэрса. У 1944—45 браў удзел у італьянскай кампаніі, у тым ліку ў бітве за Монтэ-Касіна. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ-Касіна, медалямі. Пасля дэмабілізацыі ў 1947 вярнуўся ў Беларусь. У 1951 арыштаваны органамі МДБ і разам з сям'ёй дэпартаваны ў Іркуцкую вобл. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 45.

**ПАЎЛОЎСКІ Іван Васілевіч*** [1904, Каменскае Екацярынаслаўскай губ., цяпер Днепрапятроўская вобл., Украіна — ?], журналіст. З сям'і рабочага. Атры-

маў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык тэатральнага аддзела газ. «Літаратура і мастацтва». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.6.1938 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 8. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД за «шпіянаж». Пакаранне адбываў у турме № 5 Табольска Омскай вобл. Вызвалены 13.5.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.5.1989. Асабовая справа П. № 27251-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЎЛОЎСКІ Мікалай Уладзіміравіч*** [1898, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 10.11.1938, Мінск, НКВД], артыст. Працаваў у аркестры Беларускага дзяржаўнага радыёкамітэта. Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску па адрасе: Трамвайны зав., д. 14, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракурорам БВА 28.4.1989. Асабовая справа П. № 25066-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЎЛЮКЕВІЧ Аляксандр Іванавіч*** [1887, в. Вялікія Бярозаўцы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. — 20.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], ?. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Член ВКП(б) (да 1936). Падчас арышту пенсіянер, магчыма, як вайсковец або інвалід. Арыштаваны 27.10.1937 у Маскве па адрасе: Піліпаўскі зав., д. 22, кв. 8. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.1.1938 за «ўдзел у контр-

рэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАХОДАЎ Фядосій Фёдаравіч*** [1894, в. Выдрыца Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Буда-Кашалёўскі р-н Гомельскай вобл. — 25.3.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — нам. старшыні Гарадзецкага сельскага савета, старшыня калгаса «Свабода». Арыштаваны 10.3.1938 у Гарадзецкім сельсавеце. Асуджаны «тройкай» НКВД 19.3.1938 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 19.6.1989. Асабовая справа П. № П-73663 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАЦЁМКІН Андрэй Сафонавіч*** [1912, в. Бардоўка (?) Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту вучыўся на рабфаку (?). Арыштаваны 26.12.1943. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 7.4.1945 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Віцебскай вобл. 24.4.1989. Асабовая справа П. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАЦЫКАЛІК Аляксандр Цімафеевіч*** [1903, Слуцкі пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], медык. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — ветэрынарны ўрач Ленінградскай ветэрынарнай бактэрыялагічнай лабараторыі. Арыштаваны 13.2.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 31.8.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ПАЦЭВІЧ Іван Мікалаевіч*** [1891, мяст. Быцень Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 26.5.1938, Масква, НКВД], урач. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў вышэйшую медыцынскую адукацыю. Падчас арышту галоўны ўрач Дома інвалідаў № 6 Масквы. Арыштаваны 16.3.1938 у Маскве па адрасе: Харытоньеўскі зав., д. 9/13, кв. 5. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 16.5.1938 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.7.1957. Асабовая справа П. П-51355 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАШВІНСКІ (ПОШВІНСКІ) Генрых Вікенцевіч*** [1899, мяст. Лышкоўцы Варшаўскага ваяв., цяпер Мазавецкае ваяв., Польшча — ?], адміністрацый-

ны работнік. З польскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту бурмістр Дзятлава Навагрудскага пав. Мінскай губ. Арыштаваны 22.9.1939. Асуджаны 26.8.1940 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР (ст. Котлас). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 27.3.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа П. № П-9216 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ПАШКЕВІЧ Іосіф Пятровіч*** [1902, мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 15.11.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец, брат Мікалая *Пашкевіча*. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага педагагічнага інстытута імя Пакроўскага. Арыштаваны 20.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Барадзінская, д. 15, кв. 30. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАШКЕВІЧ Мікалай Пятровіч*** [1908, мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 17.10.1937, Ленінград, НКВД], рабочы, брат Іосіфа *Пашкевіча*. З бел. сям'і. Падчас арышту слесар Ленінградскага малочнага камбіната. Арыштаваны 22.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. 7-я Чырвонаармейская, д. 6/8, кв. 2. Асуджаны камісі-

яй НКВД і пракуратуры СССР 12.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАШКОВІЧ Мікалай Феліксавіч*** [1.12.1893, мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — пасля 1935], педагог, брат Івана *Пашковіча*. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1920—21 у складзе Чырвонай арміі (памочнік камандзіра роты). Падчас арышту настаўнік доследнай школы № 13 пры БДУ. Арыштаваны 26.3.1927 у Мінску. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 23.9.1927 як «член антысавецкай групы па падрыхтоўцы сіл і сродкаў для барацьбы з Савецкай уладай» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ва Уральск, затым Смаленск, дзе працаваў у абл. дзяржплане. У ліп. 1930 арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і ў крас. 1931 сасланы ў Елабугу (Татарстан). Вызвалены ў ліп. 1935, але ў хуткім часе зноў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў ППК. Загінуў на Салаўках. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 22.5.1992. Асабовая справа П. № 33688-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПАШУЧЭНКА Ганна Іванаўна*** [13.6.1911, Мінск — ?], навучэнка, жонка Фёдара *Вайновіча*, сяст-

ра Наталлі *Пашучэнкі*. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю адукацыю. Падчас арышту вучылася на шасцімесячных курсах пры МВПІ. Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 28.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 6, кв. 2. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 8.10.1938 як «жонка ворага народа, удзельніка трацкісцкай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 3.6.1957. Асабовая справа П. № 6563-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАШУЧЭНКА Наталля Іванаўна*** [1917, Мінск — ?], журналістка, сястра Ганны *Пашучэнкі*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала адказным сакратаром газ. «Піянер Беларусі». Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 2.1.1945 у Мінску па адрасе: вул. К. Цэткін, д. 24, кв. 7. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 26.12.1945 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбывала ў Паўночна-Уральскім канцлагеры НКВД Свярдлоўскай вобл. (Ірбіт). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Беларусі 28.4.1992. Асабовая справа П. № 33315-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЕЙСАХОВІЧ Іосіф Паўлавіч** [1906, Саратаў, Расія — ?], музыкант. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту скрыпач аркестра Барысаўскага тэатра. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.12.1944. Асуджаны 21.7.1945 за «здраду радзіме» да 5 гадоў ППК. Да-

лейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 15.4.1996 пракуратурай БВА. Асабовая справа П. № 36795-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЕРАЛЬЗОН Якаў Годлевіч*** [1899, Сандомеж, цяпер Польшча — ?], літаратурны работнік. З сям'і службоўца. Падчас арышту працаваў у мінскай яўрэйскай газ. «Октобэр» («Кастрычнік»). Арыштаваны 19.11.1927 у Мінску. Асуджаны 24.2.1928 як «член нелегальнай меншавіцкай групоўкі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Казахстане. 29.9.1928 рашэннем асобай нарады АДПУ прысуд заменены на выезд у Палесціну. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 31.3.1992. Асабовая справа П. № 32364-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЕРАЛЬМАН Абрам Ісакавіч*** [1891, мяст. Свянцяны Віленскай губ., цяпер Швянчоніс, Літва — 9.1.1938, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і службоўца. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, меў дзіця. Падчас арышту загадчык аддзела мінскай яўрэйскай газ. «Октобэр» («Кастрычнік»). Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 15, кв. 10. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.3.1965. Асабовая справа П. № 19155-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ПЕРАШЧАК (ПЕРАШЧАКА) Карл Карлавіч*** [1871, мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік цэха Арджанікідзеўскага завода «Шклотара». Асуджаны «тройкай» НКВД Чачэна-Інгушскай АССР 9.12.1937 да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. РСО — Алания*. Владикавказ, 1999. Т. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЕТРАШОЎ І. Ф.*** [н. 1936], артыст сімфанічнага аркестра. Жыхар Мінска. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Паводле дадзеных следства, у крас. 1977 перадаў амерыканскаму турысту заяву, у якой скардзіўся, што падвяргаецца ўціску савецкіх уладаў, незаконна звальняўся з работы і г. д. Вёў антысавецкія размовы, асуджаў увод савецкіх войск у Афганістан. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 19.6.1980. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 8742.

Літ.: *58[10]*, с. 787.

**ПЕТРУШЭНЯ Васіль Аляксандравіч*** [1904, в. Сінягова Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту кансультант СНК БССР па камунальных і

транспартных справах. Арыштаваны 9.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/33, кв. 4. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.2.1966 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа П. № 19413-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**ПЕТРЫКОЎСКІ Адольф Антонавіч** [1887, Роўна, цяпер Украіна — 29.8.1938, Масква, НКВД, «Камунарка»], службовец. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік Маскоўскага метрапалітэна. Арыштаваны 25.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Садовая, д. 14/15, кв. 62. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.8.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.3.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ПЕТУХОЎСКІ Іосіф Іосіфавіч*** [1907, в. Курганы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], селянін-аднаасобнік, потым каталіцкі манах. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У 1946 уступіў у манаскі ордэн францысканаў. Паводле матэрыялаў следства, «перастаў займацца грамадска-карыснай работай і, прыкрываючыся рэлігіяй, займаўся антысавецкай дзейнасцю»: вёў прапаганду, дамагаўся адкрыцця ў Мінску касцёла, праводзіў дома ма-

лельныя сходы, захоўваў рэлігійную літаратуру. Арыштаваны 30.8.1957 у пас. Калодзішчы Мінскага р-на. Асуджаны 14.11.1957 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.9.1993 Вярхоўным судом Беларусі. Асабовая справа П. № 35622-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 86127.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *58[10]*, с. 393.

**ПЕТЭРСАН Карл Пятровіч*** [1873, Вольмар (?), цяпер Латвія — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 3.12.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 21.1.1938 за «шпіёнска-дыверсійную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 24.12.1958. Асабовая справа П. № 3198 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ПЕЦЮКЕВІЧ Пётр Іосіфавіч*** [1900, в. Жаўляны Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі (?) р-н Віцебскай вобл. — 20.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту член Маскоўскага абл. суда па спецыяльных справах. Арыштаваны 3.10.1937 у Маскве па адрасе:

вул. Вялікая Палянка, д. 19, кв. 8. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.1.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.6.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ПІК Уладзімір Дзмітрыевіч*** [1898, Гродна — 8.2.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту часова выконваючы абавязкі начальніка аддзела аховы наркамата шляхоў зносін СССР. Арыштаваны 19.10.1937 у Маскве па адрасе: Хахлоўскі зав., д. 13, кв. 17. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.9.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ПІКУЛІК Алена Сцяпанаўна*** [25.10.1905, в. Маторава Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, жонка Вадзіма *Бакшэвіча.* З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў Мінскім палацы піянераў. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Новамясніцкая, д. 16, кв. 7. Асуджана 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «жонка здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП у 1937» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана тры-

буналам БВА 17.1.1956. Асабовая справа П. № 6302-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ПІКУС Элькан (Мікалай) Іосіфавіч*** [1905, мяст. Койданава Мінскай губ., цяпер Дзяржынск Мінскай вобл. — ?], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладаў у МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 25.5.1948 у Мінску па адрасе: Няміжскі зав., д. 11/3. Асуджаны 26.2.1949 за «прыналежнасць да трацкісцкай групы» і «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Дубраўны (былы Цемнікоўскі) канцлагер МДБ Мардоўскай АССР. Вызвалены ў 1956. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.9.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа П. № 6901-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПІЛЕЦКІ Іосіф Ігнатавіч*** [1909, в. Ерашоўка Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 22.12.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у першай палове 1930-х г. Падчас арышту супрацоўнік Кецкага лесазавода. Арыштаваны 1.11.1937 у Томску. Асуджаны 8.12.1937 як «польскі агент» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.4.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПІЛУЙ Ларыса Яўгенаўна*** [1927, в. Раванічы Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. — ?], навучэнка. З сялянскай сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучылася ў Чэрвеньскай СШ. Арыштавана 28.10.1944. Асуджана асобай нарадай 1.2.1945 як «член антысавецкай арганізацыі СБМ» да 4 гадоў ППК. У 1948 зноў арыштавана і саслана ў Краснаярскі край. Вызвалена ў 1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 29.6.1965. Асабовая справа П. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ПІЛЬКО Сільвестр Міхайлавіч*** [1884, Смаленская (?) губ. — 19.2.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік тэхнічнага вузла Смаленскага ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 31.12.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 13.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ПІНЧУК Клімент Палікарпавіч*** [1900, в. Спаскае Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — Пскоў (?), НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў сталяром. Арыштаваны 30.11.1937 у Пскове. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 12.1.1938 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.10.1957.

Кр.: *Не предать забвению.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПІПОТА Клімент Навумавіч*** [1893, в. Хлыстунаўка Кіеўскай губ., цяпер Кіеўскай вобл., Украіна — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Працаваў у Магілёўскім педагагічным інстытуце. Арыштаваны 4.3.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29.5.1938 за «контррэвалюцыйную агітацыю і распаўсюджанне правакацыйных чутак» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з далёкаўсходніх канцлагераў (каля Уладзівастока). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.8.1958. Асабовая справа П. № 3578 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ПІСТАЛЕНКА В. К**.* [н. 1923], лётчык-інструктар Віцебскага аэраклуба. Атрымаў сярэднюю тэхнічную адукацыю. Паводле дадзеных следства, 19.10.1957 раней судзімы П. ехаў у таксі і сярод пасажыраў «узвёў паклёп на аднаго з кіраўнікоў КПСС». Асуджаны 14.11.1957 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». 5.4.1958 прысуд адменены. Далейшы лёс П. невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 80473.

Літ.: *58[10]*, с. 393.

**ПІЯНТКОЎСКІ Уладзімір Мікалаевіч*** [1892, Гомель — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэй-

шую адукацыю. Працаваў юрысконсультам. Арыштаваны 28.4.1942 у Арджанікідзе Паўночна-Асецінскай АССР. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 17.11.1943 за «здраду радзіме» і «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Туркестанскай ВА 23.3.1956.

Кр.: *Книга Скорби.*

**ПЛАВІНСКІ Іосіф Станіслававіч*** [1893, в. Янава Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — ?, Петразаводск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер-электрык Сунабуда. Арыштаваны 16.1.1938 у Сунскім сельсавеце Кандапожскага р-на. Асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР 9.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Карэльскай АССР 6.3.1956.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЛАШЧЫНСКІ Мікалай Сцяпанавіч*** [15.10.1909, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 27.10.1937, Мінск, НКВД], музыкант. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту працаваў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі (?). Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску па адрасе: 2-і Апанскі зав., д. 17, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.10.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 27.3.1989.

Асабовая справа П. № 24267-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЛЕШАКОЎ Пётр Фёдаравіч*** [23.9.1900, Ленінград — 28.6.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і рускага рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1917). Да арышту дырэктар трэста «Белдрэў» наркамата лясной гаспадаркі. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 28.6.1938 «тройкай» НКВД як «удзельнік трацкісцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа П. № 9884-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

8.10.1937 у Мінску арыштавана былы інструктар ЦК КП(б)Б маці траіх дзяцей Плешакова Соф'я Сцяпанаўна (нар. 15.1.1903 у в. Гудзімы, цяпер Украіна, у сям'і рабочага), жонка Пятра *Плешакова*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў ссылкі ў Казахстан. Рэабілітавана 10.4.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа П. № 27686-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЛІГАЎКА Пётр Раманавіч** [1892, в. Балотнікі Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — 4.9.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту ваенны камісар Таганскага раённага ваенкамата Масквы. Арыштаваны 23.6.1937 у Маскве па адрасе: вул. Сушчэўскі вал, д. 14/42, кв. 58. Асуджаны 4.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да

ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.5.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЛОСКІ Міхаіл Іванавіч*** [1897, в. Снегі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер-будаўнік завода імя Молатава. Арыштаваны 2.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Кіраўскі пр., д. 18/13, кв. 30. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «шпіянаж» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЛЫШЭЎСКІ Іван Антонавіч*** [1898, Ямінск Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — ?, Алма-Ата, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў планавіком-эканамістам. Арыштаваны 22.6.1937 у Алма-Аце. Асуджаны «тройкай» НКВД 7.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 5.3.1957.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЛЮТА Юлій Міхайлавіч*** [1900, в. Курдзекі Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл. — 10.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер-мантажнік завода «Электрык». Арыштаваны 27.7.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 6-я лінія, д. 51, кв. 20. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЛЯТНЕР Фёдар Яфімавіч*** [1901, мяст. Чачэрск Рагачоўская пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл. — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.8.1933. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа П. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПОЛЯК (ПАЛЯК) Аляксандр Паўлавіч*** [27.2.1889, хут. Валянцей (Велянцеі) Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай

вобл. — ?], навуковец, педагог, брат Іпаліта *Поляка*. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. старшы навуковы супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.3.1938 у Мінску. Асуджаны асобай нарадай НКВД 10.10.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Усольскі канцлагер НКВД Пермскай вобл. Вызвалены ў 1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 9.10.1959. Справа П. № 14822-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПОЛЯК (ПАЛЯК) Іпаліт Паўлавіч*** [1891, хут. Валянцей (Велянцеі) Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], грамадскі дзеяч, педагог, брат Аляксандра *Поляка*. Скончыў Ковенскія педагагічныя курсы (1913), Мінскі інстытут народнай адукацыі (1921), БДУ (1925). Падчас вучобы ў інстытуце ўваходзіў у маладзёжныя арганізацыі «Наш край» і «Маладая Беларусь». З 1916 удзельнік 1-й сусветнай вайны. З восені 1918 у Мінску, член партыі бел. эсэраў. У час польскай акупацыі выкладаў гісторыю Беларусі ў Мінскай бел. гімназіі. Са студз. 1920 у Беларускай камуністычнай арганізацыі, арганізоўваў партызанскія атрады для барацьбы супраць польскіх акупантаў. Публічна выступіў супраць падпісання Рыжскага мірнага дагавора. 24.5.1921 выйшаў з КП(б)Б. У 1920—23 член прэзідыума таварыства гісторыі і старажытнасцей. З вер. 1921 прымаў удзел у археалагічных раскопках каля Заслаўя. Са студз. 1925 эканаміст Гандлёва-прамысло-

вага банка СССР. Паводле некаторых звестак першы раз арыштаваны ў 1933. Абвінавачваўся як «член ПАВ». Пасля вызвалення працаваў выкладчыкам Віцебскага фінансава-эканамічнага тэхнікума. Зноў арыштаваны 15.10.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 3-я Гутараўская, д. 26б. Асуджаны 22.10.1937 паводле пастановы калегіі НКВД СССР да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 8.4.1958. Асабовая справа П. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**ПРАКАПОВІЧ Пётр Васілевіч** [1905, пас. Іздзешкава Смаленскай вобл. — ?], службовец. З рускай рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Падчас арышту юрысконсульт Ваўкавыскага цэментнага завода «Перамога». Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 7.8.1948. Асуджаны 5.10.1948 асобай нарадай НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Кіраўскай вобл. Вызвалены 19.4.1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 7.2.1962 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа П. № П-7265 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ПРАШКОВІЧ Мікалай Іванавіч** [4.5.1932, в. Гарадзішча Бярэзінскага р-на — 2.2.1983, там жа], літаратуразнавец, крытык, перакладчык. У 1952 скончыў Сялібскую СШ Бярэзінскага р-на, у 1957 філалагічны ф-т БДУ. Тры гады працаваў настаўнікам у розных школах Беларусі. У 1960 паступіў у аспірантуру пры

Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Спецыялізаваўся па старажытнай бел. літаратуры, затым працягваў вучобу ў Ленінградзе. Пасля сканчэння ў 1963 аспірантуры працаваў малодшым, а з 1969 старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры. У 1965 абараніў дысертацыю па творчасці Сімяона Полацкага. Некаторыя яго выступленні ў друку вылучаліся асаблівай палемічнай завостранасцю і атрымалі шырокі грамадскі рэзананс у Беларусі. Так, рэцэнзія П. на кнігу А.Коршунава пра Афанасія Філіповіча (Полымя. 1965. № 12) выклікала рэзка адмоўную рэакцыю галоўнага афіцыёзнага гісторыка Л.Абэцэдарскага, ягоных аднадумцаў і паслужыла ў 1966 падставай для спецыяльнай навуковай дыскусіі ў Акадэміі навук па пытаннях бел. дзяржаўнасці, ацэнцы ролі царкоўна-рэлігійнай уніі і інш. П. сябраваў з многімі патрыятычна настроенымі бел. пісьменнікамі і навукоўцамі, асабліва з Л.*Геніюш*, з якой перапісваўся і якую наведваў у Зэльве. Наладзіў сувязі з украінскімі патрыётамі. Калі ў пачатку 1970-х г. некаторыя з іх (М.Кацюбінская, З.Франко) былі абвінавачаны ў нацыяналізме і пазбаўлены работы, П. збіраў сродкі на дапамогу ўкраінскім сябрам. Даверлівы, адкрыты і залішне эмацыянальны П. быў выкарыстаны спецорганамі, пад пільным наглядам якіх знаходзіўся, для дыскрэдытацыі некаторых нацыянальных патрыётаў, фабрыкацыі справы і выкрыцця ў 1973—74 «гнязда беларускіх нацыяналістаў» у АН БССР, у выніку чаго пацярпела цэлая група бел. навукоўцаў. Па абвінавачанні ў бел. нацыяналізме ў 1974 П. быў звольнены з работы ў АН БССР. Пэўны час заставаўся беспрацоўным, затым працаваў грузчыкам, карэктарам у час.

«Родная прырода» і газ. «Вечерний Минск». У 1982 па стане здароўя пакінуў работу. Трагічна загінуў у час пажару ў роднай вёсцы.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: Поэзия Симеона Полоцкого: Ранний период (1648—1664). Автореф. Мн., 1964; Францішак Скарына — беларускі першадрукар. Мн., 1970.

Літ.: *Люкевич В., Трещенок Я.* Истине вопреки // *Советская Белоруссия.* 1966. 22 февр.; *Алексютовіч М.* А дзе ж ісціна аб'ектыўная? // *Полымя.* 1966. № 5; *Рабкевіч В.* Група пяцёх // *Наша Ніва.* 1995. № 3; *БП*, т. 5.

**ПРОХАРАЎ Аркадзь Аляксеевіч*** [17.4.1900, пас. Касцяёва Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл. — 9.7.1938, Мінск, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прафесар навукова-даследчага інстутыта харчовай прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 26.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 37. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.5.1938 за «шпіянаж на карысць польскіх разведорганаў» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 28.1.1958. Асабовая справа П. № 11386-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПРУДНІКАЎ Павел Рыгоравіч*** [1900, в. Рэкта Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і.

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту (13.11.1936) выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 27.10.1938 за «контррэвалюцыйную нацдэмаўскую дзейнасць». Пакаранне адбываў у Джамбульскай вобл. Вызвалены 10.8.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай прэзідыума Вярхоўнага суда БССР 13.6.1956. Асабовая справа П. № 5382 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПРЫШЧЭПАЎ Дзмітрый Філімонавіч** [9(21).11.1896, в. Калодніца Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 31.1.1940], дзяржаўны і грамадскі дзеяч БССР. З сялянскай сям'і. Вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе, скончыў земскую школу ў Чарэі (цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.), экстэрнам здаў экзамен на званне народнага настаўніка. У 1916 прызваны ў армію. Прайшоў паскораны курс Віленскага ваеннага вучылішча і атрымаўшы чын падпаручніка адпраўлены спачатку ў запасны полк, а праз некаторы час на Зах. фронт камандзірам роты. У кастр. 1917 выбраны салдатамі камандзірам палка і старшынёю палкавога ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. З 1918 у Чырвонай арміі, камандаваў 2-ім Смаленскім палком, які ахоўваў дэмакрацыйную лінію, потым нам. старшыні Сенненскага павятовага выканкама, старшыня Веліжскага павятовага рэўкама. У 1922—23 старшыня Аршанскага павятовага выканкама. З пач. 1924 нам. старшыні Віцебскага губвыканкама, член Часовага Бел. бюро ЦК РКП(б). У сак. 1924

разам з І.А.Адамовічам падпісаў акт пра далучэнне Віцебскай губ. да БССР. У 1924—29 нам. наркама, наркам земляробства БССР, старшыня сельска-гаспадарчай секцыі (аддзела) Інбелкульта. З мая 1929 нам. старшыні Дзяржаўнай планавай камісіі, член Эканамічнай нарады БССР. У вер. 1929 абвінавачаны ў правым ухіле, выключаны з партыі і зняты з пасады наркама. Загадваў у Скрыгалаве (цяпер у Мазырскім р-не Гомельскай вобл.) Палескай вопытнай станцыяй. Арыштаваны 19.7.1930. Пасля нечалавечых катаванняў спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, але паўжывога яго дасталі з пятлі. Асуджаны калегіяй АДПУ 18.3.1931 за «дапамогу кіраўніцтву «СВБ» у правядзенні контррэвалюцыйных мерапрыемстваў» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер АДПУ Карэла-Фінскай АССР, потым у Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю. Вызвалены ў чэрв. 1937. Жыў у Магадане. Зноў арыштаваны 13.8.1937. У студз. 1939 этапаваны ў Мінск. 20.11.1939 трыбуналам БВА прыгавораны да ВМП. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны калегіяй Вярхонага суда БССР 14.6.1988.

Літ.: *ЭГБ*, т. 5; *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 490—492.

**ПРЫШЧЭПЧЫК Аляксандр Рыгоравіч*** [27.6.1893, в. Вомельна Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 23.8.1942, Саратаў, НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту сакратар-кансультант ва Упраўленні справамі СНК БССР. Арыштаваны 18.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле

пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю, шкодніцтва» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Вольску Саратаўскай вобл. Вызвалены 26.2.1935. 11.10.1937 «тройкай» НКВД Саратаўскай вобл. асуджаны да 10 гадоў працоўна-папраўчых работ. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа П. і іншых №20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ПРЫШЧЭПЧЫК Зінаіда Антонаўна*** [3(15).10.1899, Мінск — 9.10.1937, Масква, НКВД], партыйны работнік. З сям'і ўдзельнікаў барацьбы за савецкую ўладу. У рэвалюцыйным руху з 1916. З лют. 1917 памочнік сакратара, сакратар Варонежскага гаркама, з кастр. 1917 сакратар Варонежскага губкама РСДРП(б). З кастр. 1919 інструктар ЦК РКП(б), з 1921 кіраўнік саўпартшколы, губжанаддзела ў Вятцы. У 1924, 1927—30 у апараце ЦК ВКП(б). У 1925—27 загадчык жанаддзела ЦК КП(б) Узбекістана. З 1930 сакратар Клінцоўскага раённага камітэта ВКП(б) (Бранская вобл.). Падчас арышту сакратар Ягор'еўскага раённага камітэта ВКП(б) (Маскоўская вобл.). Арыштавана 22.6.1937 у Ягор'еўску ў інтэрнаце раённага камітэта ВКП(б). Асуджана 9.10.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляна і пахавана разам з інш. ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.9.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 5.

**ПУГАЧОЎ Сцяпан Фёдаравіч*** [30.12.1904, мяст. Свіслач Гродзенскага пав., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 28.6.1938, Мінск, НКВД], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1926 уступіў у ВКП(б). Працаваў сакратаром Свіслацкага райкама камсамола. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 6.12.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 34, кв. 10. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член трацкісцкай арганізацыі» і за «шкодніцкую работу, падрыхтоўку да тэрору» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.12.1956. Асабовая справа П. № 9885-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПУДАЎ Васіль Савіч*** [1896, в. Бялішчына (?) Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі (?) р-н Магілёўскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 11.8.1933. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй

Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа П. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПУКАЛА Міхаіл Кандратавіч*** [1892, Смаленская (?) губ. — 22.10.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык аддзела Зах. аддзялення «Галоўметыза» (?). Арыштаваны 9.6.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.10.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ПУПКЕВІЧ Восіп Андрэевіч*** [1873, в. Трабшавічы Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва (?) — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — камендант Інстытута імя Пастэра. Арыштаваны 23.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Міра, д. 12а, кв. 6. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ПШАНІЧНЫ Іван Трафімавіч*** [1897, ст. Субач Ковенскай губ., цяпер Літва — 10.4.1943, ГУЛАГ], педагог. З сям'і рабочага. Скончыў настаўніцкую семінарыю (1918), працаваў настаўнікам. У 1919—21 служыў у Чырвонай арміі. Потым зноў настаўнічаў у пачатковых школах Бабруйскага пав., паступіў у БДУ. З 1924 жыў у Калінінскай акрузе, працаваў загадчыкам Чэрыкаўскага ра-

ённага аддзела народнай асветы. У 1926 вярнуўся на вучобу ў БДУ, адначасова выкладаў у адной з мінскіх сямігодак. Падчас арышту выкладчык Камуністычнага інстытута журналістыкі, дацэнт БДУ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. 1-я Сяргееўская, д. 5, кв. 2. Асуджаны тройкай НКВД 3.1.1938 як «член контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай фашысцкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, Далёкаўсходні край). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.12.1955. Асабовая справа П. № 5699-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Гесь А.* Калінінская акруга: хроніка беларускага культурнага жыцця 1920-х гадоў // *Спадчына*. 2001. № 3.

**ПЫЖЫКАЎ Васіль Сямёнавіч** [15.12.1893, в. Ерашоўка Крупскага р-на Мінскай вобл. — 28.2.1969], адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл. Член КПСС з 1917. З 1917 у Чырвонай гвардыі, камандзір атрада. Удзельнік грамадзянскай вайны. З 1919 у Чырвонай арміі, камісар палка, пам. камісара, камісар брыгады. З 1921 нам. камандзіра асобага батальёна партызанскага злучэння на Далёкім Усходзе. З 1924 на партыйнай і гаспадарчай рабоце. З чэрв. 1942 у партызанах: камандзір атрада, у жн. 1942 — маі 1943 партызанскай брыгады «Стары». У 1943 арыштаваны і да 1948 знаходзіўся ў турме. Рэабілітаваны ў 1955. У 1948—57 на гаспадарчай рабоце ў Мінскай вобл. Член ЦК КП(б)Б у 1932—37. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

Літ.: Беларусь у Вялікай айчыннай вайне. 1941—1945. Мн., 1995.

**ПЫХЦІН М. С**.* [1926 — ?], студэнт Гродзенскага педагагічнага інстытута. Паводле дадзеных следства, 4 і 7 ліст. 1956 раней судзімы П. ад імя савецкіх грамадзян падрыхтаваў два антысавецкія лісты і адправіў іх поштай на адрас англійскага і амерыканскага паслоў у Маскве. У лістах падрабязна выкладаў свае погляды на міжнародную палітыку СССР, падзеі ў Егіпце, Венгрыі і г. д. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 28.1.1957. Тэрмін зняволення скарочаны 25.4.1960. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 79262.

Літ.: *58*[10], с. 268.

**ПЫШКАЛА Канстанцін Антонавіч*** [1900, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — нам. старшыні абл. выканаўчага камітэта Марыйскай АССР. Асуджаны 1.8.1935 да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Трагедия народа: книга памяти жертв политических репрессий Республики Марий Эл*. Йошкар-Ола, 1997. Т. 2.

**ПЯКУН Уладзімір Васілевіч*** [1907, Варшава — 8.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту галоўны інжынер шахтаўпраўлення № 1/33 трэста «Таваркоўвугаль». Арыштаваны 25.4.1937 на ст. Алавяная Усходне-Сібірскага краю. Асуджаны 7.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвя-

рамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ПЯНЬКОЎСКІ (ГНІДКО) Іван Рыгоравіч*** [1900, в. Жыдомля, Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 14.1.1938, Куйбышаў, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Працаваў у Гідраметэаралагічнай службе. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 16.10.1937 у Куйбышаве. Асуджаны камісіяй НКВД СССР і пракуратуры СССР 5.1.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Куйбышаўскім абл. судом 5.6.1964.

Кр.: *Белая книга.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЯРКО (САВІЦКІ) Уладзімір Іванавіч*** [1896, ? — 10.3.1922, Смаленск, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту ваеннаслужачы Зах. фронта. Арыштаваны 7.1.1922. Асуджаны рэвалюцыйным трыбуналам 7.2.1922 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ПЯРЭСКА Іосіф Ерамеевіч*** [1894, в. Пагарэлка Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 14.12.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прараб будаўніцтва Ціміразеў-

скай вузкакалейнай чыгункі. Арыштаваны 25.11.1937 у Томску. Асуджаны 4.12.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 9.6.1956.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЯСКО Пётр Іосіфавіч*** [1886, маёнтак Бязволя (?) Радзікскага пав. Седлецкай губ., цяпер Польшча — 26.10.1937, Мінск, НКВД], журналіст. З сялянскай сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б), у 1931 выключаны «за скрыўленне лініі партыі». Падчас арышту загадчык аддзела мінскай польскай газ. «Орка» («Ворыва»). Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 45, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.10.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 31.8.1959. Асабовая справа П. № 14625-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЯТОСІН Іосіф Сцяпанавіч*** [1892, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 21.10.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 16.5.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.8.1938 як «удзельнік контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі і агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 13.3.1956. Справа П. № 6692-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЯТРОВІЧ Антон Андрэевіч*** [1896, в. Дубовае Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл. — 2.12.1937, Масква, НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1927—35 член ВКП(б). Апошняе месца работы — загадчык партыйнага кабінета Касцюковіцкага райкама партыі. Арыштаваны 31.10.1937 у Касцюковічах па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 25. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.11.1937 за «сістэматычную антысавецкую агітацыю» і «праявы разнастайных контррэвалюцыйных настрояў» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 23.3.1990.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ПЯТРОВІЧ Васіль Міронавіч*** [кастр. 1905, в. Козікі Слонімскага пав. Гродзенскай губ., — 29.11.1938, Мінск (?), НКВД], службовец, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б) у 1923. З мая 1936 — сакратар Упраўлення сувязі. У тым жа годзе выключаны з партыі пры праверцы партыйных дакументаў. Падчас арышту працаваў загадчыкам вучэбнай часці дома Партыйнага актыва. Арыштаваны 23.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 36, кв. 27. Асуджаны 26.2.1938 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 26.3.1963. Асабовая справа № 6556-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЯТРОВІЧ Глафіра Дзмітрыеўна*** [26.4.1892, Launoraт Пензенскай губ., цяпер райцэнтр Пензенскай вобл., Расія — ?], служачая, жонка Янкі *Нёманскага*. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы эканаміст наркамата лясной гаспадаркі БССР. Гадавала траіх дзяцей. Арыштавана 4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 11 Ліпеня, д. 18/7, кв. 2. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як «жонка расстралянага ворага народа» і «саўдзельніца ягоных контррэвалюцыйных злачынстваў» да 8 гадоў ППК. 24.1.1938 прыбыла з Оршы ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 25.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 6.3.1956. Асабовая справа П. № 6643-с знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Хранить вечно.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ПЯТРОЎ Платон Гаўрылавіч*** [1895, цяпер Латвія — 4.11.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік дрэваапрацоўчага цэха Рослаўльскага ВРЗ (?). Арыштаваны 28.12.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 16.10.1937 за «шпіянаж» і «шкодніцтва» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ПЯТРОЎ (КАЯДЫНСКІ) Яўген Уладзіміравіч*** [1895, Брэст — ?, Петразаводск, НКВД], службовец.

З бел. сям'і. Былы член ВКП(б). Падчас арышту бухгалтар «Карэлбуда». Арыштаваны ў Петразаводску. Асуджаны «тройкай» НКВД 10.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Дата смерці невядома.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ПЯХОТА П. А**.* [1913 — ?], аграном. Член КПСС, меў вышэйшую адукацыю. Жыхар Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл. 4.1.1957 на закрытым партыйным сходзе калгаса пасля чытання закрытага ліста ЦК КПСС выступіў з прамовай, у якой крытыкаваў урад і «пераказваў анекдоты антысавецкага зместу». Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 27.3.1957. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 83214.

Літ.: *58*[10], с. 288.

**РАБІНОВІЧ Савелій Маркавіч*** [1900, мяст. Дрыбін Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], навуковец. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. загадчык сектара кармлення і адкорму свіней Навукова-даследчага інстытута свінагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 28.5.1933 у Мінску па адрасе: Паўночны зав., д. 5, кв. 4. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 9.7.1933 як «член антысавецкай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі БССР» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа Р. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАБІНОВІЧ Сора (Лея) Залманаўна*** [1884, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — ?], педагог. З сям'і службоўца. Член Бунда. Падчас арышту выкладчыца Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштавана 15.9.1938. Абвінавачвалася ў «распаўсюджванні эсэраўскай літаратуры». 10.2.1939 вызвалена і рэабілітавана з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Р. № 3356 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**РАБКАВЕЦ Кірыл Васілевіч*** [12.11.1899, в. Камень Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Пінскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. старшыні Беларускага дзяржаўнага радыёкамі-

тэта. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 11.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 16, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.12.1936 за «трацкісцкія выступы па радыё» і «незаконнае захаванне зброі» да 6 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 13.7.1963. Асабовая справа Р. № 12868-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАВІНСКІ Платон Фёдаравіч** [23.11. 1892, в. Краглі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.6.1938, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. Скончыў Камуністычны ун-т імя Свярдлова ў Маскве (1930). З 1909 у ЗША, дзе ў 1912—17 быў членам саюза анарха–сіндыкалістаў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 жыў у Бабруйску, працаваў токарам. З 1918 у Смаленскай ЧК, сакратар Бабруйскага пав. камітэта партыі, член Краявога камітэта камуністычных арганізацый Беларусі і Літвы, з 1919 член Мінскага губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, загадчык аддзела рэўкама штаба 16-й арміі. З 1920 старшыня Барысаўскага павятовага рэўкама, сакратар Бабруйскага павятовага камітэта КП(б)Б, з 1921 начальнік меліярацыйнага аддзела і член калегіі Наркамзема БССР. З 1925 загадчык Бабруйскага акружнога зямельнага ўпраўлення. З 1933 першы нам. наркама земляробства БССР, сакратар Магілёўскага райкама КП(б)Б. З 1936 начальнік упраўлення наркамата мясцовай прамысловасці. Член ЦКК КП(б)Б і яе

прэзідыума (1930—34), член ЦК КП(б)Б (1934—37). Арыштаваны 9.8.1937. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі правых і праводзімую падрыўную дзейнасць». 29.6.1938 асуджаны «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.10.1955.

Літ. *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАГАВЕНКА Васіль Канстанцінавіч*** [1902, Мінск — ?], службовец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інструктар Наркамата асветы БССР. Арыштаваны 29.8.1936 у Мінску па адрасе: Ленінградскі зав., д. 12, кв. 3. Асуджаны 29.5.1938 як «член нацыянал-фашысцкай групоўкі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю (бухта Нагаева). Вызвалены 30.8.1944. Вярнуўся на радзіму, жыў у Віцебску. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 31.1.1955. Асабовая справа Р. № 6169-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАГАЛЕВІЧ Адам Іларыёнавіч*** [1889, в. Баславічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер не існуе — ?], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту ветэрынарны ўрач Калтайскага мехпункта. Арыштаваны 3.11.1937 у Томскім р-не. Асуджаны 9.11.1937 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 12.5.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**РАГІНСКАЯ Яўгенія Аляксееўна*** [1896, Тарнопаль — ?], памешчыца. З польскай шляхецкай сям'і. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Жыла ў сваім маёнтку на хут. Падлессе Астравецкага р-на. Была замужам, мела дваіх дзяцей. Арыштавана 6.9.1944. Асуджана 1.12.1945 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ссылкі. Этапавана ў Краснаярскі край. Вызвалена 6.9.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 25.10.1994 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Р. № П-21407 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**РАГІНСКІ Пётр Францавіч*** [1.2.1898, Беласток, цяпер Польшча — 30.12.1937, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту рэдактар мінскай польскай газ. «Орка» («Ворыва»). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 14, кв. 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 як «агент польскай разведкі, член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 10.3.1967. Асабовая справа Р. № 19685-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАГОЙША Канстанцін Іосіфавіч*** [1921, в. Пярэжыры Валожынскага пав. Віленскага ваяв., цяпер

Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 15.10.1964], педагог, дзядзька літаратуразнаўца Вячаслава Рагойшы. З сялянскай сям'і. Скончыў Ракаўскую сямігодку, пасля 1939 вучыўся ў Маладзечанскім педагагічным тэхнікуме, скончыў Віленскую беларускую настаўніцкую семінарыю (1943). Пасля вайны — дырэктар няпоўнай СШ ў в. Пугачы цяперашняга Валожынскага р-на Мінскай вобл. Завочна вучыўся на філалагічным ф-це Гродзенскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 13.6.1948. Асуджаны 20.9.1948 пазасудовым органам МДБ за «антысавецкую прапаганду» і «работу настаўнікам падчас нямецкай акупацыі» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Пакаранне адбываў у адным з канцлагераў Іркуцкай вобл. Вызвалены ў 1954 хворым на сухоты. Вярнуўся на радзіму. Аднак, не атрымаўшы нідзе працы з-за «недабранадзейнасці», вымушаны быў ад'ехаць у Сібір. Апошняе месца жыхарства: Ангарск, пас. 6000, інтэрнат 8, кв. 21, адкуль 15.10.1964 «выбыў невядома куды» (паводле паведамлення Упраўлення аховы грамадскага парадку Іркуцкага абл. выканкама ад 4.3.1968). Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 21.1.1992. Асабовая справа Р. № 31985-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАГОЎСКІ Мікалай Міхайлавіч** [27.11.1898, Магілёў — 10.9.1937, Масква, НКВД], ваенны дзеяч, камдыў (1935). З бел. сям'і. Вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце (1917—18), скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1927). З 1918 у Чырвонай арміі, камандзір артылерыйскага дывізіёна. З 1922 памочнік начальніка і начальнік артылерыі 5-га стралковага кор-

пуса. З 1927 у Галоўным артылерыйскім упраўленні, з 1932 інспектар, потым начальнік артылерыі РСЧА. Член Ваеннага савета Наркамата абароны СССР. Арыштаваны 4.6.1937 у Маскве па адрасе: Лубянскі праезд, д. 17, кв. 49. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.9.1937 за «ўдзел у антысавецкай ваенна-фашысцкай змове Тухачэўскага» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 7.4.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**РАГУЛЯ Барыс Дзмітрыевіч** [н. 1.1.1920. в. Турэц Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.], вайсковец, дзеяч бел. эміграцыі, пляменнік Васіля *Рагулі.* Скончыў школу ў Любчы, польскую гімназію ў Навагрудку. Вучыўся на медыцынскім ф-це Віленскага ун-та, адкуль быў прызваны ў польскае войска, у афіцэрскую школу. Са жн. 1939 — камандзір эскадрона. З пачатку 2-й сусветнай вайны ўдзельнічаў у баявых дзеяннях. 17.6.1939 трапіў у нямецкі палон. Неўзабаве ўцёк з палону, вярнуўся ў Навагрудак, працаваў настаўнікам. 20.1.1941 арыштаваны органамі НКВД (яшчэ раней былі арыштаваны і асуджаны ягоныя дзядзькі). Пасля астрогу ў Баранавічах прывезены ў Мінскую ўнутраную турму НКВД. Абвінавачваўся ў нелегальным пераходзе мяжы, контррэвалюцыйнай дзейнасці, шпіянажы, захоўванні зброі. 22.6.1941 разам з іншымі падследнымі этапаваны на Усход, апынуўся ў Чэрвеньскай турме. У адну з раніц канца чэрв. 1941, калі ахова турмы ўцякла, вязні ад-

чынілі турэмныя вароты і разбегліся. Р. зноў вярнуўся ў Навагрудак. Працаваў выкладчыкам у Навагрудскай бел. настаўніцкай семінарыі, перакладчыкам у Навагрудскага акружнога камісара. Адзін з кіраўнікоў СБМ, узначальваў структуры Бел. народнай самапомачы ў Навагрудскай акрузе, Навагрудскае намесніцтва Бел. цэнтральнай рады і аддзел Бел. краёвай абароны (БКА). Стварыў і ўзначаліў Наваградскі беларускі эскадрон, які ўдзельнічаў у супрацьпартызанскіх аперацыях у 1943—44. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса (чэрв. 1944, Мінск). Пасля эвакуацыі з Беларусі кіраваў 1-м кадравым батальёнам БКА і афіцэрскай школай пры ім. Адзін з кіраўнікоў разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы (Усх. Прусія). У 1945 маёр штурмавой брыгады Вафэн-СС «Беларусь». Пасля вайны ў амерыканскай зоне акупацыі Германіі, з 1949 у Бельгіі. З 2-й паловы 1940-х г. супрацоўнічаў з разведслужбамі ЗША. Вывучаў медыцыну ва ун-тах Марбурга і Лювена (Бельгія), дзе заснаваў бел. студэнцкія згуртаванні. З 1946 старшыня Цэнтралі бел. студэнцкіх арганізацый на чужыне. З 1954 жыў у Канадзе. Член Згуртавання беларусаў Канады. З 1971 нам. прэзідэнта Рады БНР, адначасова ў 1973—89 старшыня Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады.

Тв.: Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996.

Літ.: *Юрэвіч Л.* Жыццё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. Мн., 1999; *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАДЗЕЧКА Андрэй Канстанцінавіч*** [1909, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер рай-

цэнтр Мінскай вобл. — ?], урач. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту ваенны ўрач трэцяга рангу, начальнік ветэрынарнай службы вайсковай часці № 6825. Арыштаваны 17.7.1938 у Томску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.10.1938 як «член контррэвалюцыйнай трацкісцкай арганізацыі» да 20 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 24.8.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**РАДЗІВІЛ Леан Уладзіслаў** [1888 — 1959], землеўласнік, вайсковец, мецэнат. Малодшы сын Юрыя Фрыдэрыка Радзівіла і Марыі Ружы з Браніцкіх. Служыў у Генеральным штабе польскага войска. Пасля смерці ў 1935 старэйшага брата Антонія Альбрэхта атрымаў вялікую спадчыну, апошні афіцыйны XVII ардынат нясвіжскі, ардынат клецкі. Пасяліўшыся ў Нясвіжы, займаўся мецэнацтвам, сам някепска маляваў. З пачаткам 1.9.1939 2-й сусветнай вайны Нясвіжскі замак стаў прытулкам для многіх уцекачоў з Варшавы. Адразу пасля ўваходу 17.9.1939 у Нясвіж Чырвонай арміі арыштаваны і з сям'ёй вывезены ў Маскву. Адначасова пачалося рабаўніцтва мастацкіх і матэрыяльных каштоўнасцей замка. Дзякуючы сваяцкім сувязям з італьянскімі арыстакратамі ўдалося абмяняць Р. на вязняў рэжыму Мусаліні.

Літ.: *Шышыгіна-Патоцкая К.Я.* Нясвіж і Радзівілы. 2-е выд. Мн., 2002.

**РАДЗІВІЛ Януш Францішак Ксаверы** [3.9.1880, Берлін — 4.10.1967, Варшава], паліт. дзеяч. Атрымаў адукацыю ў Германіі. Стаўшы алыцкім ардынатам, правёў у сваёй гаспадарцы зямельную рэформу. У 1920 абараняў Варшаву ад Чырвонай арміі. У міжваеннай Польшчы неаднаразова абіраўся ў сейм і сенат. Выступаў супраць пераследу нац. меншасцяў, змагаўся за вызваленне паліт. вязняў з лагера ў Картуз-Бярозе, выступаў за свабоду друку. У 1926 узначаліў партыю кансерватараў. Лічыўся чалавекам кампрамісу і памяркоўнасці. Пасля смерці Ю.Пілсудскага кансерватары перайшлі ў апазіцыю да польскага ўрада. Р. быў арыштаваны НКВД у сваім Алыцкім замку ў вер. 1939, вывезены ў Маскву, змешчаны ў турме на Лубянцы. Прывозіўся на допыты да Л.Берыі, які схіляў Р. да супрацоўніцтва. Паводле хадайніцтва італьянскай каралеўскай фаміліі вызвалены з турмы. Зноў арыштаваны 4.3.1944, перавезены у Краснагорск. Пазней пераведзены ў канцлагер пад Масквой, дзе ўмовы ўтрымання былі больш жорсткімі. Жонка Р. Ганна з Любамірскіх загінула ў зняволенні. Як сведчаць новыя архіўныя крыніцы, пасля смерці Сталіна Л.Берыя планаваў «прадаць» ГДР заходнім дзяржавам за 10 млрд. долараў. Пасрэднікамі меліся быць Р. і Вольга Чэхава, нямецкая актрыса рускага паходжання. Арышт Л.Берыі пакінуў гэты праект нерэалізаваным. Р. быў вызвалены і змог выехаць у Польшчу.

Літ.: Польский князь должен был помочь Берии отдать ГДР Западу // *Известия*. 1993. 31 окт.; *Шышыгіна-Патоцкая К.Я*. Нясвіж і Радзівілы. 2-е выд. Мн., 2002.

**РАДЗІВОНЧЫК Мікалай Васілевіч*** [1905, в. Засімавічы Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 8.3.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік участка Маскоўскай канторы «Цепласеткабуд». Арыштаваны 27.1.1938 у Маскве па адрасе: 2-і Кабельны праезд, д. 3/14, кв. 17. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 26.2.1938 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.10.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАДЗІКОЎСКІ Сяргей Якаўлевіч*** [1894, в. Лапаціна Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі (?) р-н Магілёўскай вобл. — 16.6.1938, Масква, НКВД], педагог. З бел. сялянскай заможнай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту выкладчык фізкультуры Маскоўскага станкаінструментальнага інстытута. Арыштаваны 7.3.1937 у Маскве па адрасе: вул. Русакоўская, д. 7, кв. 32. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 17.5.1938 як «агент германскай разведкі» і за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Германіі» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.7.1962.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАДЗІН Саламон Абрамавіч*** [1892, мяст. Германавічы Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — 7.9.1938, Мінск, НКВД], службовец, педагог. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Член Бунда з 1918. У 1930-я г. загадчык вучэбнай часткі Інстытута па павышэнню кваліфікацыі кадраў народнай адукацыі. Арыштаваны 29.12.1937 у Мінску. Абвінавачаны як «агент, закінуты ў СССР польскай разведкай для шпіёнскай работы». Асуджаны «тройкай» НКВД 28.5.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.10.1957. Асабовая справа Р. № 11093-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАДЗІШЭЎСКІ Станіслаў Міхайлавіч** [? — ?], ваенны дзеяч. У вайну 1812 палкоўнік войск ВКЛ, потым французскай арміі. У 1813 нам. шэфа штаба корпуса кн. Белуна. У баі пад Лейпцыгам трапіў у палон. Пасля вайны амніставаны, жыў у сваім маёнтку Ілья (Вілейскі пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл.), абіраўся маршалкам шляхты Вілейскага пав. У час паўстання 1830—31 начальнік узброеных сіл паўстанцаў Вілейскага пав., здолеў арганізаваць збор 3 тыс. пяхоты, 300 кавалерыстаў, 2 гармат. Удзельнічаў у баях пад Глыбокім (12, 13 і 15 мая 1830) і Вілейкай (24 крас. і 5 мая 1830). 13.6.1830 далучыўся да рэгулярных войск Д.Хлапоўскага і ўзначаліў 26 пяхотны полк. Ваяваў пад Вільняй (19.6.1830), Шаўлямі (18.7.1830). У час адыходу ў Польшчу ўзначальваў авангард арміі Г.Дэмбінскага. Абараняў Варшаву. Пасля задушэння паўстання эміграваў у Парыж.

Літ.: *Пузыревский А.К.* Польско-русская война 1831. СПб., 1886; *Wrotnowski F.* Powstania na Wołyniu, Podolu, Ukrainie, Żmudzi i Litwie. T. 2. Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy // *Biblioteka pisarzy polskich*. Lipsk, 1875. T. 72; *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАДЗЮК Аляксандр Фаміч** [1902, в. Сярэдняе Сяло Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З сям'і бел. служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту супрацоўнік «Галоўліта» БССР. Арыштаваны 8.9.1936 у Мінску па адрасе: вул. Калектарная, д. 20, кв. 1. Асуджаны 28.11.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Вызвалены 5.2.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 5.12.1989 пракуратурай Мінскай вобл. Асабовая справа Р. № 29782-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў* .

**РАДЗЮК Віталь Данілавіч*** [1905, Коўна, цяпер Каўнас, Літва — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту аспірант АН СССР. Арыштаваны 5.10.1933 у Ленінградзе. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Р. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАДКЕВІЧ (РАТКЕВІЧ) Адольф Сямёнавіч*** [1907, Мінск — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арыш-

ту агент па забеспячэнню Басандыйскага дома адпачынку. Арыштаваны 21.4.1935 у Томску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.9.1935 як «меншавік» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.7.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей*.

**РАДКЕВІЧ Сямён Цімафеевіч*** [1.9.1902, мяст. Урэчча Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 14.7.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 26.3.1938 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 9.4.1940. Далейшы лёс невядомы. Справа Р. № 5180 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў*.

**РАДКЕВІЧ Сяргей Іванавіч*** [1898, в. Адамаўцы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 18.2.1938, Курган, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — эканаміст Курганскага раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 14.12.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 3.2.1938 як «член ПАВ» і за «шпіёнскадыверсійную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Уральскай ВА 19.4.1989.

Кр.: *Осуждены по 58—й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области*. Курган, 2002. Т. 1.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў*.

**РАДУС-ЗЯНЬКОВІЧ Віктар Аляксеевіч** [31.12.1877 (12.1.1878, Архангельск, Расія — 4.10.1967], дзяржаўны дзеяч, рэвалюцыянер. З сям'і ссыльнага пасяленца з Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., удзельніка паўстання 1863—64. За рэвалюцыйную дзейнасць Р.-З. выключаны з Маскоўскага ун-та. У лют. 1902 арыштаваны, высланы на 3 гады ў Іркуцкую губ., адкуль уцёк у Швейцарыю. Наборшчык у друкарні «Іскры». Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У 1908 асуджаны да 6 гадоў катаргі. З 1913 на пасяленні ў Іркуцкай губ. З мая 1918 заг. аддзела наркамата працы РСФСР. У 1919—20 на партыйнай і савецкай рабоце ў Саратаве. З 1921 старшыня рэўкама, СНК Кіргізскай АССР, бюро ЦК РКП(б) Кіргізіі. У 1925—27 старшыня ЦКК КП(б)Б і наркам Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР. З 1930 нам. наркама працы РСФСР, з 1933 старшыня ЦК прафсаюза работнікаў сувязі СССР, з 1938 нач. упраўлення Наркамата асветы РСФСР, у 1940—56 у Ін-це марксізму-ленінізму. Член ЦКК КП(б)Б у 1925—27.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАДЧАНКА Надзея Іванаўна*** [15.7.1913, Курск, Расія — ?], артыстка, жонка Сяргея *Кіма*. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працавала ў хоры Дзяржаўнай філармоніі. Арыштавана 11.7.1937 у Мінску па адрасе: зав. Сувязны, д. 8/10, кв. 7. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 8.7.1938 да 5 гадоў пазбаўлення волі як «жонка рэзідэнта японскіх разведорганаў, прыгаворанага да ВМП». Этапавана, хутчэй за ўсё, у Карагандзінскі канцлагер Казахскай ССР. Вызвалена ў чэрв. 1942. Рэабілітавана трыбуна-

лам БВА 6.8.1957. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Р. № 10649-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАЗІНА (РАГЗАНСКАЯ) Сара Гершалеўна*** [1902, Брэст — ?], экскурсавод. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. У 1926 уступіла у ВКП(б). Працавала ў Дзяржаўным музеі рэвалюцыі. Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 14.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 48, кв. 1. Выключана з партыі. 8.1.1938 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «падазроная ў правакатарскай і контррэвалюцыйнай шпіёнскай дзейнасці на карысць Польшчы» да 10 гадоў ППК. Этапавана, хутчэй за ўсё, у Сібірскі канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана асобнай нарадай пры НКВД СССР 1.3.1941. Асабовая справа Р. № 6346-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАЗУМОЎСКІ Уладзімір Сямёнавіч*** [чэрв. 1902, в. Ражнова Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 13.8.1938, Магадан, НКВД], работнік культуры. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік рэдакцыйнага сектара (аддзела) Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.1.1935 у Мінску па адрасе: вул. Заліўная, д. 4, кв. 6 (?). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 7.4.1935 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з Магаданскіх канцлагераў. Паўторна асуджаны 10.8.1938 «тройкай» НКВД за «антысавецкую агіта-

цыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны па першай справе пракуратурай БССР 20.7.1989, па другой — ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР (?) 2.8.1958. Асабовая справа Р. № 25781-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *За нами придут корабли: Список реабилитированных лиц, смертные приговоры в отношении которых приведены в исполнение на территории Магаданской области.* Магадан, 1999.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАЗЫНКА Анатоль Францавіч*** [1890, Мінск — 1.7.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір брыгады, нам. начальніка артылерыйскага ўпраўлення Чырвонай арміі. Арыштаваны 26.5.1937 у Маскве па адрасе: Чыстыя Пруды, д. 12, кв. 110. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.7.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай ваенна-фашысцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 19.5.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**РАІНЧЫК Іван Раманавіч*** [1901, в. Зарудаўе Гродзенскай губ., цяпер Мастоўскі р-н Гродзенскай вобл. — 27.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец, вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту ваенны інжынер 2-га рангу, начальнік аддзела Навукова-выпрабавальнага інстытута інжынернай тэхнікі Чырвонай арміі. Арыш-

таваны 27.3.1938 па адрасе: Маскоўская вобл., ст. Нахабіна Калінінскай чыгункі. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.9.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 20.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАЙЗМАН Тадэвуш Альгердавіч*** [1921, мяст. Рамбертава Варшаўскага ваяв. — ?], музыкант. З польскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны 2.5.1940. Асуджаны 21.8.1940 асобай нарадай НКВД за «нелегальны пераход дзяржаўнай мяжы» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Комі АССР. Вызвалены 18.9.1941, верагодна, як польскі грамадзянін. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26.11.1992 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Р. № П-16389 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**РАК Рыгор Пракопавіч*** [20.1.1893, мяст. Дукора Ігуменскі пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1938, Мінск, турма НКВД], бел. краязнавец, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1913) працаваў у школе в. Крынкі Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1915—17 у арміі. З 1918 вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, потым у БДУ (скончыў у 1930-я г.). Уваходзіў у Беларускую камуністычную арганізацыю (1920). У 1926—37 працаваў у Інстытуце эканомікі БелАН, вывучаў народныя рамёствы і саматужныя про-

мыслы. Друкаваўся ў час. «Наш край» і інш. Удзельнічаў у краязнаўчым руху. Падчас арышту працаваў настаўнікам у Мінскай СШ № 20. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 5.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 49, кв. 29. Асуджаны 1.11.1938 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» і як «удзельнік контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны калегіяй Вярхоўнага суда БССР 18.6.1956. Асабовая справа Р. № 6588-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАКАШЭВІЧ Васіль Васілевіч*** [20.5.1923 — ?], жыхар Брэсцкай вобл. Паводле сцверджання следства, «у 1960 уступіў у створаную Грыгор’евым (?) Беларускую рэвалюцыйную партыю, чытаў яе статут і падпісаў прысягу. Спрабаваў абрабаваць сельскую краму дзеля здабыцця грошай для партыі. Незаконна захоўваў вінтоўку». Асуджаны 10.4.1964 па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда». Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 98102.

Літ.: *58[10]*, с. 653.

**РАКЕВІЧ Міхаіл Міхайлавіч** [1904, в. Клепачы Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям’і. У 1930 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту слухач Ваенна-медыцынскай акадэміі Чырвонай арміі. Арыштаваны 28.9.1937 у Ленінградзе па ад-

расе: вул. Боткінская, д. 5/7, кв. 21. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАКОВІЧ Аляксандр Гаўрылавіч** [28.11.1926, в. Лясок Навагрудскага ваяв., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 22.2.2000, Мінск, пахаваны ў в. Лясок], вучоны ў галіне тэхнічнай кібернетыкі і інфарматыкі, публіцыст, грамадскі дзеяч. Доктар тэхнічных навук (1986), прафесар (1987). У 1939 вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, дырэктарам якой у той час быў Б.*Кіт*. Скончыў у Навагрудку 6-месячныя настаўніцкія курсы (1942) і беларускую настаўніцкую семінарыю (1944). З 23.7.1944 у Савецкай арміі. З 1945 служыў артылерыстам (камандзірам гарматы) у Паўночна-Каўказскай ВА. Арыштаваны 30.6.1948 у Новачаркаску Растоўскай вобл. Р. прыгадалі ранейшую вучобу ў Навагрудку і абвінавацілі ў імкненні да адрыву Беларусі ад СССР. Прыгавораны да 25 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Паколькі ўласнай маёмасці не меў, то была канфіскавана жывёла з бацькоўскай гаспадаркі. У ГУЛАГу працаваў на залатамыйных рудніках у Якуціі (Алдан, 1948—53), Забайкаллі (Балей Чыцінскай вобл., 1953—54), лесараспрацоўках у Кузбасе (Барзас Кемераўскай вобл., 1954—56). 28.4.1956 рашэннем камісіі прэзідыума ВС СССР вызвалены са зняццем судзімасці. Паколькі пасведчанне пра сканчэнне настаўніцкай семінарыі ў 1944 не залі-

чылі за сярэднюю адукацыю, паступіў у Карэліцкую вячэрнюю школу рабочай моладзі, якую скончыў у 1957 з сярэбраным медалём. У 1957—63 працаваў на Мінскім падшыпнікавым заводзе, адначасова завочна вучыўся ў Беларускім лесатэхнічным інстытуце, потым перавёўся ў Беларускі політэхнічны інстытут, пасля сканчэння якога (1963) запрошаны на работу ў Інстытут матэматыкі і вылічальнай тэхнікі АН БССР. З 1965 працаваў у новаадкрытым Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі АН БССР. За комплекс навуковых работ па тэорыі аўтаматызаванага праектавання ў машынабудаванні ў 1978 стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. Аўтар многіх манаграфій, брашур, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, артыкулаў. Займаўся грамадскай дзейнасцю, быў нам. старшыні акадэмічнай рады Таварыства бел. мовы імя Ф. Скарыны. Актыўна выступаў у друку; частка яго лістоў да родных з ГУЛАГа надрукавана ў газ. «ЛіМ» (2000) і «Гродзенская праўда» (2001). Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР у 1970.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Основы автоматизации проектирования технологических приспособлений. Мн., 1985; САПР станочных приспособлений. М., 1986; Создание программных средств САПР приспособлений. Мн., 1991; Сустрэча праз дзесяцігоддзе // *Маладосць*. 2000. № 11; Свабода там, дзе сумленне [Прадмова да кнігі] // *Чэмер А*. Партрэты. Вільнюс, 2001; *Слоўнік тыпу INSITU беларускай мовы: Слоўнік, граматычны даведнік і збор тэкстаў для вывучаючых беларускую мову*. Мн., 2002.

Літ.: *Савік Л*. Космас беларуса. 2 выд. Мн., 1998. С. 261—267; *Савік М.П*. Узыходжанне Алеся Раковіча // *Голас Радзімы*. 1997. 14, 21 жн.; *Яго ж*. Варта жыць дзеля Радзімы: жыццё і лісты Алеся Раковіча // *ЛіМ*. 2000. 22 вер.; *Яго ж*. Зямлі сваёй адданы сын // *Памяць: Гістарычна-дакументальная хроніка Карэліцкага раёна*. Мн., 2000. С. 507—509; *Яго ж*. З верай у перамогу дабра // *Звязда*. 2001. 20 лют.;

*Яго ж*. Да кібернетыкі праз ГУЛАГ // *Гродзенская праўда*. 2001. 7 крас.; *БЭ,* т. 13.

**РАКОВІЧ-ГОРЫН Мацвей Аляксандравіч** [1909, Мазыр — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], журналіст. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту выконваў абавязкі рэдактара аддзела прапаганды і самаадукацыі Камітэта па радыёвяшчанні Ленінградскай вобл. (?). Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «контррэвалюцыйную і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**РАКУЦЬКА Янка (Ян)** [1900, в. Жываглодавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Першамайск, Салігорскага р-на Мінскай вобл. — ?], бел. нацыянальны дзеяч. З 1917 вучыўся ў Слуцкай агульнай бел. земскай гімназіі, якую скончыў у 1920. Узначальваў культурніцкае таварыства «Папараць-кветка», настаўнічаў. У 1920—21 загадчык дзіцячага дома ў Бабруйску. За намаганні перавесці навучанне ў прытулку на бел. мову зняты з пасады і арыштаваны. У 1921—24 выкладаў беларусазнаўства на агульнаасветных курсах, у сямігодках і палітшколах Бабруйскай акругі і Мінска. У 1922 паступіў на сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ, у кастр. 1927 выключаны. З 1924 да кастр. 1929 працаваў інфарматарам па арганізацыйна-масавай рабоце арганізацыйнага аддзела ЦВК БССР. У 1930 праходзіў па справе «СВБ». Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Слуцкі збройны чын 1920 у дакумэнтах і ўспамінах.* Мн., 2001.

**РАМАНАЎ Стафан Паўлавіч** [1.1.1912, ст. Уза Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Буда-Кашалёўскі р-н Гомельскай вобл. — 9.1.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту інструктар ЦК ЛКСМБ. Арыштаваны 15.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Паштовая, д. 26, кв. 1. Асуджаны 3.1.1938 «тройкай» НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.4.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа Р. № 24049-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАМАНОВІЧ Валянцін Сцяпанавіч** [20.10.1911, мяст. Карэлічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 2.2.1945, Вільня, «Смерш»], бел. мастак. графік і жывапісец. Скончыў Навагрудскую польскую гімназію імя А. Міцкевіча, мастацкі ф-т Віленскага ун-та (1934), вучыўся таксама на яго медыцынскім ф-це. Раннія жывапісныя творы Р. «Срэбраная рака», «Сосны», «Зіма», «Звозяць лёд» пазначаны пошукам каларыту, аўтарскага стылю. Захоплены помнікамі архітэктуры, асабліва сярэднявечча, напісаў шэраг жывапісных карцін, у тым ліку «Вежа замка ў Троках», «Рыцарская зала», «Фрагмент нясвіжскіх пакояў», «Віленская сінагога». Пасля ўдзе-

лу ў 2-й Міжнароднай выстаўцы ў Варшаве ў 1936, дзе былі паказаны графічныя работы Р. «Сьвяты Ян Хрысціцель», «Касцёл Пятра і Паўла на Антокалі», запрошаны Інстытутам мастацтва ў Чыкага прыняць удзел у 6-й і 7-й міжнародных выстаўках літаграфіі і гравюры па дрэве. Эксперыментаваў з рознымі тэхнікамі гравюры, абагульніў свой досвед у публікацыі «Аб тэхніцы графікі». У другой палове 1930-х г. стварыў графічную серыю «Тракайскі замак», якая налічвала 30 гравюр, а таксама графічны цыкл з шасці кампазіцый «Дрэвы». Сярод іх медзярыт «Над Svіцяззю». На пачатку 1940-х г. стварыў графічныя творы «Вежа Ковенскага замка», «Стэфан Баторы», «Пабернардынскія муры», «Казіміраўскі завулак пасля бамбардзіроўкі» (1944), а таксама экслібрысы. У снеж. 1944 арыштаваны «Смершам» і неўзабаве забіты. Родныя нават не маглі атрымаць весткі аб смерці. Чым мастак выклікаў падазрэнне савецкай контрразведкі, застаецца загадкай. Пасля смерці Р. яго творы экспанаваліся на выстаўках у Торуні ў 1945, 1946, 1958 і 1987 і ў 2001 на радзіме, у Карэлічах. Творчая спадчына Р. захоўваецца ў музеі і ва ун-це г. Торунь, у прыватных асобаў у Вільнюсе, сваякоў мастака, а таксама ў Карэліцкім краязнаўчым музеі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

Літ.: *Кошур С.* Упершыню на радзіме, у Карэлічах // *Кантакты і дыялогі.* 2001. № 12.

**РАМАНОВІЧ Кастусь** [1.1.1927, в. Лозкі, цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 2005, Пінск], інжынер-будаўнік, актывіст дэмакратычнага ветэран-

скага руху. У другой палове 1930-х — пачатку 1940-х г. вучыўся ў школе ў роднай вёсцы, з вер. 1942 — у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. У 1943 уступіў у СБМ, вясной 1944 — у беларускую афіцэрскую школу БКА ў Мінску. Пасля прыходу Савецкай арміі вярнуўся ў Навагрудак, вучыўся ў педагагічным вучылішчы. Арыштаваны органамі НКВД 13.12.1944. Асуджаны асобай нарадай пры МДБ ў чэрв. 1946 да 3 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Варкуцінскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены ў вер. 1946 (верагодна, па амністыі і з улікам адбытага тэрміну). Вярнуўся на Радзіму. Вучыўся ў вячэрняй школе рабочай моладзі. Зноў арыштаваны 30.5.1947 як «член падпольнага «Саюза вызвалення Беларусі» (СВБ) у Навагрудку». Пад следствам знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме і мінскай турме МДБ. 30.8.1947 трыбуналам МУС на закрытым судовым паседжанні прыгавораны (разам з 18 іншымі сябрамі СВБ) да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны (з сябрамі СВБ Пятром Дземянчуком і Міхасём Кожычам) праз перасыльны пункт у Аршанскай турме ў Пячорскі канцлагер МДБ Комі АССР. У Беларусь вярнуўся ў 1955. У 1990-я г. член грамадзкага аб'яднання «Ветэраны адраджэння». Напісаў успаміны (пакуль не выдадзеныя).

Кр.: *Беларускі рэзыстанс*. 2004. № 1. С. 80—84.

**РАМАНОВІЧ Канстанцін Ціханавіч*** [1904, в. Каменка Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], работнік культуры. З сялянскай сям'і. У 1920—22 у Чырвонай арміі. Атры-

маў вышэйшую адукацыю. З 1925 член ВКП(б). Падчас арышту загадчык бібліятэкі Мінскага садова-агароднага інстытута. Арыштаваны 13.9.1933 у Лошыцы (цяпер у межах Мінска). Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Далёкаўсходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю, потым Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалены ў 1938. У 1941 пайшоў добраахвотнікам на фронт, у канцы 1941 — пачатку 1942 трапіў у палон. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Р. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РАМАНОЎСКІ Вацлаў Антонавіч*** [1908, Віцебск — 9.7.1938, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і рабочага. Скончыў сярэднюю школу. Працаваў у газ. «Ударнік Дзяржыншчыны» (?). У 1933 уступіў у ВКП(б). Арыштаваны ў Мінску ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938 пракуратурай СССР за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 6.6.1956. Асабовая справа Р. № 6876-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАМАНОЎСКІ Уладзімір Ігнатавіч*** [1896, Віленская губ. — 29.7.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую

адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. наркама сувязі СССР. Арыштаваны 8.1.1938 у Маскве па адрасе: Крывакаленны зав., д. 16, кв. 13. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.7.1938 за «антысавецкую тэрарыстычную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.5.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**РАМАНЧУК Іван** [1920, в. Баяры Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ліст. 1987, Барысаў Мінскай вобл.], педагог, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў узброенага антысавецкага падполля. З ліст. 1941 да ліп. 1942 настаўнік пачатковай школы ў в. Еськавічы Нясвіжскага р-на, затым інструктар Нясвіжскага раённага аддзела БНС. З канца 1943 да сак. 1944 кіраўнік Беларускага дома культуры ў Нясвіжы. Пасля прыходу савецкіх уладаў зарэгістраваўся як настаўнік у Нясвіжскім раённым аддзеле народнай адукацыі і быў прызначаны загадчыкам школы ў в. Высокая Ліпа. Але папрацаваў толькі 3 тыдні, бо даведаўся пра цікавасць да сябе органаў НКВД. Каб стаць менш заўважным, пакінуў работу ў сферы адукацыі і ўладкаваўся (жн. 1944) сталяром у майстэрню Баранавіцкага дэпо. У вер. 1944 пад пагрозай арышту перайшоў на нелегальнае становішча, хаваўся ў лясах Нясвіжскага р-на. У маі 1947 да яго далучыўся М.*Дэмух*, а вясной 1948 — Б.*Буко*. На працягу 1947—49 група Р. здзейсніла шэраг нападаў на партыйна-савецкіх супрацоўнікаў, фінансавых агентаў і служачых унутраных сілаў, а таксама правяла рэквізіцыі на поштах і ў крамах. У маі 1949 аддзел Р. быў абложаны на адным

з хутароў Нясвіжскага р-на. Паранены трапіў у палон. У ходзе следства яму інкрымінавалася і стварэнне падпольнага «Саюза барацьбы за вызваленне Беларусі», распрацоўка яго статуту і праграмы, а таксама прыцягненне ў шэрагі арганізацыі больш за 40 чалавек. 17.11.1949 трыбуналам Беларускай ВА асуджаны да 25 гадоў ППК. Зняволенне адбываў у Варкуце і ў Мардоўскіх канцлагерах. У ходзе перагляду справы пастановай трыбунала БВА 10.12.1955 абвінавачанне ў стварэнні падпольнай арганізацыі было знята. У Беларусь вярнуўся ў 1970-х г. Жыў у Барысаве. Памёр падчас аперацыі ў шпіталі. Не рэабілітаваны.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Кісель У.* Сваю маладосць мы прысвяцілі незалежнасці Беларусі // *Пагоня.* 1998. 17 сак.; *Антысавецкія рухі*; *Валаханович И. А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**РАМАНЧУК Сымон** [1916, в. Баяры Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, вайсковы дзеяч. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, польскую школу падхарунжых. Прымаў удзел у нямецка-польскай вайне ў вер. 1939. З 1940 у родных мясцінах хаваўся ад НКВД, ездзіў у Львоў. У час нямецкай акупацыі працаваў у грамадзянскай адміністрацыі Нясвіжа. З сак. 1944 старшы лейтэнант БКА, узначальваў персанальнае бюро пры Галоўным кіраўніцтве БКА. У 1944—45 служыў у бел. вайсковых аддзелах у Германіі. У 1945 арыштаваны і зняволены ў мінскай турме МДБ, адкуль у лют. 1946 здзейсніў няўдалыя ўцёкі. Асуджаны да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Інцінскі (потым Міне-

ральны) канцлагер МДБ Архангельскай вобл. і Комі АССР (Інта). У 1949 увайшоў у кіраўніцтва падпольнай інтэрнацыянальнай арганізацыі, якая рыхтавала паўстанне вязняў. У 1950 у выніку здрады ўсё кіраўніцтва падполля было арыштавана. Паводле некаторых звестак, Р. быў асуджаны да ВМП.

Літ.: *Геніюш Л.* Споведзь. Мн., 1993; *Клімовіч Р.* Паўстанне духу // *ЛіМ.* 1995. 2 чэрв.; *Палескі А.* [Ёрш С.] За ідэалы 25 сакавіка беларусы змагаліся й у савецкіх канцлагерах // *Голас камбатанта.* 2001. № 1.

**РАМАНЮК Васіль Ігнатавіч*** [1921, Брэсцкая вобл. (?) — ?], да асуджэння жыхар Беларусі, брат Янкі *Раманюка*. Арыштаваны 20.5.1950 у Станіслаўскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры МДБ СССР 12.12.1950 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да высылкі ў Томскую вобл. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Базы дадзеных УУС Томскай вобл.*

**РАМАНЮК Янка (Іван) Ігнатавіч*** [1935, Брэсцкая вобл. (?) — ?], да асуджэння жыхар Беларусі, брат Васіля *Раманюка*. Арыштаваны 20.5.1950 у Станіслаўскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры МДБ СССР 12.12.1950 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да высылкі ў Томскую вобл. 13.4.1963 прыгавораны па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда». Паводле дадзеных следства, «спрабаваў стварыць у калоніі са зняволеных антысавецкую арганізацыю, усталяваўшы сувязі з украінскімі нацыяналістамі» (з якімі, выкарыстоўваючы шыфр, падтрымліваў нелегальную перапіску). Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 93941; *Базы дадзеных УУС Томскай вобл.*

Літ.: *58*[10], с. 630.

**РАМАСЛОЎСКІ Міхаіл Баляслававіч*** [1873, Рыга, цяпер Латвія — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў эканамістам. Арыштаваны 13.1.1931 у Самары. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». 11.2.1931 паводле пастановы асобага аддзела АДПУ Прыволжскай ВА справа Р. была спынена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 18.10.1991.

Кр.: *Белая книга*.

**РАНДАРЭВІЧ Пётра*** [? — ліп. 1942, Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл.], бел. грамадскі дзеяч, настаўнік. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-х г. сябра Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У 1941 прыехаў у Беларусь з Польшчы для работы ў грамадзянскай адміністрацыі і школьніцтве. У 1942 узначальваў БНС у Шчучыне. Пасля пастаноўкі п'есы Я.*Купалы* «Паўлінка» ў в. Ракевічы затрыманы (верагодна, польскімі партызанамі). Пасля катаванняў расстраляны.

Літ.: Лёс аднаго пакалення. Беласток, 1996.

**РАПАПОРТ Рыгор Якаўлевіч** [1890, мяст. Глуск Мінскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 10.2.1938 Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі дзяржаўны дзеяч. З сям'і гандляра, да 1917 служыў у гандлярскай канторы. З 1918 камісар-следчы, нам. начальніка Крымінальнага аддзела Маскоўскай надзвычайнай

камісіі. У 1921—27 нам. начальніка Ленінградскага акруговага транспартнага аддзела АДПУ. З 1928 паўнамоцны прадстаўнік АДПУ ў Крыме, з 1929 пры СНК СССР па БВА. З 1931 паўнамоцны прадстаўнік АДПУ па Урале, з 1934 паўнамоцны прадстаўнік НКВД па Сталінградскім краі. З 1936 начальнік інспекцыі па якасці Наркамата харчовай прамысловасці СССР. Арыштаваны 16.7.1937 у Маскве па адрасе: Фурманны зав., д. 15, кв. 33. Асуджаны 8.2.1938 тройкай НКВД за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.9.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**РАСІН Лазар Абелевіч*** [18.9.1898, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], навуковец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту вучоны сакратар Інстытута эканамічных даследаванняў. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.2.1931 у Мінску па адрасе: вул. Берсана, д. 2/3, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 28.7.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер (Марыінск, Кемераўская вобл.). Верагодна, у канцы 1930-х г. асуджаны паўторна. Вызвалены 28.5.1953. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 11.10.1957. Асабовая справа Р. № 11457-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАТУЛЬД Аляксандр Раманавіч*** [1893, Тыфліс, цяпер Тбілісі, Грузія — 5.5.1941, ?], мастак. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 5.12.1939 у Стоўбцах па адрасе: пл. Базарная, д. 34. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 22.3.1941 як «агент стаўпецкай разведпляцоўкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Беларусі 13.6.1995. Асабовая справа Р. № 36586-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАХОЎСКІ Якаў Абрамавіч*** [1895, Мазыр Мінскай губ., цяпер Гомельская вобл. — ?], навуковец. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Беларускага мікрабіялагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.12.1933 у Мінску па адрасе: вул. Базарная, д. 4, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Р. № 6743-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАЧКОЎСКІ Андрэй Майсеевіч** [1901, Мінская губ. (?) — ?], артыст. З бел. сям'і. Працаваў у Беларускім драматычным тэатры (?). Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.1.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Прыморскай ВА 26.8.1958.

Кр.: *Белая книга.*

**РОГАЧ Пётр Пятровіч*** [1883, в. Каралёўцы Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі (?) р-н Мінскай вобл. — 21.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аднаўленчага цягніка ст. Ленінград Варшаўскай лініі Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 24.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. 12-я Чырвонаармейская, д. 14, кв. 15. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.11.1937 за «шпіянаж» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**РОДЗЕВІЧ Іван Вікенцевіч*** [1870, Гродзенская губ. — 12.3.1933, Масква, НКВД], агроном. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік Украінскага трактарнага цэнтра. Арыштаваны 15.12.1932 у Харкаве па адрасе: вул. Уладзіміраўская, д. 26. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 11.3.1933 за «шпіянаж і шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны 12.3.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**РОДЗЕВІЧ Іван Францавіч** [1871, Ашмянскі пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 23.12.1937, Томск, НКВД], чыгуначнік. Падчас арышту старшы машыніст чыгуначнай электрастанцыі Томск-2. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 4.12.1937

як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.11.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**РОДЗЕВІЧ Іосіф Іванавіч*** [1889, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 3.4.1930, Масква, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту памочнік механіка Трохгорнага піваварнага завода. Арыштаваны 7.6.1929 у Маскве па адрасе: Новае шасэ, д. 18, кв. 1. Асуджаны 22.3.1930 паводле пастановы калегіі АДПУ за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны 16.1.1989.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**РОДЗЕВІЧ Леапольд Іванавіч*** [1907, Санкт-Пецярбург — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец, поўны цёзка Леапольда Іванавіча *Родзевіча*. Член ВКП(б) з 1930. Падчас арышту начальнік вагоннага дэпо ст. Мурманск. Арыштаваны 24.9.1937 у пас. Красная Горка, д. 14, кв. 8. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны 14.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**РОДЗЕВІЧ Мікалай Баляслававіч*** [1891, Магілёў — 26.2.1939, Масква, НКВД], службовец. Атры-

маў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту тэхнічны дырэктар завода «Серп і Молат». Арыштаваны 22.7.1938 у Маскве па адрасе: вул. Карла Маркса, д. 4/1, кв. 21. Асуджаны 26.2.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.8.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**РОДЗЬКА Усевалад Філарэтавіч** [1920, в. Чучавічы Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл. — 1946 (?)], бел. паліт. і вайсковы дзеяч, публіцыст. Скончыў Навагрудскую польскую гімназію імя А.Міцкевіча (1938), пасля падафіцэрскую школу ў Замброве. У вер. 1939 прымаў удзел у нямецка-польскай вайне, трапіў у нямецкі палон, адкуль вызваліўся ў жн. 1940. Узначаліў Кракаўскую філію Варшаўскага беларускага камітэта. Увайшоў у групу В.*Гадлеўскага*, якая арганізоўвала падпольную Беларускую незалежніцкую партыю. З вясны 1941 супрацоўнічаў з Абверам. З ліп. 1941 бургамістр Віцебска, праводзіў беларусізацыю горада. Арганізатар нацыянальнага падпольнага і партызанскага руху, з 1942 старшыня ЦК БНП (псеўданім «Воўк»). Выступаў з публіцыстыкай у легальным і нелегальным друку. Сябра БЦР, адказны за работу з моладдзю. З сак. 1944 камандзір 15-га батальёна БКА. Распрацаваў план антынямецкага паўстання ў Мінску, якое меркавалася ўзняць у час правядзення 2-га Усебеларускага кангрэса. З лета 1944 знаходзіўся ў Германіі, быў адным з камандзіраў бел. дэсантнага батальёна «Дальвіц». З чэрв. 1945 жыў пад чужым про-

звішчам у Польшчы, арганізоўваў падпольныя структуры. Арыштаваны і дэпартаваны ў Мінск у 1945. У 1946 на судовым працэсе над кіраўніцтвам БНП асуджаны да ВМП (паводле іншых звестак, атрымаў вялікі тэрмін зняволення, які адбываў у Сібіры).

Літ.: *Ерш С.* Арыштаваны ў Беластоку // *Ніва.* 1997, 7 ліп.; *Яго ж.* Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мн.—Слонім, 1998; *Ткаченко Е.* Среди живых и мертвых // *БДГ.* 2001, 22 ноября.

**РОЗЕНГОЛЬЦ Аркадзь Паўлавіч** [1889, Віцебск — 15.3.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, кандыдат эканамічных навук. З купецкай сям'і. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07 і Кастрычніцкага перавароту 1917. З 1918 член Рэўваенсавета Рэспублікі, рэўваенсаветаў шэрага армій Усх., Зах. і Каўказскага франтоў. З 1923 начальнік Ваеннапаветраных сіл РСЧА, нам. наркама, у 1930—37 наркам знешняга гандлю СССР. Член ВЦВК і ЦВК СССР у 1919—37, ЦКК ВКП(б) у 1927—34. Аўтар брашур і артыкулаў пра ўстанаўленне савецкай улады, знешні гандаль СССР і інш. Арыштаваны 7.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2, кв. 237. Асуджаны 13.3.1938 тройкай НКВД за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.2.1988 пленумам Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: *БЭ,* т. 18—1.

**РОЗІН Сяргей Пятровіч*** [кастр. 1896, Яраслаўль, цяпер Расія — 28.6.1938, Мінск, НКВД], навуковец. З

сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1919 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 6.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Паштовая, д. 11, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 за «шкодніцкую работу, удзел у падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта» і як «актыўны член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 19.7.1957. Асабовая справа Р. № 10775-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РОЗНЕР Эдзі** (Адольф-Эдуард; сцэнічныя псеўданімы ў Германіі і Польшчы — Адзі, Джэк; імя і імя па бацьку паводле пашпарту ў СССР — Эдуард Ігнацевіч) [26.5.1910, Берлін — 8.8.1976, Зах. Берлін], джазавы трубач, кампазітар, аранжыроўшчык, шоўмэн. У 1929 скончыў Вышэйшую музычную школу ў Берліне. Віртуозна валодаў ігрой на трубе. У 1933 стварыў у Берліне джазавы аркестр. З узмацненнем антысеміцкай палітыкі ў нацысцкай Германіі ў 1935 адмовіўся туды вярнуцца пасля еўрапейскага турнэ. Праз Цюрых і Прагу дабраўся да Польшчы. З 1936 працаваў у аркестры Ю. Бяльзацкага, узначальваў аркестры ў Варшаве, Кракаве, Лодзі. Працягваў гастрольную дзейнасць у Еўропе. Амерыканская фірма гуказапісу «Columbia Records» выпусціла яго альбом у серыі «Сусветна вядомыя музыканты». Пасля нападзення 1.9.1939 Германіі на Польшчу Р. апынуўся ў Львове, адкуль у кастр. запрошаны ў Беласток, дзе фармаваўся джазавы аркестр

БССР. У 1940 узначаліў Дзяржаўны джаз-аркестр БССР, які стаў лепшым свінгавым біг-бэндам СССР 1940-х г. 18 і 21.4.1940 у Мінску адбыліся першыя канцэрты аркестра, якія выклікалі сапраўдны ажыятаж. У вер. 1940 аркестр нечакана запрасілі дзеля аднаго канцэрта ў Сочы, дзе ён выступіў перад пустою залаю. На наступны дзень высветлілася, што ў зашторанай ложы сядзеў Сталін, якому канцэрт спадабаўся. Гэта стала для Р. «парасонам бяспекі», а ў студз. 1944 Р. атрымаў званне «Заслужаны артыст БССР». У другой палове 1944 аркестр вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў пры асабістым спрыянні П. Панамарэнкі. 18.8.1946 у газ. «Известия» з'явіўся артыкул «Пошлость на эстраде», які быў фактычна публічным даносам. 28.11.1946 Р. арыштавалі ў Львове (адкуль ён спрабаваў выехаць у Польшчу) і этапавалі ў Маскву, дзе зняволілі на Лубянцы. Пастановай асобнай нарады пры МДБ 7.7.1947 ён быў асуджаны да 10 гадоў ППК і этапаваны ў адзін з Магаданскіх канцлагераў. Створаны Р. джаз-аркестр 1.8.1947 распусцілі, і ён ніколі ўжо не быў адноўлены. У лагеры Р. зноў арганізаваў аркестр, выступы якога прыносілі вялікі прыбытак лагернаму начальству. Вызвалены 22.5.1954. Рэабілітаваны (1954). У Маскве нейкі час жыў у кватэры А.Райкіна. Працягваць музычную дзейнасць у Мінску ўлады БССР не дазволілі. Кіраваў эстраднымі аркестрамі Масквы, з 1969 — аркестрам, фармальна прыпісаным да Гомельскай абл. філармоніі. Аўтар шматлікіх папулярных песень і танцавальных мелодый: «Навошта смяяцца, калі сэрцу балюча», «Хлопец-хлапчук», «Бывай каханне»; агучваў фільм «Карнавальная ноч». Шматлікія творы ў выкананні аркестраў пад яго

кіраўніцтвам запісаны на грампласцінках. У 1972, страціўшы з-за стану здароўя магчымасць іграць на трубе, пакінуў сцэну. Пераехаў у Зах. Берлін. Наступныя 16 гадоў яго імя ў СССР зноў апынулася пад забаронай, а грамзапісы не распаўсюджваліся.

Літ.: *Цейтлин Ю.В.* Взлеты и падения великого трубача Эдди Рознера. М., 1993; *Басин Я.* Музыка и тьма // *JAZZ-квадрат*. 1998, № 1—8; *Яго ж.*Эдзі Рознер — легенда беларускага джаза // *Край = Kraj* (Polonika — Albaruthenica — Lithuanica). 2002. № 3—4.*Петров А.* Черный кот in blue. М., 1998. С. 42—54.

**РОМАШ Антон Фёдаравіч*** [1895, в. Чахец Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 27.4.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Апошняе месца работы — эканаміст наркамата саўгасаў. Арыштаваны 3.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Новая Басманная, д.10, кв. 84. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.2.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы і ўтварэнне ў 1936 баявой тэрарыстычнай групы з польскіх перабежчыкаў» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 26.11.1955. Асабовая справа Р. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РУБАНАВА Рэвека Міхайлаўна*** [1905, Навазыбкаў Чарнігаўскай губ., цяпер Бранская вобл., Расія — ?], актрыса. З сям'і рабочага. Атрымала сярэднюю аду-

кацыю. У 1919—20 член сіяніскай (па запісах следчых-энкавэдыстаў) арганізацыі «Югенд Паалей-Цыён», з 1922 член яе маскоўскага камітэта. Да арышту працавала ў Беларускім драматычным тэатры, узнагароджана ордэнам. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 19.7.1940 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 168, кв. 11. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 26.4.1941 за «антысавецкія выказванні, выданне дзяржаўнай тайны, незаконнае захоўванне агнястрэльнай зброі» да 8 (?) гадоў ППК. Этапавана ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, Хабараўскі край; бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Затым, магчыма, пераведзена ў Каргопальскі канцлагер МДБ Архангельскай вобл. Вызвалена 1.5.1948. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 23.12.1955. Асабовая справа Р. № 6844-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**РУБАНОЎСКІ Андрэй Васілевіч** [1906, в. Ляхаўка Магілёўскага пав., цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], лётчык. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 1.11.1929 у в. Ляхаўка. Асуджаны 20.1.1930 калегіяй АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў высылкі ў Паўночны край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 9.6.1989 пастановай пракуратуры Магілёўскай вобл. Асабовая справа Р. № 10342-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РУБАНЦ Н. А.*** [н. 1937], жыхар Баранавіцага р-на Брэсцкай вобл., навучэнец. Падчас арышту вучыўся ў 5-м класе СШ. Паводле дадзеных следства, 22.5.1953, рыхтуючыся да экзаменаў, напісаў каляровымі алоўкамі дзве лістоўкі з заклікам да паўстання супраць савецкай улады, намаляваў на іх свастыку і «амерыканскі знак». Лістоўкі павесіў на тэлеграфным слупе. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 25.7.1953. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 39918.

Літ.: *58[10]*, с. 165—166.

**РУБІН Анатоль Пінхусавіч*** [н. 1928, Мінск], педагог. З яўрэйскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1950-я г. выкладчык фізкультуры Беларускага політэхнічнага інстытута. Паводле сведчання следства, на Маскоўскім маладзёжным фестывалі 1957 Р. атрымаў ад «ізраільскай дэлегацыі брашуру, сустракаўся з супрацоўнікамі замежных пасольстваў і замежнымі турыстамі. На працягу 1957—58 разам з Я.*Хейфіцам* і Г.*Ясялевічам* абмяркоўваў палітыку савецкага ўрада ў адносінах да яўрэяў». Арыштаваны 8.12.1958 у Мінску па адрасе: Праезны зав., д. 3, кв. 8. Асуджаны 29.4.1959 паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» да 6 месяцаў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 20 або 30 снеж. 1964. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Р. № 19121-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 85052; Ф. 9474, воп. 41, спр. 3087; *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *58[10]*, с. 521—522.

**РУБІН Арэст Андрэевіч*** [1891, в. Папоўка Магілёўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Круглянскі р-н Магілёўскай вобл. — 1.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1917 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — дырэктар канторы Маслапрам Любыцінскага р-на Ленінградскай вобл. Арыштаваны 23.6.1937 у Пушкіне Ленінградскай вобл. па адрасе: вул. Камінтэрна, д. 9, кв. 12. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у Ленінградзе 1.12.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РУБІНЧЫК Ісак Борухавіч (Сімхавіч)** [1897, Беласток, цяпер Польшча — 27.11.1938, Мінск, турма НКВД], спявак. Працаваў, верагодна, на Беларускім дзяржаўным радыё. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны (хутчэй за ўсё, у 1937) у Мінску па адрасе: вул. Мясніцкая, д. 8, кв. 2. Асуджаны 12.11.1938 «тройкай» НКВД як «агент англійскай разведкі і ўдзельнік контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі «Левы Гехалуц» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.11.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 7815-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РУБІНШТЭЙН (Вайхман) Давыд (Якаў) Навумавіч*** [29.5.1902, Лодзь, цяпер Польшча — 27.11.1938,

Мінск, НКВД], навуковец, журналіст. З сям'і рабочага. Уступіў у ВКП(б). Працаваў у мінскай польскай газ. «Орка» («Ворыва»), «Рабочым». Падчас арышту навуковы супрацоўнік камісіі па вывучэнню Зах. Беларусі пры БелАН. Арыштаваны 4.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 64. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.11.1937 за «шпіянаж на карысць разведкі буржуазнай Польшчы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.3.1956. Асабовая справа Р. (адноўленая) № 5897-с захоўваецца ў архіве КДБ СССР.

**РУБЦОЎ Барыс Аляксандравіч*** [1893, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 31.10.1942, ГУЛАГ], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык МБПТ. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Жыў у Мінску па адрасе: вул. Гарбарная, д. 10, кв. 1. Арыштаваны 9.8.1941 (?). Асуджаны 2.2.1942 «тройкай» НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Свіяжскі канцлагер НКВД Татарскай АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 29.4.1990 калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Р. № 31095-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РУДЗІК Уладзімір Аляксандравіч*** [1893, Пінск Мінскай губ., цяпер Брэсцкай вобл. — 4.12.1937, Масква, НКВД], фінансіст. З сям'і бел. службоўца. Меў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік фінансавага аддзела завода трэ-

ста «Аргметал». Арыштаваны 29.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Пушкіна, д. 7/5, кв. 24. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 27.11.1937 як «падазроны ў шпіёнскай дзейнасці і контррэвалюцыйнай трацкісцкай агітацыі, накіраванай на падрыў аўтарытэту савецкай дзяржавы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.11.1957.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**РУДЗІНСКІ Яўген Мікалаевіч*** [12.2.1900, Пінск — 27.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З сям'і рабочага. Член ВКП(б) з 1924. Да арышту старшыня Дзяржынскага раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 8.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Фабрыцыуса, д. 15, кв. 1/10. Асуджаны 25.10.1937 «тройкай» НКВД як ««удзельнік шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.6.1957 Вярхоўным судом Беларусі. Асабовая справа Р. № 10525-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Фабрыцыуса, д. 15, кв. 1/10 была арыштавана ўрач 3-й дзіцячай кансультацыі Быхоўская Віхна Барысаўна (н. ў 1901 у пас. Гарадзец, цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. ў сям'і службоўца), верагодна, жонка Яўгена *Рудзінскага*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 28.12.1989 пракуратурай Мінскай вобл. Асабовая справа Б. № 29490-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РУДЗЯНОК (РУДЗЁНАК) Андрэй Антонавіч*** [1905, в. Цярэшкава (?) Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі (?) р-н Віцебскай вобл. — 30.10.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У 1928 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту студэнт Камуністычнага ун-та імя Крупскай. Арыштаваны 31.7.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, вул. 2-я лінія, д. 9, кв. 14. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 21.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РУДНІЦКІ Васіль Рыгоравіч*** [1899, в. Пакелеўка (?) Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі (?) р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дырэктар Калінінскага педагагічнага інстытута ў Клімавічах (?). Арыштаваны 11.12.1936. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 27.10.1938 за «контррэвалюцыйную нацдэмаўскую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай прэзідыума Вярхоўнага суда БССР ад 13.6.1956. Асабовая справа Р. № 5382 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**РУДНЫ Юлій Вікенцевіч*** [1887, Ліда Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 15.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і.

Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — нам. начальніка Цэнтральнага грузавога ўпраўлення наркамата шляхоў зносін СССР. Арыштаваны 29.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Спірыдоньеўская, д. 18/20, кв. 7. Асуджаны 14.2.1938 за «сакрэтнае супрацоўніцтва з жандармскім упраўленнем і выдачу падпольнай друкарні з рэвалюцыйна настроенымі працоўнымі» (?) да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.5.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**РУЛІНСКІ Мікалай Максімавіч** [1923, Баранавіччына — 2002, Вільня], педагог, вайсковы дзеяч. Малодшы сын рэпрэсаванага ў 1945 і ў 1951 праваслаўнага святара Максіма Іванавіча Рулінскага. Скончыў пачатковую школу ў Любчы (цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.), вучыўся ў Віленскай бел. гімназіі (да пачатку 2-й сусветнай вайны), Навагрудскай настаўніцкай семінарыі (у час нямецкай акупацыі). З 1943 служыў у бел. эскадроне ў Навагрудку. Летам 1944 выехаў ва Усх. Прусію. Лейтэнант БКА, сябра БНП. У 1944 ратаваў з акружанай Чырвонай арміяй Рыгі архіў генерала К.*Езавітава*. З 1945 жыў у Польшчы. Арыштаваны ў 1949. Перавезены ў Маскву, потым у Мінск. Асуджаны як «член СБМ і за здраду радзіме» да 25 гадоў ППК. Этапаваны ў Камышовы канцлагер (пас. Альжэрас Мыскаўскага р-на Кемераўскай вобл.), потым у Омскі канцлагер. Вызвалены ў 1957, жыў у Грыгішках пад Вільняй. Прымаў удзел у грамадска-культурным жыцці беларусаў Літвы, пісаў вершы.

Літ.: *Ёрш С.* Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мн.—Слонім, 1998; *С. Ё.* [Ёрш С.] In memoriam // *Наша ніва.* 2003. 10 студз.

Кр.: Беларускі рэзыстанс. 2004. № 1.

**РУНЦО Андрэй Пятровіч*** [1900, в. Наваселле Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], навуковец, хімік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце хіміі БелАН. Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Працаваў на заводзе хімікам, прыводзіў у парадак архівы і бібліятэку АН БССР. Арыштаваны ў Мінску ў другой палове 1944 па адрасе: пас. Фрунзе (цяпер р-н вул. Вялікаморскай), д. 10. кв. 1 (верагодна, жыў у доме *Мараковых*). Асуджаны пазасудовым органам 13.5.1946 за «службу ў нямецкіх акупантаў» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.9.1961. Асабовая справа Р. № 4840-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РУСАК Яўген** [1908, Маладзечаншчына — ?], удзельнік 2-й сусветнай вайны, вязень савецкіх канцлагераў. У 1940 арыштаваны НКВД і высланы ў Сібір. У 1941 альбо 1942 уступіў у армію пад камандаваннем генерала У.Андэрса. Удзельнік італьянскай кампаніі. Пасля вайны вярнуўся ў Беларусь. У 1951 арыштаваны органамі МДБ і разам з сям'ёй дэпартаваны ў Іркуцкую вобл. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 46.

**РУСЕЦКІ Эдмунд Сігізмундавіч** [24.8.1893, в. Жданы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 4.3.1938, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Удзельчаў у 1-й сусветнай і грамадзянскай войнах. У 1920—29 працаваў у Наркамземе БССР, у 1924—27 нам., першы нам. наркама земляробства. Член ЦКК КП(б)Б. Падчас арышту начальнік Белканторы па якасці торфу. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 75, кв. 1. Асуджаны 15.2.1938 тройкай НКВД як «рэзідэнт польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.11.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 11106-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ. *ЭГБ*, т. 6—1.

**РУТ (РУДНІЦКІ-ШОЛЬЦ) Рычард Ісакавіч*** [1899, Навагрудак Гродзенскай губ. — 8.12.1937, НКВД], вайсковец. З яўрэйскай рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту слухач Ваеннамедыцынскай акадэміі ў Ленінградзе. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 2.12.1937 асобай нарадай НКВД за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 2.9.1957 трыбуналам Маскоўскай ВА. Асабовая справа Р. № П-8438 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**РУШЫНГ Артур Аскаравіч*** [18.9.1900, Віцебск — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], вайсковец, удзель-

нік грамадзянскай вайны. З нямецкай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту працаваў у Віцебскім райваенкамаце. Арыштаваны 14.10.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Чырвонага Міліцыянера, д. 6, кв. 1. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай змовы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 1.8.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Р. № 12024-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

20.4.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Чырвонага Міліцыянера, д. 6, кв. 1 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей, Рушынг Анэля Фамінічна (нар. ў 1903 на ст. Бігосава, цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл., у сям'і службоўца), жонка Артура *Рушынга*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 11.12.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**РЫБАКОЎ Міна Адамавіч*** [1902, в. Калінаўка Магілёўскага пав., цяпер Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл. — 15.12.1937, Мінск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык вучэбнай часткі Мінскага тэхнікума ўліку народнай гаспадаркі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 51, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.11.1937 за «прыналежнасць да польскіх разведорганаў» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам

БВА 22.10.1957. Асабовая справа Р. № 10972-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РЫДЗЕЎСКІ Міхаіл Антонавіч*** [30.10.1885, Рэчыца Мінскай губ., цяпер Гомельская вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х г. дырэктар МБПТ. Падчас арышту загадчык вучэбнай часткі МВПІ. Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 30/5, кв. 11. (27.10.1933 у гэтай жа кватэры быў арыштаваны і Хаім *Манасзон*). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай тэрарыстычна-шпіёнскай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.5.1957. Асабовая справа Р. № 10284-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Мясніцкая, д. 26, кв. 61 арыштавана хатняя гаспадыня Рыдзеўская Алена Рыгораўна (н. 20.5.1889 у в. Масееўка Магілёўскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл.), жонка Міхаіла *Рыдзеўскага*. 28.11.1937 (?) асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 3.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 6659-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Мясніцкая, д. 26, кв. 61 разам з маці быў арыштаваны загадчык

вучэбнай часці МБПТ Рыдзеўскі Алег Міхайлавіч (н. ў 1919 у в. Сарочынцы, цяпер Харкаўская вобл., Украіна), сын Міхаіла *Рыдзеўскага*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК і этапаваны ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 6904-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЫЗВАНОВІЧ Хасень Іосіфавіч*** [1873, Мінск — ?], архіварыус. З шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту архіварыус Галоўміліцыі (?) БССР. Арыштаваны 21.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Вялікая Татарская, д. 23, кв. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 13.5.1933 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 10.11.1989. Асабовая справа Р. № 31371-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЫМАШЭЎСКІ Зянон Адамавіч*** [9.7.1905, Мінск — 26.12.1938, Мінск, НКВД], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт МВПІ. Арыштаваны 20.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Пуліхава, д. 17. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.12.1937 як «член ПАВ» і за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.9.1957. Асабовая справа Р. № 10827-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЫНЕЙСКІ Анатоль Іосіфавіч*** [21.2.1902, Бабруйск Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], навуковец, педагог. З сям'і службоўца. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў настаўнікам фізкультуры ў адной з Мінскіх СШ. Арыштаваны 14.5.1925 у Мінску па адрасе: вул. Новасерпухаўская, д. 10, кв. 2. Асуджаны 10.7.1925 паводле пастановы калегіі АДПУ за «захоўванне антысавецкай белаэсэраўскай літаратуры і не зарэгістраванага нагана» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Кіраўскую вобл. Вызваліўся, вярнуўся на радзіму. Працаваў навуковым супрацоўнікам у Беларускім дзяржаўным музеі. Зноў арыштаваны 18.10.1933 у Мінску. Асуджаны 20.1.1934 за «шпіёнскую і антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны па першай справе пракуратурай Беларусі 23.6.1992, па другой трыбуналам БВА 17.7.1961. Асабовыя справы Р. № 34146-с (з фотаздымкам) і № 17157-с захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЫНЕЙСКІ Антон Альгердавіч** [1903, ? — 27.8.1937, Мінск, НКВД], археолаг, гісторык, краязнавец. У 1929—37 працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН. Вывучаў археалагічныя помнікі Палесся і Міншчыны эпохі бронзы і жалезнага веку, дрыгавіцкія курганы, гарадзішчы. Арыштаваны 19.5.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР. Абвінавачваўся ў «шпіянажы на карысць Польшчы» і ва «ўдзеле ў шпіёнска-дыверсійнай дзейнасці ПАВ». 25.8.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Тв.: Разведачная археалагічная экспедыцыя // *Наш край*. 1929. № 8/9; Да археалагічнага вывучэння Беларусі // *Тамсама*. 1929.

№ 11; Археалагічныя разведкі на р. Пціч // *Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі БелАН*. 1932. Т. 3.

Літ.: *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919—1941 гг. Мн., 1992; *ЭГБ*, т. 6—1.

**РЫПІНСКІ (Рыпінскі-Радван) Аляксандр Феліксавіч** [каля 1811, в. Кукавячына Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 1900 ?], паэт, фалькларыст, кнігавыдавец, графік. Пісаў на польскай і бел. мовах. Скончыў Віцебскую гімназію. У 1829—30 вучыўся ў школе прапаршчыкаў у Дынабургу (Даўгаўпілс, Латвія). Сышоўся з В.Кюхельбекерам, які адбываў пакаранне ў Дынабургскай крэпасці. Узяў удзел у паўстанні 1830—31, пасля задушэння якога разам са сваім атрадам перайшоў мяжу з Прусіяй. З 1832 жыў у Парыжы, зблізіўся з А.*Міцкевічам*. Яшчэ ў юнацкім узросце пачаў весці фальклорныя запісы, якія загінулі ў час паўстання 1830—31. У 1840 у Парыжы выдаў фалькларыстычна-этнаграфічнае даследаванне «Беларусь», дзе ўпершыню сістэматызаваў вусную бел. творчасць па жанрах і тэматыцы. Апублікаваў таксама свае творы, стылізаваныя пад народныя песні. Абраны членам Французскай акадэміі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю. З 1846 жыў у Лондане, заняўся выдавецкай дзейнасцю, заснаваўшы ў 1852 разам з І.Яцкоўскім вольную друкарню. Афармляў уласныя кнігі, быў адным з піянераў фотамастацтва. Вярнуўся на радзіму ў 1859 пасля царскай амністыі. Пад наглядам паліцыі жыў у в. Кукавячына, пазней у маёнтку Страганы (цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл.). Працаваў над гісторыяй бел. літаратуры. Багаты на фактычныя звесткі архіў Р. не захаваўся.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Nasze więc górą!: Śpiew historyczny. Londyn, 1857; Dwoje objawień: Poemat dziejowy. Londyn, 1857; Kilka pieśni okolicznościowych. Londyn, 1857; У кн.: *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*. Мн., 1988.

Літ.: *Пачынальнікі*. Мн., 1977; *Штэйнер І.* Аляксандр Рыпінскі (1810—1900) // *Беларуская літаратура*. Вып. 13. Мн., 1985; *Піятуховіч М*. Рукапісы А. Рыпінскага // *Шляхам гадоў*. Мн., 1990; *БП*, т. 5; *ЭГБ*, т. 6—1; *БЭ*, т. 13.

**РЫЎКІН Ісак Сямёнавіч*** [8.1.1898, Мінск — ?], работнік культуры. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык сектара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 4.8.1936 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Паўночначыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 4.11.1942. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 22.8.1956. Асабовая справа Р. № 17387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЭГА (РЭГО) Георгій Робертавіч*** [1896, в. Кароўчына (?) Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], навуковец. З нямецкай памешчыцкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.8.1933. Асуджаны 14.11.1933 як «член шпіёнска-

дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа Р. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**РЭДЗЬКА Уладзімір Сямёнавіч*** [1908, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], службовец. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Да арышту начальнік спартыўнага аддзела Мінскага гарадскога камітэта па справах фізкультуры і спорту. Арыштаваны 25.1.1945 у Мінску па адрасе: Паўночны зав., д. 26, кв. 5. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 11.1.1947 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Тагільскі канцлагер МДБ Свярдлоўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 8.8.1990. Асабовая справа Р. № 31512-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЭНАРД Канстанцін Густававіч*** [1884, Чавусы Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прафесар Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 24.9.1930. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны асобай нарадай пры НКВД СССР 18.8.1945. Асабовая справа Р. № 4088 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**РЭУТ Іосіф Фадзеевіч*** [1880, в. Ракшын (Ракшына?) Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік грузавой часткі службы эксплуатацыі ўпраўлення Томскай чыгункі. Арыштаваны 25.2.1934. Асуджаны 2.4.1934 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 9.5.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**САБАЛЕЎСКІ Юрый Аляксандравіч** [24.4.1889, Стоўбцы Мінскага пав., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 26.12.1957, Кірхен унтэр Тэк, Зах. Германія], бел. паліт. дзеяч, публіцыст. Пасол польскага сейма ў першай палове 1920-х г., актывіст БСРГ. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1928, у 1932 асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі. У вер. 1939 зноў арыштоўваўся польскай паліцыяй. Неўзабаве трапіў у турму НКВД, адкуль вызваліўся ў пачатку 2-й сусветнай вайны. У час нямецкай акупацыі працаваў у грамадзянскай адміністрацыі ў Баранавічах, старшынёй Галоўнай управы Беларускай самапомачы, другім віцэ-прэзідэнтам БЦР. Арыштоўваўся па польскаму даносу. На эміграцыі быў старшынёй калегіі БЦР, у эміграцыйнай перыёдыцы друкаваў свае ўспаміны і публіцыстыку. У 1950 выехаў у ЗША, але праз 7 гадоў вярнуўся ў Зах. Германію. Памёр пры нявысветленых абставінах. Пахаваны ў Мюнхене, на могілках Фельдлюхінг.

Літ.: *Сабалеўскі Юры Аляксандравіч* (некралог) // Бюлетэнь 14-га пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады. Нью-Ёрк. 1959; *Ёрш С.* Застаўся верны незалежніцкім ідэалам // *Наша слова.* 1995. 14 кастр.

**САБІЛА Іван Андрэевіч*** [1908, в. Сівіца Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 1.12.1937, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт 1 курса Томскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 10.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.7.1957

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**САВЕЛЬЕЎ Аляксандр Цімафеевіч*** [1891, в. Загоранка Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — 1938 (паводле іншых звестак — лют. 1942), ГУЛАГ], вучоны-аграном, педагог. З сям'і вясковага каваля. У 1-ю сусветную вайну прызваны ў армію, удзельнічаў у баях, паранены трапіў у нямецкі палон. Пасля вызвалення (1919) вярнуўся на радзіму. Вучыўся ў земляробчай школе, потым у Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. Пасля яго сканчэння, як студэнт-выдатнік пакінуты на кафедры земляробства. Разам з працай выкладчыка актыўна займаўся навукова-даследчай дзейнасцю. У канцы 1920-х г. адпраўлены на стажыроўку ў Германію. Пасля вяртання атрымаў званне дацэнта, а ў 1933 вылучаны на пасаду прафесара. Арыштаваны 10.9.1933. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў АДПУ Далёкага Усходу. У другой палове 1930-х г. за вырошчванне на лагерных сельскагаспадарчых палях небывалага для тутэйшых земляў ураджаю яравога жыта краявым кіраўніцтвам рэкамендаваны да ўдзелу ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, але замест паездкі ў Маскву лагернай тройкай НКВД асуджаны да ВМП. Расстраляны. Па першай справе (№ 5937-с, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956, па другой Амурскім абл. судом.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: Кароткі нарыс якасьці насеньня некаторых культурных расьлін Горацкага раёну. Запіскі Бел. Дз. Акадэміі. 1927; Дасьледванне пасеўнага матэрыялу Калініншчыны. Працы Горы-Горацкага нав. Т-ва. 1928; Ключ да вызначэньня насеньня і пладоў палявo-

га пустазельля і спосабы барацьбы з ім. Мн., 1932; Правілы ўжываньня ўгнаеньняў. Мн., 1932.

**САВЕЛЬЕЎ Віктар Іванавіч*** [1904, Пінск Мінскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — ?], службовец. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. начальніка Пінскага рачнога порта. Арыштаваны 27.3.1940 у Пінску па адрасе: вул. Дамініканская, д. 13. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 11.12.1940 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Вяцкі канцлагер Кіраўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 23.5.1989. Асабовая справа С. № 8538-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**САВЕЛЬЗОН Сямён Максімавіч** [ліп. 1898, Мінск — ?], службовец. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту стэнограф ЦК КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 14.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 50, кв. 2. Асуджаны 19.8.1938 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 28.9.1990 пракуратурай БВА. Асабовая справа С. № 31578-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САВІК Дзмітрый Амосавіч*** [1909, Ваўкавічы, цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту радавы 6 батальёна аэрадромнага абслугоўвання. Быў жанаты, гадаваў

траіх дзяцей. Арыштаваны 17.10.1941. Асуджаны 3.12.1941 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам Ленінградскай ВА 5.11.1987. Асабовая справа С. знаходзіцца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САВІК Станіслаў Іосіфавіч*** [1928, в. Дворышча, цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, вучыўся ў школе ў Лужках, у Глыбоцкім педагагічным вучылішчы (з восені 1944), пасля сканчэння якога (1947) працаваў настаўнікам у Відзы-Лаўчыноўскай пачатковай школе, затым дырэктарам школы пры дзіцячым доме імя Сталіна (цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.). Арыштаваны 26.4.1948 у час заняткаў з вучнямі. Вывезены ў Полацкую турму МДБ. Знаходзіўся ў адной камеры з М. *Конанам*. 15.7.1948 асуджаны як «член арганізацыі СБМ» і за тое, «што жывучы падчас вучобы ў Глыбоцкім педвучылішчы разам на адной кватэры з В.*Мядзельцам* і А.*Фурсам*, не толькі не выкрыў іх, як сапраўдны, сумленны савецкі чалавек, а нават дапамог замятаць за імі сляды», да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Паўднёва-Заходні канцлагер МДБ Магаданскай вобл. (пас. Ніжні Сеймчан, Усць-Таёжны). Працаваў адкатчыкам, крапільшчыкам. Як успамінаў С., «праца была катаржная, па 12 гадзін ды ў шкодных умовах, небяспечная. У забоях пастаянны дым, пыл». З 1954 у высылцы (пас. Ларуковая Ягаднінскага р-на Магаданскай вобл.). Завочна скончыў Горкаўскі аўтама-

більны тэхнікум (1961). Працаваў механікам, потым загадчыкам гаража. У 1979 вярнуўся ў Беларусь. Працаваў механікам у саўгасе «Гарадзец» Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл. З 1986 на пенсіі. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 5.2.1990. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Літ.: ГАРТ. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. Мн., 1997. С. 329—340.

**САВІНСКІ Сцяпан Іосіфавіч*** [26.12.1904, Нова-Барысаў Мінскай губ., цяпер Барысаў Мінскай вобл. — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Працаваў у музыкальным узводзе вайсковай часці № 6203 у Мінску. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.3.1938. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 21.5.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 4 гадоў ППК і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.6.1959. Асабовая справа С. № 14467-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САВІЦКІ Іван Васілевіч*** [студз. 1893, в. Цётча Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — 28.9.1937, ?, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску 18.7.1930. Асуджаны калегіяй АДПУ 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Зноў арыштаваны і 28.9.1937 «тройкай» НКВД прыгавораны да ВМП

(архіўная справа № 673004 КДБ СССР). Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Першая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САВІЧ Аляксандр Антонавіч** [1(13).3.1890, в. Лапеніца Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 22.10.1957], бел. гісторык. Доктар гістарычных навук (1937), прафесар (1928). Скончыў Пецярбургскую праваслаўную духоўную акадэмію (1914) і Маскоўскі ун-т (1917). У 1917—20 стажыраваўся ў Саратаўскім ун-це. З 1921 у Мінску, член Архіўнай камісіі Акадэмцэнтра пры Наркамасвеце БССР. Выкладаў у БДУ (1921—23, 1944—47), Пермскім ун-це, педагагічных інстытутах Яраслаўля і Масквы. З 1930-х г. супрацоўнік Дзяржаўнага гістарычнага музея Інстытута гісторыі АН СССР. Пры напісанні доктарскай дысертацыі «Дачыненні Масковіі з Рэччу Паспалітай у час Смуты 1600 —1619 гг.» выявіў у Петраградскай дзяржаўнай бібліятэцы перапіску Жыгімонта III Вазы з канцлерам ВКЛ Л.Сапегам (пачынаючы з 1598), матэрыялы, якія датычацца перагавораў Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай адносна прыналежнасці Смаленска (1615—16). Асэнсоўваючы гісторыю Беларусі, паступова адыходзіў ад пазіцый заходнерусізму, схіляўся да нацыянальнай дзяржаўнай канцэпцыі. 17.6.1922 з патрыятычна настроенымі праваслаўнымі святарамі і прадстаўнікамі бел. інтэлігенцыі падпісаў адозву да праваслаўных беларусаў БССР з заклікам стварэння нацыянальнай (аўтакефальнай) праваслаў-

най царквы Беларусі. У 1923 абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці. Арыштаваны і высланы ў Перм. У 1944 вярнуўся ў Мінск. Да 1947 выкладаў у БДУ. Даследаваў пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця Расійскай дзяржавы ў сярэднявеччы, гісторыю яе адносін з ВКЛ і Рэччу Паспалітай у 15—17 ст., гісторыю асветы і грамадска-паліт. думкі ў краінах Усх. Еўропы 16—19 ст. і інш.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**САВІЧ Валяр'ян Платонавіч*** [1896, Смаленская (?) губ. — 29.12.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту галоўны бухгалтар 205 авіяцыйнага атрада грамадзянскага паветранага флоту. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 13.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**САВІЧ Ігнат Мікалаевіч*** [1899, в. Мезнарава (?) Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі (?) р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык аддзела газ. «Беларуская вёска». Арыштаваны 18.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Кацельнічах (цяпер Вяцкая вобл.). 14.7.1935 паводле рашэння асобай нарады НКВД СССР тэрмін зняволення падоўжаны на 2 гады. Далейшы лёс невядомы. Рэ-

абілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа С. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САДОЎСКАЯ Любоў Яфімаўна*** [1921, в. Ясны Лес Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], актрыса. З сям'і рабочага. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала ў Бабруйскім абл. тэатры. Выйшла замуж. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана за «здраду радзіме» 29.11.1944 у Бабруйску. 4.10.1945 пастановай 2-га аддзела следчай часткі НКВД БССР вызвалена з улікам тэрміну папярэдняга зняволення і рэабілітавана. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 4682-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САЕВІЧ Платон Васілевіч** [18(30).4.1892, в. Раматова Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Маларыцкі р-н Брэсцкай вобл. — 28.9.1956], дзяржаўны дзеяч Беларусі. З сялянскай сям'і. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1911), Камуністычны ун-т імя Я. Свярдлова (1924). З 1913 у арміі. Удзельнік усталявання савецкай улады ў Віцебскай губ., камісар Дзвінскага чыгуначнага вузла. Са снеж. 1917 на савецкай рабоце ў Барысаглебску Тамбоўскай губ. З сак. 1919 у Чырвонай арміі: камісар сувязі на Паўднёвым і Каўказскім франтах. З 1924 на партыйнай рабоце ў Ніжагародскай губ. З 1926 дэкан і рэктар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, з 1929 рэктар Камуністычна-

га ун-та Беларусі, з крас. 1932 дырэктар Інстытута гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б, з мая 1933 загадчык кафедры Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы Беларусі, з 1939 выкладчык партыйных курсаў пры ЦК КП(б)Б. Удзельнік 2-й сусветнай вайны: камісар палка, нам. начальніка палітупраўлення. З 1946 у ЦК КП(б)Б. У 1947—51 міністр асветы БССР. Член ЦК КП(б)Б (1932—34, 1949—52). Член ЦВК БССР (1923—31). Дэпутат Вярхоўнага савета СССР (1946—50). Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. У 1951 г. міністр дзяржбяспекі Цанава прапанаваў С. адрэдагаваць яго кнігу пра партызанскі рух на Беларусі. С. адмовіўся, бо лічыў, што такую кнігу мае права пісаць толькі непасрэдны ўдзельнік партызанскай барацьбы. С. прама сказаў гэта Цанаве і ў адказ пачуў: «Ты яшчэ пашкадуеш аб гэтым». Хутка Цанава ажыццявіў сваю пагрозу. 14.5.1951 С. выключылі з партыі, і 16.5.1951 у Мінску ў яго кватэры (вул. К.Маркса, д. 6, кв. 22) арыштавалі. Пасля доўгіх катаванняў ён быў асуджаны (28.11.1951) за «трацкісцкую дзейнасць і злачынную сувязь з белаэмігрантамі» да 25 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Тайшэт). Вызвалены і рэабілітаваны 5.8.1954. Вярнуўся дадому цяжка хворым і неўзабаве памёр. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. Асабовая справа С. № 5219-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ СССР.

Літ.: *БЭ,* т. 14; *ЭГБ*, т. 6—1.

**САЙКОЎСКІ Мікалай Мікалаевіч*** [1885, Смаленская (?) губ. — 15.1.1938, Смаленск, НКВД], служ-

бовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інжынер Зах. чыгункі. Арыштаваны 23.9.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.1.1938 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**САКУН Фёдар Вікенцевіч** [1890, в. Галавачы Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — ?], марскі афіцэр. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю, уступіў у ВКП(б) (1927). Да арышту капітан 3-га рангу 3-й базы падводных лодак Чырвонасцяжнага Балтыйскага флоту. Арыштаваны 20.7.1938 у Ленінградзе. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». Вызвалены і рэабілітаваны ў перыяд 1—4.2.1939. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № П-7549 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САЛАВЕЙ Георгій Канстанцінавіч*** [1926, в. Кучынаўшчына Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ?], медык-эпідэміёлаг. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў інструктарам на Мінскай гарадской дэзінфекцыйнай станцыі. Арыштаваны 20.10.1960 у Мінску па адрасе: 2-і Рыгораўскі зав., д. 12, кв. 4. Асуджаны 30.12.1960 за «антысавецкую дзейнасць» да 4 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 29.5.1992. Асабовая справа № 35615-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**САЛАВЕЙ Іван Антонавіч*** [1910, в. Прошчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, верагодна, брат Уладзіміра Антонавіча і Фёдара Антонавіча *Салаўя*. З сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1930-я г. Працаваў выкладчыкам Слуцкага педагагічнага вучылішча. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 28.12.1944 у Слуцку па адрасе: вул. 1-я Калгасная, д. 10. Асуджаны ў 1946 асобай нарадай пры МДБ за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 30.6.1989. Асабовая справа С. № 26147-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**САЛАВЕЙ Уладзімір** [1925, в. Гуменікі Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — снеж. 1996, в. Казлоўшчына Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.], настаўнік, удзельнік антысавецкага маладзёжнага падполля. Вучыўся ў пачатковай школе ў в. Сурынка Слонімскага р-на, у 1939—1941 у слонімскай СШ № 5. У час нямецкай акупацыі працягваў адукацыю ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі. Летам 1944 працаваў на аднаўленні чыгункі каля Слоніма. Пазней паступіў у Баранавіцкі настаўніцкі інстытут на гісторыка-філалагічны ф-т. З 1946 сябра падпольнай слонімскай арганізацыі «Чайка», арганізаваў аб'яднанне слонімскага і баранавіцкага маладзёжнага падполля. Летам 1946 увайшоў у створаны каардынацыйны орган падполля — «Цэнтр беларускага вызваленчага руху». Пасля сканчэння інстытута накіра-

ваны на работу ў Рахавіцкую сямігадовую вясковую школу (Слонімскі р-н), завочна вучыўся ў Гродзенскім педінстытуце. З 1947 на нелегальным становішчы. Арыштаваны органамі дзяржбяспекі ў пачатку 1950-х г. Падчас допытаў звар'яцеў. На працягу 4 дзесяцігоддзяў знаходзіўся ў Магілёўскай, Ружанскай, Гродзенскай бальніцах для псіхічнахворых. У 1996 пераведзены ў бальніцу пад Казлоўшчыну (Дзятлаўскі раён), дзе і памёр. Пахаваны ў в. Жыровічы Слонімскага р-на.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Ёрш С.* Ён любіў Беларусь // *Газета Слонімская.* 1998. 30 ліп. — 1 жн.

**САЛАВЕЙ Уладзімір Антонавіч*** [1923, в. Прошчыцы Слуцкага пав. — ?], педагог, верагодна, брат Івана Антонавіча і Фёдара Антонавіча *Салаўя*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў настаўнікам у Варанянскай СШ Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 29.12.1944 у в. Варняны. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 8.4.1946 як «член антысавецкай арганізацыі СБМ» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Горкаўскай вобл. Вызвалены 28.8.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 31.3.1962. Асабовая справа С. № 17575-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**САЛАВЕЙ Фёдар Антонавіч*** [1913, в. Прошчыцы Слуцкага пав. — 19.8.1942, ГУЛАГ], верагодна, брат

Уладзіміра Антонавіча і Івана Антонавіча *Салаўя*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту токар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 11.11.1932. Асуджаны 10.4.1933 паводле пастановы калегіі АДПУ за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер АДПУ Комі АССР (Пячора). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 31.5.1968. Асабовая справа С. № 25668-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САЛАГУБ Андрэй Вікенцевіч** [1893, в. Зарудзічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 3.11.1937, Масква, НКВД], верагодна, сваяк Алеся *Салагуба*. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава».

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САЛАГУБ Марыя Усцінаўна*** [1905, в. Яневічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 14.6.1938, Смаленск, НКВД], краўчыха, цётка навукоўца Арсеня Ліса. З бел. сям'і. Была замужам, гадавала сына Леаніда. Арыштавана 29.1.1938 у Смаленску. Асуджана 9.6.1938 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляна.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**САЛАНЕВІЧ Іосіф Сямёнавіч*** [1908, в. Навасёлкі Гродзенскай губ., цяперашняе месцазнаходжан-

не не ўстаноўлена — 1934, ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Член КСМЗБ. Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1930-я г. Падчас арышту нам. загадчыка замежнага сектара (аддзела) газ. «Звязда». Арыштаваны 11.9.1933 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа С. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фotaздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САЛАПАЕЎ Н. Г**.* [1893 — ?]. Меў сярэднюю спецыяльную (медыцынскую) адукацыю. Жыхар Магілёўскай вобл. Член царквы пяцідзесятнікаў. Падчас арышту — пенсіянер. У 1953 асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». Паўторна асуджаны па тым самым артыкуле 12.12.1957. Далейшы лёс невядомы. Верагодна, не рэабілітаваны.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 56263.

Літ.: *58[10]*, с. 401.

**САЛАЎЁЎ Аляксандр Іосіфавіч*** [1914, в. Лоцвіны Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту рэдактар Беларускага дзяржаўнага радыёкамітэта. Арыштаваны 16.3.1933. Абвінавачваўся як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі». 10.8.1933 паводле пастановы калегіі АДПУ вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы. Рэабі-

літаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа С. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**САЛАЎЁЎ М. Е.*** [1900 — ?], жыхар Віцебскай вобл. Меў сярэднюю адукацыю. Двойчы асуджаны, у тым ліку ў 1938 як «сацыяльна-небяспечны элемент». Пасля вызвалення доўгі час не мог уладкавацца на работу. У 1957—58, апынуўшыся ў цяжкім матэрыяльным становішчы, напісаў некалькі лістоў да святароў з просьбай аб дапамозе (паводле дадзеных следства, атрымаў больш за 1000 руб.). У гэтых лістах сцвярджаў, што бальшавікі стварылі для рабочых і асабліва для сялян «камуністычнае рабства». 30.6.1958 асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ.* Ф. 8131, воп. 31, спр. 87046.

Літ.: *58[10]*, с. 456.

**САЛЕЙ Анатоль Рыгоравіч*** [1902, в. Кунцаўшчына Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — ?], навуковец. З памешчыцкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 22.12.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 20.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.7.1961. Асабовая справа С. № 17157-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САЛТАНОВІЧ Пётр Маркавіч*** [1901, в. Слабада Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 25.1.1940, Масква, НКВД], медык, вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту ваенны ўрач 2 рангу, начальнік санітарнага аддзела Крамля. Арыштаваны 10.3.1939 у Маскве па адрасе: вул. Малая Лубянка, д. 6, кв. 5. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.1.1940 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда 19.11.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САЛЮТА Аляксандр Ігнатавіч*** [1902, в. Галынка Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У 1926 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту студэнт Ленінградскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту. Арыштаваны 21.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Праўды, д. 22, кв. 55. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САМАРДАК Васіль Максімавіч*** [1922, в. Косетаў Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Калінкавіцкі

р-н Гомельскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту слухач настаўніцкіх курсаў. Арыштаваны 26.1.1941 у Сыктыўкары. Асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР 16.4.1941 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САМБУК Феадосій Віктаравіч** [1900, мяст. Капаткевічы Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 10.11.1937, Ленінград, НКВД], батанік. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту вучоны спецыяліст Батанічнага інстытута Акадэміі навук СССР. Арыштаваны 17.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Набярэжная Малой Неўкі, д. 7б, кв. 2. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САМОХІН Фёдар Андрэевіч*** [19.12.1894, хут. М.Галубінскі Данской вобл. — 11.11.1940, ГУЛАГ], службовец. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю, уступіў у ВКП(Б) (1929). Падчас арышту дырэктар Беларускай вопытнай станцыі жывёлагадоўлі. Арыштаваны 27.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 24, кв. 4. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны 28.6.1938 «тройкай» НКВД як

«удзельнік арганізацыі правых» і «шкодніцтва ў галіне жывёлагадоўлі» да 20 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю (бухта Нагаева). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 25.6.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 10557-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

13.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 24, кв. 4 арыштавана хатняя гаспадыня, маці траіх дзяцей, Самохіна Наталля Сцяпанаўна (н. ў 1890 у Горках Магілёўскай губ. ў сям'і рабочага), жонка Фёдара Самохіна. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 28.12.1989 пракуратурай Мінскай вобл. Асабовая справа С. № 29483-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САНДАМІРСКІ Якаў Рыгоравіч*** [1902, Крамянчуг Палтаўскай губ., цяпер Палтаўская вобл., Украіна — 30.10.1937, Мінск, НКВД], педагог. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Ветэрынарная, д. 11/21. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.10.1957. Асабовая справа С. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**САНОЦКІ Барыс Антонавіч*** [1901, Нова-Александрыя Люблінскай губ., цяпер Люблінскае ваяв., Польшча — 13.11.1938, Мінск, НКВД], навуковец, педагог. З дваранскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 6.7.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 13.11.1938 як «шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 16.1.1989. Справа С. № 11352-с захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**САНЧУК Пётр Апалінаравіч*** [1899, в. Дарава Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 21.9.1938, Хабараўск, НКВД], вайсковец. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1918). Удзельнічаў у падаўленні Дутаўскага паўстання, баях на паўднёвым фронце. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У міжваенны час камандзір брыгады, палкоўнік 110-й авіяцыйнай брыгады. Арыштаваны 4.8.1938 у Хабараўску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 21.9.1938 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і як «член тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.1.1958. Асабовая справа С. № 18340-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САПЕГА Сямён Фаміч*** [1891, мяст. Новы Свержань Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай

вобл. — 12.3.1933, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік бел. аддзялення Трактарацэнтра. Арыштаваны 11.1.1933 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 27, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 11.3.1933 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць і шкодніцкую дзейнасць у сельскай гаспадарцы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.3.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**САПІР Ісай Давыдавіч*** [1897, Вількамір, цяпер Літва — ?], вучоны-медык. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык неўралагічнага аддзялення 1-й Савецкай бальніцы, прафесар. Арыштаваны 9.7.1938 у Магілёве. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.2.1940 за «антысавецкую агітацыю і контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Якуцкай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 21.11.1956. Асабовая справа С. № 2237-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**САПРЫЦКАЯ Берта Навумаўна*** [9.1.1900, Гомель — ?], педагог, жонка Аскара *Сапрыцкага.* З сям'і

службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў Мінскай школе № 2. Гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 3, кв. 4. Асуджана 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «жонка ворага народа, асуджанага да ВМП» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена ў 1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа С. № 6763-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САПРЫЦКІ Аскар Абрамавіч*** [1894, в. Халочча Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чачэрскі р-н Гомельскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], службовец, муж Берты *Сапрыцкай*. Падчас арышту нам. наркама земляробства БССР. Арыштаваны 26.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31/2, кв. 3. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай дыверсійна-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.10.1956. Асабовая справа С. № 7399-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САРАКОШ Іван Іўсцінавіч*** [24.9.1899, в. Залчнікі (?) Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 31.10.1937, Мінск, НКВД], вайсковец. З сялянскай сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б).

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту камандзір 4-га стралковага палка. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 за «вайскова-фашысцкую змову» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.12.1958. Асабовая справа С. № 13439-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САРАТАЎСКІ Аляксандр Іванавіч*** [1883, мяст. Стоўбцы Мінскага пав., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Арыштаваны 22.12.1944 у Магілёве як падазроны ў «здрадзе радзіме». 6.9.1945 вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Рэабілітаваны пастановай УНКВД Магілёўскай вобл. 4.9.1945. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 524-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**САСНОЎСКАЯ Таццяна Сямёнаўна*** [1915, в. Бандары Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае (?) ваяв., Польшча — ?], служачая. З бел. сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працавала загадчыцай буфета ваеннай базы (п/с 51). Арыштавана 25.10.1942. Асуджана асобай нарадай НКВД 28.8.1943 за «здраду радзіме» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Віцебскім абл. судом 24.1.1991. Асабовая справа С. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**САСНОЎСКІ Іван Андрэевіч*** [25.8.1915, в. Сцяпуры Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту супрацоўнік газ. «Савецкая Беларусь». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.1.1938 у Мінску па адрасе: Тучынскі зав., д. 8. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 22.2.1938 як «агент польскай разведкі» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай пракуратурай БВА 27.3.1989. Асабовая справа С. № 21624-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**САСОНКА Франц Іпалітавіч*** [1923, в. Загорцы Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны 17.9.1940 у в. Загарук (?). 1.2.1941 асуджаны асобай нарадай пры НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Варкуцінскі канцлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 21.7.1989. Асабовая справа С. № 26498-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САЎЧАНКА Аляксандр Іванавіч*** [10.4.1901, в. Зенькава Віцебскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай

вобл. — 1942, ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Муж бібліёграфа і літаратуразнаўцы Н.Ватацы. У 1920 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту аспірант Бібліяграфічнага інстытута дзяржаўнай бібліятэкі. Арыштаваны 7.6.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 34, кв. 1. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29.7.1936 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць і антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 7.6.1939. Са жн. 1941 служыў у Чырвонай арміі. Загінуў у пачатку 1942 на фронце. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа С. № 6857-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САФОНАЎ Ніл Рыгоравіч** [1893, в. Плешчыцы Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту загадчык медпункта арцелі «14 гадоў Кастрычніка» ў Магілёве. Арыштаваны 27.3.1953. Асуджаны 16.6.1953 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 15.5.1992 Вярхоўным судом Беларусі. Асабовая справа С. № 15149 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**САФРОНАЎ Віктар Сямёнавіч*** [1906, Слуцк Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], эканаміст. З бел. сям'і. Меў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў у «Саюзтытуньсыравіне». Арыштаваны 1.3.1935 у Алма-Аце. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны 22.9.1935 як «член трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.7.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**САХАРУК Лука Пятровіч** [1904, в. Малышы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — 4.11.1937, Томск (?), НКВД], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дырэктар Зыранскай СШ Томскай вобл. Арыштаваны 11.8.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 9.9.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СВАТКО Галіна Рыгораўна*** [1925, Лагойск Мінскай вобл. — ?], служачая. З бел. сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала бухгалтарам. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 24.3.1949 у Лагойску па адрасе: вул. Савецкая, д. 2. Асуджана 30.6.1949 як «памагатая нямецкіх акупацыйных уладаў» і «член нацыя-

налістычнай арганізацыі СБМ» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер МДБ Казахскай ССР. 31.3.1954 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР тэрмін пакарання быў зніжаны да 5 гадоў. Вызвалена 10.6.1954. Рэабілітавана Вярхоўным судом Беларусі 8.4.1992. Асабовая справа С. № 34821-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СВЕНЦІХОЎСКАЯ Ганна Нічыпараўна*** [1904, в. Равуча Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала старшым навуковым супрацоўнікам БелАН. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, верагодна, працавала настаўніцай. Арыштавана 29.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Пушкінская, д. 12, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 30.6.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Вызвалена 11.8.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Мінскай вобл. 3.3.1995. Справа С. № 36131-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СВЯТЛОЎ Павел Антонавіч*** [16.6.1895, Пецярбург, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія — 10.11.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і службоўца. Падчас арышту выкладчык МВПІ. Быў жанаты, гадаваў траіх

дзяцей. Арыштаваны 23.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Апанскага, д. 23, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 як «член шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа С. № 25462-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СВЯТЛОЎ Уладзімір Іванавіч** [1926, мяст. Крупкі Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З рабочай сям'і. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў дыктарам на Мінскім радыёвузле. Арыштаваны 14.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 27. Асуджаны 14.11.1944 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Вызвалены ў 1953. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 2.3.1971 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа С. № 20252-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў* .

**СЕВЯРЫНАЎ Сцяпан Пятровіч*** [1906, в. Выдрыца Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 14.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інжынер электрасеткі Ленэнерга. Арыштаваны 27.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Вялікая Пушкарская, д. 1, кв. 8. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны асобай

«тройкай» НКВД 10.12.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**СЕЛІВАНАЎ Антон Зіноўевіч*** [1890, с. Багаслова Тульскай губ., цяпер Тульская вобл., Расія — ?], педагог. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 12.2.1938. Асуджаны 10.10.1938 «тройкай» НКВД як «член партыі эсэраў, які вёў актыўную барацьбу з бальшавікамі» да 5 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26.10.1956 калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа С. № 3974 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СЕМАШКЕВІЧ Алена Мацвееўна*** [1908, мяст. Лебедзева Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 4.11.1937, Томск, НКВД], бібліятэкар, сястра Рамана *Семашкевіча*. З бел. сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала загадчыцай раённай бібліятэкі ў в. Зыранская Томскай вобл. Арыштавана 27.7.1937. Асуджана 18.10.1937 як «член шпіёнскай дыверсійнай контррэвалюцый арганізацыі» да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана 9.9.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**СЕМЯНКО Міхаіл Емяльянавіч*** [1901, в. Залессе, цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — ?, ГУЛАГ], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 9.10.1937 у Кемі. Асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР 28.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Рэабілітаваны пракурорам Карэліі 30.11.1989.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**СЕМЯНЧУК Іосіф Акімавіч*** [1902, мяст. Міхалова-Нязбуднае Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 26.12.1937, Мінск, НКВД], педагог, вайсковец. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1923—35 ваеннаслужачы Чырвонай арміі. У 1926—35 член ВКП(б). Падчас арышту выкладаў ваенную справу ў Інстытуце нацыянальных меншасцяў і школе № 25. Арыштаваны 19.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 36, кв. 5. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 як «член ПАВ» і «шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 24.8.1959. Асабовая справа С. № 14638-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЕМЯНЮК Сямён Рыгоравіч** [1891, в. Воўчын Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камя-

нецкі р-н Брэсцкай вобл. — 25.9.1938, Мінск, турма НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Да арышту камандзір дывізіі Мінскай школы міліцыі (?). Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 11.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 10, кв. 12. Асуджаны 21.9.1938 «тройкай» НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.3.1962 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 17459-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. .

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЕМЯНЯКА Уладзімір Іванавіч*** [лют. 1896, в. Азёры Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — ?], фотакарэспандэнт. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у газ. «Калгаснік Беларусі». Арыштаваны 16.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 14, кв. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 28.4.1933 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 21.7.1989. Асабовая справа С. № 31378-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЕМЯНЯН Аляксандр Раманавіч*** [1914, в. Забалаць Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст (?). З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у газ. «Калгаснік Любані». Арыштаваны 27.2.1933 у в. Забалаць. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 10.8.1933

як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Казахстане. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа С. № 14618-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў*.

**СЕРАДА Сяргей Мікітавіч*** [5.6.1877, в. Задзвея Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], педагог, брат Янкі *Серады*. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 9.12.1936 у Мінску па адрасе: вул. Канюшанная, д. 7, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.5.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Алма-Аце. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 26.6.1989. Асабовая справа С. № 25282-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЕРГІЕВІЧ Ядвіга Францаўна*** [1912, Мінск — ?], артыстка. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю музычную адукацыю. Спявала ў хоры кансерваторыі. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Усходняя, д. 24, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 26.12.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбывала ў в. Упорава Цюменскай вобл. Вызвалена 17.12.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэ-

зідыумам Мінскага абл. суда 8.8.1990. Асабовая справа С. № 31510-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СІВІЦКІ Аляксандр Рыгоравіч*** [1894, Рыга, цяпер Латвія — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту інструктар Асавіяхіма, член ВКП(б). Арыштаваны 27.7.1937 у Томску. Асуджаны 19.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.9.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**СІДАРОВІЧ (КАПЛУНОВА) Алена Якаўлеўна*** [1924, Мінск — ?], служачая. З сям'і службоўца. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Падчас арышту справавод «Галоўутылю». Арыштавана 30.1.1950 у Мінску. Асуджана асобай нарадай 23.9.1950 за «здраду радзіме» і як «член антысавецкай арганізацыі СБМ» да 10 гадоў ППК. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Вызвалена ў 1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Цэнтральнай камісіяй па перагляду спраў 15.11.1954. Асабовая справа С. № 6980-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СІДАРОВІЧ Васіль Лукіч** [1905, в. Сівіца Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 1937, Чэлябінск, НКВД], бел.

графік і жывапісец. Удзельнік камуністычнага падполля Зах. Беларусі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, наведваў мастацкую студыю Я.*Драздовіча* (1926—27). Друкаваўся ў гімназійных перыядычных выданнях «Золак», «Покліч», супрацоўнічаў з гумарыстычна-сатырычным час. «Маланка». З пачатку 1930-х г. эміграваў, як і іншыя зах.-бел. мастакі, сябры па студыі М.*Васілеўскі*, Р.*Семашкевіч*, у СССР. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. Нейкі час працаваў сцэнографам у тэатры Чэлябінска, дзе і быў рэпрэсаваны як эмігрант і выхадзец з зах.-бел. зямель. Серыі графічных аркушаў С., апублікаваныя ў Вільні ў 1920-я г. («Хоць гультаём мяне завуць, а з працы ўсе маёй жывуць», «Што Рыгор у свеце бачыў», «Беларусь, ты прабуджайся, ашукаць сябе не дайся», «І на зямлі і пад зямлёй «апякун» усё за табой» і інш.), адлюстравалі праблемы і рэаліі паліт. жыцця Зах. Беларусі часу знаходжання яе пад польскай уладай. Пейзажы «Ручай», «Вясна», «Стагі за ваколіцай» (захаваліся ў прыватнай калекцыі) сведчаць аб добрым адчуванні мастаком асаблівасцей бел. ландшафту, яго каларыту і настраёвасці.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Ліс А.* Пякучай маланкі след. Мн., 1981; *Яго ж.* Вечны вандроўнік. Мн., I984.

**СІКОРА Віктар Іванавіч** [н. 1925, в. Малыя Алашкі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.], грамадскі дзеяч, паэт. Падчас нямецкай акупацыі скончыў Пастаўскую настаўніцкую семінарыю. У 1943—44 адзін з кіраўнікоў СБМ

у Паставах. З 1944 сябра падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі, кіраўнік Пастаўскага камітэта БНП. У 1944—45 на нелегальным становішчы, камандаваў антысавецкім партызанскім аддзелам у Пастаўскім р-не. У жн. 1945 легалізаваўся, быў амнісціраваны. Арыштаваны 5.12.1945, утрымліваўся ў Вілейскай турме. Асуджаны да 10 гадоў канцлагераў і 5 гадоў пазбаўленем правоў. Пакаранне адбываў у Якуціі, пасля — у Азёрным канцлагеры МДБ Іркуцкай вобл. (Тайшэт). На Беларусь вярнуўся ў канцы 1954. Жыве ў в. Малыя Алашкі. Піша вершы. 22.5.1992 прэзідыум Віцебскага абл. суда пастанавіў прыгавор трыбунала войск МДБ Маладзечанскай вобл. ад 8.5.1946 і вызначэнне трыбунала БВА ад 7.8.1956 пакінуць без зменаў.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Вершы Віктара Сікоры // Голас камбатанта. 2000. № 1.

Літ.: *Невяроўскі А.* Юнацтва — у ахвяру // Наша слова. 1996. 26 вер.; *Ёрш С.* У лесе я сустрэў шмат такіх, як я. Інтэрв'ю з камандзірам беларускіх партызанаў // Наша ніва. 1998. 9 лют.

**СІЛАЕНКАЎ Сямён Герасімавіч*** [1893, в. Егар'ева Дарагабужскага пав. Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык аддзялення «Сібкрайсанбакціна» (?). Арыштаваны 1.4.1931 у Томску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.12.1931 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі на чыгунцы» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 14.3.1990.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СІНІЦКІ Іван Францавіч** [1856 або 1861, пад мяст. Смаргонь Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 2.5.1939, Смаргонь], мемуарыст, падарожнік. У юнацкія гады жыў на Украіне. У 1893 вярнуўся ў Смаргонь, дзе арганізаваў бібліятэку. Быў сталым карэспандэнтам віленскіх газет. З 1901 падарожнічаў па свеце. Свае ўражанні ад вандраванняў выклаў у кнізе «Новая Зеландия — Европа», але яна была забаронена цэнзурай (карэктурны адбітак зберагаецца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі). Напярэдадні 1905 прыехаў на радзіму. Узяў актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905—07, за што быў арыштаваны і сасланы ў Валагодскую губ. У турме і ссылцы напісаў успаміны «Из моей жизни в деревне», прысвечаныя падзеям у Смаргоні ў канцы XIX — пач. XX ст. (рукапіс захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы). З ссылкі ўцёк у Фінляндыю. Пазней вярнуўся на радзіму. Падтрымліваў сувязі з газ. «Наша ніва», дасылаў туды карэспандэнцыі (верагодна, пад псеўданімам Смаргонец). У 1920—30-я г. падтрымліваў кантакты з ТБШ.

Літ.: *Мальдзіс А.* Яшчэ адзін самародак // *ЛіМ*. 1978. 18 жн.; *Дридзо А.* Путешественник из Сморгони // *Неман*. 1984. № 4; *Каранеўскі А.* Па слядах рэвалюцыянера і публіцыста // *ПГКБ*. 1985, № 2; *ЭГБ*, т. 6—1.

**СІНКЕВІЧ Цімафей Якаўлевіч*** [1915, в. Магільнае Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Столінскі

р-н Брэсцкай вобл. — ?], мастак. З сялянскай сям'і. Працаваў дэкаратарам. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 11.1.1938. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 8.4.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.3.1958. Асабовая справа С. № 5532-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СКАРАХОД (ХАМЮК) Павел Пятровіч*** [1902, в. Залессе Слонімскага (?) пав. Гродзенскай губ. — 11.1.1938, Магілёў, НКВД], радыётэхнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў на Мсціслаўскім радыёвузле. Арыштаваны 23.8.1937 у Мсціславе. Асуджаны 6.12.1937 «за шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.8.1989. Асабовая справа С. № 13637-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**СКВІРСКАЯ Марыя Пятроўна*** [1911, Магілёў — ?], артыстка. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працавала ў Беларускім тэатры оперы і балета. Выйшла замуж, гадавала дзіця. У час 2-й сусветнай вайны засталася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 17.1.1945 у Мінску па адрасе: вул. Камароўская, д. 3, кв. 4. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 4.3.1946 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Беларусі 26.5.1992. Асабовая справа С. № 33969-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СКРАБЕЛЬ Алена Гаўрылаўна*** [1934, в. Палянка Чэрвеньскага р-на — ?], навучэнка. З сялянскай сям'і. Падчас арышту займалася на курсах трактарыстаў прадпрыемства «Чырвоны сцяг» (Смалявіцкі р-н Мінскай вобл.). Арыштавана 16.3.1953 па абвінавачанні ў паклёпе на кіраўнікоў партыі. Асуджана 18.4.1953 да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 3.7.1954. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 5414-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СКРУШЧУК Алена Іванаўна*** [1925, мяст. Дзівін Кобрынскага пав. Палескага ваяв., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Працавала бухгалтарам Дзівінскага раённага спажывецкага саюза. Выйшла замуж, гадавала траіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 5.12.1944 у Дзівіне. Асуджана пазасудовым органам 21.7.1945 як «член антысавецкай арганізацыі АУН» да 10 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў адзін з канцлагераў МДБ Іркуцкай вобл. Вызвалена 30.12.1950. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 27.12.1972. Асабовая справа С. № 6642-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СКУРАТОВІЧ Пётр** [1.8.1891, в. Вялікія Філіпкавічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рага-

чоўскі р-н Гомельскай вобл. — крас. 1940, ГУЛАГ], польскі ваенны дзеяч. У 1909 скончыў кадэцкі корпус у Полацку, у 1909—11 вучыўся ў кавалерыйскай школе ў Елізаветградзе (цяпер Кіраваград, Украіна). З 1917 у 1-м польскім корпусе генерала Ю.Доўбар-Мусніцкага, з 1918 у Войску Польскім. Камандаваў шэрагам кавалерыйскіх злучэнняў, у тым ліку Цэнтрам навучання кавалерыі. У 1939 атрымаў званне генерала брыгады. Пасля пачатку 2-й сусветнай вайны інтэрнаваны савецкімі войскамі. Загінуў у зняволенні.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *БЭ*, т. 14.

**СЛАБОДЧЫКАЎ** (?) **Фёдар Цімафеевіч*** [1896, в. Галачоўка Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў начальнікам аддзела (?). Арыштаваны 22.7.1938 у Алма-Аце. 23.9.1940 НКВД Алма-Ацінскай вобл. вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЛАВАЧЭЎСКІ Мітрафан Сямёнавіч*** [1869, Кіеў, Украіна — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага музычнага тэхнікума і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 20.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 52, кв. 6. Абвінавачваўся ў

«антысавецкай агітацыі» і як «член контррэвалюцыйнай групіроўкі». Вызвалены 13.5.1933 з забаронай на 3 гады жыць у вызначаных месцах. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 30.4.1989. Асабовая справа С. № 26878-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЛАВІНСКІ Адам Сямёнавіч** [сапр. прозвішча Качароўскі; 30.8(11.9).1885, мяст. Панінка Валынскай губ., цяпер Хмяльніцкая вобл., Украіна — 1937, НКВД], удзельнік польскага і расійскага рэвалюцыйнага руху, партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. З 1907 член Варшаўскай арганізацыі СДКПіЛ. У 1907 і 1909 быў арыштаваны. З 1912 у Петраградзе, у час Лютаўскай рэвалюцыі 1917 узначальваў чырвонагвардзейскі атрад завода, потым Чырвоную гвардыю Маскоўска-Застаўскага р-на Петраграда. Удзельнік Кастрычніцкага перавароту 1917 у Петраградзе. Са студз. 1918 у Мінску, старшыня бюро Мінскай групы СДКПіЛ. У час нямецкай акупацыі Беларусі член Мінскага падпольнага раённага камітэта РКП(б), са жн. 1918 член краявога камітэта камуністычных арганізацый Беларусі і Літвы. Са снеж. 1918 начальнік Мінскай гарадской міліцыі, загадчык Мінскага губаддзела ўпраўлення ўнутраных спраў, член Мінскага губ. ВРК. З лют. 1919 камісар 52-й (Зах.) стралковай дывізіі. У пачатку 1920 арганізатар партызанскага руху ў Мінскай губ., з мая 1920 начальнік палітаддзела 57-й стралковай дывізіі, у ліп.—жн. 1920 старшыня Гродзенскага ВРК. З 1921 наркам земляробства БССР. У 1924—28 прадстаўнік КПЗБ пры ЦК КП(б)Б, узначальваў Бюро дапамогі КПЗБ. У 1928—30

сакратар Мінскага акружнога і гарадскога камітэтаў КП(б)Б. У 1934—37 начальнік палітаддзела Маскоўска-Беларуска-Балтыйскай чыгункі. 9.7.1937 арыштаваны і асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1955. Яго імем названы вуліца ў Мінску, вёска ў Петрыкаўскім р-не Гомельскай вобл.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**СЛАВІНСКІ Васіль Пятровіч*** [2.2.1900, в. Збаравічы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік хімічнай лабараторыі (?). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.3.1937 у Мінску па адрасе: вул. Грамадская, д. 3, кв. 72. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 31.8.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 22.12.1989. Асабовая справа С. № 29651-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СЛЕСАРАЎ Уладзімір Паўлавіч** [1927, в. Буда Аршанскай акругі, цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — ?], вайсковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Служыў камандзірам радыёаддзялення в/ч 10856 у Багушэвіцкім р-не Віцебскай вобл. (цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл.). Арыштаваны 1.7.1950. Абвінавачваўся ў тым, што «слухаў на службе «Голас Амерыкі». Асуджаны 17.8.1950 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду»

да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з далёкаўсходніх канцлагераў (каля Камсамольска-на-Амуры). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.4.1991 ваенным пракурорам Мінска. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЛІЖЭВІЧ Аляксандр Самуілавіч*** [1894, в. Обухава Гродзенскага пав. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту начальнік штаба дывізіі, палкоўнік. Арыштаваны 29.6.1938. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». Вызвалены 17.1.1940. Рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № П-7537 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**СЛІЧАНОК Канстанцін Іванавіч*** [1903, Смаленская (?) губ. — 25.11.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту галоўны інжынер Смаленскага піўзавода. Арыштаваны 23.9.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 17.11.1937 за «шпіянаж» і «шкодніцтва» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**СЛОНІМ Самуіл Захаравіч*** [30.9.1888, Сянно Магілёўскай губ., цяпер Віцебскай вобл. — 31.10.1937, Мінск, НКВД], навуковец. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1905—17 член партыі менша-

вікоў. У 1920 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Навукова-даследчага інстытута прамысловасці. Арыштаваны 29.8.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 44. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). 5.10.1936 асобай нарадай пры НКВД асуджаны за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць, антысавецкую агітацыю і сувязь з польскай разведкай» да 5 гадоў ППК. 30.10.1937 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР справа С. была перагледжана, а ён прыгавораны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.8.1956. Асабовая справа С. № 7100-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СМАЛЕНСКІ Станіслаў Браніслававіч*** [1902, хут. Веснінка Мінскага пав., цяпер у межах Мінска — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер-хімік завода Хімгаз. Арыштаваны 21.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Вялікая Пушкарская, д. 50, кв. 6. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.12.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СМАНЦЭР Міхаіл Мартынавіч*** [1928, в. Вялікая Слабада Крупскага р-на — ?], навучэнец. З сялянскай сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, вучыўся ў школе. Арыштаваны 27.6.1947 у в. Вялікая Слабада Крупскага р-на. Асуджаны

30.10.1947 за «службу ў войсках СС» і як «член СБМ» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МДБ Мардоўскай АССР. Вызвалены 3.7.1956. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 28.9.1962. Асабовая справа С. № 17925-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СМІЛЬТЭН Канстанцін Карлавіч*** [1908, Яраслаўская губ., Расія — 19.2.1938, Мінск, НКВД], педагог, брат Лідзіі *Смільтэн*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў дырэктарам Віцебскай латышскай школы № 30. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.12.1937. Асуджаны 21.1.1938 паводле пастановы калегіі НКВД СССР як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 14.11.1957. Асабовая справа С. № 6954-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СМІЛЬТЭН Лідзія Карлаўна*** [1912, Яраслаўская губ., Расія — ?], педагог, сястра Канстанціна *Смільтэна*. З сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнтка Віцебскага педагагічнага інстытута. Адначасова працавала настаўніцай. Арыштавана 11.1.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Талстога, д. 10, кв. 6. Асуджана 20.3.1938 асобай нарадай пры НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена ў 1949. Рэ-

абілітавана трыбуналам БВА 28.8.1958. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 6447-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СМІРНОЎ Андрэй Георгіевіч*** [1898, в. Обаль Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык аддзела размнажэння і селекцыі Навукова-даследчага інстытута свінагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 23.5.1933 пад Мінскам у саўгасе «Малая Сляпянка». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член антысавецкай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі БССР» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Кемераўскай вобл. (Марыінск, Новасібірск). Вызвалены 12.10.1937. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа С. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СМІРНОЎ Іван Карпавіч** [1880, в. Рэчыца, цяпер Усходскі р-н Смаленскай вобл., Расія — ?], службовец. Да арышту бухгалтар электрастанцыі ў Слоніме Гродзенскай вобл. Арыштаваны 17.9.1952. Асуджаны 17.9.1952 як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў

ссылкі ў Казахскую ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 3.3.1995 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа С. № П-21794 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СМОЛІН Карней Емяльянавіч*** [1898, Гомельскі пав. Магілёўскай губ., цяпер Добрушскі р-н Гомельскай вобл. — 8.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту палкоўнік, начальнік першага аддзялення першага аддзела Генеральнага штаба Чырвонай арміі. Арыштаваны 31.10.1937 у Маскве па адрасе: Вадкаўскі зав., д. 12, кв. 6. Асуджаны 7.2.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.4.1959.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**СМУЛЬСКІ Казімір Феліксавіч*** [1891, ст. Смульск Лодзінскага пав., цяпер Польшча — 13.4.1941, Беласток], службовец. З польскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Да арышту старшыня Саюза чыгуначнікаў (г. Аўгустоў Беластоцкага ваяв.). Быў жанаты, меў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 8.11.1939. Абвінавачваўся як «агент аўгустоўскай паліцыі». Загінуў ў Беластоцкай турме. Рэабілітаваны 5.9.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа С. № П-12411

з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**СНАРСКІ Аляксандр Аляксандравіч*** [1909, ? — 3.1.1938, Астрахань (?), НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інжынер-карабельшчык Волга-Каспійскага дзяржаўнага рыбнага трэста. Арыштаваны ў Астрахані. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 21.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1989.

Кр.: *Из тьмы забвения.*

**СНАЦКАЯ Марыя Аляксандраўна** [1913, ст. Капцэвічы Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 27.8.1937, Мінск, турма НКВД], музыкант. З сям'і бел. службоўца. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту скрыпачка Беларускага дзяржаўнага тэатра. Арыштавана ў 1937. Асуджана 25.8.1937 «тройкай» НКВД за «шпіёнскую дзейнасць на карысць буржуазнай Польшчы» да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана 16.10.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 13173-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СНІТКА Антон Вікенцевіч*** [1898, Мінская губ., цяпер Мінская (?) вобл. — ?], медык. З бел. сям'і. Падчас арышту памочнік урача Куйбышаўскай гарадской

бальніцы. Абвінавачваўся ў «шпіянажы» і «антысавецкай агітацыі». 22.12.1938 паводле пастановы НКВД справа С. спынена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 18.10.1991.

Кр.: *Белая книга.*

**СПЕКТАР Якаў Мееравіч*** [студз. 1891, мяст. Копысь Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Падчас арышту загадчык сакратарыята СНК БССР. Арыштаваны 2.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 36/43, кв. 24. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.8.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 10859-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 1-я Лекарта, д. 3, кв. 7 арыштавана краўчыха фабрыкі імя Крупскай Спектар Фаня Яфімаўна (н. 10.12.1903 у мяст. Копысь у сям'і службоўца), жонка Якава *Спектара*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Вызвалена ў 1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 6.8.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 10648-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СПЯРАНСКІ Дзій Мікалаевіч** [1917, ст. Васілевічы Беларускай чыгункі — ?]. Падчас арышту студэнт

аднаго з томскіх тэхнікумаў. Арыштаваны 2.9.1937. Асуджаны 19.10.1937 як «член «Партыі святых» да 8 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.4.1955.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**СРАГОВІЧ Матус Майсеевіч*** [1893, мяст. Гарадзішча Навагрудскага пав., Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 28.4.1939, Орша, НКВД], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік сельскагаспадарчай станцыі Лошыца. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 55а, кв. 8. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 як «член контррэвалюцыйнай сіяністкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Пакаранне адбываў у Аршанскай турме. Загінуў у зняволенні ад запалення нырак. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 12.6.1958. Асабовая справа С. № 11850-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАВІЦКАЯ Ірына Андрэеўна*** [1905, в. Грыўда Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 25.12.1937, Масква, НКВД], педагог. З беднай сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). Падчас арышту выкладчык гісторыі ВКП(б) філіяла абл. «Камвуза» (?) сакратароў парткамаў пры Васкрасенскім райкаме ВКП(б).

Арыштавана 22.8.1937 у Маскве па адрасе: Петравярыгскі зав., д. 6/8, пакой 31. Асуджана камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.12.1937 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляна на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.11.1955. Асабовая справа С. П-21628 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАКУН Міхаіл Восіпавіч** [1893, в. Нідзяны Віленскага пав., цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл. — 27.4.1943, НКВД], савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1909 працаваў рабочым на заводах Пецярбурга, Рыгі, Рэвеля. За ўдзел у рэвалюцыйным руху неаднаразова арыштаваны. Са студз. 1917 у арміі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 адзін з арганізатараў Чырвонай гвардыі. З 1918 на гаспадарчай, а з 1924 на партыйнай рабоце. Са студз. 1935 упаўнаважаны Наркамата харчовай прамысловасці СССР пры СНК БССР, з чэрв. 1935 1-ы сакратар Гомельскага гаркама КП(б)Б. З 7.7 да 13.11.1937 Старшыня ЦВК БССР. Член ЦК КП(б)Б у 1935—37, член Бюро ЦК у чэрв. — кастр. 1937. Член Прэзідыума ЦВК БССР у 1937. 25.10.1937 пленум ЦК КП(б)Б зняў С. з пасады старшыні ЦВК БССР. Яго прыцягнулі да крымінальнай адказнасці за «антысавецкую дзейнасць». У 1940 ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР вынесла яму апраўдальны прыгавор, аднак пленум Вярхоўнага суда СССР у 1943 адмяніў яго. Справа спынена ў сувязі са смерцю С. Рэабілітаваны ў 1954.

Кр.: *ЭГБ*, т. 6—1; *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 521.

**СТАЛІЦКАЯ Міра Іосіфаўна** [25.9.1911, мяст. Вішнева Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], бібліятэкар. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў бібліятэцы парткабінета Політэхнічнага інстытута. Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 24.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Берсана, д. 312, кв. 7. Асуджана 8.1.1938 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапавана ў Янскі (?) канцлагер МДБ Якуцкай АССР. Вызвалена 25.12.1945. Рэабілітавана. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 14835-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАЛЬМАШКА Юліян Сцяпанавіч*** [1899, в. Краснае Сяло Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер г. п. Краснасельскі Гродзенскай вобл. — 22.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інтэндант першага рангу, начальнік аддзялення Аўтабранетанкавага ўпраўлення Чырвонай арміі. Арыштаваны 10.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Малая Тульская, д. 2/1, к. 22, кв. 593. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.8.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 26.7.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАЛЬМАШУК Уладзімір Аляксеевіч*** [1892, в. Непарожнеўцы Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 24.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — начальнік планава-вытворчага аддзела завода «Эталон». Арыштаваны 23.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 3-я лінія, д. 20, кв. 55. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 18.10.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**СТАНКЕВІЧ Кірыл Фёдаравіч*** [1904, Брэст-Літоўск, цяпер Брэст — ?], інжынер. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы інжынер-канструктар «КМК» (?). Арыштаваны 26.2.1942 у Сталінску па адрасе: вул. Кірава, д. 24, кв. 22. Асуджаны 28.4.1945 (?) асобай нарадай пры НКВД СССР за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Рэабілітаваны (па справе № П-2626 ) у 1956. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Кемеровской области*. Кемерово, 1995. Т. 1; 1996. Т. 2.

**СТАНКЕВІЧ Мікалай Іванавіч*** [1903, Мінск — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — начальнік электрацэха Ле-

нінградскага завода № 7. Арыштаваны 21.8.1937. Асуджаны 14.9.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**СТАНКЕВІЧ Станіслаў Антонавіч*** [24.5.1914, Нясвіж Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], мастак. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў ва ўласнай майстэрні. Арыштаваны 20.10.1939 у Нясвіжы па адрасе: вул. Альбееўская, д. 25. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29.11.1940 за «актыўную барацьбу супраць рэвалюцыйнага руху» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Анежскі канцлагер Архангельскай вобл. Вызвалены 22.10.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 21.6.1989. Асабовая справа С. № 26770-с з фotaздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТАНКОВІЧ Уладзімір Міхайлавіч*** [1908, Лубны Палтаўскай губ., цяпер Палтаўская вобл., Украіна — ?], мастак. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Доме Чырвонай арміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 24.10.1944 у Мінску па адрасе: вул. Бібліятэчная, д. 4, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.12.1945 як «сацыяльна небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР

4.6.1968. Асабовая справа С. № 19962-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СТАРАДУБ Павел Макаравіч*** [1903, в. Вялікія Бясяды Мінскага пав., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў загадчыкам вытворчага сектара (аддзела) МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Прымаў удзел у 2-й сусветнай вайне. Арыштаваны 26.9.1944 у Мінску па адрасе: вул. Стараслабадская, д. 24, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.9.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Мінскім абл. судом 26.6.1990. Асабовая справа С. № 31017-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СТАРЫНСКАЯ (ІВАНОВА) Клаўдзія Ільінічна*** [1907, Віцебск — ?], навуковец, жонка Васіля *Старынскага.* З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту асістэнт Віцебскага ветэрынарна-заалагічнага інстытута. Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 10.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Ветэрынарная, д. 10. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 16.5.1938 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 4.3.1958. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**СТАРЫНСКІ Васіль Сямёнавіч*** [1903, в. Крупіянава Станіца Дзямідаўскага пав. Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 31.10.1937, Мінск, НКВД], навуковец, педагог, муж Клаўдзіі *Старынскай*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык кафедры зоагігіены Віцебскага ветэрынарна-заалагічнага інстытута. Арыштаваны 4.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Ветэрынарная, д. 10. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1957. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**СТАСЕВІЧ Барыс Іванавіч** [2(14).12.1895 (паводле іншых звестак 1896), Брэст — 13.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З бел. мяшчанскай сям'і. Вучыўся ў духоўнай семінарыі і БДУ. З 1914 у арміі, загадчык харчовага пункта ў Адэсе. З 1918 член РКП(б), у 1918—19 на падпольнай партыйнай рабоце ў Адэсе. З 1919 у Чырвонай арміі, удзельнік грамадзянскай вайны. З 1920 у Мінску: нам. начальніка аддзела губхарчкама, нам. наркама ўнутраных спраў БССР. Са снеж. 1922 сакратар Мінскага павятовага камітэта КП(б)Б, загадчык аддзела Слуцкага акруговага камітэта партыі. У маі 1924 — кастр. 1928 сакратар Аршанскага акругкама КП(б)Б. У вер. 1928 — вер. 1929 сакратар ЦК КП(б)Б. З вер. 1929 у Маскве: у Прафса-

юзным інтэрнацыянале. Падчас арышту загадчык культаддзела Дарпрафсаюза чыгуначнікаў. Арыштаваны 21.7.1937 у Маскве па адрасе: Лявонцеўскі зав., д. 2а, кв. 7. Асуджаны 13.2.1938 «тройкай» НКВД за «ўдзел у шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 26.9.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**СТАСЕВІЧ Казімір Вікенцевіч*** [1878, в. Дашкавічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.4.1934, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту загадчык аптэкі пры паліклініцы Маскоўска-Курскай чыгункі. Арыштаваны 8.2.1933 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Якіманка, д. 22/2, кв. 123. Асуджаны калегіяй АДПУ 25.2.1934 за «шпіянаж» і «падрыхтоўку тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда 16.1.1989.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАСЕВІЧ Павел Рыгоравіч*** [1895, мяст. Антопаль Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — 15.3.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту

начальнік марскога аддзела Генеральнага штаба Чырвонай арміі. Арыштаваны 13.1.1938 у Маскве па адрасе: Лубянскі зав. (?), д. 17, кв. 8. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.3.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.9.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАСЕВІЧ Рыгор Рыгоравіч (СЕМЯНЮК Міхаіл Рыгоравіч)** [1904, в. Малыя Шчытнікі Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі р-н — 23.9.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. дырэктара Маскоўскага абл. калгаснага тэатра. Арыштаваны 10.8.1937 у Маскве па адрасе: Тварыскі зав., д. 24, кв. 49. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 23.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАТКЕВІЧ Міхаіл Мікалаевіч*** [1910, в. Ужа Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 9.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту энергетык завода «Газаапарат». Арыштаваны 12.9.1937 у Маскве па адрасе: Сіроцкі зав., д. 16, корп. 5, кв. 120. Асуджаны камісіяй НКВД і праку-

ратуры СССР 28.11.1937 за «сувязі з актыўнымі членамі ПАВ» і за «шкодніцкую дзейнасць на заводзе» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.10.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СТАТУТ Дзмітрый Мікалаевіч*** [1892, в. Шкілякі Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл. — 2.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік (дырэктар) Стаўрапольскага ваеннага конезавода. Арыштаваны 4.1.1938 у Маскве па адрасе: Ленінградская шаша, д. 19, кв. 104. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.4.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 7.3.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАШКЕВІЧ Павел Рыгоравіч*** [1904, Стары Быхаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Быхаў Магілёўскай вобл. — 14.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — старшыня райплана Араніенбаўмскага раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 3.8.1937 у Араніенбауме Ленінградскай вобл. па адрасе: вул. Параходная, д. 5. Асуджаны «тройкай» НКВД 10.12.1937 за «ўдзел у контр-

рэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТАШЭЎСКАЯ *Лідзія Пятроўна*** * [2.10.1908, Мінск — ?], гідратэхнік, жонка *Васіля Сташэўскага*. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Працавала ў Мінскім інстытуце харчовай прамысловасці. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 33, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як «жонка расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа С. № 6762-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТАШЭЎСКІ Аляксандр Восіпавіч** [Сташэўскі-Стасевіч; 12(24). 3.1889, в. Дулічы Слуцкага пав., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 11.12.1938, НКВД], дзяржаўны дзеяч. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1911), МВПІ (1920). У 1911—14 выкладаў у Рэчыцкім пачатковым прыходскім вучылішчы. У 1-ю сусветную вайну на Паўд.— Зах. фронце, падпаручнік. Пасля дэмабілізацыі з пач. 1918 у Яраслаўлі (Расія), удзельнік бел. нацыянальнага руху, член арганізацыі «Маладая Беларусь». З кастр. 1918 у Мінску, член Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1919 сакратар прэзідыума педагагічнай рады МВПІ, настаўнік 9-й

Мінскай бел. школы 1-й ступені. Адзін з ініцыятараў стварэння ў студз. 1920 Бел. камуністычнай арганізацыі (БКА), член яе ЦК, уваходзіў у 1-ю Мінскую канспіратыўную «пяцёрку» БКА па арганізацыі антыпольскага падполля і партызанскага руху. Пасля прыходу бальшавікоў у Мінск у ліп. 1920 мабілізаваны ў Чырвоную армію, камандаваў узводам, ротай. З ліст. 1921 сакратар ЦВК і СНК БССР, з ліп. 1924 старшыня Полацкага акруговага выканкама, садзейнічаў правядзенню беларусізацыі на далучаных да БССР усх. бел. тэрыторыях. З лют. 1926 наркам унутраных спраў БССР, з вер. 1928 наркам юстыцыі і пракурор БССР. Член ЦВК БССР (1921—31) і яго Прэзідыума (1921—24, 1927—31). Член Рэвізійнай камісіі КП(б)Б у 1924—25, ЦКК КП(б)Б у 1929—31. У канцы 1930 неабгрунтавана абвінавачаны як удзельнік «антыпартыйнай» групы Ігнатоўскага—Жылуновіча, зняты з пасады і прызначаны старшынёй Бабруйскага райвыканкама. 18.2.1931 выведзены са складу ЦКК КП(б)Б. З восені 1931 загадчык рабфака БДУ, потым дырэктар Гомельскага сельскагаспадарчага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 27.4.1937. Абвінавачваўся ў «антысавецкай дзейнасці». 29.10.1937 «тройкай» НКВД асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**СТАЯНОЎСКІ Казімір Адамавіч*** [1871, мяст. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер вёска Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — ?], медык. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — фельчар раённай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі ў Казахстане. Арыштаваны 4.11.1936 у Акмолінску. Асуджаны Карагандзінскім

абл. судом 10.6.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда Казахскай ССР 29.3.1963.

Кр.: *Хранить вечно.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СТОЦІК Мікалай Сцяпанавіч*** [1913, Глыбокае Віленскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 21.10.1937, Томск, НКВД], тэхнік. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту дзяжурны матарыст Томскага мельзавода (?). Арыштаваны 13.8.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.11.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТРАКОВІЧ Мікалай Ільіч*** [1910, в. Манцюты Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 10.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — канструктар аддзела галоўнага энергетыка завода № 6 Ленінградскай вобл. Арыштаваны 27.7.1937 у пас. імя Марозава Усевалажскага р-на Ленінградскай вобл. па адрасе: вул. Калгаса, д. 12, кв. 12. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТРАХОВІЧ Аркадзь Мікалаевіч*** [6.1.1902, в. Вольніца Бабруйскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл. — 8.1.1938, Мінск, НКВД], артыст. З сям'і святара. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Спяваў у хоры Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 38, кв. 4. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 27.12.1937 як «агент польскай разведкі, член «ПАВ» і за «службу ў арміі белапалякаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.10.1957. Асабовая справа С. № 10944-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТРУМЕНЬ Васіль** [сапр. Лебедзеў Аляксандр Мікалаевіч; 19.3(1.4).1914, в. Лявонцьева Калагрыўскага пав. Кастрамской губ., цяпер Мантураўскі р-н Кастрамской вобл., Расія — 25.10.1992, Сарны Ровенскай вобл., Украіна], паэт, празаік, педагог. Пісаў на бел. і ўкраінскай мовах. Бацька С. загінуў на фронце ў 1915. У 1921 сям'я перабралася на радзіму айчыма С. ў в. Зачэпічы Лідскага пав. Навагрудскага ваяв. (цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл.). У 1930 арганізаваў і ўзначаліў камсамольскую ячэйку ў в. Зачэпічы. У 1932 уступіў у КПЗБ. Першы яго верш «Наша доля» апублікаваны ў падпольнай газ. «Малады камуніст» у 1931, першыя сатырычныя нататкі ў 1932. За рэвалюцый-

ную дзейнасць, публікацыю антыўрадавых вершаў і ўдзел у забастоўцы на шклозаводзе «Нёман», дзе працаваў у 1935—36, зняволены ў турмах Ліды, Глыбокага, Вілейкі. За спробу нелегальна перайсці савецка-польскую мяжу зняволены ў Вілейскай турме. Пасля адбыцця тэрміну пакарання прымусова здадзены ў армію. За рэвалюцыйную агітацыю сярод жаўнераў польскай арміі ў 1937—38 адбываў пакаранне ў Лідскай гарнізоннай турме строгага рэжыму. У 1938 разам з бацькамі пераехаў на Ровеншчыну. Удзельнічаў у рэвалюцыйным падполлі Зах. Украіны. Пасля 1939 працаваў у сферы адукацыі, адначасова завочна вучыўся ў Астрожскай педагагічнай школе, якую скончыў 22.6.1941. У гады вайны ў антыфашысцкай групе. У 1944—45 у Чырвонай арміі, двойчы паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў выкладчыкам украінскай мовы і літаратуры ў СШ Кастопаля Ровенскай вобл. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі інстытут (1949), Львоўскі педагагічны інстытут (1953). Першы верш на ўкраінскай мове апублікаваў у 1956. Да выхаду на пенсію ў 1979 працаваў у сферы адукацыі ў Валынскай і Ровенскай абл.

Тв.: У кн.: *Сцягі і паходні*. Мн., 1965; *Дзень паэзіі — 78*. Мн., 1978; *Ростані волі*. Мн., 1990.

Літ.: *Пяткевіч А*. Сцежкамі роднага краю // *Наднёманскія былі*. Мн., 1968; *Міско Я*. Было яно калісьці // *Міско Я.* Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983; *БП*, т. 5; *БЭ*, т. 15.

**СТРУНЕЎСКІ Уладзімір Данілавіч*** [1907, мяст. Целяханы Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 9.1.1938, Мінск, НКВД], артыст.

З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Беларускім дзяржаўным радыёкамітэце. Быў жанаты, гадаваў дзіця Арыштаваны 23.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 12, кв. 4. Асуджаны «двойкай» НКВД 3.1.1938 як «член контррэвалюцыйнай дыверсійнай паўстанцкай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 23.10.1957. Асабовая справа С. № 10902-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТРУНІН (Белапольскі) Аляксандр Абрамавіч*** [1.7.1887, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 22.8.1925, Масква, АДПУ], навуковец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту сакратар Віцебскага раённага аддзела Саюза хімікаў. Арыштаваны 25.3.1925 у Віцебску па адрасе: вул. Верхне-Пятроўская, д. 52. Этапаваны ў Бутырскую турму. Асуджаны 25.7.1925 або 10.8.1925 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «супрацоўніцтва з Віленскім жандармскім упраўленнем» да ВМП. Расстраляны на тэрыторыі Яўзаўскай бальніцы. Рэабілітаваны па першай справе (№ 22002-п, захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Віцебскай вобл.) пракуратурай Віцебскай вобл. 25.5.1992, па другой — пастановай Вярхоўнага суда Беларусі 6.6.1991.

Кр.: *Звесткі ЦА ФСБ РФ.*

**СТРУПІНСКІ Мордух Давыдавіч*** [1906, Бабруйск — 21.12.1937 Бабруйск, турма НКВД], службо-

вец. Да арышту дырэктар Бабруйскага хлебазавода. Арыштаваны 18.9.1937. Асуджаны 20.12.1937 «тройкай» НКВД за «ўдзел у трацкісцкай арганізацыі» і «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 4783-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

1.4.1938 у Бабруйску была арыштавана хатняя гаспадыня, маці двух дзяцей, Струпінская Сара Ізрайлеўна (нар. ў 1909 у Бабруйску), жонка Мордуха *Струпінскага*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.12.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 3202-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**СТРУСЕВІЧ Яўген Аляксандравіч*** [1905, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 15.3.1938, Мінск, НКВД], мастак. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Бабруйскім гарадскім Доме культуры авіятараў. Арыштаваны 15.11.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.1.1961. Асабовая справа С. № 7295-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**СТРЫГА Альберт Станіслававіч*** [крас. 1892, Мінск — ?], службовец. З сям'і службоўца. Атрымаў ся-

рэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1918). Падчас арышту начальнік фінансава-планавага аддзела наркамата саўгасаў БССР. Арыштаваны 1.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 70, кв. 23/24. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны 28.6.1938 асобай нарадай пры НКВД як «удзельнік тэрарыстычнай арганізацыі правых, які праводзіў шкодніцкую палітыку ў галіне фінансавання калгасаў» да 15 ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 21.3.1957 ваннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 10147-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

У ліп. (?) 1938 у Мінску арыштавана краўчыха швейнай фабрыкі «Кастрычнік» Стрыга Яніна Лявонцеўна (н. ў 1899 у Паўлаградзе Днепрапятроўскай вобл., цяпер Украіна, у сям'і рабочага), жонка Альберта *Стрыгі*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» і за «дапамогу мужу ў яго контррэвалюцыйнай дзейнасці» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.6.1966 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа С. № 19493-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТРЫЕЎСКІ Канстанцін Канстанцінавіч** [1885, мяст. Гальшаны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 21.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец, партыйны работнік. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — старшыня ЦК Саюза рабочых цяжкага машынабудавання, неаднаразова выбіраўся ў кіруючыя органы ВКП(б).

Арыштаваны 22.11.1937 у Маскве па адрасе: Навінскі бульвар, д. 25/10, кв. 44. Асуджаны 8.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.1.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТУКАНАВА Марыя Афанасеўна*** [1912, в. Горкі Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту малодшы навуковы супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута балотнай гаспадаркі. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана пазасудовым органам НКВД 17.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Усходняя, д. 2, кв. 1. Абвінавачвалася ў «антысавецкай агітацыі». 3.6.1946 вызвалена з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 7.6.1995. Асабовая справа С. № 36468-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТУМБУР Вальдэмар Давыдавіч** [30.7.1899, маёнтак Калны Рыжскага пав. Ліфляндскай губ., цяпер Латвія — 2.7.1938, Мінск, турма НКВД], педагог. З латышскай сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту старшы выкладчык ваеннай вучэбнай часткі Беларускага політэхнічнага інстытута. Быў жа-

наты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 16.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 55-а, пакой 12 (інтэрнат інстытута). Асуджаны 2.7.1938 тройкай НКВД як «удзельнік ваенна-фашысцкай змовы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1966 калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 19639-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТЭЛЬМАХ Валянціна Лук'янаўна*** [н. 1915, в. Вядзернікі, цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл.], член баптысцка-пяцідзесятніцкай царквы. З сялянскай сям'і. У снеж. 1952 і сак. 1953 напісала два лісты ў ваенную пракуратуру і начальніку абл. ўпраўлення МДБ з крытыкай кіраўнікоў КПСС і ўрада; выказвала незадаволенасць савецкім ладам і асабліва калектывізацыяй. Паводле дадзеных следства, з 1938 захоўвала і чытала рэлігійную літаратуру на польскай мове. Арыштавана 2.4.1953 у в. Дамінава былога Радашковіцкага р-на Мінскай вобл. Асуджана 13 або 15 мая 1953 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». 18.9.1954 справа С. перакваліфікавана з паніжэннем тэрміну зняволення. Этапавана ў Пячорскі (былы Паўночна-чыгуначны) канцлагер МУС Комі АССР. Вызвалена 23.6.1956. Рэабілітавана пракуратурай СССР 16.5.1991. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 31737-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 49135; Ф. 9474, воп. 40, спр. 1069; *НАРБ, ІКР.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *58*[10], с. 108.

**СТЭЛЬМАХ Емяльян Васілевіч*** [1898, Віцебская губ., цяпер Віцебская вобл. — 26.10.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік разведвальнага ўпраўлення Чырвонай арміі. Арыштаваны 30.7.1937 у Маскве па адрасе: Сафійская набярэжная, д. 34, кв. 146. Асуджаны «тройкай» НКВД 26.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.12.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**СТЭФАНАВА Вольга Рыгораўна*** [1879, Гродна — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту старшы выкладчык Гродзенскага педагагічнага інстытута. Арыштавана 8.3.1945. Асуджана 24.11.1945 асобай нарадай пры НКВД за «службу ў нямецкай ваеннай камендатуры» да 10 месяцаў (?) ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 7.2.1994 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа С. № П-20080 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СТЭФАНОВІЧ Іосіф Данілавіч*** [1886, в. Рускае Сяло Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец, брат Сямёна *Стэфановіча.* З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту

бухгалтар домаўпраўлення фабрыкі «Чырвоны ткач». Арыштаваны 2.9.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «шпіянаж» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**СТЭФАНОВІЧ Сямён Данілавіч*** [1898, в. Рускае Сяло Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 29.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец, брат Іосіфа *Стэфановіча*. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту слухач Прамысловай акадэміі. Арыштаваны 31.7.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**СУБАЧ Мікалай Міхайлавіч*** [1903, в. Мікольцы Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?], артыст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Беларускім дзяржаўным тэатры. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 24.8.1937 у Віцебску. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.10.1937 як «агент польскай разведкі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 9.1.1959. Асабовая справа С. № 4126-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СУДЗІЛОЎСКІ Захар Фёдаравіч*** [1903, в. Судзілы (?) Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар педагагічнага тэхнікума. Арыштаваны 8.2.1930 у Ак-Булаку. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 16.4.1930 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі» да 5 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 13.6.1960. Асабовая справа С. № 7186-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**СУДЗІЛОЎСКІ Леанід Іванавіч*** [1886, Магілёў — 3.11.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і служачага. Да арышту старшы бухгалтар Беларускага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 21.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 3, кв. 3. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «удзельнік шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.4.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа С. № 27788-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

10.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 3, кв. 3 арыштавана машыністка «Белкаапсаюза», маці дваіх дзяцей, Судзілоўская Алена Аляксееўна (н. ў 1893 у Мінску ў сям'і службоўца), жонка Леаніда *Судзілоўскага*. 17.12.1937 «тройкай» НКВД асуджана як «член ПАВ» да ВМП і 27.12.1937 расстраляна ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітавана 20.3.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа С. № 27653-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУДЗІЛОЎСКІ Мікалай Канстанцінавіч** [псеўд. Русель; 3(15).12.1850, Магілёў — 30.4.1930, Цяньцзінь, Кітай], дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху, публіцыст, прыродазнавец, лекар, падарожнік. Пасля сканчэння Магілёўскай гімназіі паступіў на юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Правучыўшыся адзін курс, перавёўся на медыцынскі ф-т Кіеўскага ун-та. Удзельнічаў у народніцкім руху ў Расіі, адзін з арганізатараў гуртка «Кіеўская камуна» (1873—74), вёў рэвалюцыйную агітацыю на Украіне і ў Паволжы. З-за праследу паліцыі ў канцы 1874 вымушаны эміграваць за мяжу. З кастр. 1875 у Бухарэсце, адзін з арганізатараў сацыялістычнага руху ў Румыніі. Вучыўся ў Бухарэсцкім ун-це. Імкнучыся пазбегнуць выдачы расійскім уладам, афіцыйна змяніў прозвішча на Русель. У 1877 стаў доктарам медыцыны. У 1881 румынскія ўлады выслалі С. з краіны як сацыяліста. З 1881 жыў у Балгарыі, у 1887 пераехаў у Сан-Францыска (ЗША), з 1892 на Гавайскіх астравах. Працаваў лекарам, абараняў інтарэсы карэннага насельніцтва, стварыў Партыю незалежных. У 1900 абраны сенатарам, у 1901 прэзідэнтам сената. У 1903 накіраваўся ў Шанхай, каб быць бліжэй да Расіі і мець магчымасць весці там рэвалюцыйную работу. Падчас руска-японскай вайны 1904—05 вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод рускіх ваеннапалонных у лагерах Японіі, выдаваў у Нагасакі газ. «Воля», потым газ. «Восточный обзор». Нейкі час жыў на Філіпінах, з 1921 у Кітаі. Атрымліваў пенсію ад савецкага ўрада. Аўтар работ па медыцыне, хіміі, філасофіі, сацыялогіі, геаграфіі.

Тв.: К офицерам русской армии. Нью-Йорк, 1905; В плену… Кобе, 1906; Последовательная демократия. Нагасаки, 1907; На полити-

ческие темы. Нагасаки, 1907; Мысли вслух. 2 изд. Нагасаки, 1916; Национальность и национализм // *Русское слово*. 1922. 21 марта.

Літ.: *Грицкевич В.П.* Путешествия наших земляков. Мн., 1968; *Клейн Б.С.* Доктор Руссель // *Неман*. 1969. № 1—2; *Мельников М.Ф.* Из семьи соколиной. Мн., 1973; *Иосько М.И.* Николай Судзиловский-Руссель. Мн., 1976; *Славутыя імёны Бацькаўшчыны*. Вып. 1. Мн., 2000; *ЭГБ*, т. 6—1.

**СУЛІК-САРНОЎСКІ Нікадзім** [3(15).8.1893, в. Каменна-Стара Саколкаўскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 14.1.1954], польскі ваенны дзеяч бел. паходжання. У час вучобы ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі ўваходзіў у бел. нацыянальны гурток. У пач. 1-й сусветнай вайны скончыў 4-месячныя афіцэрскія курсы, ваяваў на Валыні, на Румынскім фронце, паранены. З 1918 у Войску Польскім (у 1919—20 у складзе 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі), удзельнік савецка-польскай вайны 1920. Пасля вайны на камандных пасадах. Удзельнік польска-германскай вайны 1939. У 1939—41 у падпольным Саюзе ўзброенай барацьбы на тэрыторыі акупаванай Польшчы (у Варшаве), потым — у Вільні. У крас. 1941 арыштаваны органамі НКВД СССР. Вызвалены (жн. 1941) у адпаведнасці з савецка-польскім дагаворам. З сак. 1942 у польскай арміі генерала У.Андэрса на тэрыторыі СССР, з крас. 1942 камандзір 5-й Крэсовай дывізіі пяхоты, сярод асабовага складу якой было шмат беларусаў. У 1943—45 удзельнічаў на чале дывізіі ў галоўных бітвах у Італіі, у тым ліку каля Монтэ-Касіна. Станоўча ставіўся да бел. руху ў Войску Польскім. З 1946 жыў у Англіі.

Тв.: Okruchy wspomnień. Białystok, 1993.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**СУЛЬКЕВІЧ Мацей Аляксандравіч** [8(20).6.1865, маёнтак Кемейшы Лідскага пав., цяпер вёска ў Воранаўскім р-не Гродзенскай вобл. — 15.7.1920], военачальнік, дзеяч татарскага нацыянальнага руху. Генерал-лейтэнант (1915). З татарскіх дваран Беларусі, патомных ваенных. Скончыў Варонежскі кадэцкі корпус (1886), Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча (1889), акадэмію Генштаба (1894). Удзельнік задушэння паўстання іхэтуаняў у Кітаі ў 1900—02. У руска-японскую вайну 1904—05 начальнік штаба 15-й пяхотнай дывізіі, камандзір пяхотнага палка, узнагароджаны залатой шабляй «За храбрасць». У 1-ю сусветную вайну начальнік штаба 7-га пяхотнага корпуса, начальнік 33-й пяхотнай дывізіі, камандуючы 37-м корпусам. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 наладзіў сувязь з ЦК мусульманскіх вайсковых арганізацый «Аскеры Шуро» (Казань), сфарміраваў на Румынскім фронце 1-ы Асобны мусульманскі корпус. У чэрв.—ліст. 1918 прэм'ер-міністр, міністр унутраных і ваенных спраў Крымскага краявога ўрада, які абапіраўся на падтрымку Германіі і Турцыі. Вядомы ў Крыме як Сулейман-п а ш а. Імкнуўся склікаць Крымскі курултай, які б абвясціў стварэнне Крымска-татарскай дзяржавы. У ліст. 1918, калі ў Крым пасля адыходу германскіх войск уступіла расійская Добраахвотніцкая армія, Крымскі ўрад спыніў існаванне, а С. выехаў у Баку. У снеж. 1918 — крас. 1920 начальнік Генеральнага штаба ўзброеных сіл Азербайджанскай Дэмакратычнай рэспублікі. Арганізоўваў азербайджанскую нацыянальную армію, садзейнічаў заключэнню перамір'я паміж Азербайджанам і Грузіяй (чэрв. 1919). Пасля прыходу ў Баку Чырвонай арміі арыштаваны і расстраляны за «контррэвалюцыйную дзейнасць».

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**СУЛКОЎСКІ Фёдар Васілевіч*** [28.12.1888, в. Кірава, цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і бел. святара. Да арышту нам. упраўляючага справамі СНК БССР. Арыштаваны 5.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 6, кв. 1. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.10.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа № 10964-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

14.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 6, кв. 1 арыштавана маці траіх дзяцей Сулкоўская Марыя Якаўлеўна (н. ў 1892 у мяст. Ленін Слуцкага пав. Мінскай губ.), жонка Фёдара *Сулкоўскага*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 19.6.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 6687-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУРАГА Усевалад Іванавіч*** [ліп. 1907, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 17.5.1934, Мінск, НКВД], навуковец. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Беларускага аддзялення Інстытута рыбнай гаспадаркі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 12.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Нагіна, д. 6/2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая

справа С. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУРАНАЎ Аляксей Савіч*** [1893, Віцебск — 4.3.1939, Масква, НКВД], педагог. З сям'і бел. рабочага. У 1908—17 член партыі эсэраў. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дэкан эксплуатацыйнага ф-та Маскоўскага інстытута інжынераў транспарту. Арыштаваны 20.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Бахмецьеўская, д. 17, кв. 6. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.3.1939 за «шпіянаж і ўдзел у контррэвалюцыйнай дыверсійнатэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 11.7.1963.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**СУРТА Іван Захаравіч** [10(22).11.1893, в. Бяседавічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Хоцімскі р-н Магілёўскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч, навуковец. З сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). Скончыў медыцынскі ф-т 2-га Маскоўскага ун-та (1918), Інстытут чырвонай прафесуры (1932). У 1933 нам. наркама асветы Беларусі, з 1933 наркам аховы здароўя Беларусі. У 1936—37 прэзідэнт АН Беларусі. Аўтар навуковых работ па пытаннях метадалогіі і гісторыі прыродазнаўства. Кандыдат у члены ЦК ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, 3-ці Дом Саветаў, кв. 35. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з

арыштам. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «член антысавецкай арганізацыі правых» і за «шкодніцтва ў галіне аховы здароўя» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.4.1956. Асабовая справа С. № 6631-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *БЭ,* т. 15; *ЭГБ*, т. 6—1.

**СУХАВЕРХ Віктар Васілевіч*** [1901, ? — 10.11.1937, Смаленск, НКВД], педагог, верагодна, брат Уладзіміра *Сухаверха*. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту настаўнік у в. Навасёлкі Смаленскага р-на. Арыштаваны 22.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**СУХАВЕРХ Уладзімір Васілевіч*** [1912, в. Бузуны Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ?], селянін-аднаасобнік, верагодна, брат Віктара *Сухаверха*. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 2.4.1932 у в. Новая Гута Капыльскага р-на Мінскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.7.1932 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 17.11.1989. Асабовая справа С. № 29340-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СУХАДОЛЬСКІ Аляксей Сямёнавіч*** [1900, в. Шчэцінка (?) Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі (?) р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інструктар гітарнага цэха Томскага музкамбіната. Арыштаваны 12.11.1937. Асуджаны 15.11.1937 за «тэрарызм» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.7.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**СУЦІН Ілья Аронавіч*** [1897, Мінск — ?], навуковец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Мінскім медыцынскім інстытуце. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 5.3.1931 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 1, кв. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 29.1.1932 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» да 3 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа С. № 6736-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУЧОК Алесь** [сапр. Дабрыян Пётр Навумавіч; іншы псеўданім Вл.Вашык; 7(20).10.1916, в. Ахматава Алатырскага пав. Сімбірскай губ., цяпер Алатырскі р-н Чувашыі — 27.8.1993, ст. Азярніца Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.], паэт, журналіст. З сям'і бежанцаў 1-й сусветнай вайны, якія паходзілі з Слонімскага пав.

У 1922 вярнуўся на радзіму бацькоў. У 1932 скончыўшы пяць класаў у польскай школе ў в. Мяльканавічы, працаваў на гаспадарцы. 16.1.1934 за арганізацыю дэманстрацыі мяльканавіцкіх вучняў, якія патрабавалі праводзіць заняткі на бел. мове, арыштаваны. Уцёк з-пад арышту. Затым сакратар Азярніцкага падпольнага райкама камсамола Зах. Беларусі. Зноў арыштаваны 30.7.1934 і ў вер. 1935 асуджаны да 4 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Беластоцкую турму. Пазней С. сведчыў, што пісаць пачаў «яшчэ будучы ў Слонімскай турме. Паперы і алоўка мець у камеры не дазвалялася, але ўхітрыўся пісаць... алюмініевай лыжкай на сцяне». Вызвалены па амністыі ў 1937. У 1938 у час. «Шлях моладзі» з'явіўся першы верш С. — «Я бачыў». Зноў арыштаваны 27.4.1939 і без суда адпраўлены ў лагер Картуз-Бяроза. Вызвалены ў вер. 1939. Працаваў у Слонімскай раённай газ. «Вольная праца». У час 2-й сусветнай вайны сакратар падпольнага антыфашысцкага камітэта, супрацоўнік падпольнай газ. «Вольная праца». З вер. 1944 2-гі сакратар Слонімскага РК ЛКСМБ. З кастр. 1944 да 1946 служыў у Савецкай арміі. У 1948—50 загадчык Азярніцкага сельскага Дома культуры. У 1950—53 старшыня Азярніцкага сельсавета, у 1953—55 інструктар Слонімскага РК КПБ. Затым працаваў у калгасе, на чыгуначнай станцыі. З 1959 зноў пачаў выступаць з вершамі (газ. «Гродзенская праўда», час. «Сельская гаспадарка Беларусі»). З 1978 пенсіянер. Пахаваны ў в. Азярніца.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Тв.: У кн.: *Сцягі і паходні*. Мн., 1965.

Літ.: *Калеснік У.* Лёсам пазнанае. Мн., 1982; *БП*, т. 5.

**СУШКЕВІЧ Барыс Іванавіч*** [1870, Полацк Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 1.12.1937, Віцебск, НКВД], службовец. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту паляўніцтвазнавец інспекцыі паляўніцтва Камітэта па справах фізкультуры і спорту. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 22.10.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Сталярная, д. 2/1, кв. 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе ПАВ» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 26.9.1989. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**СУШКЕВІЧ Канстанцін Паўлавіч*** [7.3.1898, Мінск — 4.11.1937, Мінск, НКВД], артыст. З сялянскай сям'і. Працаваў у Беларускім ансамблі народных інструментаў. Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску па адрасе: 2-і Апанскі зав., д. 17, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 11.9.1957.

Разам з мужам арыштавана, асуджана і расстраляна яго жонка прэпаратар Мінскага мікрабіялагічнага інстытута, маці дваіх дзяцей, Сушкевіч Соф'я Аляксандраўна (н. ў 1891 у Бабруйску Мінскай губ. ў сям'і службоўца). Справа сям'і С. № 11321-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУШКЕВІЧ Фелікс Іванавіч*** [1893, в. Жлобы (?) Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі

р-н Гомельскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — прараб пункта нарыхтоўкі збожжа. Арыштаваны 17.9.1937 у Асіне Томскай вобл. Асуджаны 8.10.1937 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 27.6.1940.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**СУШЧЫНСКІ Віталь Уладзіміравіч** [1890, пас. Галабурдшчына Магілёўскага пав., цяпер Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл. — 8.10.1938 (?), НКВД], адзін з першых расійскіх палярных лётчыкаў. З бел. сялянскай сям'і. Кавалер Георгіеўскіх крыжоў 3 ступеняў. Скончыў Севастопальскую школу авіяцыі (1912). Служыў на Далёкім Усходзе. У 1-ю сусветную вайну ваяваў у авіяатрадзе на Зах. фронце. З 1918 у Чырвонай арміі, удзельнік грамадзянскай вайны, камандзір асобай роты на Далёкім Усходзе. Пасля службы ва Уладзівастоку, перайшоў у грамадзянскую авіяцыю. У 1920-я г. лётаў на палярных лініях у Комі АССР. У канцы 1920-х г. вярнуўся на радзіму. Падчас першага арышту (4.2.1930) следчымі запісаны як «селянін-аднаасобнік з пас. Галабурдшчына». 21.3.1930 калегіяй АДПУ асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Пасля датэрміновага вызвалення жыў у г. Нар'ян-Мар Ненецкай акругі. З 1935 працаваў у Нар'ян-Марскім авіяатрадзе, лётаў на Паўночных тэрыторыях сучасных Рэспублікі Комі, Архангельскай і Цюменскай абласцей. Падчас другога арышту (2.10.1937) працаваў рыбаком. 8.10.1938 «тройкай»

УНКВД па Архангельскай вобл. прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Па першай справе (№ 10142-сн; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) рэабілітаваны 24.7.1989, па другой 2.2.1958.

Кр.: Поморский Мемориал: Книга памяти жертв политических репрессий. Архангельск. Т. 1—3. Год выдання не пазначаны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**СЦЕННІК Пётр** [1914, в. Дубавае Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. (?) — не пазней 1947, ?], бел. дзеяч, педагог. Падчас нямецкай акупацыі настаўнік, кіраўнік СБМ Вілейскай акругі. Летам 1944 выехаў у Чэхію, дзе быў арыштаваны органамі савецкай дзяржбяспекі (1945). Знаходзіўся пад следствам у Мінскай турме МДБ. Загінуў у зняволенні.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Геніюш Л.* Выбр. тв. Мн., 2000; *Юрэвіч Л.* Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі. Мн., 2001.

**СЦЕПАНОВІЧ Фёдар Міхайлавіч*** [1893, в. Пакроўка Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. старшы выкладчык МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У час 2-й сусветнай вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 6, кв. 5. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.12.1945 як «памагаты нямецкіх акупантаў» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Цюменскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай РБ

29.10.1992. Асабовая справа С. № 34976-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЦЕПАНЮК Уладзімір Герасімавіч** [1903, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 17.5.1938, Масква, НКВД], тэхнік. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту старшы тэхнік дырэкцыі Маскоўскіх тэлеграфных сетак. Арыштаваны 3.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Ніжнія Сырамятнікі, д. 315, кв. 35. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 30.4.1938 за «прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.9.1956. Асабовая справа С. № П-26033 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**СЦЯПАНАЎ Захар Харытонавіч** [1904, пас. Ветранка Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], ваенны ўрач, падпалкоўнік. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую медыцынскую адукацыю. Да арышту начальнік медыцынскай службы вайсковай часці № 1097 (ваенны гарадок у г. Елабуга Татарскай АССР). Арыштаваны 14.3.1953. Абвінавачваўся ў «правядзенні контррэвалюцыйнай агітацыі». 13.6.1953 вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 7772-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЦЯПУРА Канстанцін Міхайлавіч*** [1899, в. Гірычы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У 1931 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту студэнт Ленінградскага хіміка-тэхналагічнага інстытута. Арыштаваны 18.8.1937. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЦЯЦЭНКА Вольга Аляксандраўна** [1899, Градзійск Варшаўскай губ., Польшча — ?], перакладчыца. З сям'і рускага службоўца. Атрымала сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 25.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Красная, д. 13, кв. 1. Асуджана 3.10.1945 за «здраду радзіме» да 5 гадоў ППК. Вызвалена 5.5.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 20.6.1958 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа С. № 11901-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЯЛОЎ Дзмітрый Паўлавіч*** [5.8.1896, в. Яхрабол, цяпер Яраслаўская вобл., Расія — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Да арыш-

ту начальнік планава-фінансавага ўпраўлення наркамату асветы БССР. Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 33, кв. 8. Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.8.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 10816-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: Транспартны зав. 18, кв. 3 была арыштавана прадавец магазіна № 3 Галоўхлебзбыта Сялова-Бяркоўская Лізавета Маркаўна (н. 28.12.1902 у мяст. Лоеў Мінскай губ. ў сям'і рабочага), жонка Дзмітрыя *Сялова*. 28.11.1937 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 5.11.1956. Асабовая справа С.-Б. № 7414-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ*.

**СЯЛЯЎКА Іосіф Емяльянавіч** [1882, в. Цацяроўка Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], фатограф. З бел. сялянскай сям'і. Валодаў прыватным фотаатэлье на ст. Бераставіца. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 6.1.1951. Асуджаны 24.4.1951 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. 15.12.1954 тэрмін пакарання зніжаны да 5 гадоў. Вызвалены ў 1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 3.3.1993 Вярхоўным судом Беларусі. Асабовая

справа С. № П-19958 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**СЯНІЦКІ Крыштоф Казімір** [1671 — 1711, Сібір], ваенны і адміністрацыйны дзеяч. Са шляхецкага роду герба «Бонча». Стрыечны брат Людвіка *Сяніцкага*. Вучыўся ў Кёнігсбергскім і Лейдэнскім ун-тах. Вярнуўшыся ў Рэч Паспалітую (1695), стаў дваранінам караля Аўгуста II. З 1700 харунжы ноўгарад-северскі, з 1702 адзін з адміністратараў Магілёўскай эканоміі. У 1703 абраны паслом на сойм. Удзельнічаў у Паўн. вайне 1700—21, у 1702 арганізаваў аблогу Быхава, дзе знаходзіліся прашведскія аддзелы К.Сапегі. Пасля ўзяцця горада прызначаны губернатарам Быхава і адміністратарам Быхаўскага графства. З 1703 генерал-маёр войска ВКЛ, мечнік ВКЛ. З 1706 генерал артылерыі ВКЛ і рэгіментар Беларускай дывізіі. На баку Аўгуста II ваяваў са шведамі ў Жамойці, Курляндыі і Польшчы. Пасля прыходу да ўлады ў 1706 караля Станіслава Ляшчынскага страціў пасаду мечніка, але застаўся генералам артылерыі. У 1707 выступіў супраць расійскіх войск, захапіў грашовы абоз расійскай арміі і схаваўся ў Быхаве. Накіраваў пасланне да шведскага караля Карла XII з заклікам прыйсці на дапамогу. Пётр I накіраваў на Быхаў войскі. Пасля капітуляцыі Быхава С. ў кайданах быў вывезены ў Маскву і высланы ў Сібір. Загінуў у зняволенні.

Літ.: Могилевская хроника Т. Р. Сурты и Ю. Трубницкого // *Полн. собр. рус. летописей*. Т. 35. М., 1980; *PSB*; *ЭГБ*, т. 6—1.

*Леанід Маракоў*

**СЯНІЦКІ Людвік** [2.2.1677 — пасля 1754], мемуарыст, ваенны дзеяч, падарожнік, даследчык Сібіры. Са шляхецкага роду герба «Бонча». Стрыечны брат Крыштофа *Сяніцкага*. Вучыўся ў евангелісцкай школе ў Вільні. У часы Паўн. вайны 1700—21 супрацоўнічаў з братам, ваяваў з ім супраць Сапегаў. Атрымаў пасады адміністратара Магілёўскай эканоміі і віцэ-губернатара Быхава. Палкоўнік, камандзір Беларускай дывізіі. Перайшоў на бок прашведскай групоўкі кн. Сапегаў. Пасля капітуляцыі рускаму войску Быхава ў 1707 вывезены ў Маскву і ў 1709 сасланы ў Сібір. Жыў у Табольску, Самараўскім Яме, Якуцку. На радзіму змог вярнуцца толькі пасля вайны — у 1722. У 1733 удзельнічаў у абранні каралём Станіслава Ляшчынскага, у 1736—46 цівун рэтаўскі. У гады ссылкі занатоўваў свае назіранні, якія апрацаваў і выдаў у Вільні ў 1754 пад назвай «Дакумент асаблівай міласэрнасці Божай, што цудоўна пераводзіць з кальвінскай секты пэўнага слугу і прыхільніка Божага ў Хрыстовы касцёл». У гэтай рабоце змясціў каштоўныя этнаграфічныя апісанні народаў Сібіры — якутаў, хантаў, чукчаў, эвенкаў, юкагіраў. Паводле слоў японскіх маракоў, што пацярпелі караблекрушэнне ў Ахоцкім моры, апублікаваў адно з першых апісанняў Японіі.

Літ.: Могилевская хроника Т. Р. Сурты и Ю. Трубницкого // *Полн. собр. рус. летописей*. Т. 35. М., 1980; *Кучинский А.* Описание Сибири XVIII в.: (Материалы Л. Сеницкого о сибирских аборигенах и их культуре) // *Советская этнография*. 1972, № 1; *PSB*; *ЭГБ*, т. 6—1; *БЭ*, т. 15.

**СЯНКЕВІЧ Аляксандр Казіміравіч** [1906, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н

Мінскай вобл. — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Да арышту сакратар газ. «Коммунар Могилева». Арыштаваны 23.8.1937. Абвінавачваўся ў «нелегальным пераходзе дзяржаўнай граніцы». Асуджаны не быў. Вызвалены і рэабілітаваны 13.11.1937. Асабовая справа С. № 5971 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**СЯНКЕВІЧ Кірыяк Іванавіч*** [1900, в. Комлеўшчына Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Віцебскага навукова-даследчага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.6.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа С. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**СЯПРОЎСКІ Тамаш Янавіч (Янкелевіч)*** [1877, Варшава, цяпер Польшча — 3.12.1937, Мінск, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камендант вучэбнага корпуса Мінскага юрыдычнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраля-

ны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 16.10.1970. Асабовая справа С. № 20192-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЯРДЗЮК Панцялей Іванавіч*** [1907, станіца Старамінская Азоўска-Чарнаморскага краю — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту загадчык лабараторыі біяфабрыкі № 5 у Віцебску. Арыштаваны 27.1.1936 на рабоце. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.10.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**СЯРГЕЕЎ Аляксандр Міхайлавіч*** [27.5.1898, в. Уты (?) Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 29.10.1938, ГУЛАГ], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. нам. дырэктара па навуковай рабоце Беларускай даследчай станцыі жывёлагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.9.1937 у саўгасе імя Будзённага (каля Мінска). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «актыўны член тэрарыстычна-шкодніцкай арганізацыі» да 15 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю (Магадан, бухта Нагаева). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР

25.6.1957. Асабовая справа С. № 10535-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЯРГЕЕЎ Аляксандр Рыгоравіч*** [1921, Ракаў Цвярской губ., цяпер Цвярская вобл., Расія — ?], службовец, вайсковец. З сялянскай сям'і. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Падчас арышту дыспетчар камунальна-эксплуатацыйнай службы Мінскага гарнізона. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 11.5.1957 у Мінску па адрасе: вул. Стаханаўская, д. 21, кв. 27. Асуджаны 18.7.1957 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда РБ 11.8.1995. Асабовая справа С. № 36713-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЯРКЕВІЧ-СЯТКО Эдуард Селівестравіч*** [1920, Мінск — ?], службовец. Меў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту бухгалтар «мехпункта» (?). Арыштаваны 23.1.1944 у пас. Рыбінск Верхнекецкага р-на Томскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.4.1944 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 8 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 15.4.1992.

Кр.: *Книга памяти томичей*.

**СЯРОГІН Георгій Якаўлевіч*** [1918 — ?]. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Паводле дадзе-

ных следства, вясной 1962 па ініцыятыве С. *Ханжанкова*, які сістэматычна слухаў замежныя радыёстанцыі, разам з В. *Храпавіцкім* С. увайшоў у склад антысавецкай арганізацыі, якая мела праекты праграмы і статута. Група здабыла шрыфт дзеля друкавання лістовак, зброю і ўзрыўчатку з мэтай падрыву ў Мінску радыёглушыцеля. Да арышту працаваў шафёрам. Асуджаны па артыкулу «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 7.10.1963 да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Пасля падачы заявы аб памілаванні тэрмін зняволення быў зніжаны да 5 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 95626, 95627.

Літ.: *58*[10], с. 642.

**СЯЎКО Аляксандр Аляксандравіч*** [1910, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт. Арыштаваны 3.11.1937 у Куйбышаве. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 10.1.1938 за «шпіянаж» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 9.4.1957.

Кр.: *Белая книга*.

**ТАВАКАЛЬЯН Авецiс Абгаравіч*** [1903, в. Агванц Карчканскага пав., цяпер Турцыя (?) — 24.11.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Член ВКП(б) з 1925. Да арышту дырэктар партыйных курсаў пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 9.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 45, кв. 42. Асуджаны 24.11.1937 «тройкай» НКВД як «член трацкісцка-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 7.3.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР Асабовая справа Т. № 5863-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 45, кв. 42 была арыштавана настаўніца рускай мовы 3-й Мінскай школы для дарослых Александровіч Валянціна Пятроўна (н. 16.1.1910 у Віцебску ў сям'і службоўца; атрымала вышэйшую адукацыю), верагодна, жонка Авецiса Тавакальяна. 28.6.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. Вызвалена 4.4.1947. Зноў арыштавана і 2.9.1950 прыгаворана да ссылкі ў Магаданскую вобл. (бухта Нагаева). Канчаткова вызвалена 4.2.1958. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе (№ 5528-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітавана 8.10.1955 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР, па другой 14.1.1958 трыбуналам БВА.

**ТАКАРЫК Іван Пятровіч*** [1900, мяст. Быцень Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н

Брэсцкай вобл. — 26.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец, педагог. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту ваенны інжынер другога рангу, выкладчык Калінінскага ваеннага вучылішча супрацьхімічнай абароны. Арыштаваны 3.6.1938 у Маскве па адрасе: вул. Малая Тульская, д. 2/1, корп. 26, кв. 70. Асуджаны 26.8.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.6.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТАЛЕЙКА Генадзь Іванавіч*** [1912, Мінск — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў кандыдатам у члены ВКП(б). Падчас арышту студэнт Томскага «ЭМИИТ» (?). Арыштаваны 20.3.1936. Асуджаны 3.9.1936 за «контррэвалюцыйны сабатаж» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.12.1991.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ТАЛКАЧОЎ Філімон Антонавіч*** [1898, в. Паўлінка Магілёўскай губ., цяпер Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл. — 21.12.1937, Мінск, НКВД], вайсковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір 5-й стралковай дывізіі. Арыштаваны 20.6.1937 у Полацку. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 20.12.1937 за «ўдзел

у контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі і здрадніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.7.1957. Асабовая справа Т. № 8400-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТАРАНАВА Вольга Пятроўна*** [1919, Магілёў — ?], педагог. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчыца Магілёўскага педагагічнага інстытута. У час 2-й сусветнай вайны засталася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 23.12.1944 у Магілёве як падазроная ў «здрадзе радзіме». 26.6.1945 рэабілітавана пастановай праурора БВА, вызвалена. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Т. № 528-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ТАРАСАВА Антаніна Міхайлаўна*** [15.7.1914, Харбін, Кітай — ?], актрыса. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў Бабруйскім калгасна-саўгасным тэатры. Арыштавана 3.7.1938. Абвінавачвалася ў «шпіёнскай дзейнасці на карысць замежнай дзяржавы». Вызвалена да суда з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Рэабілітавана пастановай Бабруйскага раённага аддзела НКВД БССР 23.9.1938. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Т. № 6209 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ТАРАСАЎ Пётр Аляксандравіч*** [1887, в. Талстова (?) Самарскай губ., цяпер Самарская вобл., Расія — ?],

навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту нам. дырэктара Беларускага аддзялення навукова-даследчага інстытута саджалкавай гаспадаркі. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 21.12.1933 у Мінску па адрасе: вул. Чырвоная, д. 11, кв. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 7.3.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 15.1.1957. Асабовая справа Т. № 9923-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТАРАСЕВІЧ Стафан Феліксавіч*** [1895, Свянцяны Вілейскага пав., цяпер Літва — ?], артыст. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту саліст Белгорэстрады. Арыштаваны 9.7.1940. Асуджаны 12.4.1941 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 23.9.1941, верагодна, як польскі грамадзянін. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 2.11.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Т. № П-10494 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ТАРАСЕНКА Адам Сідаравіч*** [1905, в. Стапурова Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 8.9.1937, Ленінград, НКВД], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. У 1928 уступіў у ВКП(б). У 1930-х г. слухач Інстытута чырвонай прафесуры, загадчык планавага аддзела Ленінградскага абл. зямельнага ўпраўлення. Арыштаваны 5.7.1937 у Ленінградзе

па адрасе: вул. Маякоўскага, д. 15, кв. 14. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 8.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТАРАСІК Вікенцій Лукіч*** [1891, в. Захарычы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 22.9.1938, Мінск, НКВД], навуковец. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Інстытута крыміналістыкі і судовай экспертызы. Арыштаваны 11.1.1938 у Мінску па адрасе: пас. Грушаўскі, д. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.9.1938 як «польскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.5.1989. Асабовая справа Т. № 30263-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ТАРАСЮК Юрый Аляксандравіч*** [вер. 1913, в. Лявонавічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. У 1927 уступіў у КСМЗБ. Падчас арышту навукова-тэхнічны супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 29.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Вакзальная, д. 21/2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў працоўна-папраўчых работ і 5 гадоў

пазбаўлення волі. Этапаваны, хутчэй за ўсё, ва Ухта-Пячорскі канцлагер, затым пераведзены (10.5.1938) у Варкута-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены ў 1944. Другі раз арыштаваны і 29.7.1950 асуджаны асобай нарадай НКВД на ссылку ў Карагандзінскую вобл. Вызвалены 10.8.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 1.9.1956 трыбуналам БВА па першай (№ 10182-с, спынена 16.8.1956, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) і другой справах.

**ТАРЫЧ Юрый Віктаравіч** [сапр. Аляксееў; 14.1.1885, Полацк, Віцебскай вобл. — 21.2.1967], акцёр, драматург, рэжысёр тэатра і кіно; заснавальнік бел. мастацкай кінематаграфіі. У 1903—05 вучыўся на юрыдычным ф-це Маскоўскага ун-та. Быў членам Варшаўскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП. Арыштаваны ў снеж. 1905, сасланы ў в. Тара Табольскай губ. Ад месца ссылкі паходзіць псеўданім Т. У 1907—14 акцёр правінцыйных тэатраў у Сібіры. З 1918 працаваў у тэатрах Масквы. У 1926 паставіў адзін з лепшых савецкіх гістарычных фільмаў «Крылы халопа» і першы бел. мастацкі кінафільм «Лясная быль» паводле аповесці М.*Чарота* «Свінапас». У 1928—39 працаваў на кінастудыі «Савецкая Беларусь», потым на Адэскай кінастудыі. У 1930 стварыў першую бел. гукавую кінапраграму «Пераварот». Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1935). У час вайны на цэнтральнай аб’яднанай кінастудыі ў Алма-Аце разам з У.Корш-Сабліным паставіў навелу «На кліч маці». У 1943—45 мастацкі кіраўнік кінастудыі «Манголкіно». З 1945 на кінастудыях Масквы. У пачатку 1950-х г. на «Беларусьфільме» зняў некалькі кінана-

рысаў. У 1961 мастацкі кіраўнік кінафільма «Апавяданні пра юнацтва». Аўтар п’есы «Выгнаннікі» і інш., большасці сцэнарыяў пастаўленых ім фільмаў.

Літ.: *Красинский А.В.* Юрий Тарич. Мн., 1971; *Власов М.* Юрий Тарич // *20 режиссерских биографий.* М., 1971; *Гісторыя кінамастацтва Беларусі*: У 4 т. Т. 1: 1924—1959. Мн., 2001; *ЭГБ*, т. 6—1; *БЭ*, т. 15.

**ТАТАРЫН Серафім Лук’янавіч** [псеўд.: Хлапец, Свядомы беларус, Пакрыўджаны, Сэ Лэ Тэ і інш.; 2(13).2. 1903, в. Вострава Слонімскага пав., цяпер у Зэльвенскім р-не — 27.7.1988], удзельнік рэвалюцыйнага і культурна-асветніцкага руху ў Зах. Беларусі. Вучыўся ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы (1913—15), скончыў Баранавіцкі настаўніцкі ін-т (1952). З 1925 член КПЗБ, з 1929 член Слонімскага райкама. Удзельнічаў у рабоце Беларускай сялянска-работніцкай грамады (нам. старшыні яе Слонімскага павятовага камітэта, у Сакратарыяце БСРГ у Вільні), ТБШ, узначальваў Навагрудскі павятовы сакратарыят арганізацыі «Змаганне». У 1927 галоўны рэдактар газ. «Наша праўда» (выдаў першыя 19 нумароў, тры з якіх канфіскаваны паліцыяй). У 1929—37 неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, правёў у зняволенні больш за 7 гадоў. У 1936—37 адбываў пакаранне у Бяроза-Картузскім канцлагеры. У вер. 1939 напярэдадні прыходу Чырвонай арміі абраны старшынёй сялянскага камітэта в. Вострава. У кастр. 1939 арыштаваны як «польскі шпіён» і прыгавораны да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Іўдэльскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. У 1941 вызвалены па амністыі. У 1944—45 удзельнік 2-й сусветнай вайны. У пасляваенны час працаваў настаўнікам у роднай вёсцы. Рэабілітаваны ў

1956. Аўтар успамінаў (надрукаваны ў зэльвенскай раённай газ. «Праца»).

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**ТАЧКО-ЛОТЫШ Рэгіна Міхайлаўна*** [8.9.1894, мяст. Івянец Мінскага пав., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?], служачая. З сям'і рабочага. З 1925 член ВКП(б). У 1930-я г. старшыня камітэта Чырвонага Крыжа. У 1935 выключана з партыі пры абмене партбілета. З 14.11.1936 да 20.2.1937 знаходзілася пад следствам. Арыштавана 23.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Вакзальная, д. 44, кв. 4. Асуджана 15.8.1938 «тройкай» НКВД за «шпіянаж» да 5 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 12.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 29.4.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа Т.-Л. № 11685-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

23.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Вакзальная, д. 44, кв. 4 была арыштавана цырульнік дзіцячай цырульні ГУМа Тачко Людвіга Францаўна (н. 25.7.1920 у Мінску), дачка Рэгіны Тачко-Лотыш. 10.1.1938 «тройкай» НКВД асуджана як «агент польскай разведкі» да 10 гадоў ППК і этапавана ў адзін з канцлагераў Новасібірскай вобл. (ст. Юрга). Вызвалена і рэабілітавана ў студз.-лют. 1944. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Т. № 5720-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТАЧЫЦКІ Фелікс Герасімавіч** [1910, в. Брусы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 4.3.1938 (?), Мінск, турма НКВД], на-

вучэнец, брат А.*Тачыцкага* і І.*Тачыцкага*. З сялянскай сям'і. Скончыў Брусаўскую пачатковую школу, Мядзельскую гімназію. У 1932, каб не служыць у польскай арміі, з дапамогай бацькі нелегальна перайшоў савецка-польскую мяжу і прыехаў у Мінск да братоў. Працягваў вучыцца і адначасова працаваў. Арыштаваны ў пачатку ліст. 1937. Асуджаны як «агент буржуазнай польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны.

**ТКАЧЭВІЧ Іван Міхайлавіч*** [1897, в. Вензавец Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 28.6.1938, Мінск, НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. У 1917 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 20.11.1937 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 7, кв. 8. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член контррэвалюцыйнай трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.5.1957. Асабовая справа Т. № 10287-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТРАЎГУТ Рамуальд Людвікавіч** [4(16).1.1826, в. Шастакова Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 24.7(5.8).1864, Варшава, цытадэль], ваенны дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. З 1845 слу-

жыў у царскай арміі, удзельнік Крымскай вайны 1853—56, у тым ліку абароны Севастопаля. У 1862 у чыне падпалкоўніка выйшаў у адстаўку, пасяліўся ў маёнтку Востраў Кобрынскага пав. У крас. 1863 узначаліў Кобрынскі паўстанцкі атрад. У баях каля в. Горкі тройчы нанёс паражэнне расійскім карным часцям. У чэрв. 1863 з Брэсцкім атрадам Я.Ваньковіча зрабіў рэйд па Піншчыне і Паўн. Валыні, але атрад Т. панёс значныя страты, і ў ліп. 1863 з дапамогай Э.Ажэшкі ён патаемна выехаў у Варшаву. Атрымаў чын паўстанцкага генерала і прызначаны прадстаўніком паўстанцкіх уладаў за мяжой. У кастр. 1863 кіраўнік Нацыянальнага ўраду ў Варшаве і фактычна дыктатар паўстання. Шмат зрабіў дзеля пашырэння сацыяльнай базы паўстання, надання яму новага размаху. Схоплены 30.3.1864. Паводле прыгавору ваеннага суда павешаны ў Варшаўскай цытадэлі. У 1928 у мяст. Свіслач устаноўлены помнік Т., адноўлены ў 1989.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Dubiecki M.* Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania styczniowego 1863—1864. 5 wyd. Poznań, 1924; *Миллер И.С.* Ромуальд Траугут // *За нашу и вашу свободу: Герои 1863 г.* М., 1964; *Dunin-Wąsowicz K.* Romuald Traugutt. Warszawa, 1980; *Бандарэнка М.* Пра Рамуальда Траўгута // *Полымя.* 1999. № 8; *ЭГБ*, т. 6—1; *БЭ*, т. 15.

**ТРАФІМАЎ Ермалай Давыдавіч*** [1886, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 18.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — начальнік ст. Гатчына Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 19.9.1937. Асуджаны асобай «тройкай» НКВД

15.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ТРАФІМОВІЧ Максім Пракопавіч*** [1904, в. Бондарава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў ветэрынарным урачом. Арыштаваны 18.3.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 31.8.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ТРАФІМОВІЧ Пракоп Мацвеевіч*** [1917, в. Бондарава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага ун-та. Арыштаваны 13.2.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 31.8.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў», «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ТРАЦЦЯК Іван Якаўлевіч** [1884, в. Ракашычы Мінскага пав., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 1939,

ГУЛАГ], ваенны і паліт. дзеяч, удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У 1907 вымушаны эміграваць у Германію, адкуль выехаў у ЗША, дзе стаў сябрам Федэрацыі рускіх рабочых. Пасля кастр. 1917 вярнуўся ў Расію. З 1919 начальнік 1-й Горна-Алтайскай партызанскай дывізіі. Ваяваў супраць войскаў Калчака. З чэрв. 1920 на савецкай і партыйнай рабоце ў Бійску (Алтай). Арыштаваны 16.2.1937 як «германскі, амерыканскі, японскі і карэйскі шпіён». Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1957.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Валахановіч А.І.* Партызанскі генерал з Амерыкі. Мн., 1995; *ЭГБ*, т. 6—1.

**ТРОІЦКАЯ Таісія Васілеўна*** [1896, Варонеж, Расія — 4.1.1938, Віцебск (?), НКВД], педагог, жонка Івана *Троіцкага*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай. Выйшла замуж, мела дваіх дзяцей. Арыштавана 11.11.1937 у Віцебску. Асуджана 14.12.1937 паводле пастановы калегіі НКВД СССР «як член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 31.7.1959. Асабовая справа Т. № 8322-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ТРОІЦКІ Іван Васілевіч*** [1893, Цвер, Расія — 31.10.1937, Віцебск (?), НКВД], навуковец, муж Таісіі *Троіцкай*. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык фармакалогіі і так-

сікалогіі Віцебскіх медыцынскага і ветэрынарна-заалагічнага інстытутаў, прафесар. Арыштаваны 16.7.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1957. Асабовая справа Т. № 6902-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ТРОСЬКА (ТРАСЬКО) Іосіф (Язэп) Касьянавіч** [сапр. Дудзюк; 1(13).11.1893, в. Лаша Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н (паводле інш. звестак — Мінск) — ?], гісторык, краязнавец, педагог. З бел. сям'і. Скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут (1915), Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1929), вучыўся ў Варонежскім сельскагаспадарчым інстытуце (1918—20), БДУ (1926—27). У 1925—26 рэдактар час. «Асвета». Выступаў у друку з артыкуламі па пытаннях адукацыі, гісторыі, краязнаўства, моваэнаўства, сельскай гаспадаркі, палітыкі беларусізацыі (газ. «Савецкая Беларусь», «Магілёўскі селянін», час. «Наш край» і інш.). Адзін з удзельнікаў і арганізатараў краязнаўчага руху ў Беларусі. Быў членам сельскагаспадарчай секцыі Інстытута бел. культуры. Падчас арышту працаваў інспектарам Наркамата асветы БССР. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.7.1930. Асуджаны 10.4.1931 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Валагодскую вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.1.1956 калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Групавая справа Т. і

іншых № 20951-с захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**ТРУСЕВІЧ Іван Андрэевіч*** [1888, в. Маркавічы Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Гомельскі р-н — 28.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — начальнік ст. Хотцы Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 11.7.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

**ТРУТКО Іосіф Іванавіч*** [1900, Дуброўна Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 15.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Дарагамілаўскага хімічнага завода імя Фрунзе ў Маскве. Арыштаваны 14.12.1937 у Маскве па адрасе: вул. Малая Лубянка, д. 16, кв. 48. Асуджаны 15.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.3.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

**ТРУШЫНСКІ Фёдар Сцяпанавіч*** [1893, мяст. Мір Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 9.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец, педагог, удзельнік грамадзянскай вайны. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Падчас арышту выкладчык курсаў паскоранай падрыхтоўкі камандзірскага саставу. Арыштаваны 26.8.1937 у Кранштаце. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.12.1937 як «агент эстонскай разведкі», за «шпіянаж» і «ўдзел ва ўзброеным паўстанні» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.5.1957 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Т. № П-8744 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

**ТРЫБІЛУСТ Павел Аляксеевіч*** [1902, Магілёўская губ., цяпер Гомельская (?) вобл. — ?], юрыст. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 27.12.1946 у Куйбышаве. 16.9.1947 паводле пастановы УМДБ Сярэдне-Волжскага басейна справа спынена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 18.10.1991.

Кр.: *Белая книга*.

**ТРЭЛІН Аляксандр Іванавіч*** [1912, в. Баркова (Боркава), цяпер Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл. — 10.5.1997, Мінск], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у

ВЛКСМ. Падчас арышту тэхнічны кіраўнік Горацкага льнозавода, дэпутат Шклоўскага гарсавета. Арыштаваны 1.11.1933. Ва ўнутранай турме АДПУ некаторы час знаходзіўся ў адной камеры разам з Я.*Гаўрылікам*, І.*Дварчаніным*, П. *Валошыным,* П. *Мятлой*, С.*Рак-Міхайлоўскім.* «Смерць пастаянна вітала ў камерах, — напіша Т. ва ўспамінах праз шмат гадоў. — Вязні не вытрымлівалі невыноснага турэмнага рэжыму і паміралі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР як «кіраўнік і арганізатар контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да ВМП (заменены на 10 гадоў ППК). Этапаваны ва Ухта-Пячорскі, потым Ухта-Іжэмскі канцлагеры НКВД Комі АССР. Вызвалены 6.3.1945. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 11.12.1956. З 1966 жыў у Мінску. Аўтар успамінаў. Асабовыя справы Т. №№ 9906-с і 11074-с захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТУКЕРКЕС Іван Адамавіч** [1882, Вільня — ?], рэдактар і выдавец газ. «Наша доля» (выходзіла ў Вільні з 1(14).9 да 1(14).12.1906 кірыліцай і лацінкай). Ужо пасля выхаду першага нумару «Нашай долі» паліцыя абвінавaціла рэдактара паводле арт. 129 Крымінальнага ўлажэння, які пагражаў самым суровым пакараннем у выдавецкай сферы. Але тады Віленская судовая палата не зацвердзіла гэтай пастановы, адмовіла ў закрыцці газеты і адмяніла накладзены на тыраж арышт. Пасля 4-га нумара ў рэдакцыі адбыўся раскол, частка аўтараў перайшла ў новую газ. «Наша ніва», што значна аслабіла літаратурны аддзел «Нашай долі». Затым (скарыс-

таўшыся знаходжаннем Т. за мяжой) «нашаніўцы» дачасна абвясцілі аб спыненні выхаду газ. «Наша доля». Пасля тэрміновага вяртання Т. даў у газ. «Северо-западный голос» абвяржэнне і назваў папярэднюю інфармацыю «хлуслівымі чуткамі». Паміж Т. і «Нашай нівай» успыхнула вострая палеміка. Адначасова на «Нашу долю» абрынуліся рэпрэсіі ўладаў. Паводле ацэнкі Віленскага ахоўнага аддзела, спачатку «Наша ніва» была больш памяркоўная, чым «Наша доля». Усяго выйшла 6 нумараў «Нашай долі», з якіх 4 былі канфіскаваны. 11.1.1907 паводле судовага рашэння газету закрылі, а рэдактара асудзілі да года турэмнага зняволення ў крэпасці, «з забаронай прымаць на сябе званне рэдактара ці выдаўца якога-небудзь перыядычнага выдання на працягу трох гадоў». Т. падаў касацыйную скаргу ў Сенат, а яго маці ўнесла заклад у суме 100 руб. 4-ы аддзел крымінальнага касацыйнага дэпартамента ўрадавага Сената 23.3.1907 адхіліў скаргу, і тады падсудны ўцёк у Парыж, а заклад пайшоў «на ўладкаванне месцаў зняволення». У 1936 Т. звяртаўся ў Віленскі архіў з просьбай выслаць яму копіі судовай справы і прысуду. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Шлюбскі А.* Новыя матэрыялы да гісторыі «Нашай долі» // *Полымя.* 1927. № 3; *Александровіч С.* Расказваюць архівы // *Александровіч С.* Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1968; *Біч М.* У змаганні за лепшую долю // *Полымя.* 1966. № 8.

**ТУРАНКОЎ Аляксей Яўлампавіч** [9(21).1.1886, Санкт-Пецярбург, Расія — 27.9.1958, Мінск], кампазітар. З сялянскай сям'і. У 1911—14 вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі. З 1918 жыў у Гомелі, загадваў

музычнай секцыяй гарадскога аддзялення народнай асветы. З 1934 у Мінску. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940). У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 22.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая (цяпер праспект імя Ф.Скарыны), д. 60, кв. 8. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 23.6.1945 як «памагаты нямецкіх акупантаў» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з канцлагераў ГУЛАГа, дзе, па сведчанні А.*Царанкова,* ледзь не загінуў ад голаду. Вызвалены, хутчэй за ўсё, да 1947. Аўтар опер «Кветка шчасця», «Яснае світанне», балета «Лясная казка», музыкі да многіх драматычных спектакляў («Пінская шляхта» і інш.). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 21.10.1959. Асабовая справа Т. № 14878-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *БЭ*, т. 16.

**ТУРКІНЕВІЧ Аляксандр Яфімавіч*** [1906, в. Міхнавічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 9.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — нам. начальніка цэха арсеніт-кальцыя Шчолкаўскага хімічнага завода. Арыштаваны 28.8.1937 у Шчолкаве Маскоўскай вобл. па адрасе: Хімзавод, д. 8, кв. 7. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.12.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітава-

ны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.9.1957. Асабовая справа Т. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТУРЛАЙ Андрэй Аляксеевіч*** [30.11.1894, в. Вялікая Кракотка Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). У 1935—36 сакратар Полацкага райкама партыі. Член ЦК ВКП(б). Падчас арышту наркам саўгасаў БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. М.Горкага, 3-гі дом Саветаў, кв. 8. Выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1956. Асабовая справа Т. № 7222-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.9.1937 была арыштавана як «член сям'і ворага народа» Турлай Раіса Абрамаўна (н. 1903, Бабруйск; атрымала сярэднюю адукацыю), жонка Андрэя *Турлая*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР асуджана да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 26.9.1955. Яе асабовая справа № 5551-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ТУРОНАК Браніслаў** [псеўд.: М.Крушына, М.Крывічонак; 22.6.1896, фальв. Пестуны Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 19.9.1938], бел. культурна-грамадскі дзеяч, публіцыст. Бацька гісторыка Ю.Б.Туронка. Вучыўся на юрыдычным ф-це Харкаўскага ун-та, скончыў медыцынскі ф-т Віленскага ун-та (1924). У 1-ю сусветную вайну ў бежанцах у Яраслаўлі (Расія), дзе скончыў гімназію. У 1919 з прадстаўнікамі мясцовай інтэлігенцыі адкрыў 15 бел. школ на Браслаўшчыне. Адзін з заснавальнікаў і скарбнік (з 1920) Беларускага студэнцкага саюза, адказны рэдактар яго органа — час. «Наш шлях» (1922—23). У 1923—25 рэдактар газ. «Крыніца». Выступаў у друку з публікацыямі на тэмы грамадска-паліт. і культурнага жыцця Зах. Беларусі. Арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў Лукішскую турму ў Вільні. Пасля вызвалення знаходзіўся пад наглядам паліцыі. З 2-й паловы 1920-х г. працаваў лекарам у мяст. Дукшты Свянцянскага пав. (цяпер Дукштас, Літва). У 1926—27 уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Аўтар брашуры «Гігіена ўзгадавання дзіцяці» (1928).

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

**ТЫНКЕВІЧ Міхаіл Іосіфавіч** [1917, в. Лужок Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — ?], селянін-аднаасобнік. З сялянскай сям'і. Падчас нямецкай акупацыі заставаўся на акупаванай тэрыторыі. З ліп. 1944 (?) служыў у Чырвонай арміі, удзельнічаў у баях. Арыштаваны 10.6.1949. Абвінавачваўся ў «антысавецкай агітацыі» і ў «службе ў

гады акупацыі ў Беларускай краёвай абароне». Асуджаны 10.12.1949 «за здраду радзіме» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Вызвалены 7.3.1955. Рэабілітаваны 13.4.1977 прэзідыумам Мінскага абл. суда. Асабовая справа Т. № 20580-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ТЫШКЕВІЧ Венедзікт (Уладзіслаў) Венедзіктавіч** [2.8.1904, маёнтак Чырвоны Двор, цяпер Літва (?) — ?], землеўласнік. Са шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 21.9.1939 у сваім маёнтку Вяло Валожынскага р-на Мінскай вобл. Асуджаны 28.8.1940 за «антысавецкую дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Ягрынскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 13.7.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа Т. № 26306-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТЫШКО Іван Сямёнавіч*** [1865, Смаленская (?) губ. — 8.7.1938, Смаленск, НКВД], медык. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — урач 2-й Смаленскай жаночай кансультацыі. Арыштаваны 15.1.1938. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.5.1938 за «дапамогу міжнароднай буржуазіі», «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ТЭАДАРОВІЧ Іван Адольфавіч*** [1875, Смаленск, Расія — 20.9.1937, Масква, НКВД], літаратар, член Саюза пісьменнікаў СССР. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 11.6.1937 у Маскве па адрасе: Праезд Мастацкага тэатра, д. 1, кв. 12. Асуджаны 20.9.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.4.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**УБАРЭВІЧ Еранім Пятровіч** [14.1.1896, в. Антандрыя Зарасайскага пав. Ковенскай губ., цяпер Уценскі пав., Літва — 12.6.1937, Масква, НКВД], савецкі ваенны дзеяч. Камандарм 1-га рангу (1935). Пасля сканчэння з залатым медалём Дзвінскага рэальнага вучылішча (1914) і да пачатку 1-й сусветнай вайны вучыўся ў Пецярбургскім ун-це. З 1915 у арміі (падпаручнік). У 1916 скончыў Канстанцінаўскае артылерыйскае вучылішча. У кастр. 1917 адзін з арганізатараў Чырвонай гвардыі ў Бесарабіі. У студз.—лют. 1918 камандаваў рэвалюцыйным палком у баях супраць румынскіх і аўстра-германскіх войск. Быў паранены, трапіў у палон, адкуль у жн. 1918 уцёк. Накіраваны на Паўн. фронт. З кастр. 1919 камандуючы 14-й арміяй, якая змагалася супраць арміі Дзянікіна. З сак. 1920 камандуючы 9-й, 13-й арміямі на Каўказскім, Паўд.-Зах. франтах. Са студз. 1921 пам. камандуючага войскамі Украіны і Крыма, нам. камандуючага войскамі Тамбоўскай губ. З 1921 у БССР, член Рэвалюцыйнага ваеннага савета Мінскага р-на і камандуючы войскамі Мінскай губ.; удзельнік барацьбы супраць атрадаў Н.Махно, С.Пятлюры, С.Булак-Балаховіча, кіраваў баявымі дзеяннямі войск супраць армій Польшчы, генерала П.Урангеля. Са жн. 1921 камандуючы 5-й арміяй і войскамі Усх.-Сібірскай ВА. У жн.— кастр. 1922 ваенны міністр Далёкаўсходняй рэспублікі і галоўнакамандуючы Народна-рэвалюцыйнай арміяй. З ліст. 1924 нам. камандуючага войскамі і начальнік штаба Украінскай ВА. З лют. 1925 камандуючы войскамі Паўн.-Каўказскай, з ліст. 1928 Маскоўскай ВА. З чэрв. 1930 нам. наркама абароны СССР. З 1931 камандуючы войскамі БВА. Аўтар ваенна-тэарэтычных прац («Падрыхтоўка камсаставу РСЧА»

(1928), «Аператыўна-тактычная і авіяцыйная ваенныя гульні» (1929). Тройчы ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага сцяга. Арыштаваны 29.5.1937 супрацоўнікамі НКВД у цягніку «Мінск-Масква». Асуджаны 11.6.1937 за «ўдзел у ваеннай змове ў Чырвонай арміі і падрыхтоўку звяржэння савецкай улады шляхам узброеннага паўстання» да ВМП. Расстраляны ў Маскве ў наступную пасля прысуду ноч на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 31.1.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

Верагодна, былі рэпрэсаваны і сваякі У.

Кр.: *ЭГБ,* т. 6—1; *Расстрельные списки: Донское кладбище; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 534—536.

**УЛАДАМІРСКІ Барыс Уладзіміравіч** [2.3.1923, Бабруйск, цяпер Магілёўская вобл. — 4.5.1991, Мінск], заслужаны артыст Беларусі (1970), сын У.Уладамірскага, бацька А. Уладамірскага. З 1939 працаваў у Беларускім тэатры імя Я.Купалы. У 1941 скончыў Рэспубліканскае тэатральнае вучылішча. 25.4.1950 жонка У. Галіна Уладамірская (з 1953 актрыса Брэсцкага абл. тэатра, з 1954 актрыса і рэжысёр Беларускага тэатра імя Я.Купалы) нарадзіла яму сына Аляксандра (у будучым акцёра Беларускага тэатра імя Я.Купалы і Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларусі). Арыштаваны 16.5.1950 у Мінску. Асуджаны Асобай нарадай пры НКВД 2.12.1950 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Вяцкі канцлагер НКВД Кіраўскай вобл. Асобай нарадай пры МДБ СССР 27.2.1952 тэрмін зняволення скарочаны да 5 гадоў.

Вызвалены 24.4.1953. Працаваў у Брэсцкім аблтэатры. З 1954 зноў у Беларускім тэатры імя Я.Купалы. Рэабілітаваны Судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 29.6.1971. Асабовая справа У. № 20260-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Тэатральная Беларусь*. Энцыклапедыя. Пад агульнай рэд. А.В.Сабалеўскага. Мн., 2003. Т. 2.

**УЛАДЗІМІРАЎ Уладзімір Канстанцінавіч*** [1896, в. Манцавічы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Выкладаў на Барысаўскім рабфаку. Арыштаваны 18.3.1933 у Барысаве па адрасе: вул. Бярэзінская, д. 19, кв. 14. Асуджаны «тройкай» НКВД 10.5.1933 за «шпіянаж на карысць Польшчы» і як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Вызвалены ў 1947. Зноў арыштаваны 29.10.1949 і пастановай асобай нарады пры МДБ СССР асуджаны да высылкі ў Кустанайскую вобл. Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 10.2.1956. Асабовая справа У. № 22819-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**УЛАШЧЫК Ніна Мікалаеўна*** [1.10.1901, в. Віцкаўшчына Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 1984, Мінск], педагог, старэйшая сястра Мікалая *Улашчыка,* жонка Янкі *Бяль-*

*кевіча*. З сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымала, верагодна, у 1920-я г. Працавала настаўніцай у Мінскай СШ № 19. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 23.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Дзяржынскага, д. 6, кв. 3. Асуджана 29.5.1938 асобай нарадай пры НКВД як «дачка актыўнага ўдзельніка контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапавана ў Дальбуд НКВД, затым у Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. Вызвалена 23.2.1943. У 1956 вярнулася ў Мінск. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 17.1.1958. Асабовая справа У. № 11383-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**УЛЬЯНАЎ Аляксандр Фёдаравіч** (1901, Мінск — 26.11.1937, Масква, НКВД), дзяржаўны дзеяч. З сям'і ўрача. У 1917—22 член партыі эсэраў. У 1919 арыштаваны польскімі ўладамі, аднак неўзабаве вызвалены. У 1922 уступіў у ВКП(б). У 1922—23 нам. упаўнаважанага Наркамата знешняга гандлю ў БССР, з 1924 дырэктар Паўдн. аддзялення трэста «Лесбел» у Крыме, упраўляючы яго Рыжскага аддзялення. У 1925—27 на дыпламатычнай рабоце ў Польшчы: аташэ, саветнік паўнамоцнага прадстаўніцтва СССР, в.а. пасла СССР. Займаўся «разлажэннем» бел. паліт. эміграцыі, арганізоўваў вяртанне ў БССР дзеячаў бел. нацыянальнага адраджэння. Па даручэнні ЦК КП(б)Б удзельнічаў у падрыхтоўцы Другой Усебеларускай канферэнцыі (Берлін, 1925), на якой прынята рашэнне пра спынен-

не існавання ўрада БНР і прызнанне Мінска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Садзейнічаў стварэнню БСРГ. У 1928—31 упаўнаважаны Наркамата замежных спраў пры СНК БССР у Мінску, потым працаваў у Наркамаце знешняга гандлю СССР у Маскве, гандлёвым прадстаўніком у Чэхаславакіі. Супрацоўнічаў з ДПУ, з'яўляўся «спецыялістам» па бел. нацыянальнай інтэлігенцыі. Арыштаваны 24.5.1937. Асуджаны 26.11.1937 за «здраду радзіме» і як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках праз некалькі гадзін пасля прыгавору. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Літ.: *Илькевич Н.Н., Платонов Р.П.* Александр Ульянов и версия НКВД об антисоветском подполье в БССР. Мн., 1997; ЭГБ, т. 6—1.

**УРБАНОВІЧ Зінаіда Мікалаеўна*** [1894, Гродзенская губ. — ?], педагог, жонка Канстанціна *Урбановіча*. Арыштавана ва Ульянаўску. Асуджана 14.1.1932 асобай нарадай пры калегіі АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Выслана ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 26.7.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий*. Ульяновск, 1996. Т. 1.

**УРБАНОВІЧ Іван Андрэевіч*** [17.4.1893, Беласток Гродзенскай губ., цяпер Польшча — 21.3.1938, Віцебск, НКВД], музыкант. З сялянскай сям'і. У 1930-я г.

кіраваў аркестрам духавых інструментаў Віцебскай інструментальнай фабрыкі. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.1.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Бакуніна, д. 16. Асуджаны 26.2.1938 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай пракуратурай БВА 9.11.1989. Асабовая справа У. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**УРБАНОВІЧ Канстанцін Паўлавіч*** [1889, Гродзенская губ. — ?], службовец, муж Зінаіды *Урбановіч*. З 15.6.1927 да 9.8.1927 пад аховай, абвінавачваўся ў «арганізацыі контррэвалюцыйнай дзейнасці». Падчас другога арышту сакратар Ульянаўскага гарадскога аддзела народнай адукацыі. 14.1.1932 асобай нарадай пры калегіі АДПУ асуджаны разам з жонкай за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26.7.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий*. Ульяновск, 1996. Т. 1.

**УРУБЕЛЬ (ВРУБЕЛЬ) Станіслаў Антонавіч*** [1904, Харбін, Кітай — ?], навуковец, педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам кафедры ў Віцебскім педагагічным інстытуце. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 18.2.1949. Асуджаны 11.6.1949 за «шпіянаж на карысць замежнай дзяржавы» да ссылкі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.10.1955. Асабовая справа У. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**УРУБЛЕЎСКІ Антон Вацлававіч*** [1896, Дзісна Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], педагог. Са шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў у Віцебскім медыцынскім інстытуце, кінатэхнікуме. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.10.1937 да ВМП як «член ПАВ». Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 26.2.1959. Асабовая справа У. № 10895-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**УРУБЛЕЎСКІ Зыгмунт Флярэнт** [28.10.1845, Гродна — 16.4.1888, Кракаў, Польшча], фізік, педагог, паўстанец 1863. У 1862 скончыў гімназію ў Гродне і паступіў на фізіка-матэматычны ф-т ун-та Св. Уладзіміра ў Кіеве. З пачаткам паўстання 1863 вярнуўся ў Гродна, прызначаны сакратаром пры паўстанцкім начальніку Гродзенскага ваяв. Арыштаваны 10.8.1863. Прывезены (29.4.1864) у Надзвычайную следчую камісію ў Вільні. Сасланы на 6 гадоў у Сібір. 2 гады правёў у Томску, затым пераведзены ў Цывільск Казанскай губ. Амніставаны ў 1869, вярнуўся ў Беларусь, пасля выехаў на вучобу ў Берлінскі ун-т. Працаваў у фізічных лабараторыях Германіі і Францыі пад кіраўніцтвам славутых фізікаў Г.Гельмгольца, Г.Кірхгофа, А.Кунта. У 1874 у Мюнхене абараніў дысертацыю на ступень доктара «Эксперыментальнае даследаванне магчымасці ўзбуджэння электрычнасці механічнымі сродкамі». У 1876 у Страсбургу абараніў габілітацыйную працу «Аб дыфузіі газаў праз абсарбавальныя субстанцыі», на якую станоўчы водгук даў сусветна вядомы фізік

Дж.Максвел. У 1882 заняў пасаду загадчыка кафедры фізікі Ягелонскага ун-та, з 1888 дэкан фізічнага ф-та. У 1883 арганізаваў у Ягелонскім ун-це фізічную лабараторыю, дзе ў крас. 1884 сумесна з К.Альшэўскім упершыню ў свеце атрымаў вадкі кісларод. Звадкаваў азот, вокіс вугляроду і вадарод. Выканаў першыя ў свеце даследаванні электраправоднасці металаў пры нізкіх тэмпературах. У 1883 абраны членам-карэспандэнтам Польскай акадэміі навук, у 1886 — Акадэміі навук у Вене. Трагічна загінуў у выніку пажару ў фізічнай лабараторыі. Пахаваны на Ракавіцкіх могілках у Кракаве, мемарыяльныя дошкі з гарэльефам У. ўстаноўлены ў акадэмічным касцёле Св. Ганны ў Кракаве і ў Фарным касцёле ў Гродне.

Літ.: *Гапоненка В., Кіштымаў А.* Уладар гранічнага холаду: Жыгімонт Урублеўскі. Мн., 1995.

**УРУБЛЕЎСКІ Яўген Пятровіч** [1889, Мінская губ., цяпер Мінская (?) вобл. — ?], вайсковец. З дваранскай сям'і. Атрымаў вышэйшую ваенную адукацыю, палкоўнік царскай арміі. Арыштаваны Омскай губернскай надзвычайнай камісіяй 27.3.1920 у Іркуцку. Абвінавачваўся ў «службе ў белай арміі». 10.7.1920 справа У. перададзена ў «асобы аддзел» (?). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 15.1.1997.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**УС Антон Антонавіч** [18. 7. 1894, в. Мішуковічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гро-

дзенскай вобл. — 11.1.1980, Брэст], мастацтвазнавец. З бел. сялянскай сям'і. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. У 1919 уступіў у РКП(б). З 1920 загадчык сакрэтна-шыфравальнага аддзела Цюменскага губваенкамата. У 1924 працаваў у Омскім губкаме ВКП(б), адначасова вучыўся на рабфаку. У 1929 скончыў Маскоўскі дзяржаўны ун-т, у 1932 аспірантуру Інстытута чырвонай прафесуры. Выкладаў у Маскоўскім ун-це. У 1932—34 загадчык сектара мастацтва і літаратуры ЦК КП(б)Б. У 1934—36 працаваў у Акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе. У 1935 выключаны з ВКП(б). У 1936 асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены ў 1940. Рэабілітаваны ў 1956. У 1944—48 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры, мастацтва і мовы АН БССР. За публікацыі па гісторыі бел. мастацтва і літаратуры абвінавачаны ў нацыяналізме, у крас. 1948 звольнены з работы і пазбаўлены мінскай прапіскі. Працаваў выкладчыкам ВНУ у Вільнюсе і на Урале. У 1952—56 выкладаў у Брэсцкім педінстытуце.

Літ.: *Ягоўдзік У.* Белыя росы на чорным полі: кніга пра пісьменнікаў і мастакоў. Мн., 1995. С. 5—17; Беларускі саюз мастакоў. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1998;

**УСАВА А[настасія] І[ванаўна]*** [1901 — ?], жыхарка Магілёўскай вобл. З 1947 член царквы пяцідзесятнікаў. У 1952 накіравала Сусветнаму савету міру, які адкрываўся 5.12.1952 у Вене, два лісты, дзе пісала: «Ходзяць чуткі, што амерыканскі ўрад выдаткаваў 100 мільёнаў долараў дзеля ратавання народаў, якія не падпарадкоўваюцца закону чалавечаму. То прашу не адхі-

ляць маёй просьбы і ўнесці мяне ў лік гэтых перасяленцаў. Яшчэ сардэчная просьба да вас не перадаваць маё пасланне ў Маскву, бо з гэтага горада распаўсюджваецца на ўсю зямлю праўленне чалавечае, якое падлягае суду Божаму». Асуджана паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 16.6.1953. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 56263.

Літ.: *58*[10], с. 143.

**УСЦІНОВІЧ Аляксандр Харытонавіч** [1896 або 1897, в. Мянькі Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Быў рабочым у Беластоку, чыгуначнікам. З 1917 унтэр-афіцэр стралковай школы ў Араніенбаўме. Удзельнік Кастр. перавароту 1917 у Петраградзе, задушэння мяцяжу Керанскага—Краснова. У 1917—18 член Выканкама Беларускай сацыялдэмакратычнай рабочай партыі ў Петраградзе. Са студз. 1918 камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкама), з ліп. 1918 нам. кіраўніка справамі. З лют. 1918 камандзір атрада Чырвонай гвардыі (300 чал.), які ўвайшоў у Камуністычны атрад Петраградскага камітэта РКП(б). У ліп. 1918 дэлегат Усерасійскага з'езда бел. бежанцаў у Маскве. У 1919 уступіў у ВКП(б), ваенны камісар Слонімскага пав. Пасля грамадзянскай вайны на партыйнай і савецкай рабоце. Падчас арышту дырэктар студэнцкага гарадка Ленінградскага індустрыяльнага інстытута. Арыштаваны 22.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: 12-я Чырвонаармейская вул., д. 3, кв. 6.

Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. 22.11.1937 асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1973.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Літ.: *Ладысеў У.Ф., Брыгадзін П.І.* Паміж Усходам і Захадам: станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917—1939 гг.). Мн., 2003; *ЭГБ*, т. 6—2.

**УТНІК Казімір Войцэхавіч** [1910, в. Дзярэбчын, цяпер Украіна — ?], артыст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту артыст Гродзенскага драматычнага тэатра. Арыштаваны 23.3.1940. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў антысавецкай арганізацыі». Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.10.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа У. № П-12909 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**УШКЕВІЧ Вітольд Мечыслававіч** [1925, Гродна — ?]. У 1950-я г. зняволены Мінеральнага лагера Комі АССР. 28.1.1953 узяты пад варту і 14.3.1953 асуджаны лагерным судом за «антысавецкую прапаганду» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние*.

**ФАЙНБЕРГ Георгій Ізраілевіч*** [1920, Лодзь, Польшча — ?], хімік. З яўрэйскай мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў на Будслаўскім спіртзаводзе. Арыштаваны 7.4.1940 у мяст. Будслаў (цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл.). Асуджаны 21.8.1940 за «шпіёнскую і антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 1.9.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.6.1989. Асабовая справа Ф. № 26439-с з фотаздымкам захоўваецца у архіве КДБ Беларусі.

**ФАЛЬКОЎСКІ Дзмітрый Нічыпаравіч** [сапр.: Ляўчук; 22.10(3.11). 1898, в. Вялікія Лепясы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — 17.12.1934], украінскі паэт, удзельнік рэвалюцыйнага руху. Скончыў Кобрынскае гарадское вучылішча, вучыўся ў Брэсцкай гімназіі (1912—15). У вер. 1918 уступіў у Кобрынскую падпольную ячэйку РКП(б), у ліст. 1918 быў адным з ініцыятараў стварэння ў Кобрынскім пав. партызанскага атрада, які вёў баявыя дзеянні да разгрому польскімі войскамі вясной 1919. У 1920—23 служыў у органах ЧК—ДПУ. Пасля звальнення па хваробе жыў у Кіеве. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Ланка». Друкаваўся з 1924. Аўтар паэм «Чэкіст» (1924) і «Чабан» (1925), паэтычных зборнікаў «Даляглядзы» (1927), «На пажарышчы» (1928), «Палессе» (1931). Адлюстраваў героіку і трагізм грамадзянскай вайны. Апяваў прыгажосць роднага палескага краю, называў сябе «песняром Палесся». Некаторыя вершы Ф. («Очерет мені був за колиску») сталі народнымі песнямі. Перакладаў творы бел. (Я.Пушча), рускіх, нямецкіх

паэтаў. Прыйшоў да асэнсавання агульначалавечых духоўных каштоўнасцей, парваў з прыхільнікамі вузкакласавага разумення «пралетарскай культуры». Абвінавачваўся літаратурнай крытыкай ва ўпадніцкіх настроях. Арыштаваны і асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957. Матэрыялы пра Ф. экспануюцца ў Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі, у в. Вялікія Лепясы ўстаноўлены памятны знак.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ФАМІЧЭНКА Павел Сямёнавіч** [1889, в. Зубаўка Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. наркама (?). Арыштаваны 21.7.1938 у Алма-Аце. 4.6.1939 НКВД Казахскай ССР вызвалены і рэабілітаваны з-за «недаказанасці складу злачынства». Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга Скорби*.

Кр. геагр. : *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ФЕАКЦІСТАЎ Уладзімір Іосіфавіч*** [1917, в. Пустыні, цяпер Іванаўская вобл., Расія — ?], мастак. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў на Аршанскім ільнокамбінаце. Арыштаваны 22.6.1945 у Оршы па адрасе: 6-ы квартал, д. 2, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.9.1945 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 24.12.1993. Асабовая справа Ф. № 23357-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ФЕДАРКЕВІЧ Трафім Сцяпанавіч*** [1901, в. Галенчыцы Слонімскага пав. Гродзенскай губ. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту ваенны інжынер 71-га будаўнічага батальёна ў Варашылаўскай вобл. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.9.1937. Асуджаны 4.1.1938 асобай нарадай НКВД за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Свярдлоўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 11.11.1957 трыбуналам Далёкаўсходняй ВА. Асабовая справа Ф. № П-8077 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ФЕДАРОВІЧ Міхаіл Восіпавіч*** [1893, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 10.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — планавік-эканаміст падсобных прадпрыемстваў Маскоўскай ВА. Арыштаваны 10.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Малая Грузінская, д. 52/34, кв. 8, пакой 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.12.1937 за «сувязі з асобамі, арыштаванымі за шпіянаж» і «выказванні контррэвалюцыйных трацкісцкіх настрояў» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 27.6.1989. Асабовая справа Ф. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ФЕДАРЭНКА Мікалай Яфімавіч*** [1913, в. Вусце Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чэрыкаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], чэкіст. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштава-

ны 15.10.1943. Асуджаны 16.12.1943 за «пераход на бок немцаў і невыкананне задання кіраўніцтва НКВД» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 24.9.1959. Асабовая справа Ф. № 6682 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр. : *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ФЕЙГІН Рыгор Натанавіч*** [1900, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Працаваў па найму. Арыштаваны 17.11.1937 у Оршы. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Вызвалены 21.10.1939. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.9.1989. Асабовая справа Ф. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ФІГЛОЎСКАЯ Ганна Васілеўна*** [1918, в. Гармонава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], ?. З бел. сялянскай сям'і. Мела незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас 2-й сусветнай вайны санітарка ваеннага шпіталя № 273. Арыштавана 26.11.1943. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 24.3.1945 за «здраду радзіме» да 10 гадоў ППК. Этапавана ў Волжскі будаўнічы канцлагер МДБ Яраслаўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.9.1956. Асабовая справа Ф. № 2249-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ФІЛІПОВІЧ Вітольд Адамавіч*** [1903, в. Старэва Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел.

сялянскай сям'і. Падчас арышту старшы інжынер Гіпралестранса. Арыштаваны 1.9.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр. : *Назвы населеных пунктаў*.

**ФІЛІПОВІЧ Міхаіл Станіслававіч*** [1897, в. Засіціна Себежскага пав. Віцебскай губ., цяпер Себежскі р-н Пскоўскай вобл., Расія — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — майстар механічнага цэха Інстытута прыкладной фізікі. Арыштаваны 26.8.1937 у Новым Пецяргофе Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр. : *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ФІЛІПЮК Кузьма Ерамеевіч*** [1885, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — 15.3.1938, Куйбышаў, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — супрацоўнік Планавага інстытута. Арыштаваны 7.12.1937 у Куйбышаве. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Куйбышаўскай аблпракуратурай 28.7.1989.

Кр.: *Белая книга*.

**ФІРАСЕВІЧ Уладзімір Міхайлавіч*** [1880, в. Самогруд Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 1.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — загадчык бюро рэгулявання Цэнтральнай гарадской пасажырскай станцыі Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 29.9.1937 у Чырвонагвардзейску Ленінградскай вобл. па адрасе: вул. Урыцкага, д. 11, кв. 1. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.10.1937 за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ФІШАР Навум Ісакавіч** [1905, Мінск — ?], упаўнаважаны ЦК Яўрэйскай камуністычнай рабочай партыі «Паалей Цыён». Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 3.12.1925 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 78, кв. 1. Асуджаны 29.1.1926 калегіяй АДПУ за «контррэвалюцыйную агітацыю і сувязь з нелегальнай сіяніcцкай арганізацыяй» да 3 гадоў ссылкі і 3 гадоў пазбаўлення правоў. 18.9.1926 высланы ў Сімферопаль, потым у Казахскую ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 3.6.1992. Асабовая справа Ф. № 34091-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Верагодна, былі рэпрэсаваны і сваякі Ф.

**ФІШМАН Арон Іосіфавіч*** [1903, Бабруйск Мінскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], вайсковец, педагог. З яўрэйскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту ваенны інжынер Кур-

саў удасканалення каманднага складу інжынерных войскаў Асобай Чырвонасцяжнай Далёкаўсходняй арміі. Арыштаваны 10.10.1936. Асуджаны 29.8.1937 «тройкай» НКВД за «здраду Радзіме» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай пленума Вярхоўнага суда СССР 28.11.1989. Асабовая справа Ф. № 12743-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ФРАЙМАН Майсей Альбертавіч** [1903, Магілёў (?) — ?], інжынер, начальнік аддзела будтрэста. Быў членам КПСС. Як сцвярджала следства, у 1950—52 Ф. «сістэматычна расказваў антысавецкія анекдоты, накіраваныя на скажэнне падаткавай сістэмы, савецкай літаратуры і матэрыяльнага становішча працоўных СССР», бэсціў мясцовыя ўлады, параўноўваў абл. выканаўчы камітэт з гестапа, казаў, што «савецкая літаратура аднатонная, нецікавая, што пісьменнікам даюць адны і тыя ж сумныя тэмы», «называў камуністаў дармаедамі і смаркачамі», казаў, што да камунізму не дажыць, але пры камунізме жонкі будуць агульнымі. Арыштаваны 11.11.1953. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 30.4.1954(?). Рэабілітаваны 11.7.1962.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 38758; Ф. 9474, воп. 40, спр. 226.
Літ.: *58*[10], с. 91—92.

**ФРАЛОЎ Іван Дзмітрыевіч** [1898, в. Ільінка Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і.

Падчас арышту начальнік гітарнага цэха Музкамбіната. Арыштаваны 12.11.1937 у пас. Чэкіст Томскага р-на. Асуджаны 15.11.1937 за «контррэвалюцыйны сабатаж» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр. : *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ФРУМКІНА Марыя** [1880, Мінск — 9.6.1943, Карагандзінскі канцлагер], паліт. і дзяржаўны дзеяч. Скончыла мінскую жаночую Марыінскую гімназію, вучылася на Бястужаўскіх вышэйшых жаночых курсах у Пецярбургу, слухала лекцыі ў Берлінскім ун-це. З 1896 удзельнічала ў рабоце сацыял-дэмакратычных гурткоў Мінска. Неаднаразова арыштоўвалася; высылалася ў Архангельскую, Палтаўскую, Астраханскую і інш. губ. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнулася ў Мінск. Стала адным з лідэраў меншавіцкага крыла Бунда, працавала ў Бюро ЦК Бунда, рэдактар яго цэнтр. органа — газ. «Дар векер» («Будзільнік»). У 1919 адзін з лідэраў левага крыла Бунда. Абіралася членам Мінскай гарадской думы, дэпутатам Мінскага і Гомельскага саветаў, членам ЦВК Літоўска-Беларускай ССР. З крас. 1920 член ЦК Камбунда, у 1921 разам з іншымі членамі Камбунда ўступіла ў РКП(б). Са жн. 1920 нам. наркама асветы Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта БССР, вяла ўлік непісьменных, адкрывала пункты па ліквідацыі непісьменнасці. У снеж. 1920 узначаліла Камісію па ліквідацыі непісьменнасці. Фактычна выконвала абавязкі наркама асветы да сак. 1921. Спрычынілася да адкрыцця ў Мінску ў снеж. 1920 Беларускага дзяржаўнага

політэхнікума (будучага політэхнічнага інстытута), 8.7.1921 увайшла ў склад праўлення БДУ. У 1921 ЦК РКП(б) адклікаў Ф. ў Маскву, дзе яна была прызначана нам. рэктара Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду імя Ф.Мархлеўскага, у 1925—30 — рэктар ун-та. Адначасова член Цэнтральнага бюро яўрэйскіх секцый пры ЦК ВКП(б). Арыштавана 25.1.1938 па абвінавачанню ў прыналежнасці да «нелегальнай яўрэйскай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі». 2.6.1940 асуджана да 8 гадоў ППК. Загінула ў зняволенні.

Літ.: *Іофэ Э.* «Асвета зрабілася справай жыцця…» // *ЛіМ*. 2003. 21 сак.

**ФРЫД Рыгор Міхайлавіч*** [жн. 1902, Варшава, Польшча — 9.7.1938, Мінск, НКВД], службовец. З сям'і службоўца. Удзельнік грамадзянскай вайны (на баку бальшавікоў). Падчас арышту ўпаўнаважаны па размеркаванні літаратуры ў БелАН. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 40, кв. 34. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.5.1938 як «агент англійскай разведкі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракурорам БВА 27.3.1989. Асабовая справа Ф. № 21675-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ФРЫДЛЯНД Рыгор Самойлавіч** [27.9.1897, Мінск — 8.3.1937, Масква, НКВД], педагог, службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. дэкан гістарычнага ф-та Маскоўскага дзяржаўнага ун-та, прафесар, член ВКП(б). Арыштаваны 31.5.1936 у Маскве па адрасе: вул. Садова-Карэтная, 3-ці Дом Саветаў, кв. 3. Прызначаны да рэпрэсіі па першай катэгорыі (расстрэ-

лу) у спісе «Масква-цэнтр» № 28 ад 27.2.1937 на 33 чалавекі без подпісу начальніка 1-га спецыяльнага аддзела НКВД, але з подпісамі «*За*» Сталіна, Молатава і Кагановіча (на першай старонцы; №№ 1—24) і Сталіна, Молатава, Варашылава, Кагановіча (на другой старонцы; №№ 25—33). 7.3.1937 абвінавачаны ва «ўдзеле ў контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» і асуджаны да ВМП. Расстраляны і пахаваны на тэрыторыі Данскіх могілак у Маскве. Рэабілітаваны 21.11.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище*.

**ФРЫДМАН Ісак Сямёнавіч*** [1887, Сімферопаль, цяпер Украіна — 29.10.1937 (?), Мінск, турма НКВД], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у ВКП(б) (1918). Да арышту начальнік аддзела землеўпарадкавання наркамата земляробства БССР. Арыштаваны 15.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 57. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28 ці 29.10.1937 тройкай НКВД за «шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы» і як «член тэрарыстычнай арганізацыі правых» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 25.5.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Ф. №10367-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ*.

**ФРЭЙДЛІН Навум Рыгоравіч*** [1897, мяст. Бялынічы Магілёўскага пав., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 22.11.1937, Віцебск, НКВД], рэдактар. З сям'і службоўца. Падчас арышту член ВКП(б), рэдактар газ. «Віцебскі пралетарый». Быў жанаты, гадаваў

двaіх дзяцей. Арыштаваны 5.9.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 42, кв. 8. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.11.1937 за «ўдзел у складзе контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 6.10.1956. Асабовая справа Ф. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ФУРС Васіль Сцяпанавіч*** [25.4.1925, Полацк, цяпер Віцебская вобл. — ?], вайсковец. З сям'і бел. рабочага. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Падчас арышту нам. камандзіра аддзялення 63 гвардзейскага палка 19 дывізіі. Арыштаваны 17.5.1947. Асуджаны 16.7.1947 як былы «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Варкуцінскі канцлагер МДБ Архангельскай вобл. і Комі АССР. Вызвалены 1.4.1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 31.12.1957. Асабовая справа Ф. № 2985 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ФУРСАЎ Васіль Пятровіч*** [1915, в. Горня Магілёўскай губ., цяпер Хоцімскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], ?. З бел. сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у другой палове 1930-х г. Арыштаваны 8.12.1942. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.11.1943 за «дэзерцірства і антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 27.11.1989. Асабовая справа Ф. № 13680-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр. : *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАВАНСКІ Аляксандр Сямёнавіч*** [1898, в. Галавачы Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 18.10.1937, Ленінград, НКВД], служболвец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — начальнік адміністрацыйна-гаспадарчага аддзела завода «Пралетарый». Арыштаваны 22.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. 6-я Савецкая, д. 29, кв. 14. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.10.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАДАРКЕВІЧ Уладзімір Дзмітрыевіч*** [1907, мяст. Турэц Навагрудскага пав. Мінскай губ, цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], служболвец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — інжынер Лендзяржпраектбуда. Арыштаваны 4.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. Валадарскага, д. 39, кв. 12. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «шпіянаж» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАДАСЕВІЧ Іосіф Паўлавіч*** [1890, Віленская губ., цяпер Літва (?) — ?], служболвец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — камендант Куйбышаўскага тэхнікума сувязі. Арыштаваны 23.3.1938. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». 17.2.1939 НКВД Куйбышаўскай вобл. справа Х. была спынена з-за недаказанасці абвінавач-

вання. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны 18.10.1991.

Кр.: *Белая книга.*

**ХАДЗЕЕЎ Кім Іванавіч** [17.11.1929 — 5.9.2001, Мінск], філосаф, культуролаг, пісьменнік. З сям'і вайскоўца. Скончыў СШ у Мінску (вучыўся ў адным класе з будучым нобелеўскім лаўрэатам па фізіцы Ж.Алфёравым). У 1948, з'яўляючыся студэнтам БДУ, на камсамольскім сходзе заклікаў да звяржэння ВКП(б). Арыштаваны і асуджаны да зняволення. У сярэдзіне 1950-х г. вярнуўся ў Мінск. Паступіў у Мінскі педагагічны інстытут. З гэтага моманту становіцца ўдзельнікам, потым лідэрам розных нефармальных гурткоў і аб'яднанняў. Зноў арыштаваны ў 1962. Знаходзіўся ва Уладзімірскай турме, на прымусовым лячэнні ў псіхіятрычнай бальніцы турмы «Кресты» ў Ленінградзе. З 1960-х г. культавая фігура мінскага інтэлектуальнага падполля, «гуру» мінскага андэграўнда. У яго аднапакаёвай кватэры № 24 па вул. Кісялёва д. 17 збіралася амаль уся маладая інтэлектуальная эліта, цэлыя пакаленні становіліся яго вучнямі. Сярод іх вядомыя мастакі, музыканты, пісьменнікі, вучоныя. Яго сябрамі і знаёмымі былі Б.Акуджава, Л.Анінскі, У.Высоцкі, Ю.Кім, В.Круглянскі, Ю.Левітанскі і інш. Паводле некаторых звестак, напісаў на заказ больш за 50 кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Ягоныя творы (за выключэннем артыкула ў час. «Белорусский климат» (1997) не выдадзены, але пазнаёміцца з імі можна ў Інтэрнеце.

Літ.: *Нежданский К.* «Ким Иванович» // *Белорусская газета.* 2003. 15 сент.

**ХАЛАСЦЯКОЎ Георгій Мікітавіч** [7(20).8.1902, мяст. Баранавічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер горад у Брэсцкай вобл. — 22.7.1983], віцэ-адмірал (1945), Герой Савецкага Саюза (1965). Скончыў Ваенна-марское гідраграфічнае вучылішча (1925), падводны клас спецкурсаў камсаставу (1928). Ваенную акадэмію Генштаба (1950). У Чырвонай арміі з 1919, у ВМФ з 1921. Удзельнік грамадзянскай вайны 1918—20. З 1933 камандзір лепшай падводнай лодкі «Ласось» (пазней вядомая як «Шчупак»), марской брыгады. У 1938 беспадстаўна арыштаваны. Вызвалены і рэабілітаваны ў 1940. З восені 1940 камандзір брыгады падводных лодак Чарнаморскага флоту, з вер. 1941 начальнік штаба і камандзір Новарасійскай ваенна-марской базы, камандуючы Азоўскай і Дунайскай ваеннымі флатыліямі, удзельнік абароны Крыма, Каўказа, вызвалення Балгарыі, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Аўстрыі. Вызначыўся ў Новарасійскай наступальнай аперацыі 1943. Пасля вайны да 1969 на камандных пасадах на Ціхаакіянскім флоце, у апараце Міністэрства абароны СССР. Аўтар кн. «Вечны агонь» (1980). Ганаровы грамадзянін Баранавіч, Геленджыка (Расія), Браціславы (Славакія). Забіты разам з жонкай у час рабавання іх кватэры. Пры гэтым былі выкрадзены яго парадны мундзір віцэ-адмірала і шматлікія ўзнагароды. Пахаваны ў Маскве на Кунцаўскіх могілках. Яго імем названа вуліца ў Баранавічах.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ХАМІЦКІ Міхаіл Сямёнавіч*** [1904, в. Саннікі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н

Віцебскай вобл. — ?, Алма-Ата, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — інжынер Упраўлення шашэйных дарог СССР. Арыштаваны ў Алма-Аце. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 11.2.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Туркестанскай ВА 27.1.1960.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАМЧАНОЎСКІ Васіль Антонавіч*** [1904, в. Пірагі Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Расонскі р-н Віцебскай вобл. — 21.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — эканаміст 1-га цэха завода «Севкабель» (?). Арыштаваны 21.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі Востраў, пр. Пралетарскай Перамогі, д. 63/17, кв. 8. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.11.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАНЖАНКОЎ Сяргей Мікалаевіч** [н. 13.3.1942, пас. Усць-Уціны Магаданскай вобл., Расія], арганізатар і кіраўнік маладзёжнай антысавецкай арганізацыі, якая дзейнічала ў Мінску ў 1962—63, сын рэпрэсаванага ў 1935 студэнта Маскоўскага інстытута інжынераў транспарту. Выхоўваўся ў антысавецкім духу, як успамінаў сам Х., «з маленства разумеў, хто галоўны віноўнік усіх нашых няшчасцяў». У 1955 сям'і Х. было дазволена пакінуць Калыму і неўзабаве яны пераехалі ў Мінск,

дзе бацька Х. знайшоў работу па сваёй спецыяльнасці інжынера-аўтадарожніка. З 1959 Х. студэнт гідратэхнічнага ф-та Беларускага політэхнічнага інстытута. Паводле дадзеных следства ўстаноўлена, што «з 1958 Х., сістэматычна слухаючы (па прыёмніку «Мінск–55») антысавецкія перадачы замежных радыёстанцый, трапіў пад уплыў буржуазнай ідэалогіі і вясной 1962 з удзелам В.*Храпавіцкага* і Г.*Сярогіна* стварыў антысавецкую арганізацыю, якая мела праекты праграмы і статута. Група здабыла шрыфт для друкавання лістовак і ўзрыўчатку, каб падарваць у Мінску радыёглушыцель». 27.5.1963 Х. і яго сябры былі арыштаваны. Неўзабаве ён зразумеў, што ў КДБ ведаюць пра іх арганізацыю ўсё. За імі сачылі з першых крокаў. Асведаміцелем і правакатарам аказаўся К-ч, яго школьны сябра. 7.10.1963 Х. быў асуджаны за «спробу зрабіць дыверсію» і «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК. Этапаваны (праз Смаленск, Вязьму, Ражск, Пуцьму) у Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. У розныя часы пакаранне адбываў з вядомымі дысідэнтамі Галансковым, Гінзбургам, Даніэлем, Кузняцовым, Марчанкам, Сіняўскім. Вызвалены 27.5.1973. 23.8.1973 у інтэрв'ю агенцтву Associated Press і газ. Le Monde А.Салжаніцын сказаў: «Вспоминается судьба Сергея Ханженкова, отсидевшего <...> за попытку — или даже намерение — взорвать глушитель в Минске. А ведь исходя из общечеловеческих забот нельзя понять этого преступника иначе как борца за всеобщий мир». Пасля вызвалення вярнуўся ў Мінск. Працаваў інжынерам у Беларускім дзяржаўным інстытуце праектавання аўтадарог, на заводзе імя Кірава. З 2002 на пенсіі. Удзельнік I-га з'езда паліт. зняволеных у жн. 1990

(Санкт-Пецярбург). Не рэабілітаваны і рэабілітацыі ніколі не дамагаўся.

Кр.: Запісы, зробленыя аўтарам даведніка падчас гутаркі з С.Ханжанковым у ягонай кватэры 24.10.2004; *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 95626, 95627.

Літ.: «*Набат Северо-Запада*» (Петразаводск, Расія). 1991, 27 дек.; *58*[10], с. 642.

**ХАРКЕВІЧ Анастасія Канстанцінаўна*** [1897, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык вячэрняга рабфака (Орша). Арыштавана 20.7.1938. Асуджана «тройкай» НКВД 20.10.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Віцебскай вобл. 18.10.1989. Асабовая справа Х. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ХАРКО Іван Аляксандравіч*** [1904, в. Крывулічы Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. У 1920 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту аспірант Інжынерна-эканамічнага інстытута. У 1936 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны 19.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: Лясны пр., д. 65, корп. 1, кв. 66. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАРУК (СЕЛІВАНЕЦ) Васіль Кліментавіч** [1903, в. Хвалава Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], педагог. З бел. сялянскай сям'і. У 1925 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. дырэктара Завочнага металургічнага інстытута. Арыштаваны 21.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. Макліна, д. 3, кв. 1. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ХАРУНЖЫ Дзмітрый Кузьміч*** [1919, в. Сямёнаўка, цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 12.3.1945 у мяст. Семежава (?). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.5.1946 за «здрадніцкія паводзіны ў перыяд нямецкай акупацыі» да 10 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены 30.8.1954. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 27.8.1991. Асабовая справа Х. № 31829-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХАРЫТАНОВІЧ Васіль Канстанцінавіч*** [1911, Баранавічы — ?, ГУЛАГ], аграном, бацька пісьменніка Юрыя Станкевіча (прозвішча па маці). Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 2-й сусветнай вайны мабілі-

заваны ў Чырвоную армію. Пад Барысавам трапіў у палон. Сядзеў у нямецкім канцлагеры, адкуль уцёк. Арыштаваны ў 1945. Зняволены ў Барысаўскай турме МДБ. Асуджаны як «член БНС» і за «правядзенне мерапрыемстваў антысавецкай скіраванасці» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер МДБ Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы.

**ХАТАЕВІЧ Мендэль Маркавіч** [10(22).3.1893, Гомель — 30.10.1937, Масква, НКВД], савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, удзельнік барацьбы за савецкую ўладу на Беларусі. З 1913 член Палескага камітэта РСДРП. У 1914 арыштаваны і сасланы ў Сібір. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 узначальваў Гомельскую арганізацыю РСДРП(б), з вер. 1917 член Паўн.-Зах. абл. камітэта РСДРП(б), член выканкама Гомельскага Савета. У 1919 старшыня Гомельскага пав.-гарадскога камітэта РКП(б), член Гомельскага рэўкама. З мая 1920 на Зах. фронце, нач. палітаддзела 4-й арміі, 21-й дывізіі. З 1921 сакратар Гомельскага, з 1923 Адэскага губкамаў РКП(б). З 1924 у апараце ЦК ВКП(б). З 1925 сакратар Татарскага абкама, з 1928 — Сярэдняволжскага крайкама ВКП(б). З кастр. 1932 сакратар ЦК КП(б) Украіны, адначасова (са студз. 1933) Днепрапятроўскага абкама КП(б)У. У 1937 2-гі сакратар ЦК КП(б)У. У 1932—37 член Палітбюро ЦК КП(б)У. Арыштаваны 9.7.1937 у Маскве ў гатэлі «Нацыяналь». 29.10.1937 «тройкай» НКВД асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 25.1.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. У Гомелі яго імем названа вуліца.

Кр.: *Расстрельные списки. Донское кладбище.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ХАХЛОЎ Андрэй Фёдаравіч*** [1900, Сурскае Сімбірскай губ., цяпер Ульянаўская вобл., Расія — 13.8.1948, ГУЛАГ], музыкант. З сям'і рабочага. Працаваў у гарадскім ансамблі песні і танца. Уступіў у ВКП(б). Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 18.12.1944 у Барысаве па адрасе: вул. 3-я Інтэрнацыянальная, д. 34. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 21.7.1945 за «здраду радзіме» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Кемераўскай вобл. (Марыінск). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 26.3.1996. Асабовая справа Х. № 36770-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ХАХЛОЎ Фёдар Цімафеевіч*** [1918, в. Свішчаўка, цяпер Кірсанаўскі р-н Тамбоўскай вобл., Расія — ?], службовец. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інспектар Маладзечанскага абл. аддзела народнай адукацыі. Арыштаваны 8.2.1945 у Стара-Вілейцы тагачаснай Маладзечанская вобл. па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 37. Асуджаны 2.7.1946 за «шпіянаж» і як «член антысавецкай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Вызвалены (па амністыі) 2.7.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 26.8.1969. Асабовая спра-

ва Х. № 20097-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХАЦКЕВІЧ Аляксандр Ісакавіч** [16.1.1895, в. Навасёлкі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — канец ліст. або першая палова снеж. 1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу. Працаваў рабочым на лесапільных заводах Барысава і Рэжыцы. У 1-ю сусветную вайну ў арміі, малодшы унтэр-афіцэр тэлеграфнай роты Усць-Дзвінскага гарнізона. Быў паранены. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 удзельнічаў ва ўстанаўленні савецкай улады на Барысаўшчыне. Са снеж. 1918 старшыня Лошніцкіх валасных выканкама і рэўкама. У час польскай акупацыі кіраваў партызанскімі групамі на Барысаўшчыне. З мая 1920 старшыня Барысаўскай пав. рабоча-сялянскай інспекцыі, са снеж. 1920 старшыня Барысаўскага пав. выканкама. У снеж. 1922 як член паўнамоцнай дэлегацыі БССР падпісаў Дэкларацыю аб утварэнні СССР. З мая 1924 старшыня Магілёўскага акруговага выканкама. З крас. 1925 наркам унутраных спраў БССР. У 1926—27 пастаянны прадстаўнік урада БССР пры ўрадзе СССР. З мая 1927 сакратар ЦВК БССР, адначасова старшыня Нацыянальнай камісіі пры ЦВК БССР. У 1928 узначаліў урадавую Камісію па рэарганізацыі Ін-та бел. культуры ў БелАН. З лют. 1931 наркам фінансаў БССР. У 1935—37 сакратар Савета Нацыянальнасцей ЦВК СССР. Уваходзіў у склад рэдакцыйнай камісіі па выпрацоўцы Канстытуцыі СССР 1936, узначальваў Камісію па амністыі і савецкім грамадзянстве. Быў рэ-

дактарам час. «Революция и национальности», членам рэдакцыйнага савета Вялікага савецкага атласа свету. Выступаў у друку з артыкуламі па пытаннях савецкага будаўніцтва. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 25.7.1937 ў Маскве. Этапаваны ў Мінск. Асуджаны 24.11.1937 «тройкай» НКВД за «шпіянаж на карысць польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.4.1956 калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Х. № 10726-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

Таксама была рэпрэсавана жонка Х. Лідзія Уладзіміраўна. Вызвалена пасля 8 гадоў ППК у 1946.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў* .

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2; *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 545—546.

**ХАЦКЕВІЧ Іван Аляксеевіч*** [1914, Масква — 27.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], навучэнец. З сям'і бел. рабочага. Падчас арышту студэнт Цэнтральнага інстытута фізічнай культуры. Арыштаваны 7.11.1937 у Маскве па адрасе: Ленінградская шаша, д. 185. Асуджаны 27.4.1938 за «антысавецкую тэрарыстычную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ХАШКОЎСКІ Антон Францавіч** [1886, Віцебск — 16.6.1938, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. рабо-

чага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік падрыхтоўкі вытворчасці эксперыментальнага завода трэста «Машметбуд». Арыштаваны 13.3.1938 у Маскве па адрасе: Калакольнікаў зав., д. 8, кв. 1. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.6.1938 за «шпіёнскую дыверсійна-тэрарыстычную дзейнасць на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ХВАСЦЮК Мікалай Мікалаевіч*** [1888, в. Пятроўцы Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 16.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], бібліятэкар. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у камуністычную партыю Польшчы, затым у ВКП(б). Апошняе месца работы — загадчык бібліятэкі аўтадарожнага тэхнікума Галоўнага ўпраўлення шашэйных дарог СССР. Арыштаваны 9.12.1937 у Маскве па адрасе: Вялікі Палуяраслаўскі зав., д. 8/1, кв. 5. Асуджаны 16.9.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.1.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХВЯДОШЧЫК Вацлаў Іванавіч*** [1884, Смаленская (?) губ. — 7.10.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — галоўны механік Смаленскага завода імя 1 Мая. Арыштаваны

19.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ХЕЙФІЦ Яўген Рафаілавіч*** [н. 1925, Курск, Расія], лекар. З сям'і службоўца. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Пасля сканчэння інстытута працаваў у 3-й клінічнай бальніцы Мінска. Уступіў у КПСС. Па дадзеных следства, «на працягу 1957—58 разам з А.*Рубінам* і Г.*Ясялевічам* абмяркоўваў палітыку савецкага ўрада ў адносінах да яўрэяў». Арыштаваны 9.12.1958 у Мінску па адрасе: вул. Разінская, д. 28, кв. 2. Асуджаны 29.4.1959 паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» да 2 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 20.12.1964. Асабовая справа Х. № 19121-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 85052; Ф. 9474, воп. 41, спр. 3087; *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *58[10]*, с. 521—522.

**ХІЛЬКО Міхаіл Яфімавіч*** [1884, в. Дарошына (?) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі (?) р-н Мінскай вобл. — 27.10.1937, Масква, НКВД], інжынер. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы інжынер Галоўнага гідраметэаралагічнага ўпраўлення СССР. Арыштаваны 20.2.1937 у Маскве па адрасе: ст. Салтыкоўская, 2-і Каўроўвы зав., д. 18. Асуджаны 27.10.1937 за «антысавецкую фашысцкую тэрарыстыч-

ную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.11.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХІЛЬХЕР Станіслаў Іванавіч*** [1917, Гомель — ?], музыкант. З польскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту працаваў у Гродзенскім абласным драматычным тэатры. Арыштаваны 12.12.1944. Абвінавачваўся ў «прыманні нямецкага падданства». Вызвалены і рэабілітаваны 20.2.1946 следчай групай НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Х. № П-718 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ХІЛЮТА Венядзікт Пятровіч** [1893, в. Старынцы Гродзенскага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — ?], селянін-аднаасобнік, член секты «Сведкі Іеговы». З бел. сялянскай сям'і. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 24.10.1940 у сваёй хаце. Асуджаны 14.6.1941 асобай нарадай НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. Зноў арыштаваны 16.12.1957 і асуджаны (разам з некаторымі іншымі членамі секты) па тым жа артыкуле. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе (№ П-11942 захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Гродзенскай вобл.) рэабілітаваны 13.7.1989, па другой 24.6.1960.

Кр.: *5810.* С. 402.

**ХІЛЮЦІН Карп Несцеравіч*** [1893, Смаленская (?) губ. — 17.9.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — фатограф Руднянскага раённага фінансавага аддзела. Арыштаваны 22.5.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ХЛЮДЗІНСКІ Яўген Канстанцінавіч** [1898, цяпер тэрыторыя Беларусі — 27.11.1937, Смаленск, НКВД], апошняе месца работы — піяніст Смаленскага тэхнікума фізкультуры. Арыштаваны 24.10.1937. Асуджаны 17.11.1937 «тройкай»НКВД за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ХМЯЛЕЎСКІ Міхаіл Цімафеевіч*** [1894, мяст. Копысь Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык матэматыкі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 23.1.1938. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». Асуджаны не быў. Вызвалены і рэабілітаваны 5.6.1939 пастановай НКВД БССР. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Х. № 4846-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

**ХОМІЧ Якаў Фёдаравіч*** [1897, в. Зарэчка Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — 22.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту прараб плаціны № 29 канала Масква—Волга. Арыштаваны 29.10.1937 у пас. Пакроўска-Глебава Краснагорскага р-на Маскоўскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД Маскоўскай вобл. 20.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай дыверсійнай шкодніцкай арганізацыі на канале Масква—Волга» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны 20.9.1956. Асабовая справа Х. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХОЦКІ Пётр Аляксеевіч*** [1899, мяст. Чавусы Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 2.4.1932, ?], навуковец. З сялянскай сям’і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў вучоным сакратаром зямельна-планавага аддзела наркамата земляробства. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 10.12.1930 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 11, кв. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 30.5.1931 (па іншых звестках 14.3.1932) як «арганізатар контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа Х. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХРАПАВІЦКАЯ Вольга Кліментаўна*** [1922, Лагойск Мінскай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Падчас арышту бухгалтар Лагойскага райспажыўсаюза. Арыштавана 24.3.1949. Асуджана 30.6.1949 як былы «член нацыяналістычных арганізацый СБМ і БНС» да 25 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. 4.8.1949 ваенным трыбуналам войск МДБ БВА тэрмін пакарання зніжаны да 10 гадоў. 31.3.1954 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР тэрмін пакарання зніжаны да 5 гадоў. Вызвалена 13.6.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Вярхоўным судом Беларусі 8.4.1992. Асабовая справа Х. № 34821-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХРАПАВІЦКІ Васіль Іларыёнавіч*** [1891, в. Юнынаўка (?) Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — юрысконсульт абл. аддзялення Саюза швейнікаў. Арыштаваны 3.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Набярэжная ракі Фантанкі, д. 144, кв. 150. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж», «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ХРАПАВІЦКІ Віктар Іванавіч** [н. 1937], з 1959 студэнт Беларускага політэхнічнага інстытута. Павод-

ле дадзеных следства, вясной 1962 па ініцыятыве С.*Ханжанкова* разам з Г.*Сярогіным* Х. увайшоў у склад антысавецкай арганізацыі, якая мела праекты праграмы і статута. Група здабыла друкарскі шрыфт дзеля друкавання ўлётак, зброю і ўзрыўчатку з мэтай падрыву ў Мінску радыёглушыцеля. Асуджаны па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 7.10.1963 да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Пасля падачы заявы аб памілаванні тэрмін зняволення быў зніжаны да 5 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 95626, 95627.

Літ.: *58*[10], с. 642.

**ХРОМЧАНКА Іван Мацвеевіч*** [1912, в. Вялікія Хутары Чэрыкаўскага (?) пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 24.8.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт аднаго з ленінградскіх інстытутаў. Арыштаваны 25.4.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.8.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ХРЫСТАФОРАЎ Аляксандр Аляксандравіч*** [1889, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 16.6.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту кіраўнік групы Галоўнага транспартнага ўпраўлення. Арыштаваны 15.3.1938

у Маскве па адрасе: Дзевяткін зав., д. 5, кв. 3. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.6.1938 за «шпіёнскую тэрарыстычную дзейнасць і перадачу сакрэтных звестак на карысць польскай разведвальнай службы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 23.11.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ХУДЗЯКОЎ Ілья Міхайлавіч*** [1895, в. Хадзяціна (?) Пермскай губ., цяпер Пермская вобл., Расія — ?], заатэхнік. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 22.12.1944. Вызвалены 10.4.1945. Рэабілітаваны пастановай Горацкага раённага аддзела НКВД Магілёўскай вобл. 7.4.1945. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Х. № 507-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЦАЙ Анатоль Тарасавіч** [1899, цяпер тэрыторыя Беларусі — 1.6.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту архівіст Смаленскага гарадскога аддзела народнай адукацыі. Арыштаваны 11.5.1938. Асуджаны «тройкай» УНКВД Смаленскай вобл. 25.5.1938 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ЦАРАНКОЎ Антон Іванавіч** [5.2.1887, в. Вусце Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чэрыкаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 24.11.1971, Мінск], спявак (басактавіст), протадыякан. З бел. сялянскай сям'і. У 1897 паступіў у Народнае вучылішча ў Магілёве (дзякуючы клопатам архіепіскапа магілёўскага Мітрафана (Краснапольскага), які ў 1919 забіты бальшавікамі ў Архангельску; у 2002 Святым Сінодам Беларускага Экзархата далучаны да ліку Сабора Беларускіх Святых). Тады ж Ц. пачаў спяваць у хоры Магілёўскай Брацкай царквы. Пасля сканчэння вучобы (1900) працаваў бібліятэкарам. Падчас знаходжання імператара Мікалая II у Магілёве атрымаў ад яго Чырвоную стужку — узнагароду Свяшчэннага Сінода. Па запрашэнні ўладыкі Мітрафана пераехаў у Мінск, служыў протадыяканам у Мінскім праваслаўным кафедральным саборы, спяваў у яго хоры пад кіраўніцтвам вядомага дырыжора С.Кнігі. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 Ц. быў пазбаўлены грамадзянскіх правоў, а яго сын выключаны з гімназіі. Падчас прыезду ў Мінск Дз.Меражкоўскага і яго жонкі З.Гіпіус з мэтай нелегальна перайсці савецка-польскую мяжу прытуліў іх у сваёй кватэры. У

другой палове 1920-х г. працаваў бухгалтарам. Першы раз арыштаваны 27.3.1927. Асуджаны 17.6.1927 (разам са святарамі Мінскай епархіі М.*Лукашэвічам,* дыяканам А.*Крыкуновым* і інш.) асобай нарадай пры АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер АДПУ Архангельскай вобл. На этапе і ў канцлагеры некаторы час знаходзіўся з епіскапам Мікульскім, ксяндзом С.Віткоўскім, галоўным святаром нямецкай кірхі ў Мінску В.Кранцам, рабінам галоўнай сінагогі ў Мінску З.Зільберглейтам, мулам татарскай мячэці У.Мазалевічам, акадэмікам С.*Некрашэвічам*. Пасля заканчэння тэрміну (23.3.1930) у сувязі з забаронай НКВД выязджаць за межы Архангельскай вобл. жыў у Кемі. Неўзабаве да Ц. прыехала жонка. Памалу яны пачалі абжывацца, абзаводзіцца знаёмымі. У той час у Архангельскай вобл. на пасяленні знаходзілася шмат украінцаў. Яны стварылі свой невялікі прыход. Святаром у ім стаў Ц. Але неўзабаве царкву закрылі, а яго з жонкай без суда і следства адправілі ў канцлагер. Вызвалены ў сак. 1933 па амністыі для будаўнікоў Беламорска-Балтыйскага канала. Вытрымаўшы экзамен прыёмнай камісіі Вялікага тэатра, у складзе якой былі В.Давыдава, І.Казлоўскі, С.Лемешаў, Л.Собінаў, А.Сцяпанаў, браты Піраговы і інш., залічаны ў яго штат. Удзельнічаў у трыумфальных гастролях тэатра па Эстоніі і Украіне, але пасля выкліку ў АДПУ вырашыў развітацца з Вялікім тэатрам і пераехаў у Кіеў (1934). Працаваў салістам хора Кіеўскага радыё. Атрымаўшы запрашэнне ад Мінскага тэатра оперы і балета, пераехаў у Мінск (1935). У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, працаваў у Камісарыяце па харчаванні (пад кіраўніцтвам пазней вядома-

га польскага камуніста, будучага прэзідэнта Польшчы і, як потым высветліцца, буйнога рэзідэнта савецкай разведкі Б.Берута). Дапамог стаць на харчовае забеспячэнне акадэміку М.Нікольскаму, прафесарам Маславу, В.Тэміну, кампазітару А.*Туранкову*, артыстам Мінскага опернага тэатра Саладуху, Лабко і інш. Падтрымліваў сувязі з партызанскім рухам. Зноў арыштаваны 20.7.1944 падчас адной з рэпетыцый у памяшканні тэатра Я.Купалы. Асуджаны 19.4.1945 ваенным трыбуналам войск НКВД Мінскай вобл. за «дапамогу нямецкім акупантам і антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў адзін з канцлагераў ГУЛАГа. Некаторы час ў зняволенні знаходзіўся разам з кампазітарам А.Туранковым. Вызвалены 14.7.1954. Прыехаў у Брэст да сына, які працаваў загадчыкам кафедры ў Брэсцкім педагагічным інстытуце. Са жн. 1954 артыст Дзяржаўнай харавой капэлы БССР. Пасля смерці жонкі выйшаў на пенсію, але ад удзелу ў канцэртах, на якія яго перыядычна запрашалі дырэктар і хормайстар капэлы, не адмаўляўся амаль да самай смерці. Па першай справе (№ 28843-с; захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 28.12.1989 пракуратурай Мінскай вобл., па другой (№ 11904-с) — 29.6.1963 Вярхоўным судом БССР.

Літ.: *Синодик за веру и церковь Христову*; *Царанкоў Я.* Загублены талент. Мн., 1998.

**ЦАРТ Лазар Аронавіч*** [1903, мяст. Волакі Віленскай губ., цяпер Літва (?) — 29.10.1938, ?], навуковец. З сям'і службоўца. У 1930-я г. навуковы супрацоўнік Інстытута нацыянальных меншасцей. Арыштаваны ў Мінску.

Асуджаны «тройкай» НКВД 26.5.1938 як «агент польскай разведкі і член яўрэйскай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітаваны 21.10.1957. Асабовая справа Ц. № 11059-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВІРКА Аляксандр Якаўлевіч*** [1897, в. Лукава Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Маларыцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту нам. старшыні Алмаацінскага гарсавета. Арыштаваны 3.6.1938. Рэабілітаваны Казахскім Вярхоўным судом з-за адсутнасці складу злачынства 5.1.1940. Вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга Скорби*.

**ЦВІРКА Станіслаў Антонавіч*** [1903, Мінск — ?], акцёр. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту працаваў у Польскім дзяржаўным тэатры БССР. Арыштаваны 17.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 46, кв. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 5.6.1933 як «агент польскай разведкі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.10.1989. Асабовая справа Ц. № 29890-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВІРКА-ГАДЫЦКІ Іван Ігнатавіч** [1886, маёнтак Пасечка Слуцкага пав. Мінскай губ. — ?], землеўласнік. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей Арыштаваны

28.4.1940 у сваім маёнтку ў Ракаве па адрасе: вул. Дамініканская, д. 17. Асуджаны 9.1.1941 асобай нарадай НКВД за «антысавецкую дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалены як польскі грамадзянін 5.9.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 23.10.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа Ц.-Г. № 30546-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВЯТКОВА Тамара Іванаўна*** [1927, Мінск — ?], навучэнка. З сям'і бел. рабочага. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучылася ў Мінскай школе № 1. Арыштавана 17.10.1944 у Мінску па адрасе: вул. Грушаўская, д. 97, кв. 1. Асуджана як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» і за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 5 гадоў ППК. Вызвалена 12.11.1946. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 11.5.1960. Асабовая справа Ц. № 11058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВЯТКОЎ Георгій Васілевіч** [1900, Калуга, Расія — 11.11.1942, ГУЛАГ], вайсковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту камандзір палка 3-й арміі. Член ВКП(б) з 1919. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 19.2.1942. Асуджаны 23.9.1942 за «здраду радзіме» да ВМП (заменена на ППК). Этапаваны ў Варкуцінскі канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 24.9.1956. Асабовая справа Ц. № П-5028 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ЦЕПЛІЦ Барыс Ісакавіч*** [1895, Барысаў Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 19.5.1952, ГУЛАГ], педагог. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1918—22 член камітэта яўрэйскай нацыяналістычнай арганізацыі «Паалей-Цыён», затым уступіў у ВКП(б) (выключаны ў 1924). Працаваў выкладчыкам будаўнічых курсаў пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР. Быў жанаты. Арыштаваны 31.12.1948 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 6, кв. 7. Асуджаны 27.4.1949 асобай нарадай пры МДБ як «член антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл., затым у Тайшэцкі канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Брацк). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 29.3.1963. Асабовая справа Ц. № 7052-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦЕРАХАЎ Мікалай Піліпавіч*** [1917, в. Сліжы Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інспектар Шклоўскага РАНА. Арыштаваны 22.12.1945. Абвінавачваўся ў «дапамозе нямецкім акупантам». Вызвалены і рэабілітаваны 21.7.1945. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ц. № 530-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЦІЛЬ Іосіф Анатолевіч** [1874, цяпер тэрыторыя Беларусі — 17.10.1938, Смаленск, НКВД], дырэктар

Вяліжскага краязнаўчага музея. Арыштаваны 19.6.1938. Асуджаны 8.10.1938 «тройкай» НКВД за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ЦІМАФЕЕЎ Канстанцін Іванавіч*** [1909, Пецярбург, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія — ?], мастак. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Барысаўскім гарвыканкаме. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.1.1945 у Барысаве па адрасе: вул. М.Горкага, 4. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.12.1945 як «памагаты нямецкіх акупантаў» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Уральскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. (Ірбіт). Вызвалены 26.7.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 14.4.1995. Асабовая справа Т. № 36241-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦІМАШКОЎ Міхаіл Іванавіч** [1906, в. Барань Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 16.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Да арышту капітан-лейтэнант, старшы памочнік камандзіра лінкора «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Арыштаваны 16.9.1937 у Кранштаце. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» і як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЦІМАШУК Іосіф Вікенцевіч*** [1905, в. Буды Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — 27.11.1937], інжынер. З бел. сялянскай сям'і. У 1930 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту канструктар завода імя Сталіна. Арыштаваны 2.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 10-я лінія, д. 39, кв. 9. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЦІМАШЭНКА Аляксей Фаміч*** [1904, Жлобін Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл. — 27.9.1937, Курск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў старшым фінансістам. Арыштаваны 5.9.1936. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.9.1956.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области.*

**ЦІМАШЭНКАВА Вольга Андрэеўна*** [1921, в. Літвінава (?), цяпер Яршыцкі р-н Смаленскай вобл., Расія — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Мела незакончаную вышэйшую адукацыю. Працавала аэролагам ў Мінскай (Беларускай) дзяржаўнай абсерваторыі. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 14.9.1949 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 68. Асуджана асобай нарадай пры МДБ 22.4.1950 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 8 гадоў ППК.

Этапавана ў Вяцкі канцлагер МДБ Кіраўскай вобл. Вызвалена 18.11.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 21.6.1989. Асабовая справа Т. № 23917-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦІХАМІРАВА Зінаіда Аўрамаўна*** [1913, Магілёў — ?], педагог. Вышэйшую адукацыю атрымала ў 1930-я г. Выкладала ў МВПІ. Выйшла замуж, гадавала дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Тыфліская, д. 4, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 8.4.1946 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 3 гадоў ППК. Накіравана ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная), але, хутчэй за ўсё, у лагер не трапіла, бо 29.5.1946 была вызвалена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Мінскай вобл. 6.4.1995. Асабовая справа Т. № 36223-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦІХАНАЎ Сяргей Васілевіч** [1904, Магілёў — 17.8.1938, Уладзівасток, НКВД], лётчык. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту камандзір 17-й авіяэскадрыллі [базіравалася на бухце Урангель Прыморскай вобл. (Далёкаўсходняга краю)]. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 6.4.1938. Асуджаны 17.8.1938 «тройкай» НКВД за «здраду радзіме і ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 5.11.1959 Вярхоўным судом СССР. Аса-

бовая справа Ц. № 8768-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЦІХАНЧУК Фадзей Ільіч*** [1879, Гродзенская губ., цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — 5.1.1938, Орша, НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Чашніцкага льнозавода. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 3.11.1937 у Чашніках. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 7.5.1958. Асабовая справа Т. № 4292-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЦІХОН Антон Міхайлавіч** [26.5.1887, в. Альшэўскія Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 7.3.1939, Масква, НКВД], савецкі парт. і дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Удзельнік Лютаўскай рэвалюцыі і Кастрычніцкага перавароту 1917 у Маскве, член Басманнага райкама РСДРП (б), ВРК, адзін з арганізатараў Чырвонай гвардыі ў раёне, дэпутат Массавета. У 1917—28 старшыня Басманнага райсавета. У 1928—30 старшыня ЦК прафсаюза будаўнікоў. У 1930—33 наркам працы СССР. З 1935 у Мінску, упаўнаважаны камісіі сав. кантролю пры СНК СССР па Беларусі. Арыштаваны 21.8.1938 у Маскве па адрасе: 1-ы Басманны зав., д. 5, кв. 5. Асуджаны 7.3.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.8.1954.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище. 1934—1940*. М., 1993. Вып.1.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЦУКЕРМАН Герш Мацісавіч*** [1898, Кобрын Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — ?], службовец. З сям'і служачага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў памочнікам (нам.) бургамістра ў Кобрыне. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 29.4.1940 у Кобрыне па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 41. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 9.1.1941 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 27.8.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 12.4.1989. Асабовая справа Ц. № 7639-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ЦУРКАН Юстын Іванавіч*** [1870, в. Балачы Сароцкага пав. Бесарабіі, цяпер Малдова — 12.1.1938, ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. прафесар, загадчык адной з кафедр Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 2.1.1933 у Віцебску па адрасе: вул. Нікольская, д. 10. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 8 гадоў ППК. 28.12.1937 пастановай «тройкі» НКВД Новасібірскай вобл. асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа Ц. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЦЫЛЬКО Фёдар Андрэевіч*** [1894, мяст. Капаткевічы Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 26.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. наркама земляробства СССР. Арыштаваны 11.6.1937 у Маскве па адрасе: вул. Горкага, д. 26, д. 74. Асуджаны 26.10.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.2.1955

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище. 1934—1940.* М., 1993. Вып.1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЦЫПІН Марк (Мордух) Якаўлевіч (Янкелевіч)** [1902, Горкі Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], медык. Падчас арышту нам. начальніка ваеннага шпіталя № 348 Сталінабада (цяпер Душанбе, Таджыкістан). Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 21.2.1953. Асуджаны 12.8.1953 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 27.11.1957 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Ц. № 7891-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЦЫПКІН Саламон Эльевіч*** [15.11.1901, Мінск — 15.2.1944, ГУЛАГ], службовец. З сям'і рабочага. У 1918—19 служыў у Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. нам. загадчыка аддзела газ. «Звязда». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.7.1936 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 43, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 3.3.1937 як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, Хабараўскі край; бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 17.3.1958. Асабовая справа Ц. № 11578-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Хутчэй за ўсё, былі рэпрэсаваныя і сваякі Ц.

**ЦЫРУЛЬНІКАЎ Самуіл Мордухавіч*** [1886, Віцебск — ?], мастак. З сям'і рабочага. Падчас арышту працаваў у арцелі «Гігіена». Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 19.6.1951 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Калгасная, д. 1. Асуджаны 27.8.1951 за «антысавецкую агітацыю і паклёп на прававое становішча яўрэяў» да 25 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер МДБ Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 24.10.1956. Асабовая справа Ц. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЦЫТОВІЧ Сяргей Георгіевіч** [6(18).7.1886, Горкі Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. —

7.7.1963], бел. гісторык, філолаг, грамадскі дзеяч. Скончыў Харкаўскі ун-т (1910). З 1910 выкладчык землямерна-агранамічнага вучылішча ў Горках. У 1917 далучыўся да канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі, стаў лідэрам яе Горацкага аддзела, рэдагаваў газ. «Горецкий вестник». З 1919 выкладаў на рабфаку пры Горы-Горацкім земляробчым інстытуце, з 1931 працаваў у Дзяржаўным архіве Гомельскай вобл. Тройчы (1918, 1920, 1922) арыштоўваўся органамі ВЧК—ДПУ. У 2-ю сусветную вайну настаўнічаў у Саратаўскай вобл. (Расія). З 1944 выкладчык МВПІ. Аўтар прац пра падзеі паўстання 1863—64 і Кастрычніцкага перавароту 1917 у Горках, Горы-Горацкі земляробчы інстытут і інш.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЦЭХАНОЎСКІ Цэлясцін Міхайлавіч** (1835, маёнтак Горлава Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер вёска Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл. — 28.12(10.1).1906 або 1907, Іркуцк], урач, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64. Скончыў Магілёўскую гімназію (1852), Маскоўскі ун-т (1857). У час вучобы ўваходзіў у нелегальную студэнцкую арганізацыю «Огул». З 1857 працаваў урачом у Гродне. З 1861 у складзе Гродзенскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі, з вясны 1863 паўстанцкі грамадзянскі начальнік Гродна. Займаўся вярбоўкай людзей у паўстанцкія атрады, набываў абмундзіраванне, распаўсюджваў газеты і пракламацыі. 30.7.1863 арыштаваны, прыгавораны да смяротнага пакарання, якое па хадайніцтве родзічаў замянена 20 гадамі катаржных работ у Сібіры. Пакаранне адбываў з 1865 у с. Ліствінічнае на будаўніцтве Круга-

байкальскага паштовага тракту. У 1866 тэрмін катаргі скарочаны напалову, Ц. пераведзены на Аляксандраўскі вінакурны завод. У 1868 вызвалены ад катаргі і накіраваны на пасяленне ва Урыкаўскую вол. Іркуцкай акругі. З 1872 працаваў штатным урачом Аляксандраўскага завода, аказваў медыцынскую дапамогу зняволеным. Пасля адбыцця пакарання ў 1883 на радзіму не вярнуўся. Быў членам таварыства ўрачоў Усх. Сібіры.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЦЮРЫН Валянцін Нічыпаравіч*** [1927, в. Знаменка, цяпер Тамбоўская (?) вобл., Расія — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту майстар вытворчага навучання Мінскага тэхнічнага вучылішча № 2. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Паводле дадзеных следства, у 1956 спрабаваў стварыць падпольную «Усерасійскую рабоча-сялянскую партыю» дзеля барацьбы супраць КПСС і савецкай улады. Напісаў праграму і статут, вербаваў сяброў партыі». Арыштаваны 18.2.1957 у Мінску па адрасе: Загарадны зав., д. 56а, кв. 9. Асуджаны пазасудовым органам паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 29.4.1957 да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР (пас. Явас Зубава-Палянскага р-на). Памілаваны 27.8.1963. У тым жа годзе вызвалены. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь 12.11.1993. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ц. № 35677-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 88454; *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *58*[10], с. 306.

**ЦЯЛЯК Ціхан Іванавіч*** [1895, в. Целякі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — начальнік ст. Занеўскі Пост Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 12.9.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.9.1937 за «шпіянаж» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЦЯРЛЯЕЎ Дзмітрый Піліпавіч*** [1895, мяст. Чавусы Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік штаба часці 32 «ВОХР НКС» (?). Арыштаваны 16.10.1940 у Алма-Аце. Асуджаны трыбуналам войскаў НКВД 10.11.1940 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Казахскай ваеннай пракуратурай 7.1.1998.

Кр.: *Книга Скорби*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЦЯРЭШЧАНКА Апанас Андрэевіч*** [1896, в. Макарынцы Магілёўскага пав., цяпер Магілёўскі р-н — 22.12.1937, Томск, НКВД], ветэрынарны фельчар. З бел.

сям'і. Арыштаваны 6.12.1937 у в. Семілужкі Туганскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 8.12.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.7.1989.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЦЯРЭШЧАНКА (ТЭРЭШЧАНКА) Кузьма Юр'евіч** [кастр. 1888, в. Замосцішча Рослаўльскага пав. Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл. — 12.3.1922, Менск], дзеяч бел. нацыянальнага руху. Скончыў каморніцкую школу ў Пскове, Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут (1912). Належаў да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, арыштоўваўся падчас рэвалюцыі 1905—07. З пачатку 1-й сусветнай вайны ў дзеючай арміі. У 1917, пасля падзення царызму, адзін з ініцыятараў стварэння і старшыня Пскоўскай бел. рады з вайскоўцаў, дэлегат з'езда беларусаў-вайскоўцаў Паўн. фронту ў Віцебску (ліст. 1917), Усебеларускага з'езда ў Мінску (снеж. 1917). Восенню 1918 кааптаваны ў Віленскую бел. раду, выконваў абавязкі кіраўніка ўнутраных спраў урада БНР. У студз.—лют. 1919 камісар Міністэрства бел. спраў Літоўскай тарыбы ў Беластоку, затым у Гродне. У канцы лют. — сак. сакратар замежных спраў урада БНР, затым міністр унутраных спраў рэспублікі ва ўрадзе А.*Луцкевіча*. У чэрв. 1919 выбраны ў Цэнтральную бел. раду Віленшчыны і Гродзеншчыны. З ліп. 1919 як дыпламат БНР у Латвіі і Эстоніі. Калі прыехаў у Вільню, быў арыштаваны польскай контрразведкай. З вер. 1919 старшыня Часовага беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. Са снеж. 1919 член прэзідыума Найвышэйшай рады БНР. На нацыянальна-паліт. на-

радзе ў 1920 у Рызе самавольна склаў яе паўнамоцтвы, прызнаў урад В.*Ластоўскага*. У 1920—21 друкаваўся ў газ. «Наша думка», «Беларускае слова». Жыў і працаваў у Гродне, з пачатку 1921 у Вільні. Разам з А.*Смолічам* і інш. заснаваў «Саюз сельскай гаспадаркі», які планаваўся як эканамічная апора нацыянальна-вызваленчага руху. У жн. 1921 пераехаў у БССР, працаваў у Мінску на адказных пасадах Цэнтрабелсаюза. Паводле афіцыйных звестак памёр ад разрыву сэрца.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

Літ.: *Беларускі звон*. 1922. № 13; *Будзіловіч Л.* [Смоліч А.]. Памяці К.Тэрэшчанкі // *Савецкая Беларусь*. 1922. 29 сак.; *Русецкі Э.* Памяці тав. Тэрэшчанкі // *Тамсама*; ЭГБ, т. 6—2.

**ЦЯЦЕРСКІ Фаўстын Іванавіч** (1760, в. Валынцы Полацкага ваяв. ВКЛ, цяпер вёска Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. — 1832 або 1833), бел. грамадскі дзеяч, мемуарыст. Скончыў Віленскі ун-т. Доктар філасофіі і тэалогіі. Настаўнічаў у кляштарных школах, прыёр Віленскага кляштара дамініканцаў. Удзельнік паўстання 1794 на Гродзеншчыне. Пасля яго паражэння стварыў «Віленскую асацыяцыю» для арганізацыі новага паўстання, падтрымліваў сувязі з аднадумцамі-эмігрантамі ў Зах. Еўропе і на Беларусі. У 1797 сасланы на пажыццёвую катаргу ў Забайкалле (Нерчынск). У 1801 амнісціраваны, вярнуўся на радзіму. З 1801 прыёр Забельскага кляштара дамініканцаў, да 1816 выкладчык Забельскага дамініканскага калегіума. У 1806 напісаў «Успаміны» — адно з першых этнаграфічных апісанняў Дауры (апубл. на польск. мове ў 1865 у Льво-

ве А.Бялеўскім, рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы АН Літвы). У ім апісаў побыт карэннага насельніцтва Сібіры, крытыкаваў царскае чыноўніцтва і праваслаўнае духавенства, стварыў каларытныя партрэты катаржнікаў і ссыльных, выхадцаў з Беларусі. У 1821—32 візітатар школ на Беларусі і ў Літве. Апісаў свае паездкі ў «Дзённіку візітатара» (1904), дзе ёсць звесткі па гісторыі выяўленчага мастацтва і архітэктуры. Рукапіс яго «Дзённіка падарожжа» па кляштарах Беларусі захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага ун-та. Працы Ц. па гісторыі і філасофіі Беларусі і Літвы пад назвай «Літоўская хроніка» загінулі ў рукапісах.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЧАПСКІ (Гутэн-Чапскі) Эдвард** [29.5(10.6).1819, фальв. Заполле Слуцкага пав. Мінскай губ. — 15(27).1.1888], сын Станіслава Чапскага. У 1842 паступіў на службу ў Дзяржаўны сакратарыят Каралеўства Польскага, служыў у Пецярбургу і Варшаве. У 1846 асеў у Жамойці, ганаровы куратар школ Расіенскага пав. У час паўстання 1863—64 выконваў загады паўстанцкіх улад. У чэрв. 1863 арыштаваны і асуджаны да смяротнага пакарання, пасля сасланы ў Сібір, паміламаваны. Аўтар мемуараў.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЧАРВЯКОЎСКІ Мікалай Андрэевіч** [1891, Гродна — 12.8.1981], бел. публіцыст, краязнавец, бібліяфіл. Скончыў Гродзенскую гімназію (1912), вучыўся ў Юр'еўскім (Тартускім) і Пецярбургскім ун-тах. З 1917 жыў у Калузе, быў членам Беларускай вучнёўскай грамады. У 1919—22 у Чырвонай арміі. З 1926 загадчык бібліятэкі Рускага дабрачыннага таварыства, член Рускага нацыянальнага аб'яднання ў Гродне. У 1920—30 супрацоўнічаў з рускамоўнымі перыядычнымі выданнямі ў Польшчы «Наш день», «Русский день», «Русское слово» і інш. Асноўная тэматыка яго публікацый — гісторыя рускай і славянскай культуры, помнікі гродзенскай даўніны, археалагічныя раскопкі ў прынёманскім краі. У 1939—41 працаваў у Гродзенскай гарадской бібліятэцы, у 1944—52 — у гродзенскіх дзяржаўным архіве і гістарычна-археалагічным музеі, перакладаў старажытныя акты і іншыя дакументы на рускую мову. З 1945 у «Гродненской правде» друкаваў гісторыка-краязнаўчыя артыкулы. 19.3.1952 асуджаны да 25

гадоў за сувязь у час вайны з «Беларускім камітэтам». Вызвалены ў 1956. Рэабілітаваны ў 1994.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЧАРНЕЦКІ Іван Сямёнавіч*** [22.12.1904, в. Дудзічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. дырэктар Віцебскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Віцебску. Асуджаны 9.12.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 3.4.1970. Асабовая справа Ч. № 13833-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЧАРНУШЭВІЧ Аляксандр Анікеевіч** [1899, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў грамадзянскую вайну, потым барацьбы з бандытызмам. З 1922 на парт. рабоце: сакратар Грэскага райкама КП(б)Б, загадчык аддзелаў Бабруйскага і Віцебскага акр. камітэтаў партыі, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б. З кастр. 1932 сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б. У сак. 1933 — лют. 1936 наркам асветы БССР, потым загадчык аддзела забеспячэння Бел. геалагічнай разведкі. Член ЦК КП(б)Б у 1929—36, член Бюро ЦК КП(б)Б у 1931—34. Арыштаваны 19.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/33, кв. 30.

Асуджаны «тройкай» НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1956. Асабовая справа Ч. № 9842-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 64, кв. 2 была арыштавана студэнтка 5 курса БДУ Чарнушэвіч Марыя Лукінічна (н. ў снеж. 1902 у в. Грыбаўшчына Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.), жонка Аляксандра *Чарнушэвіча*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Рэабілітавана 26.6.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ч. № 6689-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЧАХОВІЧ (ЧАХОВІЧ-ЛЯХАВІЦКІ) Зыгмунт Бярнардавіч** [19.8.1831, в. Сурвілішкі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 27.10.1907], адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64, бібліяфіл. У 1851 скончыў Віленскі шляхецкі інстытут, вучыўся ў Пецярбургскім ун-це. У 1862—63 член Літоўскага правінцыйнага камітэта, загадваў канспіратыўнымі сувязямі пры Аддзеле кіраўніцтва правінцыямі Літвы і Выканаўчым аддзеле Літвы. Прыхільнік жорсткай лініі К. *Каліноўскага*. Арыштаваны 31.7.1863; асуджаны да 12 гадоў катаргі, якую адбываў у Нерчынскіх рудніках. Пасля вызвалення жыў у маёнтку Малыя Бясяды (Вілейскі пав. Віленскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл.), дзе стварыў вялікую біблія-

тэку. З Ч. пазнаёміўся малады Я.*Купала*, сям'я якога ў 1895—1904 жыла непадалёку ў фальв. Селішча. У доме Ч. Я.Купала ўпершыню пазнаёміўся з нелегальнай літаратурай, гутарыў з ім пра паўстанне 1863—64, карыстаўся яго багатай бібліятэкай. Пра сустрэчы з Ч. паэт пісаў у аўтабіяграфіях. Адна з іх апісана і ў п'есе У.Караткевіча «Калыска чатырох чараўніц».

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Киселев Г*. Бесядские пути-дороги // *Неман*. 1984. № 3; *Янка Купала*: Энцыкл. даведнік. Мн., 1986. С. 378, 654.

**ЧВЯЛЁЎ Яўген Дзянісавіч*** [1898, в. Піцімль (?) Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 5.4.1940, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту наркам знешняга гандлю СССР. Арыштаваны 23.4.1939 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2, кв. 92. Асуджаны 4.2.1940 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ЧОПЧЫЦ Нестар Маркавіч*** [1896, в. Ковічы (?) Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Мазырскі (?) р-н Гомельскай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшы эканаміст трэста Цеплабуд. Арыштаваны 20.10.1937 у Ленінградзе па адрасу: Свячны зав., д. 27, кв. 51.

Асуджаны 19.11.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЧОРНАЯ Соф'я Абрамаўна*** [4.4.1903, мяст. Манастырышча Кіеўскай губ., цяпер Украіна — ?], работнік культуры. З сям'і службоўца. Падчас арышту кансультант па дзіцячай літаратуры наркамата асветы БССР. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 5.9.1937 у Мінску на вул. К.Маркса. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 16.5.1938 як «жонка ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Багаслаўскі канцлагер Свярдлоўскай вобл. Вызвалена 6.2.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана ваенным трыбуналам БВА 5.7.1956. Асабовая справа Ч. № 6654-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЧУДЗІНАВІЧ Усевалад Пятровіч*** [1896, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 9.5.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. дваранскай сям'і. Апошняе месца работы — адказны выканаўца будаўнічага аддзела Маскоўскага завода электрамедыцынскай апаратуры, член ВКП(б). Арыштаваны 27.2.1938 у Маскве па адрасе: Лазараўскі зав., д. 12, кв. 1. Асуджаны 9.5.1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.2.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

**ЧУДОВІЧ Валянцін Уладзіміравіч*** [1896, Лібава, цяпер Ліепая, Латвія — ?], педагог. З сям'і службоў-

ца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 25.11.1936. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 27.10.1938 за «контррэвалюцыйную нацдэмаўскую дзейнасць» да 6 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай прэзідыума Вярхоўнага суда БССР 13.6.1956. Асабовая справа Ч. № 5382 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЧУМАКОЎ Мікалай Мацвеевіч*** [1887, Смаленская вобл. (?) — 19.12.1937, Смаленск, НКВД], юрыст. З бел. сям'і. Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 8.12.1937 «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ЧЫЖ Вітаўт Станіслававіч** [псеўд.: Альгерд Бульба, Ян Еленскі, Гідальго, Чыжук Ашмянскі; 1884. фальв. Антонішкі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл. — 1939, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва], бел. грамадскі дзеяч, пісьменнік, этнограф. Вучыўся ў гімназіі ў Варшаве. У снеж. 1905 за агітацыю супраць царызму на Ашмяншчыне арыштаваны і аддадзены пад суд. Летам 1906 уцёк у Галіцыю. Скончыў Львоўскі політэхнічны інстытут (1910). Вярнуўся ў Вільню. Друкаваўся ў газ. «Наша ніва» пад псеўданімамі, уваходзіў у склад рэдакцыі. Рэцэнзаваў зб. Я.*Купалы* «Гусляр», «Песні-жальбы» Я.*Коласа*. Пісаў пра грамадска-сацыяльныя погляды В.Дуніна-Марцінкевіча, яго ролю ў гісторыі бел. літаратуры, пра паэзію Т.Шаўчэнкі. Аўтар алегарычных апавяданняў і пуб-

лікацый пра пастаноўкі Беларускага музычна-драматычнага гуртка, «Беларускую сюіту» Л.Рагоўскага, этнаграфічныя артыкулы пра народныя рамёствы, адзенне. Пераклаў на бел. мову творы М.Ляскова, Р.Данілеўскага, Л.Андрэева і інш. Адзін час быў актывістам евангельскай царквы, займаўся бізнесам. У 1920-я г. чыноўнік віленскай польскай адміністрацыі. З 1928 віцэ-прэзідэнт Вільні.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Колькі слоў аб дзявочай апратцы на Беларусі. Вільня, 1911.

Літ.: *ЭЛіМБел,* т. I.

**ЧЫЖ Міхаіл Уладзіміравіч*** [1895, в. Вялікая Сліва Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Санкт-Пецярбург, НКВД], службовец, партыйны работнік. З бел. сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту адказны партканталёр Упаўнаважанага камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП(б) па Ленінградскай вобл. Арыштаваны 9.4.1937 у Ленінградзе. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 31.8.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «спробу здзяйснення тэрарыстычнага акта» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЧЫЖЭЎСКІ Міхаіл Міхайлавіч*** [1898, в. Свірыдавічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.8.1938, Мас-

ква, НКВД], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Маскоўскага нафтавага інстытута імя Губкіна. Арыштаваны 19.1.1938 па адрасе: Маскоўская вобл., Рэўтаўская нафтабаза, д. 3, кв. 8. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.8.1938 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Польшчы». Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.8.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШАБЕКА Андрэй Рыгоравіч*** [1907, в. Гразін Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Падчас арышту нам. старшыні Магілёўскага райвыканкама. Арыштаваны 9.6.1938 у Магілёве па падазрэнні ў «шпіёнскай дзейнасці». 18.4.1939 пастановай пракурора Магілёўскай вобл. вызвалены да суда з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Рэабілітаваны. Асабовая справа Ш. № 3541 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШАБЕКА-ЖУРБА Іван Іванавіч*** [1896, в. Смародзінка Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 2.2.1940, Масква, НКВД], дыпламат. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1919 уступіў у ВКП(б). Да арышту другі сакратар пасольства СССР у Токіо. Арыштаваны 27.3.1939 у Маскве па адрасе: Вялікі Камсамольскі зав., д. 3а, кв. 15. Асуджаны 1.2.1940 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ШАВЕЛЬ Уладзімір*** [1910-я г., Віленская губ. — 1942 (?)], бел. вайсковы дзеяч, юрыст. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і юрыдычны ф-т Віленскага ун-та. У 1941 з дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў арганізаваў аддзелы бел. паліцыі на Міншчыне. Ува-

ходзіў у Галоўную Раду БНС. Удзельнік бел. нацыянальнага падполля. У 1942 стварыў нацыянальны партызанскі аддзел на Барысаўшчыне, наладзіў выданне падпольнай літаратуры. Паводле адной з версій, забіты савецкімі партызанамі падчас перамоваў аб супрацоўніцтве. Яго памяці прысвяціў сваю кнігу ўспамінаў «Пад знакам Пагоні» (Таронта, 1976) Язэп Малецкі.

Літ.: *Найдзюк Я., Касяк І.* Беларусь учора і сяньня. Мн., 1993.

**ШАВЕРАЎ Аляксей Лаўрынавіч*** [1916, Санкт-Пецярбург — 17.8.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Энергетычнага тэхнікума. Арыштаваны 1.5.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, вул. 14-я лінія, д. 25. Асуджаны «тройкай» НКВД 15.8.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ШАКАЛЬСКІ Васіль Васілевіч*** [1898, в. Нараў Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — ?], эканаміст. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік-эканаміст тытунёвай фабрыкі. Арыштаваны 12.8.1941 у Алма-Аце. Асуджаны асобай нарадай НКВД Казахскай ССР 4.7.1942 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Казахскай ССР 29.4.1989.

Кр.: *Книга Скорби*.

**ШАЛІМА Міхаіл Мікалаевіч*** [6.9.1898, Мінск — 2.10.1938, Чыта, НКВД], вайсковец. З сям'і рабочага. З 1918 у Чырвонай арміі. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір дывізіі Забайкальскай ВА. Арыштаваны 24.8.1937, аднначасова выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1938 як «кіраўнік антысавецкай арганізацыі, агент японскай разведкі і арганізатар дыверсіі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.4.1957. Асабовая справа Ш. № 17810-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАЛІМАВА *Лідзія Дзмітрыеўна**** [23.3.1915, Масква — ?], служачая. З сям'і рабочага. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту машыністка Саюза рабочых пажарнай аховы. Арыштавана 21.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 21, кв. 8. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 2.10.1938 як «член сям'і здрадніка радзімы» да 3 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР (Поцьма). Пасля вызвалення жыла ў Марыйскай АССР, дзе ёй быў «вернуты кошт канфіскаванай маёмасці». Рэабілітавана трыбуналам Ленінградскай ВА 17.4.1957. Асабовая справа Ш. № 10559-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАПАВАЛАЎ Рыгор Кірылавіч*** [1885, в. Слабада Мікалаеўская Астраханскай губ., цяпер Астраханская вобл. — ?], медык. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую

адукацыю. Падчас арышту нам. загадчыка лячэбна-прафілактычнага аддзялення наркамата аховы здароўя БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 1.11.1933 у Мінску па адрасе: вул. МОПРа, д. 16, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Ш. № 6743-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАПІРА Абрам Навумавіч*** [1889, Мазыр Мінскай губ., цяпер Гомельская вобл. — ?], навуковец. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Мінскай скурна-венерычнай клінікі. Арыштаваны 26.11.1933 у Мінску па адрасе: вул. Бухарына, д. 13, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Ш. № 6743-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАПІРА ГенрыхКівавіч** [1912, Варшава — ?], педагог. З купецкай сям'і. Падчас арышту трэнер спартыўнага таварыства «Буревестник». Арыштаваны 4.2.1940 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 27, кв. 2. Асуджаны 2.7.1940 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» і «намер нелегальна ўцячы ў Германію» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-чыгуначны кан-

цлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 21.6.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа Ш. № 33705-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАПІРА Давыд Ісакавіч*** [14.5.1889, мяст. Заслаўе Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 23, кв. 11. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 як «агент польскай разведкі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.5.1989. Асабовая справа Ш. № 23638-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШАРАМЕЦЕЎСКІ (ШАРАМЕЦЬЕЎСКІ) Аляксей Аляксандравіч** [1874, Масква — ?], педагог. З бел. сям’і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — выкладчык Томскага дзяржаўнага ун-та. Арыштаваны 5.5.1933. Асуджаны 2.7.1933 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 12 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.6.1961.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ШАРАНГОВІЧ Васіль Фаміч** [20.2(4.3).1897, в. Качаны Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мя-

дзельскі р-н Мінскай вобл. — 15.3.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі партыйны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю. У 1910—17 у Маладзечне, на чыгунцы. Уступіў у ВКП(б) (1917). З 1918 служыў у Чырвонай арміі. З 1919 на падпольнай рабоце ў Мінскай губ. У 1920 арыштаваны акупацыйнымі ўладамі і асуджаны да 20 гадоў пазбаўлення волі. У 1921 абменены Савецкім урадам, прызначаны нам. наркама юстыцыі БССР. З 1923 адказны сакратар Савета прафсаюзаў БССР. З 1926 на прафсаюзнай рабоце ў Сібіры. У 1929 першы сакратар Іркуцкага акруговага камітэта ВКП(б). З 1930 другі сакратар ЦК КП(б)Б. З 1934 упаўнаважаны камісіі партыйнага кантролю па Казахскай ССР, з 1936 па Харкаўскай вобл. З сак. 1937 першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі. Арыштаваны 27.7.1937 у Мінску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.3.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.12.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *БЭ*, т. 17

**ШАСТАКОЎ Сяргей Пятровіч*** [1896, в. Манастыршчына Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — ?], службовец, брат Паўла *Шастакова*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1919—22 служыў у Чырвонай арміі. Падчас арышту адказны сакратар Наркамата земляробства БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д.

11, кв. 3. Асуджаны 8.5.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 16.7.1958. Асабовая справа Ш. № 11070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАТКАР Іван Гаўрылавіч*** [1897, Смаленская (?) губ. — 26.10.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту эканаміст Смаленскага «Галоўтытуню». Арыштаваны 26.6.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.10.1938 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў», «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ШАТЭРНІК Віктар Мікалаевіч*** [24.9.1908, мяст. Смілавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец, брат Іосіфа *Шатэрніка*. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Да арышту гідратэхнік праектна-разведвальнай партыі. Арыштаваны 8.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 21, кв. 4. Асуджаны 7.6.1933 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26.7.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа Ш. № 27148-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАТЭРНІК Іосіф Мікалаевіч*** [1904, мяст. Смілавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэр-

веньскі р-н Мінскай вобл. — ?, Мінск, турма НКВД], службовец, брат Віктара *Шатэрніка*. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. З 1925 — у Чырвонай арміі. Да арышту старшы лекпам 37-га аддзялення артылерыйскай дывізіі. Арыштаваны 7.4.1930 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 21, кв. 4. Асуджаны 18.9.1930 калегіяй АДПУ за «шпіянаж на карысць польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Сям'я Ш. была выслана ў Сібір. Рэабілітаваны 13.11.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ш. № 9873-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШАЎДЗЮК Алена Аляксандраўна*** [1908, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — ?], бібліятэкар. З бел. сям'і. Арыштавана 4.9.1937 у Куйбышаве. Асуджана асобай нарадай пры НКВД СССР 22.12.1937 за «шпіянаж» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам Прыволжскай ВА 16.12.1955.

Кр.: *Белая книга*.

**ШАЎЛІС Антон Антонавіч*** [1912, Рыга, Латвія — 30.4.1938, Віцебск], мастак. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў на віцебскай фабрыцы «КІМ». Арыштаваны 11.1.1938 у Віцебску па адрасе: Гарадоцкая шаша, д. 53. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 12.4.1938 за «шпіянаж на карысць Латвіі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракурорам БВА 24.8.1989. Асабовая справа Ш. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ШАЎЧЭНКА Сцяпан Аляксандравіч*** [1901, цяпер Літва — 19.1.1938, Смаленск, НКВД], заатэхнік. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы заатэхнік Андрэеўскага раённага зямельнага аддзела Смаленскай вобл. Арыштаваны 20.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 13.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ШАФРАНОЎСКІ Міхаіл Мікалаевіч** [1883, Магілёўская губ., цяпер Магілёўская вобл. — 27.5.1930, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік тэлефоннага аддзела наркамата пошты і тэлеграфа. Арыштаваны 9.1.1930 у Маскве па адрасе: Крывакаленны зав., д. 14, кв. 40. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 13.4.1930 за «дзейнасць у контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.11.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**ШАШКО Іосіф Сільвестравіч*** [1902, в. Сялец Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — 10.11.1937, Мінск, НКВД], навуковец, аграном, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, займаўся навуковай дзейнасцю. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны пракуратурай

СССР 20.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 16.1.1989. Справа Ш. № 12614-с захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл..

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШВАЙКО Мікалай Іосіфавіч*** [1903, в. Морач Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], музыкант. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту саліст Беларускага тэатра оперы і балета. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.1.1945 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 39, кв. 5. Асуджаны 3.10.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 28.12.1989. Асабовая справа Ш. № 29398-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШВЕДЭР Віктар Іосіфавіч*** [1895, Пскоў, Расія — 22.6.1952 (?), Казахстан, ГУЛАГ], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 28.3.1933 у Мінску па адрасе: Галантарэйны зав., д. 26, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 19.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Карагандзінскі (?) канцлагер НКВД Казахскай ССР. Верагодна, быў асуджаны паўторна. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 5.11.1963. Асабовая справа

Ш. № 18145-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШВЕЦ Меер Беркавіч*** [1907, мяст. Домбровіцэ Саржоўскага (?) пав., цяпер Польшча — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], работнік культуры. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту дырэктар Віцебскага абл. тэатра (?). Арыштаваны 26.8.1937 у Віцебску па адрасе: Смаленская шаша, д. 6. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 22.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 26.10.1959. Асабовая справа Ш. № 8576-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ШКАДРАЦОЎ Мікалай Яфімавіч*** [1905, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Быў членам ВКП(б). Апошняе месца работы — тэхнічны дырэктар Куйбышаўскага завода № 42. Арыштаваны 27.9.1937. Асуджаны 31.5.1940 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 24.9.1955.

Кр.: *Белая книга*.

**ШКЛОЎСКІ Рыгор Львовіч** [1875, мяст. Парычы Бабруйскага пав., цяпер г.п. Парычы Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. — 1937, НКВД], удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі. З 1898 вучыўся

ў Бернскім ун-це. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1903 зняволены ў турму, потым высланы з Мінска ў Бабруйск. Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Бабруйскай арганізацыі РСДРП. Напярэдадні і ў час рэвалюцыі 1905—07 вёў партыйную работу ў Барысаве, Мінску. Дэлегат III з'езда РСДРП (1905) ад Мінскай арганізацыі. У 1909 сасланы на пажыццёвае пасяленне ў Сібір, адкуль уцёк за мяжу. У эміграцыі сакратар Бернскай секцыі бальшавікоў, у 1915 узначальваў Камісію дапамогі ваеннапалонным пры Камітэце замежных арганізацый РСДРП. Удзельнік Базельскага кангрэса 2-га Інтэрнацыянала (1912), Бернскай канферэнцыі замежных секцый РСДРП (1915). Удзельнік Кастрычніцкага перавароту 1917 у Маскве. З 1918 на дыпламатычнай рабоце ў Швейцарыі, Германіі. У 1924—26 загадчык секцыі Наркамата РСІ СССР. З 1928 на выдавецкай і гаспадарчай рабоце. Член ЦКК ВКП(б) у 1925—27. Аўтар успамінаў пра У.Леніна. У 1937 беспадстаўна арыштаваны і асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956. Яго імем названа вуліца ў г.п. Парычы.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ШКОДА Андрэй Антонавіч*** [чэрв. 1895, в. Чапліцы (?) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту аспірант і выкладчык БДУ. Арыштаваны 10.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чычэрынская, д. 28/24, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 як «член шпіёнскай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапа-

ваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Вызвалены і рэабілітаваны НКВД БССР 12—13.12.1939. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ш. № 4989-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 17/19, кв. 2 арыштавана настаўніца Мінскай СШ № 2, маці дваіх дзяцей, Шкода Марыя Міхайлаўна (н. ў 1899 у мяст. Хойнікі, цяпер райцэнтр Гомельскай вобл.; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Андрэя *Шкоды*. 7.5.1946 асобай нарадай МДБ асуджана за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Вызвалена (хутчэй за ўсё, па амністыі) 25.5.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 22.3.1995 Мінскім абл. судом. Асабовая справа Ш. № 36258-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 17/19, кв. 2 арыштаваны навучэнец Мінскай СШ № 42 Шкода Леанід Андрэевіч (н. ў 1928 у мяст. Старыя Дарогі Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл.), сын Марыі і Андрэя *Шкодаў*. 1.12.1945 асобай нарадай НКВД асуджаны як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да 4 гадоў ППК і этапаваны ў Паўночна-Уральскі канцлагер МУС СССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.6.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Ш. № 11905-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ШКОЛЬНІК Вульф Самуілавіч*** [1910, мяст. Ракаў Мінскага пав., цяпер Валожынскі р-н Мінскай

вобл. — 3.12.1937, Мінск, НКВД], музыкант. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у Беларускім дзяржаўным радыёкамітэце. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.11.1937 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.5.1989. Асабовая справа Ш. № 30461-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ШКРЭДАВА Соф'я Аляксееўна*** [1904, Віцебск — ?], артыстка. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Пела ў хоры Беларускага тэатра оперы і балета. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 17.3.1938 у Мінску. Асуджана «тройкай» НКВД 25.5.1938 як «агент польскай разведкі» да 10 гадоў ППК. Этапавана ва Усольскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. (Салікамск). Вызвалена 1.8.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 4.12.1958. Асабовая справа Ш. № 15173-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЛІПЕНБАХ Андрэй Паўлавіч*** [1877, Рыга — ?], педагог. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Выкладаў замежныя мовы ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 10.9.1933. Асуджаны 14.11.1933 паводле пастановы калегіі АДПУ як «член шпіёнскадыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Справа Ш. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЛЯХЦІЧ Мікіта Апанасавіч*** [1904, в. Ваўкоўшчына Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Казахскага сельскагаспадарчага інстытута. Арыштаваны 15.10.1941 у Алма-Аце. Асуджаны Алмаацінскім абл. судом 10.11.1941 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Казахскай ССР 14.11.1966.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШМАЛЬ Георгій Еўдакімавіч*** [1920, в. Угрынаўка, цяпер Хмяльніцкі р-н Вінніцкай вобл., Украіна — ?], мастак. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны ў Оршы. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.9.1945 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 24.12.1993. Асабовая справа Ш. № 23358-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ШНАРКЕВІЧ Язэп Канстанцінавіч** [10(22).6.1888, в. Саская Ліпка Нясвіжскага пав., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 30.11.1974, Вільнюс, Літва], бел. культурна-асветны дзеяч, педагог, мемуарыст. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1907), Магілёўскі

настаўніцкі інстытут (1916). У 1907—13 настаўнік прыходскай школы ў Вялікім Сяле Мінскага пав., Гомельскага чыгуначнага вучылішча. З 1916 у арміі, у 9-ым пяхотным запасным палку, у 35-ай асобнай тэлеграфнай роце ў Бабруйску. У 1917 удзельнік з’езда настаўнікаў Мінскай губ. З пачатку 1918 у Мінску, адзін з пачынальнікаў бел. школьніцтва, сакратар Мінскага настаўніцкага саюза пачатковых і вышэйшых вучылішчаў. З вер. 1919 дырэктар І Мінскага вучылішча. У 1910—20 адзін з кіраўнікоў Мінскай бел. школьнай рады. Належаў да Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З ліп. 1920 у складзе прэзідыума наркамасветы БССР, са жн. — кіраўнік яго бел. аддзела. Увосень 1920 паводле сакрэтнай дамовы паміж КП(б)Б і БПС-Р накіраваны ў Зах. Беларусь для арганізацыі антыпольскага падполля. Працаваў выкладчыкам у Нясвіжскай прыватнай жаночай гімназіі, у 1921—22 навучальным годзе рэфармаваў яе ў Нясвіжскую беларускую гімназію. У 1923 дамогся пераводу яе ў Клецк, сам жа, звольнены з работы польскай адміністрацыяй, перабраўся ў Вільню. З 1924 сакратар ТБШ, пазней у складзе яго галоўнай управы. У жн. 1925 удзельнік паліт. нарады бел. левазрадыкальных партый і груповак у Гданьску. У 1925—26 выкладчык Віленскай бел. гімназіі. У студз. 1927 арыштаваны польскімі ўладамі ў сувязі з паліцэйскай акцыяй супраць БСРГ. У 1928 вярнуўся ў Віленскую бел. гімназію, у 1929 браў актыўны ўдзел у рабоце ТБШ. З 1933 выкладаў у 13-й і 36-й школах біялогію і ручную працу (сталярку). З 1936 беспрацоўны. 2.9.1939 арыштаваны дэфензівай і дэпартаваны ў Картуз-Бярозаўскі канцлагер. 1.10.1939 прызначаны загадчыкам бел. савецкай школы ў Вільні. У

1942 выкладчык Віленскай бел. настаўніцкай семінарыі. Пазней не вяртаўся да педагагічнай работы, займаўся агародніцтвам і пчалярствам. Пакінуў мемуары, частка якіх напісана ў польскай турме ў 1927.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: Беларускае школьніцтва ў Менску ў 1918—1920 гг. // *Рунь.* Вільнюс, 1998, №13.

Літ.: *Багдановіч Я.* На жыццёвым шляху: Успаміны. Мн., 1992; ЭГБ, т. 6—2.

**ШНІТКО Сяргей Пятровіч*** [1907, в. Вяцера Віленскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 21.10.1937, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту студэнт Мукамольна-элеватарнага інстытута. Арыштаваны 23.8.1937 у Томску. Асуджаны 4.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.11.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ШНЭЙДАР Якаў Абрамавіч*** [1907, Цехануў, Польшча — 27.11.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. дырэктара сектара завочнага навучання МВПІ. Арыштаваны 29.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 20, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 12.4.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Ш. № 24515-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

8.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 20, кв. 1 арыштавана настаўніца Мінскай вячэрняй школы № 12 Фромберг Бэла Рыгораўна (н. ў 1906 у Беластоку, цяпер Польшча; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Якава *Шнэйдара*. 11.9.1939 асобай нарадай НКВД асуджана за «сувязь з агентам польскай разведкі» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 31.5.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа Ф. № 25842-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШПАРКОЎСКІ Аляксандр Мартынавіч*** [1880, Беласток Гродзенскай губ., цяпер Польшча — 30.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — старшы канструктар завода «Рускі дызель». Арыштаваны 21.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. М.Горкага, д. 65а, кв. 4. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 21.10.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў», «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ШРУБ Даніла Емяльянавіч*** [1914, Смаленская (?) губ. — 2.1.1938, Смаленск, НКВД], навучэнец, вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту курсант палкавой школы 86-га стралковага палка 29-й стралковай дывізіі. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 25.12.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ШТАРКМАН Арон Манышавіч*** [1903, мяст. Парчаў Люблінскай губ., цяпер Польшча — 5.7.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Інстытута народнай гаспадаркі. Арыштаваны 3.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 21, кв. 22. Асуджаны «тройкай» НКВД 26.5.1938 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 8.4.1958. Асабовая справа Ш. № 11655-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШТРЫКМАН Ілья Натанавіч*** [1906, Брэст — ?], журналіст. З купецкай сям'і. Меў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту стыль-рэдактар у друкарні імя Сталіна. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.8.1935 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Маскоўская, д. 23, кв. 8. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.4.1935 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Далёкаўсходні канцлагер НКВД (Хабараўскі край). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 12.12.1989. Асабовая справа Ш. № 29978-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШТЫЦКО Пётр Рыгоравіч*** [1902, Ліда, цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], медык, вайсковец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік санітарнай службы 100-й авіяцыйнай брыгады. Арыштаваны 27.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР

2.12.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ШУБАДЗЕЕЎ Нічыпар Якаўлевіч** [1899, в. Машок Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — 2.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. У 1920 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту шыфр-работнік наркамата знешняга гандлю. Арыштаваны 7.5.1937 па адрасе: Маскоўская вобл., пас. Пярлоўка, вул. Чыгуначная, д. 29, інтэрнат. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у Ленінградзе 2.12.1937 за «здраду радзіме» і «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

**ШУКЕЛОЙЦЬ Антон Антонавіч** [н. 19.7.1915, в. Якелеўшчына Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.], бел. культурны і грамадскі дзеяч, этнолаг, музеязнавец, публіцыст. Скончыў польскую гімназію ў Ашмянах, этнаграфічнае аддзяленне гуманітарнага ф-та Віленскага ун-та імя С. Баторыя, у якім вучыўся разам з Г.Цітовічам. З восені 1939 настаўнік бел. мовы ў Ашмянскай СШ, загадчык раённага аддзела народнай адукацыі, арганізатар бел. настаўніцкіх курсаў. У 1940 перакваліфікоўваўся ў Мінску пры Камуністычным ун-це журналістыкі, працаваў школьным інспектарам у Ашмянах. У чэрв. 1941 ары-

штаваны НКВД, зняволены. Вызваліўся пры этапаванні на ўсход у Крупках ў ліп. 1941. Са жн. 1941 дырэктар Беларускага краязнаўчага музея ў Мінску. У 1944 загадчык аддзела музеяў і краязнаўства Беларускага культурнага згуртавання, інспектар аддзела асветы. Удзельнік II Усебеларускага кангрэса. З лета 1944 у Германіі, дзе апекаваўся музейнымі каштоўнасцямі, вывезенымі акупантамі з Беларусі. З пачатку 1950-х г. у ЗША. Сябра ўправы Беларускага інстытута навукі і мастацтва. З 1975 нязменны старшыня Галоўнай управы Беларуска-амерыканскага задзіночання. Як этнограф, музеязнавец, мастацтвазнавец актыўна друкуецца ў газ. «Беларус».

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: Мы гэтак шмат страцілі: [інтэрв'ю Ю.Хадыкі з А.Шукелойцам] // *ЛіМ.* 1991. 26 ліп.; *Пазьняк З.* Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава—Вільня. 2003.

**ШУЛЬГА Васіль Апанасавіч*** [1890, мяст. Дворнае Поле (Сяло) Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Мёрскі р-н Віцебскай вобл. — 16.4.1939, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дывізіённы камісар, адказны сакратар армейскай партыйнай камісіі асобнай Чырвонасцяжнай Далёкаўсходняй арміі. Арыштаваны 21.7.1938 у Хабараўскім атэлі ЦДКА. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.4.1939 за «ўдзел у антысавецкай ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШУЛЬЦ Уладзімір Аляксандравіч*** [1.7.1909, Мінск — 22.10.1943, ГУЛАГ], мастак. З сям'і службоўца. Працаваў у Мінскім кааператыўным аб'яднанні мастакоў. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.6.1938 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 1, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 11.10.1938 як «агент польскіх разведорганаў» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, Хабараўскі край; бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 27.11.1958. Асабовая справа Ш. № 13323-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШУМІНСКІ Піліп Рыгоравіч*** [студз. 1902, в. Дзяцель Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Новая, д. 43, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 як «польскі шпіён» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Другі раз асуджаны Вярхоўным судом Мардоўскай АССР 18.10.1942 да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Казахстан. Вызвалены 17.6.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 28.8.1956. Асабовая справа Ш. № 6874-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШУРАЎ (МАСЛЯНОК) Аляксандр Андрэевіч** [1900, в. Чубарына Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н

Віцебскай вобл. — 16.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік фінансавага аддзела Галоўнага ўпраўлення зернесаўгасаў Паволжа і Сібіры наркамата збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў СССР. Арыштаваны 27.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Басманны тупік, д. 10/12, кв. 33. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.9.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 9.4.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШУСТАР Юлій Абрамавіч*** [1907, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 3.11.1937, Ленінградская вобл., НКВД], педагог. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 17.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 31, кв. 5. Асуджаны 9.1.1934 паводле пастановы калегіі АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП (заменена на 10 гадоў зняволення). Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл., але пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры. 9.9.1937 «тройкай» НКВД Ленінградскай вобл. асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Справа Ш. № 10182-с (спынена 16.8.1956) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШУТ Іван Ільіч*** [1903, в. Жукаўка Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 8.12.1937, ГУЛАГ], работнік асветы. З сялянскай сям'і. Служыў у Чырвонай арміі. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык курсаў у Інстытуце аховы мацярынства і дзяцінства пры БДУ. Арыштаваны 31.8.1933 у Мінску ва універсітэцкім інтэрнаце. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП (заменена на 10 гадоў ППК). Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл., але пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры. 25.11.1937 «тройкай» НКВД Ленінградскай вобл. асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Ш. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ШУТАЎ Фёдар Сцяпанавіч*** [1903, в. Ягор'ева Манастыршчынскага р-на Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 25.10.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа Ш. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ШУЦКІ Мікалай Аляксандравіч*** [1902, в. Бабры(?) Віленскага пав., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 1934, ?, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1926 уступіў у КПЗБ. Падчас арышту выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 8.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Разінская, д. 8/3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Ш. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ШУШКЕВІЧ Браніслаў Іванавіч*** [1890, фальварак Сцефанполь Віленскай губ., цяпер Літва (?) — 21.12.1937, Мінск, НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Інстытута балотнай гаспадаркі. Арыштаваны 26.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 2/21, кв. 14. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 20.12.1937 як «член антысавецкай тэрарыстычнай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.10.1956. Асабовая справа Ш. № 7601-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 2/21, кв. 14 арыштавана касір Мінскай цырульні № 6, маці дваіх дзяцей, Шушкевіч Кацярына Паўлаўна (н. ў

1895 у в. Атрубкі Віленскай губ.), жонка Браніслава *Шушкевіча*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 15.2.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 16.3.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ш. № 6845-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЧАПЯТКОВА Раіса Іванаўна*** [1918, в. Мацюкова, цяпер Зубцоўскага р-на Цвярской вобл., Расія — ?], журналістка. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). Працавала ў косаўскай раённай газ. «Чырвоная звязда». У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. З кастр. 1941 да ліст. 1943 у партызанскім атрадзе. Арыштавана 20.9.1944 у Косаве па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 13. Асуджана пазасудовым органам НКВД 5.12.1944 як «агент нямецкіх спецслужб» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў адзін з магаданскіх канцлагераў. Вызвалена 29.12.1953. Рэабілітавана трыбуналам БВА 4.9.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ш. № 2877-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ШЧЫГЕЛЬСКІ Кастусь** [19.10.1900, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўскай вобл. — ?], педагог, паліт. дзеяч. Скончыў Бабруйскую мужчынскую гімназію (1918),

настаўнічаў на Бабруйшчыне, ствараў бел. школьніцтва. Сябра БПС-Р і Беларускага культурна-асветнага гуртка настаўнікаў Бабруйскага і Слуцкага пав. У ліст. 1919 абраны ў склад Рады БНР. У лют. 1921 арыштаваны бальшавікамі. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Ляхоўскі Ул.* Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919—1920 гг. // *Спадчына.* 1994. № 6.

**ШЫДЛОЎСКІ Вячаслаў Аляксандравіч** [12.1.1913 (паводле пашпарта 12.3.1913), в. Карзуны Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — 23.8.1997, мяст. Смілавічы Чэрвеньскага р-на], мемуарыст, геолаг, мастак. У 1929 скончыў Смілавіцкую сямігодку. Захапляўся маляваннем, спрабаваў паступіць у Віцебскі мастацкі тэхнікум (не прайшоў па конкурсу з-за сацыяльнага паходжання, бо быў не з рабоча-сялянскай сям'і, а з настаўніцкай). Знаходзячыся ў Віцебску, пазнаёміўся з мастаком Ю.Пэнам. Паступіў у Смалянскую сельскагаспадарчую школу, потым вучыўся ў Барысаўскім сельгастэхнікуме. Працаваў у саўгасе «Вызваленне» Смалявіцкага р-на. Са студз. 1935 служыў у войску ў Мінску, вучыўся ў Аб'яднанай беларускай вайсковай школе імя ЦВК БССР, потым у Маскоўскай артылерыйскай школе імя Красіна, якая была пераведзена ў Краснадар. Арыштаваны 6.11.1936 па даносе аднаго з студэнтаў ф-та замежных моваў МВПІ. 15.1.1937 трыбуналам БВА асуджаны да 4 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў адзін з калымскіх канцлагераў. Пасля вызвалення (5.11.1940) працаваў у геалагічных партыях Дальбуда. Стварыў шмат замалёвак з мясцін сваіх экспедыцый. У Беларусь

вярнуўся ў 1947. Працаваў геолагам ў Белгалоўгеалогіі. Узнагароджаны знакам «Отличник разведки недр», медалём «За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.» Быў вядомы як бібліяфіл, сабраў вялікую бібліятэку. Пакінуў рукапіс успамінаў. Рэабілітаваны ў 1988.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: Рысы майго пакалення. Мн., 2001.

**ШЫЛА Мікола** [1888, мяст. Смаргонь, цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл., паводле іншых звестак, Бакшты, цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — 6.4.1948, Браўншвейг, Германія], бел. грамадскі і культурны дзеяч, журналіст, рэдактар. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Падчас вучобы ўдзельнічаў у нелегальным з'ездзе вучняў настаўніцкіх семінарыяў Беларусі, за рэвалюцыйную дзейнасць быў асуджаны ў 1906 і да 1908 адбываў пакаранне ў Мінскай турме. Як сябра БСГ двойчы абіраўся ў яе ЦК. З 1909 супрацоўнічаў з газ. «Наша ніва». Удзельнічаў у рабоце Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні. У час вучобы ў Пецярбургу сябра Пецярбургскага таварыства студэнтаў-беларусаў, прымаў удзел у яго культурна-грамадскай рабоце: співаў у хоры, выступаў у спектаклях, танцаваў, у тым ліку ў трупе І.Буйніцкага. У кастр. 1917 дэлегат 3-га з'езда БСГ у Мінску. У 1918 сябар Рады БНР. У 1918—19 настаўнічаў у Будслаўскай бел. гімназіі. З 1921 зноў у Вільні, удзельнік бел. руху. Член Беларускага нацыянальнага камітэта. Рэдагаваў газ. «Змаганне». Як «зіц-рэдактар» бел. перыёдыкі шматразова арыштоўваўся польскай адміністрацыяй, сядзеў

у Лукішскім астрозе. У час 2-й сусветнай вайны працаваў на культурна-асветнай ніве. Удзельнічаў у II Усебеларускім кангрэсе. З 1944 жыў у Германіі. Быў адным з рэдактараў часопіса бел. эміграцыі «Шляхам жыцця». Пакінуў успаміны, у тым ліку пра *Я.Купалу*, *Б.Эпімах-Шыпілу* і інш.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЫМАК Мікалай Іванавіч** [1912, в. Пачуйкі Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — ?, Курганская вобл., НКВД], музыкант. З бел. сям'і. Падчас арышту скрыпач кінатэатра. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.12.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Уральскай ВА 15.5.1970.

Кр.: *Осуждены по 58-й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области.* Курган, 2002. Т. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЫМАНКА Мікалай Піліпавіч*** [3.3.1901, в. Дабучын Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 17.3.1935 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 13/18, кв. 4. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 7.7.1935 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 17.3.1940. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны

пракуратурай БССР 20.7.1989. Асабовая справа Ш. № 25843-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЫМАНСКІ Іван Сямёнавіч** [1898, Мінская губ. (?) — 21.9.1937, Смаленская вобл., Расія, НКВД], музыкант. З бел. сям'і. Працаваў у Доме культуры Ярцава Смаленскай вобл. Арыштаваны 20.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 17.9.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ШЫМАНСКІ Мікалай Іванавіч*** [1906, в. Пясочнае Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 19.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту планавік-фінансіст Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута ўгнаення, агратэхнікі і аграглебазнаўства. Арыштаваны 4.11.1937 у Маскве па адрасе: Новая шаша, д. 42, кв. 7. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 13.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1989. Асабовая справа Ш. № 27862 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ШЫНКЕВІЧ Андрэй Цярэнцевіч*** [1901, в. Пякалічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Жлобінскі

р-н Гомельскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. З 1919 у Чырвонай арміі. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1933 сакратар парткама БДУ. У 1936—37 начальнік упраўлення адукацыі дарослых наркамата асветы БССР, адначасова аспірант БДУ. Арыштаваны 28.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 3, кв. 4. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.8.1939 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва ў галіне асветы» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Новасібірскай вобл. Другі раз арыштаваны 4.5.1949 і 31.8.1949 асуджаны да ссылкі ў в. Верхняя Омка Татарскага р-на. Вызвалены ў 1955. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ш. № 5914-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЫПІЛА Ігнат Іванавіч*** [1887, мяст. Лужкі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — 16.6.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], журналіст. З бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). У 1933 выключаны з ВКП(б). Падчас арышту пенсіянер. Арыштаваны 14.1.1938 у Маскве па адрасе: вул. Пятроўка, д. 20, кв. 17. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.6.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.2.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЫРОКАЯ Валянціна Аляксандраўна*** [1919, в. Туркі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], служачая. З сям'і бел. службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, працавала эканамістам. Арыштавана 8.6.1944. Асуджана пазасудовым органам 15.11.1944 за «здраду радзіме» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 5.7.1962. Асабовая справа Ш. № 7941-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЫШАЛАЎ Рыгор Фёдаравіч*** [1921, в. Дзяругі Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — дырэктар Чарнаярскага «Нарыхтзбожжа». Асуджаны Вярхоўным судом Паўночна-Асецінскай АССР 5.7.1949 да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. РСО — Алания.* Владикавказ, 1999. Т. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЫШКО Мікалай Мікалаевіч** [1900, в. Засялечча Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 28.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту нам. начальніка палітаддзела Паўднёва-Усходняй чыгункі, член ВКП(б). Арыштаваны 30.4.1938 па

адрасе: Маскоўская вобл., Ухтомскі р-н, пас. Пярова, вул. Ухтомскага, д. 6, кв. 66. Асуджаны 28.8.1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.2.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЭВАХОВІЧ (РЫНДЗІН) Віктар (Мендзель) Рыгоравіч*** [1909, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 26.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец, навуковец. З купецкай сям'і. Арыштаваны 22.10.1927 у Вільні. 20.4.1928 Віленскім акруговым судом асуджаны за «распаўсюджанне камуністычнай літаратуры» да 3 гадоў зняволення ў турме строгага рэжыму. Нелегальна эміграваў у СССР. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела Інстытута гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 11.12.1937 як «польскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.10.1957. Асабовая справа Ш. № 10971-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЭЙМАН Хаім Ісакавіч*** [1900, в. Кузніца Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 14.10.1938, НКВД], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1922—28 служыў у польскай арміі. Падчас арышту выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштава-

ны 11.2.1938. Асуджаны 30.9.1938 «тройкай» НКВД за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.1.1989 калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Ш. № 11762 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**ШЭЙНІН Аркадзь Ільіч*** [1898, Віцебск — ?], службовец. З сям'і службоўца. У 1919—20 ваяваў у складзе Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту член прэзідыума Дзяржплана БССР. Арыштаваны 4.12.1930 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 19, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з Новасібірскіх канцлагераў. Вызвалены ў ліст. 1938. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 11.10.1957. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ш. № 11457-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЭЛЕХ Васіль Мікітавіч*** [1919, в. Зарытава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Меў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту нам. палітрука 136-га асобнага батальёна 1080-й вайсковай часці. Арыштаваны 13.1.1942 (?). Асуджаны 15.3.1942 (?) як «агент польскай паліцыі» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілі-

таваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1949. Асабовая справа Ш. № 4389-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ШЭМЕТ-ПАЛАЧАНСКІ Яўген Станіслававіч** [1880, маёнтак Янушава Чэрыкаўскага (?) пав. Магілёўскай губ., цяпер Крычаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], землеўласнік. З бел. шляхецкай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны 22.3.1940 у сваім маёнтку Лапачава (цяпер тэрыторыя Віцебскай вобл.). Асуджаны 29.11.1940 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены як польскі грамадзянін у жн. 1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 13.12.1989 пракуратурай Віцебскай вобл. Асабовая справа Ш.-П. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ШЭРМАН Арон Рыгоравіч*** [1888, Брэст — 28.6.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. У 1905 уступіў у Бунд, у 1918 — у ВКП(б). Працаваў выкладчыкам Беларускага кааператыўнага аб'яднання інвалідаў. Арыштаваны 15.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткінская, д. 36, кв. 10. Асуджаны 28.6.1938 пазасудовым органам НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычна-бундаўскай арганізацыі» і за «дыверсійна-шкодніцкую працу» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.4.1958. Асабовая справа Ш.

№ 11638-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

2.8.1938 у Мінску арыштавана хатняя гаспадыня, маці траіх дзяцей, Шэрман Сара Юдаўна (н. ў 1895 у Брэсце), жонка Арона *Шэрмана*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 11.1.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.6.1966 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Ш. № 19495-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЭР-ЯБЛОНСКІ Мечыслаў Францавіч*** [1879, Полацк Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 19.12.1937, Орша, НКВД], артыст. З мяшчанскай сям'і. Працаваў у цырку. Арыштаваны 26.8.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.10.1937 за «сувязь з польскімі разведорганамі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 21.9.1989. Асабовая справа Ш. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЭПЕЛЬБАЎМ Леанід Маркавіч** [1900, Адэса, цяпер Украіна — 1.9.1938, Мінск, турма НКВД], кінаапаратар. З сям'і службоўца. Падчас арышту працаваў у Белдзяржкіно. Арыштаваны 26.1.1838 у Мінску. Асуджаны 25.5.1938 «тройкай» НКВД як «агент польскай разведкі і ўдзельнік эсэраўскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.3.1957 калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Э. № 10098-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЭПШТЭЙН Бенцыян Пейсахавіч** [1894, Лагойск Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], службовец. Падчас арышту ўпаўнаважаны камісіі парткантролю ЦК КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 15.7.1938 у Мінску па адрасе: плошча Свабоды, д. 23/2, кв. 17. Асуджаны 1.11.1938 «тройкай» НКВД як «кіраўнік (да 1929) контррэвалюцыйнай шпіёнска-бундаўскай арганізацыі ў Барысаве» да 10 гадоў ППК. Вызвалены і рэабілітаваны 26.7.1939 (?). Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Э. № 7166-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЭЙСМАНТ Раман Ерафеевіч** (?) [1900, Віленская губ., цяпер Літва (?) — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў эканамістам. Арыштаваны 9.1.1931 у Самары. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». 27.1.1931 пастановай асобай нарады АДПУ Прыволжскай ВА вызвалены. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пасля 1991.

Кр.: *Белая книга.*

**ЭЛЬБЕРТ Барыс Якаўлевіч*** [1890, мяст. Бубна, цяпер Валынская (?) вобл., Украіна — ?], навуковец. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дырэктар Мінскага мікрабіялагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.3.1931 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Маскоўская, д. 60. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 29.1.1932 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме наркамата аховы здароўя БССР» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Э. № 6736-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЭЛЬКІН Ілья Ісакавіч*** [1888, в. Ратуцічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — ?], журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык сектара перадач на эсперанта Беларускага дзяржаўнага радыё. Арыштаваны 26.1.1936 у Мінску па адрасе: вул. Ленінградская, д. 4, кв. 5. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 7.5.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 20.3.1990. Асабовая справа Э. № 30805-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЭЛЬТЭРМАН Хрыстафор Іванавіч*** [1898, Доблін Курляндскай губ., цяпер Латвія — 19.2.1938, Мінск,

НКВД], навуковец. З сям'і рабочага. Падчас арышту дырэктар Віцебскага мікрабіялагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 5.12.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.1.1938 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 14.11.1957. Асабовая справа Э. № 6954-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЭНЦІН Леў Гіляравіч*** [25.12.1902, Канатоп, цяпер Сумская вобл., Украіна — ?], журналіст. З сям'і службоўца. Падчас арышту рэдактар газ. «Рабочий». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 13.7.1936 у Мінску па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 6, кв. 6. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.8.1936 за «прыналежнасць да контррэвалюцыйнай трацкісцкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Варкуцінскі (?) канцлагер Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 5.9.1956. Асабовая справа Э. № 6908-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ЭПШТЭЙН Алена Лазараўна*** [21.5.1894, Пулавы Люблінскай губ., цяпер Люблінскае ваяв., Польшча — ?], журналістка. Скончыла сярэднюю школу. У 1920 санітарка ў дзеючай Чырвонай арміі. Уступіла ў ВКП(б). Да арышту працавала на мінскай фабрыцы «Камунарка». Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 22.5.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 63, кв. 2.

Асуджана 5.8.1939 «тройкай» НКВД як «сябра ПАВ» і за «шпіянаж на карысць польскіх разведвальных органаў» да 5 гадоў пазбаўлення волі. У 1947 выслана ў Краснаярскі край, потым у Караганду. У канцы 1949 — пачатку 1950 тэрмін быў працягнуты. Канчаткова вызвалілася 14.6.1954. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 21.9.1955. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Э. № 5698-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЭФРОН Якаў Давыдавіч*** [1907, Брэст — 28.10.1937, Мінск, НКВД], рэдактар. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту рэдактар яўрэйскага літаратурнага сектара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Стралковая, д. 1/95, кв. 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.10.1937 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.7.1957. Асабовая справа Э. № 10748-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЮГАЎ Міхаіл Сямёнавіч*** [кастр. 1901, Адэса, Украіна — 1.10.1937, ?, НКВД], педагог, навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У другой палове 1920-х г. дацэнт БДУ. Арыштаваны 19.11.1928 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 5 (будынак універсітэцкага інтэрната). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 25.1.1929 як «член антысавецкай арганізацыі трацкістаў» да 3 гадоў ППК. Вызвалены 23.8.1929. Зноў арыштаваны і ў перыяд з 30.4.1936 да 10.9.1937 прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.3.1960. Асабовая справа Ю. № 5830-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЮЖЫК Яўген Адамавіч*** [1896, в. Вётхава Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 8.10.1937, Смаленск, НКВД], партыйны і грамадскі дзеяч, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). З 1918 на партыйнай, з 1920 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. Падчас арышту дырэктар доследнай станцыі Барысаўскага свінаводчага саўгаса-тэхнікума. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 16.8.1933 у Барысаве. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3 гадоў ППК. Вызваліўся, працаваў настаўнікам у школе в. Язвіна Смаленскага р-на. Зноў арыштаваны 3.8.1937. Асуджаны 28.9.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Ю. (спынена 16.8.1956) № 10182-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЮЗВЮК Вадзім Мітрафанавіч*** [1904, в. Сувораўскі Штаб Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 8.12.1937, Санкт-Пецярбург, НКВД], лекар. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — урач Тархоўскага санаторыя Ленінградскай ВА. Арыштаваны 3.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Пестэля, д. 11, кв. 85. Асуджаны 2.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ЮКАЎ Канстанцін Юльянавіч (Емяльянавіч)*** [1902, Свянцяны Віленскай губ., цяпер Швянчоніс, Літва — 7.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], работнік культуры. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык сектара мастацтваў аддзела культасветработы ЦК ВКП(б). Арыштаваны 3.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Герцэна, д. 47, кв. 44. Асуджаны 7.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 7.9.1938 у Маскве. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Москва 1937-1941: «Коммунарка», Бутово.* М., 2000.

**ЮРАШКЕВІЧ Іван Іванавіч*** [22.6.1905, Мінск — ?], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту аспірант БелАН. Арыштаваны 18.7.1930 у

Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ссылкі. Тэрмін адбываў у Пашахонні (Яраслаўская вобл.). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.1.1956. Групавая справа Ю. і іншых № 20951-С з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЮРКЕВІЧ Самуіл Саламонавіч*** [1895, Лодзь, Польшча — 1.9.1938, Мінск, НКВД], навуковец. З сям'і рабочага. У 1914—18 член яўрэйскай арганізацыі «Палей-Цыён». У 1926 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.3.1938 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1938 за «шпіянаж на карысць польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.4.1958. Асабовая справа Ю. № 11684-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЮРУЦ Міхаіл Іванавіч** [1888, в. Падлейкі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі (?) р-н Гродзенскай вобл. — 14.6.1938, Масква, НКВД], вайсковец. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аддзела тэхнічнага кантролю Маскоўскага авіяцыйнага завода № 1 «НКОП» (?). Арыштаваны 23.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Бегавая, д. 22, корп. 27, кв. 16. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.6.1938 за «шпіёнска-шкодніцкую дзейнасць» і «прыналежнасць

да ПАВ» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1956. Асабовая справа Ю. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ЮРШЭВІЧ Алесь (Аляксандр Іванавіч)** [н. 1928, в. Забалоцце Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл.], удзельнік патрыятычнага падполля. Увосень 1945, будучы вучнем Глыбоцкай СШ № 1, прапанаваў сваім сябрам з Глыбоцкага педагагічнага вучылішча стварыць падпольную арганізацыю на ўзор Таварыства філаматаў, каб «разам трымацца беларускай справы, пашыраць свой уплыў сярод астатніх». Пад канец 1945 ядро такой арганізацыі — «Саюза беларускіх патрыётаў» (СБП) — было аформлена. 25.3.1946, у дзень угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР, адбылася ўрачыстая прысяга сяброў СБП. Менавіта Ю. напісаў тэкст прысягі. Увесну 1946 СБП аб’яднаўся з Пастаўскай групай. У лют. 1947 арганізацыя разгромлена МДБ. Ю. арыштавалі 19.3.1947, калі ён быў ужо студэнтам БДУ. 20.6.1947 трыбунал войск МДБ Мінскай вобл. прыгаварыў яго да ВМП. Паводле ўказа прэзідыума Вярхоўнага савета СССР 26.5.1947 расстрэл заменены 25 гадамі ППК. Вызвалены ў час «хрушчоўскай адлігі». Пасля вяртання на радзіму адчуваў прэсінг з боку ўладаў. Рэабілітаваны ў 1992. Жыве ў Міёрах. У апошнія гады піша ўспаміны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі.*

**ЮЦЭВІЧ Алена Антонаўна*** [1898, Варшава, Польшча — ?], культурны работнік. З памешчыцкай сям'і. Працавала сакратаром камісіі па перасяленні палякаў. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 30.12.1944 у Пружанах. Асуджана 20.6.1946 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Брэсцкай вобл. 19.4.1994. Асабовая справа Ю. № 12704-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ЮШНЕЎСКІ Аляксандр Пятровіч** [1799, Магілёў (?) — студз. 1844, в. Аек (?)], вайсковец, старэйшы брат Сямёна *Юшнеўскага*. З дваранскай сям'і. Скончыў гімназію і Маскоўскі ун-т. Выбраў ваенную кар'еру. У 1821 генерал-інтэндант 2-й рускай арміі. Некаторы час служыў разам з братам. Быў тайным членам Тульчынскай управы «Саюза дабрабыту», затым адным з кіраўнікоў Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў. Арыштаваны 13.12.1825 у Тульчыне. Асуджаны судом ваеннага трыбунала да пажыццёвай катаргі. Адпраўлены ў Якуцію.

Літ.: *Памяць. Гіст.-дакум. хроніка Магілёва*. Мн., 1998. С.101.

**ЮШНЕЎСКІ Сямён Пятровіч** [1.2.1801, Магілёў — 1844, в. Хруставая Альгапольскага пав. Падольскай губ., цяпер Украіна], асветнік, малодшы брат Аляксандра *Юшнеўскага*. З дваранскай сям'і. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэцкім пансіёне. Па прыкладзе брата і некаторых педагогаў ун-та вырашыў прысвяціць сваё жыццё барацьбе за новае грамадства, за звяржэнне цара

і адмену прыгоннага права. З 1823 член Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў. Некаторы час служыў разам з братам у 2-й рускай арміі. Арыштаваны 26.1.1825, дастаўлены ў Пецярбург (13.2.1825), на наступны дзень заключаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Царскія ўлады не змаглі выставіць супраць Ю. сур'ёзных абвінавачанняў (брат і іншыя дзекабрысты яго не выдалі), і праз некаторы час ён быў вызвалены, звольнены з арміі і адпраўлены ў Падольскую губ., дзе жыў пад наглядам паліцыі. «Нягледзячы на <…> праследаванні [з боку ўладаў], шмат часу аддаваў народнай асвеце» (А.Ярохін).

Літ.: *Памяць. Гіст.-дакум. хроніка Магілёва*. Мн., 1998. С.101.

**ЯБЛОНСКІ Чэслаў Канстанцінавіч*** (верагодна, сапр. Яновіч Пётр Уладзіслававіч) [1899, Мінск — 27.12.1920, ?, ДПУ], артыст. Са шляхецкай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 15.8.1920 у Мінску па адрасе: вул. Гандлёвая, д. 30, кв. 5. Асуджаны камісіяй ЧК 1.12.1920 як «падазроны ў шпіянажы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 24.7.1992. Асабовая справа Я. № 34335-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯВОРСКІ Іван Антонавіч*** [1885, Варшава — 16.12.1937, Мінск, НКВД], службовец, вайсковец. З сям'і рабочага. У 1930-я г. загадчык спецсектара БелАН, член ВКП(б). З 1.4.1937 у разведвальным упраўленні Чырвонай арміі. Арыштаваны 26.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 32, кв. 1. Асуджаны 28.11.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 9.5.1962. Асабовая справа Я. № 17518-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

6.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 32, кв. 1 арыштавана тэлеграфістка тэлеграфа ст. Мінск Кузняцова Алена Іпалітаўна (н. ў маі 1900 ў Рэжыцы, цяпер Латвія, у сям'і рабочага), верагодна, жонка Івана *Яворскага*. 25.1.1938 «тройкай» НКВД была асуджана як «агент латвійскай разведкі» да ВМП і 7.3.1938 расстраляна. Рэабілітавана 28.4.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа К. № 25118-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯГОРАЎ Максім Захаравіч*** [1888, Пецярбург, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія — 14.3.1938, Магілёў,

НКВД], літаратурны работнік. З сям'і службоўца. Падчас арышту працаваў у Бабруйскай раённай газ. Быў жанаты. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.2.1938 як «польскі агент» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.8.1957. Асабовая справа Я. № 5442 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЯДЖАРСКІ А. В.*** [н. 1941], юрысконсульт Дырэкцыі будаўніцтва аўтамабільных дарог. Меў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту, верагодна, жыў у Пухавіцкім р-не Мінскай вобл. На працягу 1976—78 напісаў кнігу «Данкізм», дзе аспрэчваў марксісцка-ленінскае вучэнне, заклікаў ствараць падпольныя арганізацыі «данкістаў» для барацьбы супраць савецкай улады. Кнігу на 107 старонках размножыў у пяці экзэмплярах, распавядаў пра яе знаёмым і даваў ім чытаць. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 9.6.1983. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 9010.

Літ.: *58[10]*, с. 803.

**ЯКАБСАН Мікалай Андрэевіч** [1904, в. Аброва Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], настаўнік, удзельнік 2-й сусветнай вайны, вязень савецкіх канцлагераў. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю, працаваў настаўнікам у пачатковай школе у в. Выганашчы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. Арыштаваны органамі НКВД 12.2.1941. Асуджаны

14.6.1941 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. У 1941 ці 1942 вызвалены, як польскі грамадзянін, уступіў у армію пад камандаваннем генерала У.Андэрса. Пазней жаўнер 2-га Польскага корпуса. Удзельнік італьянскай кампаніі. Пасля вайны вярнуўся ў Беларусь. У 1951 арыштаваны органамі МДБ і разам з сям'ёй дэпартаваны ў Іркуцкую вобл. Пасля вяртання з Сібіры жыў у г.п. Целяханы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. Па першай справе № 6650-с (захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.) рэабілітаваны Брэсцкім абл. судом 1.11.1973.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 46.

**ЯКАЧУК Іван Якаўлевіч*** [1896, в. Салавічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 4.10.1938, Масква, НКВД], педагог, вайсковец. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту выкладчык аднаго з маскоўскіх ваенных вучылішчаў. Арыштаваны 18.2.1938. Асуджаны за «ўдзел у антысавецкай ваенна-фашысцкай змове» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.6.1959 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Я. № П-7338 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*

**ЯКІМАВЕЦ Аляксандр Рыгоравіч*** [1878, ? — ?], медык. З бел. сям'і. Падчас арышту ветэрынарны фельчар. Арыштаваны 14.6.1938 у Куйбышаве. Абвінавач-

ваўся ў «шпіянажы». 14.6.1938 пастановай пракуратуры чыгункі імя Куйбышава справа была спынена. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Белая книга*.

**ЯКІРЭВІЧ Майсей Захаравіч*** [1905, Мінск — ?], бібліятэкар. З сям'і рабочага. Працаваў загадчыкам бібліятэкі Яўрэйскага педагагічнага вучылішча. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 1.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пралетарская, д. 41, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.8.1939 як «член контррэвалюцыйнай сіяністкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 9.8.1956. Асабовая справа Я. № 6754-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯКУБОВІЧ Мікалай Антонавіч** [1899, Мінск — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец, педагог. З бел. сям'і. У 1921 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту батальённы камісар, выкладчык Ленінградскага ваенна-паліт. вучылішча імя Ф.Энгельса. Арыштаваны 27.10.1937. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЯКУБОВІЧ Мойжаш Пінкусавіч** [1914, Лодзь, Польшча — ?], фатограф. З сям'і службоўца. Арышта-

ваны 3.7.1940 у Беластоку. Асуджаны 18.9.1940 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ППК. Вызвалены 1.9.1941 як польскі грамадзянін. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 14.5.1993 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Я. № П-18121 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ЯКУБОЎСКІ Сяргей Пятровіч** [1897, Брэст — ?, Беламора-Балтыйскі канцлагер НКВД], інжынер, вайсковец. З бел. сям'і. Служыў у царскай арміі ў чыне прапаршчыка. У пасляваенны час атрымаў вышэйшую адукацыю, працаваў інжынерам-электрыкам. У 1930-я г. арыштаваны і этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. 10.9.1937 узяты ў зняволенні пад варту. 20.11.1937 асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара. Рэабілітаваны пракурорам Карэльскай АССР 13.4.1989.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ЯКУШОНАК Вацлаў Купрыянавіч*** [1907, Віленская губ., цяпер Літва (?) — 21.1.1938, Куйбышаў, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Працаваў у Куйбышаўскім абл. упраўленні аховы здароўя. Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны трыбуналам Прыволжскай ВА 9.1.1938 за «шкодніцтва», «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага судом СССР 10.12.1955.

Кр.: *Белая книга.*

**ЯНКОЎСКІ Мікалай Кліменцевіч*** [1896, мяст. Усвят Вяліжскага пав. Віцебскай губ., цяпер Пскоўская вобл., Расія — 25.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], інжынер. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інжынер будаўнічага аддзела гарана. Арыштаваны 26.2.1938 у Маскоўскай вобл. па адрасе: ст. Сходня Кастрычніцкай чыгункі, Дружнікоўскі зав., д. 2 (інтэрнат). Асуджаны 25.4.1938 «за шпіянаж і прыналежнасць да контррэвалюцыйнай арганізацыі ў Бурацііі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.2.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

Кр. геагр. *Волости и важнейшие селения; Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ЯНОВІЧ Вікенцій Рыгоравіч*** [1902, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 3.12.1937, Ленінград, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту ветэрынарны ўрач Арадзежскага раённага зямельнага аддзела. Арыштаваны 9.8.1937 у фальв. Васільковічы Арадзежскага р-на Ленінградскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.11.1937 за «шкодніцтва» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр. *Назвы населеных пунктаў*.

**ЯНОЎСКІ Антон Пятровіч*** [1911, Мінск — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы авіятэхнік 2-й разведвальнай

эскадрыллі 3-й авіяцыйнай брыгады. Арыштаваны 28.6.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ЯНУШКЕВІЧ (Волкаў) Вікенцій Міхайлавіч** [1895, в. Жывіцы Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 16.4.1938, Віцебск, турма НКВД], вайсковец. З сялянскай сям'і. Удзельнік савецка-польскай вайны 1919—20, служыў у Польскай Чырвонай арміі. Пасля вайны супрацоўнік Разведупраўлення БВА (?). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.9.1926. Асуджаны 29.11.1926 калегіяй АДПУ за «шпіянаж на карысць Польшчы» да 10 гадоў ППК. У другой палове 1930-х г. працаваў дзесятнікам на Аршанскім каменедрабільным заводзе. Зноў арыштаваны 26.1.1938 ў Оршы па адрасе: вул. Кааператыўная, д.13. Прыгавораны як «агент польскай разведкі» 1.4.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.6.1992 пракуратурай БВА. Асабовая справа Я. № 34052-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯНУШКЕВІЧ Іпаліт Вікенцевіч*** [1919, Мінск —?], спартыўны трэнер. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў трэнерам у спартыўным таварыстве «Спартак». У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 27.6.1947. Асуджаны 31.10.1947 як «агент нямецкага контрразведвальнага органа СД» да 25 гадоў канцлагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны, верагод-

на, ва Ухта-Іжэмскі канцлагер Комі АССР. Вызвалены 22.6.1956. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.4.1960. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Я. № 16338-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯНЧЫЛІН Аляксей Антонавіч*** [1917, в. Грыбы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 18.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — культработнік завода «Металургбуд». Арыштаваны 23.10.1937 на ст. Іжоры Кіраўскай чыгункі па адрасе: Сац. гарадок, д. 4, кв. 4. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 12.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр. *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЯНЭЛЬ Кузьма Іванавіч*** [1904, в. Мацкі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 21.5.1934, ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у КПЗБ (1924). Падчас арышту нам. дырэктара Мінскага садоваагародніннага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 23.9.1933 у Мінску па адрасе: Малагеоргіеўскі зав., д. 12/1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Я. (спынена 16.8.1956) № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр. *Назвы населеных пунктаў.*

**ЯРАШЭВІЧ Іван Казіміравіч** [1895, Мінскі пав. — 27.10.1937, Масква, НКВД], навуковец, верагодна, брат Міканора *Ярашэвіча*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — старшы навуковы супрацоўнік Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута агратэхнікі, глебазнаўства і ўгнаенняў. Арыштаваны 20.2.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вусачова, д. 29/2, кв. 119. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.10.1937 за «ўдзел у антысавецкай фашысцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 27.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки. Донское кладбище.*

**ЯРКІН Віктар Іванавіч** [29.11(9.12).1889, в. Дзякоўскае Раманаў-Барысаглебскага пав., цяпер Тутаеўскі р-н Яраслаўскай вобл., Расія — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР. Скончыў Кіндзякоўскае народнае вучылішча (1901). У 1902—05 член арганізацыі анархістаў-камуністаў на Пуцілаўскім заводзе (Пецярбург). У 1-ю сусветную вайну на Зах. фронце (1915—17). З 1918 старшыня Зах. абл. ЧК (Смаленск). Са студз. 1919 старшыня ЧК БССР, адначасова з сак. 1919 старшыня Мінскага гарсавета. З мая 1919 на чэкісцкай рабоце ў Паволжы. З 1921 у сістэме Наркамата шляхоў зносін СССР. У 1935—37 начальнік службы Днепрадзвінскага параходства ў Гомелі. Дэлегат І з'езда КП(б)Б (снеж. 1918), І Усебел. з'езда Саветаў (лют. 1919). Член ЦБ КП(б)Б, ЦК КП(б)ЛіБ, ЦВК БССР і Літ.-Бел. ССР. 26.2.1937 арыштаваны і

28.10.1937 тройкай НКВД асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1967.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЯРМАК Сава Герасімавіч** [1907, в. Радковічы (?) Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — ?, каля Петразаводска, НКВД], службовец. Апошняе месца работы — загадчык (дырэктар) дома культуры. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 4.11.1937 на Чупа-прыстані (Лоўхскі р-н, Чупінскі савет). Асуджаны 9.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры Карэла-Фінскай АССР за «здраду радзіме» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 5.1.1960 трыбуналам Паўночнай ВА.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ЯРОЦКІ Юліян (Іван) Рыгоравіч*** [1901, ? — 17.10.1937, Астрахань, НКВД], бібліятэкар. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — загадчык бібліятэкі палітаддзела Ніжне-Волжскага рачнога параходства. Арыштаваны ў Астрахані. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1989.

Кр.: *Из тьмы забвения: Книга памяти жертв политических репрессий: 1918—1954.* Астрахань, 2000. Т. 1.

**ЯРУШЭВІЧ Аляксандр Афанасевіч*** [1903, Смаленская (?) вобл. — 14.11.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — дырэктар

Сычоўскай нафтабазы. Арыштаваны 20.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 4.11.1937 за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ЯСІНСКІ Аляксандр Міхайлавіч*** [1895, в. Лучыцы Мазырскага пав., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — ?], медык, брат Валянціна і Міхаіла *Ясінскіх*. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Загадчык Рачэнскай амбулаторыі (?) Любанскага р-на Мінскай вобл. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 16.3.1933 у в. Рачэнь. Асуджаны 17.5.1933 за «антысавецкую дзейнасць» і як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 31.5.1989. Асабовая справа Я. № 23087-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр. *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЯСІНСКІ Валянцін Міхайлавіч*** [4.3.1890, в. Лучыцы Мазырскага пав., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 4.3.1938, Мінск, НКВД], службовец, брат Аляксандра і Міхаіла *Ясінскіх*. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы бухгалтар Галоўлесхімзабеспячэння. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 31.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Сухая, д. 28, кв. 1. Асуджаны 15.2.1938 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Я. № 24480-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯСІНСКІ Міхаіл Міхайлавіч*** [1897, в. Лучыцы Мазырскага пав., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 21.12.1937, Орша, НКВД], педагог, брат Аляксандра і Валянціна *Ясінскіх*. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў настаўнікам у Багушэўскай чыгуначнай школе Сенненскага р-на Віцебскай вобл. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.11.1937 у Багушэўску. Асуджаны 29.11.1937 паводле пастановы калегіі НКВД СССР як «агент польскіх разведвальных органаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракурорам БВА 9.10.1989. Асабовая справа Я. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЯСІНСКІ Якуб** [24.7.1761 (паводле іншых звестак 1759) – 4.11.1794, Варшава], ваенны і паліт. дзеяч, паэт. Са шляхецкага роду герба «Равіч». У 1783 скончыў Кадэцкі корпус у Варшаве і быў прыняты ў лік яго афіцэраў у званні падбрыгадзіра. Член масонскай ложы ў Варшаве. У 1780 накіраваны каралём у Вільню для службы ў Корпусе артылерыі і ваеннай інжынерыі; на пачатку 1789 яму была даручана арганізацыя Корпуса інжынераў войска ВКЛ. 13.12.1792 Станіслаў Аўгуст надаў Я. званне палкоўніка інжынерыі ВКЛ. Вызначыўся ў бітвах пад Мірам і Нясвіжам, за бітву пад Брэстам узнагароджаны Залатым крыжам «Virtuti Militari». У час падрыхтоўкі паўстання ў ВКЛ у 1793 узначаліў яго радыкальную («якабінскую» ад імя Я., па аналогіі з назвай групы французскіх рэвалюцыянераў) плынь; быў душой змовы ў Вільні. Ён лічыў, што на новым этапе барацьбы ўжо недастаткова змагацца пад лозунгам аднаўлення Канстытуцыі 3 мая: «Каб узняць народ ад

Одры да Дона, трэба аднолькавая воля для ўсіх класаў». Калі выпадала вольная хвіліна, пісаў вершы. У ноч з 22 на 23 крас. 1794 вызваліў Вільню ад расійскіх войск. З пачатку паўстання член Найвышэйшай Рады ВКЛ, камендант Вільні, з 3.5.1794 генеральны камандуючы паўстанцкімі войскамі ў ВКЛ. Касцюшка ўзвёў Я. ў генерал-лейтэнанты. Увесь час з Варшавы ў бок Я. даносіліся абвінавачанні ў сепаратызме. Старшых афіцэраў раздражняла неабходнасць падпарадкоўвацца маладому «выскачку». Урэшце замест Я. Касцюшка прызначыў сваім галоўным ваенным прадстаўнікам генерала М. Вяльгорскага. Я. вызначыўся ў баях з расійскімі войскамі пад Палянамі, Ліпнішкамі, Соламі. Загінуў пры абароне Варшавы.

Літ.: *Mościcki H.* Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; *Kelera J.* Poezja Jakuba Jasińskiego. Wrocław, 1952; *Kipa E.* Jakub Jasiński w bitwe pod Mirem 11.06.1792 // *Pamętnik literacki*. 1951; *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЯСКЕВІЧ Васіль Іосіфавіч*** [1908, ст. Цыцыкар (КВЖД) (?) — 17.4.1934, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1931 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык сектара (аддзела) цэха Маскоўскага завода № 22. Арыштаваны 2.11.1933 у Маскве па адрасе: Філі, завод № 22, барак № 3, пакой 12. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 19.2.1934 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны 17.6.1958.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**ЯСКЕВІЧ Фёдар Емяльянавіч*** [1883, в. Карашава Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 23.2.1938, Томск, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў фельчарам у бальніцы. Арыштаваны 13.12.1937 у пас. Усць-Чыжапка Каргасоцкага р-на Томскай вобл. Асуджаны 19.1.1938 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.10.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр. *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЯСЮКЕВІЧ Міхаіл Вікенцевіч*** [1888, в. Мядзведзева Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер Верхнядзвінскі (?) р-н Віцебскай вобл. — 28.5.1938, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — загадчык малочна-таварнай фермы калгаса «Новая зара». Арыштаваны 8.2.1938 у в. Балаганы Туганскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 22.4.1938 як «член контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.8.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр. *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЯСЯЛЕВІЧ Г. С**.* [1915 — ?], трэнер класічнай барацьбы. Жыхар Мінска. На працягу 1957—58 разам з А.*Рубінам* і Я.*Хейфіцам* абмяркоўваў палітыку савецкага ўрада ў адносінах да яўрэяў. Паводле дадзеных следства, з Польшчы, дзе Я. вясной 1958 быў у складзе

спартыўнай дэлегацыі, прывёз яўрэйскія часопісы і брашуру «Аб антысемітызме». Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 29.4.1959. Рэабілітаваны 20.12.1964. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 85052; Ф. 9474, воп. 41, спр. 3087.
Літ.: *58*[10], с. 521—522.

**ЯЎСІЕНКА Максім Яўстаф'евіч** [1905, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Апошняе месца работы — інспектар «РОМ» (?). Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 15.4.1993.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий республики Башкортостан.*

**ЯХНОЎСКІ Іосіф Савіч*** [1906, Нясвіж Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?, Сыктыўкар, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — загадчык рэстарана ў Сыктыўкарскім парку культуры і адпачынку. Арыштаваны 26.8.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.1.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Покаяние.*

**ЯЦКЕВІЧ Сцяпан Вікенцевіч*** [1890, мяст. Смалявічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 17.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў вы-

шэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — начальнік АКБ Галоўнага аддзела шашэйных дарог СССР. Падчас арышту пенсіянер. Арыштаваны 7.4.1938 у Маскве па адрасе: Ленінградская шаша, д. 92/94, кв. 72. Асуджаны 17.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.1.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

**ЯЦЫНА Людвіг Іванавіч*** [1909, Масква — 14.6.1938, Масква, НКВД], інжынер. З сям'і бел. службоўца. Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1930-я г. Апошняе месца работы — інжынер-тэхнолаг пражэктарнага завода імя Кагановіча. Арыштаваны 24.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Садовая-Чарнагразская, д. 20/28, кв. 19. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 31.5.1938 за «дачыненне да контррэвалюцыйнай фашысцкай шпіёнскай арганізацыі ПАВ» і за «шкодніцкую дзейнасць пры распрацоўцы новых канструкцый пражэктараў» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 21.3.1956. Асабовая справа Я. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**АБЕРМАН Шавель Залманавіч** [1898, Гомель — ?], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту таваразнаўца Гродзенскага універмага. Арыштаваны 16.12.1957. Асуджаны 26.5.1958 за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 12.11.1991 Вярхоўным судом Беларусі. Асабовая справа А. № П-13609 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**АГУРСКІ Самуіл Хаімавіч**

Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 4.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пушкінская д. 54, кв. 22. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны 15.8.1939 як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 4.3.1943. Асабовая справа А. № 5899-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АДЗІНЕЦ Аркадзь Якаўлевіч**

Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Чэбаксарах. 25.7.1935 асобай нарадай НКВД на 3 гады пазбаўлены правоў. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа А. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АДЗЯРЫХА Міхась Якубавіч (Якаўлевіч)**

Нарадзіўся ў ліп. 1904 у в. Белічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. Краязнавец, педагог, брат Цімафея *Адзярыхі*. Скончыў БДУ. Падчас арышту сакратар час. «Асвета». Арыштаваны 6.3.1927 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 77, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 23.9.1927 як «член антысавецкага гуртка»

да 3 гадоў ссылкі. Жыў у Вятцы, Тыфлісе (Тбілісі). Зноў арыштаваны 18.11.1937 у Віцебску, дзе працаваў выкладчыкам у школе для дарослых пры фабрыцы імя Кагановіча. 14.12.1937 асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны 5.1.1938 у віцебскай турме НКВД. Па першай справе рэабілітаваны трыбуналам БВА 3.12.1957, па другой — пракуратурай Беларусі 22.5.1992. Справы А. № 33688-с (з фотаздымкам) і № 6942-п захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі і ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**АЙН Ісак Юдэлевіч*** [ліст. 1894, мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 29.6.1938, Мінск, турма НКВД], кравец. З сям'і рабочага. Член ВКП(б) з 1918. Да арышту кравец Мінскай абутковай фабрыкі. Арыштаваны 30.5.1937. Асуджаны 29.6.1938 тройкай НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.12.1966 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа А. № 19609-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

8.10.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 83, кв. 3 была арыштавана краўчыха арцелі «Пралетарый» Айн Броха Залманаўна (н. ў 1904 у в. Талька Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.), жонка Ісака *Айна*. У гэты ж дзень асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана за «неданясенне аб контррэвалюцыйнай дзейнасці мужа» да 5 гадоў ссылкі ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 10.4.1989 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 25094-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АКСЕЛЬРОД Зэлік Майсеевіч**

Працаваў у Саюзе пісьменнікаў БССР, рэдакцыі час. «Штэрн». Арыштаваны 30.5.1937 у Мінску па адрасе: Апанскі

зав., д. 8, кв. 5 як «кіраўнік антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі». Расстраляны пры этапаванні падследных мінскай унутранай турмы НКВД на Усход. Рэабілітаваны КДБ БССР 7.6.1957. Асабовая справа А. № 4985-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Андрэй Іванавіч**

З сям'і рабочага. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 168, кв. 54. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 22.4.1939 як «член антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» і за «шпіёнскую дзейнасць» да 15 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Нарыльскі канцлагер НКВД Краснаярскага краю. Некаторы час пакаранне адбываў разам з П.*Пруднікавым*. Вызвалены 11.2.1947. Зноў арыштаваны 26.2.1949 і 8.6.1949 асуджаны на ссылку. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР 25.11.1955. Асабовая справа А. № 5654-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Васіль Фёдаравіч** [1915, Бранская губ., Расія — ?], службовец. З бел. сям'і. Да арышту майстар завода № 24 у Куйбышаве. Арыштаваны 19.12.1959. Асуджаны 4.2.1960 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 1.7.1992 Самарскай абл. пракуратурай.

Кр.: *Белая книга*.

**АЛЬШЭЎСКІ Анатоль Адамавіч**

З сям'і службоўца. Падчас арышту (31.8.1937) нам. старшыні завадскога камітэта Мыцішчанскага «ВСЗ» (?). Арыштаваны ў Маскве па адрасе: вул. 6-я Звенігарадская, д. 8, корп. 6, кв. 60. Асуджаны 22.12.1937 камісіяй НКВД і пракурату-

ры СССР за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны 25.12.1937 у Маскве. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.12.1956.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**АЛЯХНОВІЧ Мікола (Мікалай Мікалаевіч)**

З сям'і службоўца. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: Койданаўскі тракт, д. 29, кв. 5. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай фашысцкай арганізацыі» да 12 гадоў ППК, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Вызвалены ў 1948. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.11.1957. Асабовая справа А. № 10986-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЯХНОВІЧ Францішак Каролевіч**

З канца 1931 пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры.

**АМБРАЖУНАС Пётр Іосіфавіч**

28.7.1938 у Мінску арыштавана прадавец ГУМа, маці траіх дзяцей, Амбражунас Анастасія Мікалаеўна (нар. ў 1898 у Смаленску ў сям'і рабочага), жонка Пятра *Амбражунаса*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД прыгаворана як «жонка здрадніка радзімы, асуджанага да ВМП» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 10273-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АНІСАЎ Сяргей Рыгоравіч**

З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык аддзела газ. «Советский крестьянин».

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.2.1950 у Мінску па адрасе: Станцыйны зав., д. 20, кв. 1. Асуджаны 3.2.1951 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Варкута-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 6.9.1954. Асабовая справа А. № 2650-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АНІСЬКА Дамінік**

У 1940 альбо ў 1941 быў, верагодна, этапаваны ў адзін з канцлагераў (Чарапавецкі, Шакснінскі ці «Знаменитстрой») каля Волагды.

**АНІХОЎСКІ Аляксандр Георгіевіч**

Скончыў Слуцкія настаўніцкія курсы беларусазнаўства (1920). Па першай справе (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР.

**АНІШЧЫК Аляксей Сцяпанавіч**

Вызвалены з Дубраўнага (?) канцлагера Мардоўскай АССР 12.2.1957. Але за дзень да гэтага ў яго знайшлі ліст антысавецкага зместу. У крас. 1957 у доме А. былі таксама знойдзены два часопісы і каляндар 1944, выдадзеныя ў перыяд нямецкай акупацыі. Гэта стала падставай для новага арышту (20.4.1957). 24.8.1957 А. быў асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. 4.6.1960 тэрмін зняволення А. быў скарочаны.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 9474, воп. 41, спр. 3138; *Покаяние; 58*[10], с. 360.

**АНУШКЕВІЧ Вячаслаў Антонавіч**

Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. Аўтар успамінаў.

**АПАЦЁНАК Фёдар (Тодар) Андрэевіч**

З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам Мінскага політэхнічнага тэхнікума. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 25.7.1930 у Мінску па адрасе: вул. Стараслабадская, д. 36/2, кв. 3. Асуджаны 25.4.1931 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Карэльскай АССР, але пакаранне, хутчэй за ўсё, адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 28.12.1989. Асабовая справа А. № 29933-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АРАБЕЙ Мікалай Лявонцевіч**

5.11.1937 у Мінску была арыштавана ўрач Ляхаўскай паліклінікі маці дваіх дзяцей Арабей Дэбора Маісееўна (н. 29.8.1902 у мяст. Старыя Дарогі Бабруйскага пав. Мінскай губ.), жонка Мікалая *Арабея*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.4.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 6693-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АРЛОЎСКІ (СВІРЫДОЎСКІ) Баляслаў (Казімір) Іванавіч*** [1907, в. Хмелеў (?) Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Польшча — 27.8.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту галоўны адміністратар Тэатра юнага гледача. Арыштаваны 6.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ямная, д. 3, кв. 3 (26.7.1933 у гэтай жа кватэры была арыштавана Яніна *Мястоўская*). Асуджаны 25.8.1937 «тройкай» НКВД за «шпія-

наж» да ВМП. Расстраляны 27.8.1937 ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны 30.6.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа А. № 27772-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АРЭШЧАНКА Вольга Сямёнаўна** [1930, в. Хабаты Віцебскага пав., цяпер Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл. — ?]. З бел. сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту краўчыха фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». Арыштавана 7.3.1953 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Лінія, д. 27. Абвінавачвалася ў «не можа быць адказнай за зробленыя злачынствы з-за псіхічнага стану». 3.7.1953 рэабілітавана УМУС Віцебскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа А. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**АСІПОВІЧ Міхаіл (Андрэй) Васілевіч**

25.3.1932 у в. Грамавічы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. быў арыштаваны каваль Асіповіч Пётр Васілевіч (н. ў 1906 у в. Грамавічы), брат Міхаіла *Асіповіча*. 25.10.1932 ён быў асуджаны калегіяй АДПУ за «нелегальны пераход мяжы і шпіянаж» да 5 гадоў ППК і этапаваны ў Сібірскі канцлагер АДПУ Новасібірскай вобл. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 12.7.1989. Асабовая справа П.Асіповіча № 27025-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

12.2.1937 у в. Грамавічы быў арыштаваны селянін-аднаасобнік, былы член КПЗБ, Асіповіч Фама Васілевіч (н. 20.6.1910 у в. Грамавічы), брат Міхаіла і Пятра *Асіповічаў*. 22.9.1937 тройкай НКВД ён быў асуджаны як «агент польскай разведкі» да ВМП і 3.10.1937 расстраляны ў Мінскай унутранай турме НКВД. Рэабілітаваны пракуратурай БВА

30.4.1989. Справа Ф.Асіповіча і іншых № 24551-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АСТАПЕНКА Змітрок**

Паводле іншых звестак нарадзіўся 14 (27).11.1910 у в. Сяргееўка Рослаўльскага пав. Смаленскай губ. ў сям'і настаўніка. З 1930 вучыўся ў МБПТ, затым у БДУ. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Першы раз арыштаваны 16.3.1933 у Мінску па адрасе: Праязны зав., д. 8, кв. 5. Асуджаны 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Пакаранне адбываў у Марыінску Кемераўскай вобл., але знаходзіўся не ў канцлагеры, а на пасяленні (некаторы час разам з М.*Лужаніным*). Пасля вызвалення ў чэрв. 1935 жыў у Маскве па адрасе: Смаленскі бульвар, д. 15, п. 48, працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў школе № 252 Дзяржынскага р-на. Паўторна арыштаваны 5.12.1936. Асуджаны 5.10.1937 пазасудовым органам НКВД за «антысавецкую дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Вызвалены ў 1942 (?). У 2-ю сусветную вайну А. не загінуў, бо як сведчаць некаторыя дакументы (асабовая справа А. № 9935-с), у 1949 ён быў асуджаны да высылкі (верагодна, у Краснаярскі край). У тым, што паэт не загінуў, быў упэўнены (па словах крытыка А.Марціновіча) і яго былы аднакурснік яшчэ па Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме, калега і сябра А. паэт А.Куляшоў, які сведчыў, што ўжо пасля вайны «знаёмы твар [З.Астапенкі] неяк прамільгнуў у вірлівым маскоўскім натоўпе». Далейшы лёс невядомы. Па першай справе рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956, па другой — прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовыя справы А. № 14618 і №9935-с з фотаздымкамі захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі.

**АСТРЭЙКА Сяргей Адамавіч**

Паўторна арыштаваны 14.8.1937. Расстраляны 14.9.1937.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**АЎГУСЦІНОВІЧ Анатоль Ільіч*** [4.9.1904, Орша Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту начальнік упраўлення будаўнічых работ пры СНК БССР (?). Арыштаваны 10.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Правадная, д. 6. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.8.1957 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа А. № 10858-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.2.1938 у Мінску была арыштавана хатняя гаспадыня Аўгусціновіч Алена Іванаўна (н. 28.2.1907 у Мінску ў сям'і служачага; атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю; выйшла замуж, гадавала дзіця), верагодна, жонка Анатоля *Аўгусціновіча*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. У 1941 пераведзена ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена ў кастр. 1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 4.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 6895-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЎРАЛЁЎ Іван Афанасевіч**

З сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у другой палове 1920-х г. Працаваў навуковым супрацоўнікам у БелАН. У 1930 уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: Камароўка, 6-я лінія, пасёлак БелАН. Асу-

джаны 13.12.1933 як «член контррэвалюцыйнай паўстанцкай дыверсійнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР (пас. Мадмас). 3.12.1937 выкліканы на допыты і 25.12.1937 «тройкай» НКВД Архангельскай вобл. асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны па першай справе трыбуналам БВА 16.7.1957. Асабовая справа А. № 10240-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Покаяние*.

**АФАНАСЬЕЎ Якаў Мікітавіч**

З сям'і рабочага. У 1897 паступіў у Пецярбургскі ун-т. У 1902 абараніў кандыдацкую дысертацыю. У 1907 і 1908 прымаў удзел у I і II Усерасійскіх з'ездах глебазнаўцаў, у 1927 у II Міжнародным кангрэсе глебазнаўцаў у Вашынгтоне. Арыштаваны 9.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 78. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «актыўны член антысавецкай тэрарыстычнай фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа А. № 10618-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Таксама была рэпрэсавана жонка А.

**АШАРОВІЧ Ілья Перцавіч**

З сям'і службоўца. У 1919 уступіў у ВКП(б). У ліп. 1937 выключаны з партыі за «трацкісцкія погляды». Арыштаваны 24.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 38, кв. 20. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.9.1938 як «агент польскай і літоўскай разведак» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 26.2.1957. Асабовая справа А. № 10037-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

7.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 38, кв. 20/24 была арыштавана хатняя гаспадыня Відэр Берта Пятроў-

на (н. ў 1893 у мяст. (?) Волк, цяпер Латвія у сям'і рабочага), верагодна, жонка Ільі *Ашаровіча*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як « член сям'і ворага народа» і за «садзейнічанне мужу ў контррэвалюцыйнай дзейнасці» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 19.5.1959 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа В. № 13186-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## Б

**БАБАРЭКА Адам Антонавіч**

Падчас арышту выкладчык БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 24.7.1930 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі. Пасля другога прысуду пакаранне адбываў у Паўночна-чыгуначным канцлагеры НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа Б. і іншых №20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАБРОВІЧ Лявон Андрэевіч**

У 1923 уступіў у КПЗБ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 29/35, кв. 49. Асабовая справа Б. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАБРОВІЧ Ян Станіслававіч**

Са шляхецкай сям'і. Верагодна, брат Лявона Гмырака. Арыштаваны 18.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 26/92, кв. 8. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Далёка-

ўсходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Б. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАГАРОДСКІ Мікалай Мікалаевіч**

З сям'і валаснога пісара. Арыштаваны 1.11. 1937. Асуджаны 14.11.1937 тройкай НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі і за антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Паводле некаторых дадзеных расстраляны 3.1.1938. Рэабілітаваны калегіяй Вярхоўнага суда БССР 15.12.1958. Асабовая справа Б. № 3961-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Літ.: Витебщина архивная: История, фонды, персоналии (сер. XIX—XX вв.). Минск—Витебск, 2002.

**БАГДАНОВІЧ Вячаслаў Васілевіч**

Нар. ў мяст. Дзісна Віленскай губ. (цяпер горад у Міёрскім р-не Віцебскай вобл.). У 1915—19 — у эвакуацыі ў Разані. З 1930 выкладаў у гімназіі імя А.Пушкіна ў Вільні. Паводле некаторых звестак расстраляны ў Вілейскай турме НКВД.

**БАГУН Міхась**

З сям'і службоўца. Арыштаваны 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маляўшчынская, д. 11, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 за «прыналежнасць да антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Асабовая справа Б. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАГУШЭВІЧ Канстанцін Міхайлавіч*** [21.5.1891, Лібава, цяпер Ліепая, Латвія — 29.6.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і бел. служачага. Да арышту спе-

цыяльны рэвізор пры СНК БССР. Арыштаваны 16.10.1937 у Мінску. Асуджаны 29.6.1938 «тройкай» НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай трацкісцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 25.8.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Б. № 7022-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.7.1938 у Мінску была арыштавана дырэктар Мінскага дзіцячага інтэрната, маці дваіх дзяцей, Багушэвіч Лідзія Дзмітрыеўна (н. 25.3.1895 у Рослаўлі Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія, у сям'і рабочага), верагодна, жонка Канстанціна *Багушэвіча*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД СССР была асуджана як « член сям'і ворага народа, прыгаворанага да ВМП» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 5.6.1956. Асабовая справа Б. № 6658-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Административно-территориальное деление союзных республик.*

**БАЗЕКА Іван Рыгоравіч** [1908, в. Залаззе Полацкага пав. Віцебскай губ. — ?], лётчык. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 3.11.1933 у Магілёве. Асуджаны 26.2.1934 калегіяй АДПУ за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.1.1989 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа Б. № 9841 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**БАКШАНІН Станіслаў Станіслававіч** [1883, цяпер тэрыторыя Беларусі — 25.9.1937, Смаленск, НКВД], бібліятэкар. З бел. сям'і. Арыштаваны 20.8.1937 у в. Зыкаліна Смаленскага р-на. Асуджаны 21.9.1937 «тройкай» за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БАЛІЦКІ Антон Васілевіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.9.1930 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 15, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 18.3.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 14.6.1988. Асабовая справа Б. № 20950-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАЛІЦКІ Сяргей Венядзіктавіч** [23.3.1910, Гродна — ?], акцёр. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Гродзенскім драматычным тэатры. Арыштаваны 4.1.1940. Асуджаны 13.7.1940 за «спробу нелегальнага пераходу дзяржаўнай граніцы» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Котласкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены як польскі грамадзянін* 7.9.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.10.1992 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Б. № П-15866 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**БАНДАРЭНКА Паліна Міхайлаўна** [1913, в. Студзянец Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], кветкавод. З бел. сялянскай сям'і. Да арышту працавала ў Брэсцкім трэсце зялёных насаджэнняў. Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 2.1.1950. Асуджана 28.2.1950 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 15.7.1964 пленумам Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Б. № 5858-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

* Тут і далей: паводле савецка-польскага пагаднення ад 30.7.1941.

**БАРАН Сяргей Іосіфавіч**

У 1915—17 служыў у царскай арміі. У 1932 уступіў у ВКП(б). Вучыўся ў МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. 25.9.1933 арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 20, кв. 2. Асуджаны 9.1.1934 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР «як удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Далёкаўсходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Б. № 10182 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАРАНАВЫХ Сымон Якаўлевіч**

Арыштаваны 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Вірская, д. 37а, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі і за антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Б. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАРАНОЎСКАЯ Ганна Паўлаўна**

З сям'і службоўца. Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 27.8.1937 у Мінску па адрасе: Бранявы зав., 13а, кв. 5. Асуджана «тройкай» НКВД 29.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітавана трыбуналам БВА 13.9.1966. Асабовая справа Б. № 19554-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАРЗУНОЎ Георгій Фёдаравіч*** [23.4.1901, с. Гоці Тульскай губ., цяпер Бялёўскі р-н Тульскай вобл., Расія — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Член ВКП(б) з 1925. Да арышту дырэктар трэста Галоўхлеб БССР. Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей.

Арыштаваны 22.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 36/43, кв. 17. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Б. № 10667-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**БАРЭНШТЭЙН Міхаіл (Арон) Якаўлевіч** [1904, Ліпна, цяпер Мазавецкае ваяв., Польшча — ?], фатограф. З сям'і службоўца. Меў уласную фотастудыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.4.1940. Асуджаны 10.8.1940 за «кантрабанду» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Комі АССР. Вызвалены 2.9.1941 як польскі грамадзянін. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 21.2.1994 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Б. № П-20149 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**БАТРАК Іван**

У 1930-я г. член Саюза савецкіх пісьменнікаў. Арыштаваны 31.1.1938 у Маскве па адрасе: праезд Мастацкага тэатра, д. 2, кв. 16. Асуджаны 21.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 21.4.1938 у Маскве («Камунарка»). Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.3.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БЕКЕШ Уладзімір Нікіфаравіч** [1904, Вілейка Віленскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], бібліёграф. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Пра-

цаваў у Вілейскай раённай бібліятэцы. Арыштаваны 19.3.1948. Асуджаны 29.6.1948 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Пячорскі канцлагер МДБ Комі АССР (ст. Інта), потым Інцінскі канцлагер МДБ Комі АССР. Вызвалены ў 1955. Рэабілітаваны 21.9.1955 прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Б. № 15780-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БЕЛАГАЛОВЫ (БЕЛАГАЛОЎ) Іосіф (Язэп) Мацвеевіч (Мацеевіч)**

Падчас чарговага арышту (25.8.1926 ці 25.8.1928) дэкан Магілёўскай каталіцкай архіепархіі. Асуджаны (29.11.1926 або 29.11.1928) калегіяй АДПУ да 5 гадоў ППК. Рэабілітаваны 6.6.1991 пастановай Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Б. № 15184 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**БЕЛЕНЬКІ Абрам Якаўлевіч**

Удзельнік рэвалюцыйнага руху. У 1903 на нелегальным партыйным сходзе арыштаваны і зняволены ў харкаўскую турму, пасля сасланы ў Оршу, дзе жыў пад наглядам паліцыі. У 1904 эміграваў у Францыю, уваходзіў у Парыжскую групу бальшавікоў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Расію: загадваў друкарняй ЦК РСДРП(б) у Петраградзе, удзельнічаў у падрыхтоўцы Кастрычніцкага ўзброенага паўстання. Са снеж. 1917 камісар ВЧК і супрацоўнік Аддзела па барацьбе са службовымі злачынствамі, памочнік Ф.Дзяржынскага. У 1919—24 начальнік аховы Леніна, член калегіі ВЧК—АДПУ, потым на аператыўнай і гаспадарчай рабоце ў НКВД СССР.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**БЕЛЫ Лявон Міхайлавіч**

З сялянскай сям'і. Пляменнік Якуба *Коласа*, брат Міхаіла *Белага*. Падчас арышту выкладчык Мінскага лесатэхнічнага інстытута, жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.4.1957 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 34, кв. 26. Асуджаны 27.6.1957 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК (заменены на 6 гадоў) і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Дубраўны (былы Цемнікоўскі) канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда Беларусі 18.6.1992. Справа братоў Л. і М. Белых № 34949-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЕЛЫ Міхаіл Міхайлавіч**

Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. Памёр у 1970.

**БЕНЯШЭВІЧ Уладзімір Мікалаевіч**

З сям'і службоўца. Скончыў 1-ю віленскую гімназію (1893), Пецярбургскі ун-т (1897). З 1914 — доктар царкоўнага права, прафесар Пецярбургскага ун-та. Выкладаў на Вышэйшых жаночых (Бястужаўскіх) курсах, у Ваенна-юрыдычнай акадэміі. Быў у навуковых камандзіроўках на Афоне (Грэцыя), Сінаі (Егіпет), Турцыі, Палесціне. Член памеснага сабора (1917—18). З 1924 — член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР, вучоны сакратар Руска-візантыйскай слоўнікавай камісіі. Выбраны членам Баварскай (19.2.1927) і Прускай (30.6.1929) акадэміяў навук. У 1922 — член праўлення Таварыства праваслаўных прыходаў Петраграда. Арыштоўваўся ў маі 1922 па справе «аб канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў». Апраўданы на судзе. Зноў арыштаваны 22.11.1928. У яго абарону выступілі дзеячы сусветнай навукі, нобелеўскія лаўрэаты Ф.Нансен, А.Эйнштэйн, акадэмік У.Вярнадскі. Нягледзячы на гэта, 8.8.1931 асуджаны да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вы-

звалены ў лют. 1933. Вярнуўся ў Ленінград, займаўся навуковай працай на кафедры гісторыі Ленінградскага дзяржаўнага ун-та. У 1937 у Мюнхене была выдадзена яго кніга «Синагога Иоанна Схоластика в 50 титулах». Гэта і стала падставай для новага арышту (5.9.1937). 17.1.1938 асуджаны «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны.

Таксама 5.9.1937 у Ленінградзе быў арыштаваны Беняшэвіч Георгій Уладзіміравіч (н. ў снеж. 1911), сын Уладзіміра *Беняшэвіча.* У снеж. 1937 ён быў асуджаны да ВМП і расстраляны.

7.9.1937 у Ленінградзе быў арыштаваны навуковы супрацоўнік Радыевага інстытута Беняшэвіч Дзмітрый Уладзіміравіч (н. ў снеж. 1911, брат-блізнюк Г.Беняшэвіча*),* сын Уладзіміра *Беняшэвіча.* 6.10.1937 ён быў асуджаны да ВМП і расстраляны.

16.9.1937 у Ленінградзе быў арыштаваны Беняшэвіч Дзмітрый Мікалаевіч (нар. ў 1870-я г.; у 1920-я г. тэхнічны дырэктар Днепрапятроўскага НДІ чорнай металургіі), брат Уладзіміра *Беняшэвіча.* У снеж. 1937 ён быў асуджаны да ВМП і расстраляны.

Літ.: Трагические судьбы: Репрессированные ученые в Академии наук СССР. М, 1995.

**БЕРГМАН Аляксандра Рыгораўна**

Жонка Сцяпана *Бергмана (Эпштэйна).*

**БЕРКУТАЎ Мікалай Сяргеевіч** [1922, в. Гурэц Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Удзельнік партызанскага руху ў 1943—44, член КПСС з 1944. Да арышту адказны сакратар рэдакцыі раённай газ. ў г. п. Астравец Гродзенскай вобл. Арыштаваны 31.3.1945. Абвінавачваўся ў «здрадзе радзіме» і «сувязі з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі». Этапаваны ў адзін з канц-

лагераў НКВД Комі АССР. Вызвалены і рэабілітаваны 4—30.8.1945 следчай групай НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Б. № П-6635 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**БЕРНШТЭЙН Барыс Рыгоравіч*** [1894, мяст. Шацк Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Член ВКП(б) з 1919. Падчас арышту часова выконваючы абавязкі дырэктара трэста «Галоўхлеб». У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны «тройкай» НКВД 19.12.1937 як «удзельнік шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Б. № 10652-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.7.1938 у Мінску арыштавана прадаўшчыца ларка № 48 Мінхарчпрама Бернштэйн Рэгіна Самуйлаўна (н. 6.7.1900 у Мінску ў сям'і службоўца), верагодна, жонка Барыса *Бернштэйна*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў гадоў ППК і этапавана ў пас. Нівень Чкалаўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.4.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Б. № 6632-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЖАСТОЎСКІ Ігнат**

Грамадскі і паліт. дзеяч, асветнік. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, на юрыдычным ф-це Маскоўскага ун-та, пасля сканчэння якога служыў асэсарам у Магілёўскай палаце цывільнага суда, пасля старшынёй палаты карнага суда. Яго дом з'яўляўся свецкім салонам Магілёва. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1863—64, у маі 1862 на віленскім з'ездзе

Грамадзянскай арганізацыі прадстаўляў Магілёўшчыну. У пачатку 1863 распаўсюджваў сярод бел. сялянаў буквары і календары, друкаваныя лацінкай. Быў прызначаны паўстанцамі магілёўскім ваяводам. Расійскія ўлады да канца не ведалі пра ролю Б., але ў якасці прэвентыўнай меры арыштавалі яго і выслалі ў Тамбоўскую губ., а на маёнтак наклалі секвестр. У выніку следства над інсургентамі стала зразумела значнасць Б. ў цывільнай арганізацыі паўстанцаў, ён быў вернуты на радзіму і прадстаў перад следчымі камісіямі ў Магілёве і Вільні. Б. паводзіў сябе вельмі асцярожна, папярэдне знішчыў усю карэспандэнцыю, а з яго паказанняў немагчыма было атрымаць пэўнай інфармацыі. Аб ролі, якую надавалі ўлады працэсу над ім, сведчыць тое, што для яго допытаў 28.3.1864 у Магілёве прызначылі асобага чыноўніка па спецыяльных даручэннях пры міністры ўнутраных справаў. У рапарце генерал-губернатару Мураўёву гэты чыноўнік прыйшоў да высновы, што Б. «стаяў на чале агульнага спісу і ўдзельнічаў у рэвалюцыйнай арганізацыі, што існавала ў Магілёўскай губ.». Але да канца роля Б. не была раскрыта. Дзякуючы гэтаму палявы суд у чэрв. 1864 толькі канфіскаваў яго маёнтак і саслаў Б. пад нагляд паліцыі ў Пермскую губ., якую Мураўёў замяніў на Енісейскую губ. У выгнанні знаходзіўся пераважна ў Енісейску, а яго маёнтак быў прададзены за бясцэнак. У 1867 атрымаў права пераехаць у Царства Польскае, але з-за нястачы заставаўся ў Енісейску.

Літ.: *Gieysztor J*. Pamiętniki. Wilno, 1913; *PSB*. III. z. 1.

**БЖОЗА (БЖАЗЭ) Юлій Германавіч**

Расстраляны ў Віцебскай турме НКВД.

**БІРАЛА Захар Якаўлевіч**

Арыштаваны 14.11.1936 у Лагойску па адрасе: вул. Камунальная, д. 6. Дастаўлены ў Мінскую турму НКВД. Асуджа-

ны 15.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны быў, хутчэй за ўсё, ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай вобл. Вызвалены 24.9.1940. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.8.1958. Асабовая справа Б. № 12272-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БІРЫЛА Уладзімір Лукіч** [н. 29.4.1937, Полацк], эканаміст. З сям'і бел. вайскоўца. У 1939 сям'я Б. пераехала ў Гродна. З пачатку вайны з братам і маці ў эвакуацыі ў Омску. З 1945 жылі ў Бабруйску, дзе служыў яго бацька. У 1947 пераехалі ў Мінск. У 1954 Б. скончыў (разам з сынам П.Броўкі Юрыем) СШ № 42 у Мінску і паступіў на аўтатрактарны ф-т Беларускага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 29.3.1955 у Мінску. Пад следствам знаходзіўся ва ўнутранай турме МДБ. Асуджаны 31.5.1955 за тое, што «слухаў радыёстанцыю «Вызваленне» і напісаў на яе некалькі лістоў» да 3 гадоў і 6 месяцаў ППК. Этапаваны ў Мехрэньгскі канцлагер МУС Архангельскай вобл., потым у канцлагер у Северадзвінску. Апошнія шэсць месяцаў зняволення знаходзіўся ў лагеры ў Валагодскай вобл. (ст. Шэксна). Вызвалены 3.11.1956. Вярнуўся на радзіму. Працаваў шліфоўшчыкам на Мінскім мотавеласіпедным заводзе і Мінскім заводзе прамсувязі. Завочна вучыўся на эканаміста ў маскоўскім інжынерна-эканамічным інстытуце імя С.Арджанікідзе, пасля сканчэння якога працаваў эканамістам, старшым і галоўным эканамістам завода. З 1997 — на пенсіі. Рэабілітаваны 24.3.1989 пленумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Б. № 21081-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: Запісы, зробленыя аўтарам даведніка падчас гутаркі з У.*Бірылам* у ягонай кватэры ў кастр. 2004.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Радзівон Анатолевіч**

Вызвалены з канцлагера 1.3.1936. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа Б.-А. № 9653-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БРАНШТЭЙН Мендзель Якаўлевіч*** [1913, Астралэнка, цяпер Мазавецкае ваяв., Польшча ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 23.6.1941. Асуджаны 7.4.1943 «тройкай» НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 3 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.10.1989 пракуратурай Магілёўскай вобл. Асабовая справа Б. № 10695 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**БРАНШТЭЙН Якаў Анатолевіч**

З сям'і службоўца. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 6.6.1937 у Мінску па адрасе: 2-і Апанскі зав., 4б, кв.2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцкай арганізацыі і арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.6.1956. Асабовая справа Б. № 6889-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БРАЎКОВІЧ Фадзей Аляксеевіч**

З бел. рабочай сям'і. Апошняе месца работы — дырэктар Рыбнай гаспадаркі «Волма» Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску 16.8.1936. Асуджаны 17.12.1936 тройкай НКВД як «член контррэвалюцыйнай групы» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у канцлагеры 29.3.1940. Рэабілітаваны

24.1.1962 пленумам Вярхоўнага суда СССР. Групавая справа Б. і іншых № 17387-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БРАУН Гілярый Казіміравіч** [1908, в. Новы Двор, цяпер Мазавецкае ваяв., Польшча — ?], архітэктар. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 15.3.1940 у Слоніме Гродзенскай вобл. Асуджаны 23.11.1940 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Вызвалены як польскі грамадзянін 13.10.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.11.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа Б. № П-11071 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**БРАХМАН Майсей Захаравіч** [1898, Гомель — ?], службовец. Падчас арышту эканаміст завода «Уралсельмаш». Арыштаваны 9.3.1953. Асуджаны 20.4.1953 за «антысавецкую прапаганду» да 10 гадоў ППК. 12.7.1954 амнісціраваны Курганскай абл. камісіяй па перагляду крымінальных спраў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.3.1992 Генеральнай пракуратурай РФ.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области.*

**БРЖАЗОЎСКІ Рамуальд Францавіч**
Верагодна, брат мастака Генрыха Бржазоўскага.

**БРОМБЕРГ Рафаэль Монасавіч** [1916, Адэса, цяпер Украіна — ?]. З сям'і службоўца. Член ВЛКСМ з 1935. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да 2-й сусветнай вайны жыў у Мінску па адрасе: вул. Заслаўская, д. 35, кв. 19. Ажаніўся, гадаваў дзіця. Падчас вайны ў партызанскім атрадзе М.*Нікіціна*. Арыштаваны 18.1.1943. Асуджаны 13.10.1943 (разам з М.*Нікіціным* і інш.)

за тое, што «ў пачатку вайны ўхіліўся ад мабілізацыі ў Чырвоную армію, супрацоўніцтва з гестапа і антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Тагільскі канцлагер НКВД. Вызвалены 12.4.1948. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 25.6.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Б. № 11874-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БРЫТ Міхаіл Ігнатавіч**

У другой палове 1920-х г. вучыўся ў ВНУ ў Маскве, быў сябрам (разам з А.*Гародням*, Ю.*Гаўруком*, У.*Дубоўкам*, А.*Усам* і інш.) Беларускага пралетарскага студэнцкага зямляцтва, Маскоўскай філіі літаратурна-мастацкага аб'яднання «Маладняк». Друкаваўся ў час. «Змаганне» (1924).

**БРЭСЛАЎ Барыс Абрамавіч**

Апошняе месца работы — нам. галоўнага арбітра наркамата харчовай прамысловасці РСФСР. Арыштаваны 31.10.1937 у Маскве па адрасе: Машкоў зав., д. 15, кв. 155. Асуджаны 21.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 21.4.1938 у Маскве («Камунарка»). Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.7.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БУДЗІНСКІ Станіслаў Янавіч**

Апошняе месца работы — навуковы супрацоўнік і выкладчык вышэйшай школы партыйнай прапаганды імя Свярдлова пры ЦК ВКП(б). Арыштаваны 10.6.1937 у Маскве па адрасе: Вялікі Афанасьеўскі зав., д. 37, кв. 39. Асуджаны 21.8.1937 да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 29.4.1955 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**БУЗУК (БУЗЮК) Міхаіл Іванавіч*** [17. 1. 1899, в. Рэцемка Навагрудскага пав. Мінскай губ. — ?], навуковец, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Да арышту дацэнт кафедры аграхіміі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 28.10.1937 «тройкай» НКВД за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.2.1989 пленумам Вярхоўнага суда БССР. Справа Б. № 9707 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**БУЗУК Пётр Апанасавіч**

З сям'і службоўца. Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 9.2.1934 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 5, кв. 17. Асуджаны «тройкай» НКВД 3.4.1934 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да 3 гадоў ссылкі. У 1937 зноў арыштаваны і асуджаны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 26.10.1956. Групавая справа Б. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУРДЗЕЙКА Андрэй Вікенцевіч**

Гісторык, педагог. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.7.1930. Рэабілітаваны 15.11.1957 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Групавая справа Б. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУРСЕВІЧ Максім Тарасавіч**

Член ЦВК БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 20, кв. 1. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД. 9.10.1937 «тройкай» НКВД Ленінградскай вобл. асу-

джаны да ВМП. Расстраляны 3.11.1937. Справа спынена 16.8.1956.

**БУРСТЫН Цэлясцін Лявонавіч**

Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 11.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 43. Асуджаны за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Аўстрыі і Польшчы». Загінуў (не вытрывала катаванняў сэрца) у мінскай турме НКВД 2.10.1938. Рэабілітаваны пастановай нам. галоўнага ваеннага пракурора БВА 2.3.1956. Асабовая справа Б. № 5560-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУХТА Ірына Рыгораўна** [1924, в. Вулька Драгічынскага пав. Палескага ваяв., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец, сястра Яўгеніі *Бухты*. З сялянскай сям'і. Да арышту супрацоўніца «Саюздруку» ў Пінску Брэсцкай вобл. Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 19.2.1953. Асуджана 29.4.1953 за «здраду радзіме» да 25 гадоў ППК (заменена на 10) і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў Мінеральны канцлагер Комі АССР (Інта). Вызвалена 17.5.1956. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.5.1993 прэзідыумам Брэсцкага абл. суда. Справа Б. і яе сястры № 11716-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**БУХТА Яўгенія Рыгораўна** [1930, хут. Людвінова Драгічынскага пав. Палескага ваяв., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец, сястра Ірыны *Бухты*. З сялянскай сям'і. Да арышту працавала бухгалтарам у канторы па нарыхтоўцы жывёлы ў Драгічыне Брэсцкай вобл. Арыштавана 17.2.1953. Асуджана 29.4.1953 за «сувязь з бандай» да 25 гадоў ППК (заменена на 10 гадоў) і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў Ангарскі канцлагер МУС Іркуцкай вобл. Вызвалена 1.8.1956. Далейшы лёс невядо-

мы. Рэабілітавана 12.5.1993 прэзідыумам Брэсцкага абл. суда. Справа Б. і яе сястры № 11716-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**БЯГАНСКАЯ Ядвіга Іосіфаўна**

Працавала ў 20-й Мінскай школе імя М.Горкага. Выйшла замуж за Аляксандра *Сака*, гадавала дзіця. Арыштавана 6.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Р. Люксембург, д. 54, кв. 1. Асуджана 4.1.1938 асобай нарадай пры НКВД за «контррэвалюцыйную агітацыю» і «неданясенне пра шпіёнскую дзейнасць мужа» да 10 гадоў ППК. Этапавана ў Кулайскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Рэабілітавана трыбуналам БВА 26.10.1962. Асабовая справа Б. № 17936-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Р.Люксембург, д. 54 быў арыштаваны машыніст Паравознага дэпо ст. Мінск Бяганскі Іосіф Вікенцевіч (н. 1.1.1881 у в. Лозіна Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл.), бацька Ядвігі *Бяганскай*. 23.9.1937 «тройкай» НКВД асуджаны за «шпіянаж на карысць буржуазнай польскай разведкі» да ВМП і расстраляны (17.10.1937) у Мінскай унутранай турме НКВД. Рэабілітаваны 11.4.1956 Вярхоўным судом СССР. Яго справа № 5901-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЯЛОЎ Іван Панфілавіч** [27.6.1893, в. Каліннікава Наўгародскай губ., Расія — 29.7.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі военачальнік, камандарм 1-га рангу (1935). З сялянскай сям'і. Скончыў Вышэйшыя акадэмічныя курсы Акадэміі генштаба (1923). Удзельнік 1-й сусветнай вайны. У Чырвонай арміі з 1918. З крас. 1919 член РВС і галоўнакамандуючы войскамі Туркестанскай рэспублікі. З 1921 камандуючы стралковай дывізіі, корпуса, памочнік камандуючага і камандуючы войскамі Паўн.-Каўказскай ВА. З 1931 камандаваў войскамі Ленінградскай, з 1935 Маскоўскай ВА. У чэрв.

— снеж. 1937 камандуючы войскамі Беларускай ВА. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (1937). Арыштаваны 7.1.1938 у Смаленску. Этапаваны ў Маскву. Асуджаны 29.7.1938 «тройкай» НКВД як «былы член партыі левых эсэраў» і за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 26.11.1955 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**БЯЛЬКЕВІЧ Янка**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.10.1960. Групавая справа Б. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## В

**ВАЗІЛА Аляксандр Цімафеевіч**

Падчас знаходжання ў зняволенні асуджаны «тройкай» НКВД Іванаўскай вобл. 2.12.1937 за «антысавецкую агітацыю і ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 20.4.1957 з-за адсутнасці складу злачынства.

Кр.: *Книга Скорби.*

**ВАЙНЕР Файвель Хаймавіч*** [1897, Бабруйск — 2.12.1937, Бабруйск (?), турма НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту дырэктар Бабруйскага завода Сульфіттрэст. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «член контррэвалюцыйнай дыверсійнай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з

канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 12.11.1955 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа В. № 3941 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

2.4.1938 у Бабруйску арыштавана хатняя гаспадыня, маці траіх дзяцей, Вайнер Эсфір Лезераўна (н. 1896 у Бабруйску ў сям'і службоўца), жонка Файвеля *Вайнера*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 5.11.1991 пракурорам Магілёўскай вобл. Асабовая справа В. № 14692 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

2.4.1938 разам з маці арыштавана вучаніца бабруйскай СШ № 1 Вайнер Іта-Лея Файвелеўна (нар. ў 1919), дачка Эсфір і Файвеля Вайнераў. Асуджана не была. Вызвалена 9.8.1938. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа В. № 4007 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ВАЙНОЎ [ВОЙНАЎ] Віктар Лявонавіч**

З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 8.12.1936 (?) у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 60, кв. 4. Асабовая справа В. № 5913-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 60, кв. 4 арыштавана на той час рабочая Мінскай скураной фабрыкі імя Куйбышава (а ў 1930—36 партыйны і савецкі работнік у Мінску і Смалявічах) Растоўская Рэвека Лазараўна (нар. 31.3.1904 у Цельшай Ковенскай губ., цяпер Літва, у сям'і службоўца), жонка Віктара *Вайнова*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 4.9.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.1.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 5881-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЙЦЯХОЎСКАЯ** ***Лідзія Фёдараўна**** [1921, в. Астроўцы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала выкладчыцай Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштавана 22.12.1944. Асуджана 21.11.1945 «тройкай» НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 3 гадоў ППК. Вызвалена 21.11.1945 па амністыі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 25.5.1992 пракурорам Магілёўскай вобл. Асабовая справа В. № 14883 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАЙШНАРАС (САДАЙНІС) Феліксас Вінцэнтавіч**

У 1911 скончыў пачатковую школу. Удзельнік грамадзянскай вайны, 1 з'езда бел. пісьменнікаў (1934). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 23.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 3, кв. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.8.1939 за «шпіянаж» і як «член падпольнай фашысцкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 5 гадоў ссылкі. Жыў у Казахстане (працаваў у прамарцелі імя 3-й Пяцігодкі). Вызвалены ў лют. 1944. Служыў у 16-й Літоўскай дывізіі Савецкай арміі. Дэмабілізаваўся ў чэрв. 1949. Узнагароджаны трыма медалямі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда Літоўскай ССР 20.5.1957. Асабовая справа В. № 11289-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЛАДЗЬКО Пётр Іосіфавіч**

1.11.1937 у Мінску па адрасе: Омскі зав., д. 7, кв. 1 арыштавана хатняя гаспадыня Валадзько Людміла Федасееўна (н. 17.8.1894 у Пінску Мінскай губ., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. ва ўкраінскай сялянскай сям'і), жонка Пятра *Валадзько*. 19.8.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «агент

польскай разведкі» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 1.3.1963 трыбуналам БВА. Асабовая справа В. № 4600-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЛАСЕВІЧ Міхаіл Іванавіч*** [1883, в. Гаруцішкі Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 29.9.1948, Цюменская вобл., ГУЛАГ], педагог, навуковец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў у БДУ. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 17.12.1944 у Мінску. Асуджаны 25.7.1946 як «памагаты нямецкіх акупантаў» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў адзін з Цюменскіх канцлагераў. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 15.4.1993. Асабовая справа В. № 35132-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАЛКАВЕЦ Мікалай Васілевіч** [1895, в. Навасёлкі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. 9.9.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сямі. Падлеткам застаўся круглым сіратой, але трымаў спраўную гаспадарку. З пачаткам 1-й сусветнай вайны ў царскай арміі, з 1919 у Чырвонай арміі, удзельнічаў у грамадзянскай вайне, у падзеях у Кранштаце вясной 1921. У 1923 вярнуўся на радзіму, ажаніўся. Працаваў у камітэце дапамогі беднякам. У пачатку 1930-х г. выбраны старшынёй калгаса. У 1934 цяжка паранены зладзеямі, што залезлі ў яго хату. У В. і яго жонкі Вольгі Прохараўны (н. ў 1903) нарадзілася 8 дзяцей: Вольга (1923), Настасся (1925), Ніна (1927), Ганна (1930), Пятрусь (1932), Сяргей (1936), Іван (1937), Леанід (?). Арыштаваны па даносе 13.2.1938. Пад следствам знаходзіўся ў Барысаўскай турме. Асуджаны 9.4.1938 тройкай

НКВД як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 31.12.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа В. № 11308-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Пасля XX зезду КПСС сын В. студэнт БДУ Пятрусь напісаў у КДБ БССР запыт аб лёсе бацькі. Праз некаторы час ён быў выкліканы разам з маці ў органы дзяржбяспекі, дзе ім паведамілі, што «грамадзянін Валкавец М.В. памёр у месцы зняволення у 1943 г.»

7.10.1937 ў Барысаве ў сваёй хаце быў арыштаваны вартаўнік 2-га сплаўучастка Валкавец Прохар Канстанцінавіч (н. ў 1865 у в. Навасёлкі), бацька Вольгі Валкавец. 18.10.1937 тройкай НКВД ён быў асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны 8.12.1964 Вярхоўным судом БССР. Групавая справа В. і інш. (па ёй таксама праходзілі аднавяскоўцы Прохара Валкаўца Валкавец Пётр Паўлавіч (1910) і Гарэцкі Станіслаў Пятровіч (1892) № 19095-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЛОШЫН Павел Пятровіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: Падгорны зав., д. 4, кв. 1. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД. Асабовая справа В. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЛЫНЕЦ Флягонт Ігнатавіч**

Пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД.

**ВАЛЬКОВІЧ Аляксандр Іванавіч**

Нарадзіўся ў Літве ў бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас другога арышту планавік арцелі імя 6-га з'езда Саветаў. Арыштаваны 25.5.1937. Асуджаны за «антысавецкую арганізацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны 4.11.1937. Рэабілітаваны 26.4.1989

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ВАЛЬКОВІЧ Любоў Фёдараўна**

25.10.1945 у Мінску па адрасе: вул. Каменная, д. 15, кв. 4 арыштаваны старшы дзяржаўтаінспектар Упраўлення міліцыі па Мінскай вобл. Акінчыц Атон (Отан) Міхайлавіч (н. 29.3.1904 ў в. Каменка Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Кармянскі р-н Гомельскай вобл. ў сям'і рабочага; атрымаў вышэйшую адукацыю), муж Любові *Вальковіч*. 15.2.1947 асобай нарадай МДБ асуджаны разам з жонкай за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 8.10.1993 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Беларусі. Агульная справа А. і яго жонкі № 35650-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАНСОВІЧ Люцыян Казіміравіч** [1922, Гродна — ?], фатограф. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у «Спецгандлі» ў Гродне. Арыштаваны 11.1.1945. Асуджаны 24.11.1945 за «ўдзел у польскай нацыяналістычнай арганізацыі АК» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.7.1994 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа В. № П-20945 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ВАНСОЎСКІ Браніслаў Антонавіч**

Асуджаны 17.12.1937 як «адзін з кіраўнікоў ПАВ». Рэабілітаваны трыбуналам БВА. Асабовая справа В. № 18123-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАСІЛЕВІЧ Іван Антонавіч** [1894, мяст. Будслаў Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска ў Мядзельскім р-не

Мінскай вобл. — 24.11.1937, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1919 нам. наркама харчавання Літоўска-Беларускай ССР, кіраўнік харчовага забеспячэння Паўдн.-Зах. фронту, губхарчкамісар у Екацярынаславе, член РВС Харкаўскай ВА, пасля кіраўнік падатковага ўпраўлення Наркамфіна СССР. З 1925 наркам унутранага гандлю, з 1926 наркам фінансаў БССР. У 1927—30 другі сакратар, член Бюро ЦК КП(б)Б. Працаваў у органах Наркамзема СССР, кіраўніком Амурскага аблвыканкама, загадчыкам сельгасаддзела Далёкаўсходняга крайкама ВКП(б). Член ЦВК СССР (1925—30). Арыштаваны 20.6.1937. Асуджаны тройкай НКВД як «член (з 1933) антысавецкай арганізацыі правых, польскі і японскі шпіён» і за «шкодніцкую дзейнасць у гаспадарчым будаўніцтве» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 354.

**ВАСІЛЕНКАЎ Васіль Ягоравіч** [1918, пас. Сафонава Смаленскай губ., Расія — ?], акцёр. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Доме культуры ў Лідзе Гродзенскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 23.12.1944. Асуджаны 8.4.1946 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 13.9.1994 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа В. № П-21167 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ВАСІЛЕЎСКІ Даніла Мінавіч**

Арыштаваны 12.12.1936. Абвінавачваўся ў прыналежнасці да «контррэвалюцыйнай групы» і ў тым, што ўкараняў «контррэвалюцыйную нацдэмаўскую прапаганду ў працэс выкладання», ідэалізаваў контррэвалюцыянера географа

А.*Смоліча*, яго нацдэмаўскія падручнікі, «выхоўваў студэнтаў у антысавецкім духу». На папярэднім дазнанні В. сябе вінаватым не прызнаў. 20—21.4.1937 у Мінску адбылося пасяджэнне калегіі Вярхоўнага суда БССР, якая асудзіла яго да 5 гадоў пазбаўлення волі з забаронай пасля вызвалення 3 гады ўдзельнічаць у выбарах. Але ў Маскве гэты прысуд палічылі занадта мяккім, і 7.2.1938 ён быў апратэставаны нам. старшыні Вярхоўнага суда СССР В.Ульрыхам. 27—29.10.1938 справа В. была перагледжана судовай калегіяй Магілёўскага абл. суда. У выніку новага прысуду атрымаў 10 гадоў ППК. Этапаваны быў, верагодна, ва Ухта-Пячорскі, затым ва Ухта-Іжэмскі канцлагеры НКВД Комі АССР. Вызвалены 10.8.1954. Асабовая справа В. № 5382 (перагледжана прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 13.6.1956) захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Літ.: *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Магілёва.* Мн., 1998.

**ВАШКЕВІЧ Пётр Емяльянавіч**

19—24.12.1927 удзельнічаў у 2-й канферэнцыі архіўных работнікаў БССР. Друкаваўся ў час. «Архивное дело» (1936).

**ВЕРАМЕЙ-ПАБЯДЗІНСКІ Мікалай Сцяпанавіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту нам. дырэктара Мінскага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 16.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Шырокая, д. 28/4, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. 10.10.1937 камісіяй НКВД і пракуратурай СССР асуджаны да ВМП. Расстраляны ў канцлагеры. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа П. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВЕЧАР Ніка Фёдараўна**
Жонка пісьменніка Платона *Галавача*.

**ВІЛКАМІРСКІ Аліёкім Саламонавіч** [1892, в. Свір Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?]. Падчас арышту машыніст Омскага шыннага завода. Арыштаваны 10.3.1953. Асуджаны 9.6.1953 за «антысавецкую прапаганду» да 25 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.1.1991 прэзідыумам Вярхоўнага суда РСФСР.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**ВІНЕР Уладзімір Уладзіміравіч**
У 1923—24 друкаваўся ў час. «Голос революционного студенчества» (Горкі). У другой палове 1920-х г. працаваў над праблемамі генетыкі, селекцыі, раслінаводства.

**ВІТАЛІН Змітро**
Арыштаваны 19.3.1933 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 53, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» да 2 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа С. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВІТКОЎСКІ Іван Антонавіч**
У 1919—21 служыў у палітупраўленні Паўночна-Каўказскага фронту Чырвонай арміі. Падчас арышту дырэктар Польскага інстытута БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.7.1933 у пас. Іскра Мінскага (?) р-на. Асуджаны 27.2.1934 як «член ПАВ» і за «антысавецкую нацыя-

налістычную дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер АДПУ Новасібірскай вобл. (Марыінск). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 29.5.1959. Асабовая справа В. № 14225-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВОЛЬНЫ Анатоль**

З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. М.Горкага, д. 4, кв. 6. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.12.1957. Асабовая справа В. № 11054-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВОРАН-КУРКОЎСКІ Іосіф Іосіфавіч*** [сапр.: Куркоўскі; 13.3.1889, маёнтак Янчэва Ломжынскай губ., цяпер Польшча — 13.1.1938, Магілёў, турма НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, педагог. З польскай рабочай сям'і. У 1922—24 жыў у Ломжы, Кёнігсбергу, Гродне і інш. З 1923 — член КПЗБ. Арганізатар і кіраўнік Брэсцкага (1923), Баранавіцка-Слонімскага акругкамаў КПЗБ. Дэлегат 2-й канферэнцыі КПЗБ (Вільня, 1924). За рэвалюцыйную дзейнасць двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі, правёў каля 3 гадоў у турме. З 1929 у СССР. Скончыў Камуністычны ун-т народаў Захаду ў Маскве. Падчас арышту выкладчык гісторыі ў тэхнікуме ў Магілёве. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.8.1937. Асуджаны 6.12.1937 «тройкай» НКВД як «агент разведорганаў буржуазнай Польшчы і член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.7.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа В. № 3630 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**ВЫДРА Рувім Маркавіч**

Муж Розы *Іофе*. Член ВКП(б) з 1919. Гадаваў дваіх дзяцей. У 1937 выключаны з ВКП(б) пярвічнай арганізацыяй як «варожы элемент». Арыштаваны 6.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 8. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 да ВМП з канфіскацыяй маёмасці як «член контррэвалюцыйнай падпольнай трацкісцка-тэрарыстычнай арганізацыі» і за «шкодніцкую работу». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.8.1956. Асабовая справа В. № 7255-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВЫСОЦКІ Антон Антонавіч**

Друкаваўся ў час. Польскага краязнаўчага таварыства «Ziemia».

**ВЯРСОЦКІ Янка (Іван) Іванавіч**

Трэці раз арыштаваны ў Алма-Аце 4.9.1935. Асуджаны 25.11.1935 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны 5.10.1989 пракуратурай Казахскай ССР.

Кр.: *Книга Скорби*.

**ВЯЛІЧКА Платон Іванавіч**

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў настаўнікам у школе в. Батаева Касцюковіцкага (цяпер Хоцімскага) р-на Магілёўскай вобл. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Першы раз арыштаваны 18.3.1931. Асуджаны 26.7.1931 калегіяй АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер АДПУ. Па першай справе (№ 11045; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) рэабілітаваны 16.1.1989 калегіяй Вярхоўнага суда БССР .

**ВЯРБІЦКІ Юльян Леапольдавіч** [1912, мяст. Мядзель Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 19.5.1944, Монтэ-Касіна, Італія], вайсковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. З 1935 да 1939 — капрал Войска польскага. Арыштаваны 30.4.1940 на хут. Пасека тагачаснага Мядзельскага р-на. Асуджаны 30.12.1940 асобай нарадай пры НКВД як «член контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР (ст. Котлас). Верагодна, у вер. 1941 вызвалены як польскі грамадзянін і залічаны ў армію пад камандаваннем генерала У. Андэрса. Браў удзел у італьянскай кампаніі, у тым ліку ў бітве за Монтэ-Касіна, у якой і загінуў. Рэабілітаваны 30.3.1992 пракуратурай Беларусі. Асабовая справа В. № 32389-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 32.



**ГАВАРУШКА Яфім Максімавіч**

Быў жанаты. Арыштаваны 9.12.1936 у мяст. Смілавічы. Асуджаны 2.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Асабовая справа Г. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАДЫЦКАЯ-ЦВІРКА Алена Іпалітаўна*** [1905, Мінск — ?], службовец, верагодна, сваячка Кастуся *Гадыцкага-Цвіркі*. З шляхецкай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Падчас арышту рахункавод завода «Пралетарый». Арыштавана 22.2.1931 у Мінску па адрасе: 1-ы Шпітальны зав., д. 1/14, кв.

3. Асуджана 17.5.1931 калегіяй АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.7.1989 пракуратурай БССР.

**ГАДЫЦКАЯ-ЦВІРКА Ганна (Антаніна) Міхайлаўна*** [1879, Мінск — ?], хатняя гаспадыня, верагодна, жонка або сваячка Кастуся *Гадыцкага-Цвіркі*. З шляхецкай сям'і. Арыштавана 22.2.1931 у Мінску па адрасе: 1-ы Шпітальны зав., д. 1/14, кв. 3. Асуджана 17.5.1931 калегіяй АДПУ за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.7.1989 пракуратурай БССР. Справа сям'і Г.-Ц. № 26249-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЙКА Сяргей Андрэевіч**

Асуджаны 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 2 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Г. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЛАБУРДА Аляксандр Ніканоравіч** [1891, мяст. Мір Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 27.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Са шматдзетнай сялянскай сям'і. Скончыў царкоўнапрыходскую школу. Працаваў счэпшчыкам вагонаў на ст. Гарадзея. Служыў у царскай арміі. Пасля заканчэння школы прапаршчыкаў — камандзір узвода. У 1917 старшыня салдацкага камітэта палка. Далей — павятовы ваенны кіраўнік Навазыбкаўскага камісарыята. З-за хваробы (захварэў на сухоты) дэмабілізаваны. Вярнуўся ў Беларусь. Узначаліў саўгас Грудзінаўка на Быхаўшчыне, потым дырэктар саўгаса Бацэвічы ў Клічаўскім р-не Магілёўскай вобл. З 1929 удзельнічаў у асушэнні поймы ракі Арэсы. У 1932 пераехаў у Мінск,

працаваў у сістэме прафсаюзаў, наркамаце сувязі. Гадаваў дачку Тамару (будучая выпускніца МВПІ) і сына Усевалада (будучы афіцэр Савецкай арміі). Арыштаваны 18.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Уфімская, д. 4, кв. 6. Асуджаны 27.12.1937 тройкай НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 18.2.1960 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г. № 16159-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

30.6.1944 у Мінску ў нямецкім канцлагеры на вул. Шырокай была расстраляна падпольшчыца Вера Львоўна Галабурда, жонка Аляксандра Галабурды.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 361—363.

**ГАЛАВАЧ Платон Раманавіч**

У 1923 уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 34. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» і за «правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа Г. № 6852-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЛАВІНСКІ Аляксандр Кузьміч**

Верагодна, брат Антона *Галавінскага.* Падчас арышту загадчык секцыі (аддзела) праектнага бюро Інстытута прамысловасці. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 18.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.6.1931 як «член контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Г. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЛАДЗЕД Мікалай Мацвеевіч**

Арыштаваны як «адзін з кіраўнікоў антысавецкага аб’яднанага падполля ў Беларусі» і «за контррэвалюцыйную работу». Рэабілітаваны Генеральным пракурорам СССР 22.3.1956. Асабовая справа Г. № 6571-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.6.1937 як «жонка ворага народа, [былога] старшыні Саўнаркама БССР» была арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей, Галадзед Вера Сцяпанаўна (н. 11.1.1900 у Лідзе; атрымала сярэднюю адукацыю). 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР яна была асуджана да 8 гадоў ППК. Верагодна, як і шмат хто з жонак рэпрэсаваных партыйных, дзяржаўных, гаспадарчых дзеячаў Беларусі, яна была этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.5.1956. Яе асабовая справа № 6616-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.6.1937 у Мінску па месцу жыхарства за «самавольнае пакіданне аховы арыштаванага кіраўніка антысавецкага падполля М.Галадзеда, які выкінуўся з акна», быў арыштаваны афіцэр дзяржбяспекі, супрацоўнік НКВД, следчы, які вёў справу Г. і давёў яго да самазабойства, Рулёў Аляксей Іванавіч (н. ў 1897, рускі, член ВКП(б), меў незаконачаную сярэднюю спецыяльную адукацыю). 4 або 28 жн. 1938 пастановай асобай нарады пры НКВД ён быў вызвалены (а пазней рэабілітаваны) з унутранай турмы НКВД.

**ГАНЧАРЫК Міхаіл Мікалаевіч**

У 1927 уступіў у ВКП(б). У пачатку 1930-х г. нам. дырэктара Інстытута біялогіі БелАН. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 14.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 29/35, кв. 49а. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер (Свабодны, цяпер Амурская вобл.). З мая 1938 па-

каранне адбываў, верагодна, у Амурскім чыгуначным канцлагеры, пасля у Свабодненскім (як і Амурскі, знаходзіўся побач з расфарміраваным Байкала-Амурскім) альбо Ніжне-Амурскім лагеры. Вызвалены 8.1.1947. Другі раз асуджаны асобай нарадай МДБ СССР 18.5.1949 за тое самае «злачынства» на пасяленне ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Г. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.7.1938 у Мінску была арыштавана прыбіральшчыца мінскай СШ № 20 Ганчарык Ульяна Міхайлаўна (н. ў 1899 у в. Ерчыкі Косаўской вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. у бел. сялянскай сям'і), верагодна, былая жонка Міхаіла *Ганчарыка*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў ссылкі ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 31.3.1989 пракуратурай БССР. Яе асабовая справа № 27579-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАРАНІН Фёдар Піліпавіч*** [22.4.1898, Шклоў Магілёўскай губ. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і бел. служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту начальнік аддзела Беларускага ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 25.10.1937 у Мінску па адрасе: Авіяцыйны (Веласіпедны) зав. д. 8/1, кв. 1. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 12.10.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Г. № 10915-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.2.1938 у Мінску па адрасе: Авіяцыйны (Веласіпедны) зав. д. 8/1, кв. 1 арыштавана рабочая швейнай фабрыкі «Кастрычнік», маці дваіх дзяцей, Гараніна Надзея Яфімаўна (н. ў 1903 у в. Дварэцкае Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ, цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл., у сям'і службоўца), жонка Фёдара *Гараніна*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як

«член сям'і ворага народа» і за «садзейнічанне мужу ў контррэвалюцыйнай дзейнасці» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 13.12.1957 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Г. № 11149-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАРАЎСКІ Вільгельм Іванавіч**
Брат Адама *Гараўскага-Гракалы*.

**ГАРАЧЫ Эдуард Мікалаевіч**
Заслужаны акцёр Беларусі (1995). Нар. ў Мінску 19.10.1936. З 1941 да 1945 з маці ў бежанстве ў Яраслаўлі. У маі 1945 вярнуўся на радзіму. У 1954 скончыў 26-ю чыгуначную СШ у Мінску. Паступіў на акцёрскі ф-т Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, які скончыў у 1958. Працаваў у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Арыштаваны 25.1.1962 у будынку тэатра. Пасля прыгавору этапаваны ў лагерны пункт Яваш (п/с 385—7). Вызвалены 25.1.1964. Вярнуўся на радзіму. З крас. 1964 да жн. 1965 працаваў у Магілёўскім абл. драматычным тэатры. З восені 1965 педагог Народнага тэатра палаца культуры Мінскага трактарнага завода. З 1966 — акцёр Дзяржаўнага рускага тэатра імя Горкага.

**ГАРБАЦЭВІЧ Іван Яўсеевіч*** [1908, мяст. Дукора Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер вёска Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — ?], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў настаўнікам у СШ ў мяст. Круглае (цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл.). Арыштаваны 14.7.1958. Абвінавачваўся ў «шпіянажы». Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Г. № 5865 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**ГАРБАЧОЎ Барыс Сяргеевіч** [19.8.1892, в. Забалацце Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 3.7.1937, Масква, НКВД], савецкі ваенны дзеяч, камкор (1935). З 1913 у арміі. Удзельнік 1-й сусветнай вайны, старшы унтэр-афіцэр. У 1917 па спісе бальшавікоў выбраны ў Мінскі савет. Арганізаваў атрад Чырвонай гвардыі, на чале якога ўдзельнічаў у ліквідацыі мяцяжу корпуса Доўбар-Мусніцкага, у барацьбе з германскімі акупантамі. У грамадзянскую вайну камандаваў палком, потым брыгадай, дывізіяй, затым начальнік і ваенкам Аб'яднанай ваеннай школы імя ВЦВК. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1926). У 1937 камандуючы войскамі Забайкальскай, Уральскай ВА. Член Ваеннага савета пры НКА СССР. Выбіраўся членам ВЦВК і ЦВК СССР. Узнагароджаны 3 ордэнамі Чырвонага Сцяга. Аўтар успамінаў «У барацьбе за Савецкую Беларусь». Арыштаваны 4.5.1937 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2. Асуджаны 3.7.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 14.3.1956.

Кр.: *ЭГБ,* т. 2; *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ГАРБУЗ Сцяпан Кузьміч** [партыйны псеўданім: Паддубны; 28.12.1894, в. Касцюкі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 27.8.1944], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі. Скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю (1916, у Мсціславе), БДУ (1925). З 1916 у арміі, потым настаўнічаў на Случчыне і Бабруйшчыне. Са студз. 1919 у Чырвонай арміі на Зах. фронце, уступіў у ВКП(б). З 1921 працаваў ва ўстановах Наркамасветы БССР, у ЦК КП(б)Б. У 1924—27 загадчык арганізацыйнага аддзела Полацкага, сакратар Калінінскага акруговых камітэтаў КП(б)Б, нам. загадчыка арганізацыйнага аддзела ЦК КП(б)Б. Член ЦВК БССР (1927). Член ЦК КП(б)Б (1927—28). З 1928 на

падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. З 1930 у Камуністычным універсітэце журналістыкі ў Маскве, на партыйнай і гаспадарчай рабоце. 20.7.1939 асуджаны трыбуналам Маскоўскай ВА да 8 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны.

Кр.: *ЭГБ,* т. 2.

**ГАРОДНЯ Алесь**

З памешчыцкай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 3.11.1930 у Мінску па адрасе: зав. Маляўскі, д. 19. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 15.6.1931 за тое, што «скрываў каштоўныя звесткі пра беларускіх нацыянал-дэмакратаў», да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэла-Фінскай АССР (ст. Мядзведжая гара). Рэабілітаваны 13.9.1988. Асабовая справа Ф. № 20966-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАРТНЫ Цішка**

З сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў у БелАН. Арыштаваны 15.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 56. Асабовая справа Г. (спынена ў сувязі з яго смерцю) № 4883-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.8.1937 у Мінску арыштавана супрацоўніца Белдзяржкіно, маці дваіх дзяцей, Жылуновіч Надзея Сцяпанаўна (н. ў вер. 1894 у Ленінградзе ў сям'і рабочага), жонка Цішкі *Гартнага*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» і «саўдзел у антысавецкай дзейнасці» да 5 гадоў ссылкі і этапавана ў Баровічы Ленінградскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.6.1966 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Ж. № 19492-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

25.8.1937 у Мінску арыштавана член ВЛКСМ студэнтка Мінскага медыцынскага інстытута Жылуновіч Галіна Дзмітрыеўна (н. 21.2.1917 у Ленінградзе), дачка Цішкі Гарт-

нага. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД разам з маці асуджана за «неданясенне» да 5 гадоў ссылкі і этапавана ў Баровічы Ленінградскай вобл. Пасля вызвалення жыла ў Беларусі. Рэабілітавана 17.6.1966 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа Ж. № 19491-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАРЭЦКІ Гаўрыла Іванавіч**

Быў жанаты, гадаваў двух сыноў, Усяслава і Радзіма. Арыштаваны 24.7.1930 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 37, кв. 5. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 30.5.1931 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да ВМП. Прыгавор заменены на 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэла-Фінскай АССР. Вызвалены 5.10.1934. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа Г. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Выбранае. Мн., 2002.

**ГАРЭЦКІ Максім Іванавіч**

Быў жанаты, гадаваў дачку Галіну і сына Леаніда. Першы раз бальшавікамі арыштаваны 16.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Групавая справа Г. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЎРУК Юрка (Юрый Паўлавіч)**

З сям’і бел. службоўца. Арыштаваны 8.2.1935 у Магілёве. Асуджаны 28.4.1935 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 27.2.1958. Асабовая

справа Г. № 15523 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ГАЎРЫЛАВА Любоў Лявонаўна** [1926, Магілёў — ?], работнік культуры. З сям'і службоўца. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працавала ў Магілёўскім гарадскім Доме народнай творчасці. Арыштавана 17.11.1944. Асуджана 24.11.1945 за «здраду радзіме» да 5 гадоў ППК. Этапавана ў Асобы канцлагер № 7 МДБ СССР. Вызвалена 30.5.1954. Рэабілітавана 14.8.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г. № 2537-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Літ.: *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Магілёва*. Мн., 1998.

**ГАЎРЫЛІК Язэп Емяльянавіч**

Муж Ванды *Гаўрылік*. Падчас першага арышту загадчык сектара (аддзела) выканання наркамата асветы БССР. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэла-Фінскай АССР. Паўторна асуджаны 25.11.1937 да ВМП. Расстраляны ў Ленінградзе.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ГВАЗДОЎ Мікола**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Р.Люксембург, д. 44/2, кв.1. Асуджаны 27.6.1936 за «антысавецкую агітацыю». Рэабілітаваны 13.7.1989. Асабовая справа Г. № 27114-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕЛЬТМАН Стафан Лявонавіч**

Арыштаваны 5.4.1937 у Маскве па адрасе: вул. Новаслабадская, д. 67, кв. 72. Асуджаны 20.9.1937 «тройкай» НКВД за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі ПАВ» да ВМП.

Расстраляны ў Маскве на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище*.

**ГЕНРЫЦКІ Альфрэд Васілевіч** [20.4.1881, Масква — ?]. З сям'і службоўца. Да арышту бурмістр (бургамістр) Нясвіжа Мінскай вобл. Арыштаваны 29.9.1939 у Нясвіжы па адрасе: вул. Смігла, д. 24. Асуджаны 19.10.1940 асобай нарадай за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.7.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа Г. № 25768-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГЕРМАНОВІЧ Маркіян Якаўлевіч**

Савецкі ваенны дзеяч, камкор. Н. 29.10(10.11).1895. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Скончыў школу прапаршчыкаў (1916). З 1918 у Чырвонай арміі, камандзір узвода, батальёна, у 1919—20 камандзір брыгады, удзельнік разгрому армій Урангеля, Махно. Узнагароджаны 2 ордэнамі Чырвонага Сцяга. Пасля грамадзянскай вайны камандзір дывізіі, корпуса. У 1926—28 памочнік камандуючага войскамі БВА, потым — Сярэднеазіяцкай і Маскоўскай ВА. З 1933 начальнік Акадэміі механізацыі і матарызацыі РСЧА, адначасова з 1934 член Ваеннага савета пры Наркамаце абароны СССР. Член ЦВК БССР у 1925—27, кандыдат у члены ЦВК БССР у 1927—28. На радзіме і ў Жабінцы яго імем названы вуліцы.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ГЕРЦОВІЧ Леў Барысавіч**

У 1932 выбраны кандыдатам у члены бюро ЦК КП(б)Б. У 1932—34 сакратар ЦК ЛКСМБ.

**ГЕРЦЫК Ільля Якаўлевіч**

У 1920—21 выкладаў на Мінскіх трэціх бел. настаўніцкіх курсах.

**ГЕТНЕР Адольф Хрыстафоравіч** [8.1.1887, Мітаўскі пав. Курляндскай губ. — ?, НКВД], дзяржаўны і парт. дзеяч. Скончыў Мітаўскае рэальнае вучылішча. У 1917 удзельнік Кастрычніцкага перавароту ў Смаленску. У 1918—19 наркам юстыцыі і член ЦК КП(б) Літоўска-Беларускай рэспублікі. З 1920 член Мінскага губрэўкама, затым загадчык агульнага аддзела, старшыня Кантрольнай камісіі КП(б)Б, потым наркам юстыцыі БССР, нам. старшыні СНК БССР. З 1923 старшыня выканкама Мінскага гарсавета. З 1925 сакратар Шклоўскага РК КП(б)Б, з 1933 старшыня Магілёўскай раённай кантрольнай камісіі КП(б)Б. Член ЦВК БССР і яго прэзідыумаў (1921—24), член ЦБ КП(б)Б (1919—24). Арыштаваны органамі НКВД і асуджаны да ВМП ў 1937. Расстраляны. Рэабілітаваны.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 375.

**ГІЛЬДЭНФЕНІГ Таццяна Сямёнаўна** [1904, Беласток, цяпер Польшча — ?], бібліятэкар. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала ў Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна, уступіла ў ВКП(б). Арыштавана 20.6.1938 у Мінску па адрасе: вул. Грушаўская, д. 2, кв. 3. Абвінавачвалася ў «сувязі з агентам польскай разведкі». Вызвалена ў перыяд 5—22.2.1940. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 30.7.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа Г. № 24737-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГІНТАЎТ Франц Віктаравіч**

Паводле іншых звестак н. ў 1914 у в. Вараноўшчына Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай

вобл. Падчас арышту студэнт 3-га курса біялагічнага ф-та БДУ. Арыштаваны 24.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Старавіленская, д. 11, кв. 1. Асуджаны 10.8.1933 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Рэабілітаваны 24.8.1956 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Г. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГІНТАЎТ-ДЗЕВАЛТОЎСКІ Пётр Ігнатавіч** [1887, в. Устронь Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. (паводле іншых звестак в. Амнішава Барысаўскага пав. Мінскай губ.) — ?], землеўласнік. Са шляхецкай сям'і. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 22.10.1940 у сваім маёнтку Устронь. Асуджаны 28.5.1941 асобай нарадай НКВД за «дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай арганізацыі «ЛОПП» і «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.10.1989 пракуратурай Віцебскай вобл. Асабовая справа Г.-Дз. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ГІРКАНТ (ГІРКОНТ) Апалонія Іванаўна** [1880, в. Рыскаўшчына Мінскага пав. (паводле іншых звестак — Мінск) — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Скончыла Пецярбургскую жаночую гімназію. З 1900 працавала хатняй настаўніцай. У час савецка-польскай вайны настаўнічала ў адной з мінскіх бел. школ, сяброўка Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці. З 1921 вучылася ў БДУ на ф-це грамадскіх навук. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х г. працавала настаўніцай у школе в. Бялынкавічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. Першы раз арыштавана 26.3.1931. Абвінавачвалася ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці». Асуджана не была. Вызвалена 26.7.1931. Працавала настаўніцай у школе пры Мінскай лямцавай фабрыцы. Зноў арыш-

тавана 11.8.1933 у Мінску па адрасе: Сталпецкі зав., д. 6. Асуджана 19.12.1933 калегіяй АДПУ як «удзельніца ПАВ» да 3 гадоў ссылкі ў Паўночны край. Вызвалена 10.3.1935. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе (№ 9782; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) рэабілітавана прэзідыумам Вярхоўнага суда СССР 26.4.1989, па другой (№ 9939-с; захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) трыбуналам БВА 30.10.1956.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 377.

**ГЛАВАЦКІ Мікалай Міхайлавіч** [1895, Гродна — 3.8.1941, Ленінград, НКВД], вайсковец, удзельнік 2-й сусветнай вайны з чэрв. 1941. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту камандзір 118-й стралковай дывізіі 41-га стралковага корпуса. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 16.7.1941 у Кастраме, Расія. Асуджаны 26.7.1941 як «дэзарганізатар абароны ў перыяд адступлення Чырвонай арміі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.12.1958 калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Г. № П-8950 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ГЛЕЗЕРАЎ (ГЛЕЙЗЕРАЎ) Барыс Маркавіч*** [жн. 1901, Віцебск — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Член ВКП(б) з 1920. Да арышту часова выконваючы абавязкі пракурора БССР. Арыштаваны 2.9.1937 у Мінску па адрасе: пл. Парыжскай камуны, д. 16, кв. 18. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «актыўны член антысавецкай трацкісцка-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.6.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Г. № 6635-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.2.1938 у Мінску па адрасе: пл. Парыжскай камуны, д. 16, кв. 18 арыштавана машыністка «Белпрамбудтрэста» Рудава Соф'я Юльеўна (н. 24.12.1903 у Барысаве Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. ў сям'і рабочага), жонка Барыса *Глезерава*. 16.5.1938 «тройкай» НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 10.12.1955 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 6304-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЛІНСКІ Кастусь (Канстанцін) Васілевіч**

З бел. сялянскай сям'і. Нарадзіўся ў в. Прытычына Дзісенскага пав. Віленскай губ. Падчас арышту працаваў настаўнікам у пачатковай школе мяст. Фабрычныя Масты Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл. Арыштаваны 19.5.1940. Асуджаны 29.11.1940 асобай нарадай пры НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Рэабілітаваны 25.4.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа № П-9183 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ГНІЛЯКЕВІЧ Аркадзь Васілевіч** [1.10.1891, в. Асташына Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец, партыйны работнік. Член ВКП(б) з 1921. Падчас арышту загадчык фінансава-гаспадарчага сектара (аддзела) ЦК КП(б)Б. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 14.8.1937 у Мінску ў гасцініцы «Еўропа». Асуджаны тройкай НКВД 19.12.1937 як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі «правых» і работу, накіраваную на падрыў эканамічнай моцы краіны» да ВМП. Расстраляны. Асабовая справа Г. № 10481-с з фотаздымкам захоўваецца у архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 377—378.

**ГНІЛЯКЕВІЧ Міхаіл Паўлавіч**

Фядора Антонаўна Гнілякевіч, хутчэй за ўсё, сваячка Міхаіла Гнілякевіча і жонка Аркадзя *Гнілякевіча*.

**ГОЛЬДБЕРГ Шолам Мееравіч**

У 1926 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.3.1937 у Мінску па адрасе: вул. Садовая, д. 10, кв. 8 (8.10.1933 у гэтай жа кватэры органамі АДПУ быў арыштаваны паэт Алесь *Салагуб*). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай трацкісцка-тэрарыстычнай арганізацыі» і за «шкодніцкую дзейнасць у вышэйшай школе БССР» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа Г. № 10867-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГОЛЬМАН Міхаіл Барысавіч**

Быў членам ВКП(б). Падчас арышту дацэнт БДУ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.4.1929 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 30, кв. 18. Асуджаны 19.7.1929 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Іркуцкай вобл. Другі раз асуджаны асобай нарадай пры калегіі АДПУ 7.2.1932 да 3 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 16.5.1967. Асабовая справа Г. № 19731-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГОМАНАВА (Маргелава) Серафіма Георгіеўна**

Падчас арышту лабарантка дрожджавага завода «Чырвоная зорка». Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана ў Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 11. Асуджана 28.11.1937 як «жонка здрадніка радзімы, асуджанага да ВМП» да 8 гадоў ППК. Рэабілітавана ваенным трыбуналам БВА 2.10.1956. Асабовая справа Г. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГОРЫН (КАЛЯДА) Павел Восіпавіч**

Арыштаваны 23.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Земляны вал, д. 14/16, кв. 64. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 25.4.1938 у Маскве («Камунарка»).

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ГОТФРЫД Леў Аляксеевіч**

Да 25.10.1937 кандыдат у члены бюро ЦК КП(б)Б.

**ГРАМЫКА Міхайла**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю і шкодніцтва» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Групавая справа Г. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГРАХОЎСКІ Сяргей Іванавіч**

Арыштаваны 20.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Цнянская, д. 28а, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Верагодна, некаторы час знаходзіўся ва Унжэнскім канцлагеры НКВД Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Вызвалены 19.10.1946. Другі раз асуджаны асобай нарадай МДБ СССР 27.8.1949 на пасяленне ў Новасібірскай вобл. Рэабілітаваны па першай справе прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955, па другой — 21.10.1955. Асабовая справа Г. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГРОС Эдуард Баляслававіч** [1899, мяст. Астралэнка Ломжынскай губ., цяпер Польшча — 21.12.1937, Мінск, тур-

ма НКВД], вайсковец. З польскай сялянскай сям'і. З 1917 служыў у Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік штаба кавалерыйскага корпуса. Арыштаваны 1.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/3, кв. 40. Асуджаны 20.12.1937 «тройкай» НКВД за «супрацоўніцтва з польскай разведкай» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.8.1955 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Г. № 16177-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

2.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/3, кв. 40 арыштавана дырэктар бел. аддзялення Саюзпушніны, адказны сакратар Белшвейснабзбыту Валынская-Грос Тамара Барысаўна (н. 22.7.1899 у Ленінградзе; член ВКП(б) з 1927), жонка Эдуарда *Гроса*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і актыўнага ўдзельніка шпіёнскай дыверсійнай тэрарыстычнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР (пас. Яўле). Вызвалена 2.1.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 1.3.1955 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа 9970-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГРЫНЕВІЧ Антон Антонавіч**

Першы раз асуджаны 9.1.1934. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер, але пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры. 25.11.1937 асуджаны «тройкай» УНКВД па Ленінградскай вобл. за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны ў Ленінградзе.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ГРЫНЕВІЧ Клім Лазаравіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 39, кв. 5. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных спра-

вах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Г. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГУМБІН Віктар Пятровіч** [1907, Арол, Расія — ?], лётчык. З рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту лётчык 16-га авіяатрада ў Магілёве. Арыштаваны 4.11.1933. Асуджаны 26.2.1934 калегіяй АДПУ за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.1.1989 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа Г. № 9841 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ГУНЬКО Яўген** [1914, Мядзельшчына — ?], удзельнік 2-й сусветнай вайны, вязень савецкіх канцлагераў. З 1943 жаўнер 2-га Польскага корпуса пад камандаваннем генерала Андэрса. Удзельнік італьянскай кампаніі. Пасля вайны вярнуўся ў Беларусь. У 1951 арыштаваны органамі МДБ і разам з сям'ёй дэпартаваны ў Іркуцкую вобл. Пасля вяртання з Сібіры жыў у в. Восава Мядзельскага р-на Мінскай вобл.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 46.

**ГУРВІЧ Ісак Аронавіч**
Бацька Цылі *Гурвіч*.

**ГУРЛО Алесь**
Верагодна, сваяк А. В., М. С. і С. С. *Гурло*. У 1908 скончыў Капыльскае двухкласнае вучылішча. Збіраў вусную народную творчасць. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 24.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю, шкодніцтва» на 5 гадоў пазбаўлення волі (умоўна). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа Г. і

іншых № 20951-с з яго фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Барвенак: Вершы. Мн., 1924; Спатканні: Вершы. Мн., 1925; Сузор'і: Вершы. Мн., 1926; Зорнасць: Вершы. Мн., 1927; Межы: Выбр. вершы. Мн., 1929; Нашы птушкі. Мн., 1947; Вершы. Мн., 1953.

**ГУРЛО Аляксей Васілевіч*** [27.9.1894, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], навуковец, педагог, верагодна сваяк *А. К., М. С.* і *С. С. Гурло*. З сялянскай сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык кафедры Інстытута народнай гаспадаркі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 13.11.1935 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 73. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 14.5.1936 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены ў студз. 1939. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 23.11.1956. Асабовая справа Г. № 7750-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГУРЛО Мікалай Савіч*** [1895, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], педагог, Верагодна, сваяк *А. В., А. К. і С. С. Гурло.* З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Магілёўскай партыйнай школе. Арыштаваны 6.6.1919. Абвінавачваўся ў «прыналежнасці да партыі левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў». Вызвалены 6.6.1925. Рэабілітаваны следчым аддзелам Магілёўскага ГПУ БССР 23.6.1925. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Г. № 6910 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ГУРЛО Сяргей Сямёнавіч** [1919, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], педагог, верагодна, сваяк *А. К., А. В.,* і *М. С. Гурло*. З сялянскай сям'і. Меў незаконачаную вышэйшую адукацыю. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 12.8.1944. Асуджаны 17.1.1945 за «работу настаўнікам у школе ў перыяд нямецкай акупацыі» і як «член Беларускай краёвай абароны» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 9.6.1970 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Г. № 20176-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГУРСКІ Міхаіл Адамавіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Мамлыж (цяпер Вяцкая вобл., Расія). Групавая справа Г. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГУРЫН-МАРАЗОЎСКІ Міхаіл Іванавіч**

Верагодна, сваяк Яўгена *Гурына*.

**ГУТКОЎСКІ Мікалай Макаравіч**

Падчас другога арышту загадчык бібліятэкі Маскоўскага інжынерна-эканамічнага інстытута імя С.Арджанікідзе. Арыштаваны 17.11.1937 у Маскоўскай вобл. па адрасе: ст. Рэутава чыгункі імя Ф.Дзяржынскага, вул. Калініна, д. 18, п. 37. Асуджаны 8.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 8.2.1938 у Маскве («Камунарка»). Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.4.1959.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

## Д

**ДАБУЛЯВІЧУС Андрус Андрэевіч**
У 1918 уступіў у ВКП(б). У 1919—23 служыў у Чырвонай арміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 17.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Калгасная, д. 22/1. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.8.1937 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 5.4.1957. Асабовая справа Д. № 10165-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАНІЛЬЧЫК Арцемій Андрэевіч**
Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» і за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў ППК, 2 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 12.9.1956. Асабовая справа Д. № 17397-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАРКЕВІЧ Пётр Яўгенавіч**
Быў жанаты, меў дзіця. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.10.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 6.9.1957. Асабовая справа Д. № 10895-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ДАРОЖКІН Мікалай Апанасавіч** [14.12.1905, в. Гарохаўка, цяпер Бранская вобл., Расія — 27.4.1993, Мінск], міколаг і фітапатолаг. Акадэмік АН БССР (1962). Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1929). З 1931 праца-

ваў вучоным спецыялістам, загадчыкам лабараторыі, дырэктарам Інстытута біялогіі АН БССР. Арыштаваны 26.6.1938. Абвінавачваўся ў «шпіянажы і арганізаванай антысавецкай дзейнасці». Пракуратурай БВА справа спынена. Вызвалены. Рэабілітаваны 9.2.1940. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. З 1948 дырэктар Інстытута біялогіі АН БССР, з 1959 дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства, у 1976—87 загадчык лабараторыі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 596.

**ДАРОЖНЫ (СЕРАДА) Сяргей Міхайлавіч**

Арыштаваны 29.8.1936 у Мінску па адрасе: 1-ы Беларускі зав., д. 3а, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа С. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАЎГАПОЛЬСКІ Цодзік Лейбавіч (Львовіч)**

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў у Саюзе пісьменнікаў БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 1/13, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 27.9.1938 як «былы член Бунда» і за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 5.8.1993. Асабовая справа Д. № 35232-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАЎГЯЛА Дзмітрый Іванавіч**

З сям'і святара. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 11.9.1939 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5

гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 9.6.1964. Асабовая справа Д. № 18789-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Шумейко М.Ф.* Архивист и археограф Дмитрий Иванович Довгялло. Мн., 2002.

**ДВАРЧАНІН Ігнат Сымонавіч**

Брат Іларыёна *Дварчаніна*. У 1914—17 падпаручнік рускай арміі, член партыі эсэраў. У 1920-я г. ўступіў у КПЗБ, у 1932 у ВКП(б). Падчас арышту нам. дырэктара Інстытута мовазнаўства БелАН. Арыштаваны 16.8.1933 у Мінску па адрасе: зав. Падгорны, д. 4/1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Прысуд заменены на 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл., але пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім папраўча-працоўным лагеры. 25.11.1937 «тройкай» НКВД асуджаны да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Д. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ДЗЕМІДОВІЧ Павел Паўлавіч**

Верагодна, сын бел. этнографа Паўла Дземідовіча.

**ДЗЕМЯШОНАК Чэслаў Браніслававіч** [1924, в. Даравое Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — ?], спецыяліст па фотадактыласкапіі. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту працаваў у Глыбоцкай турме № 2. Арыштаваны 10.1.1946 у в. Ласіца (цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.). Асуджаны 23.9.1946 за «сувязь з нямецкімі акупацыйнымі

ўладамі» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны 2.4.1957 трыбуналам БВА. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Д. № 10736-П з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЗЬЯКАЎ (ДЗЯКАЎ) Ананій Іванавіч**

Расстраляны 29.10.1937.

**ДЗЯРГАЙ Сяргей Сцяпанавіч**

Нарадзіўся 17.9.1907 ці 27.9.1907. З сям'і бел. службоўца. Арыштаваны 15.3.1935 у Мінску па адрасе: Міхайлаўскі зав., д. 14, кв. 2. Асуджаны 21.6.1935 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК і аднаго года пазбаўлення правоў. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 27.3.1992. Асабовая справа Дз. № 34633-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДОМБАЛЬ Тамаш Францавіч**

Апошняе месца работы — загадчык кафедры Маскоўскага інстытута механізацыі і электрыфікацыі імя Молатава. Арыштаваны 29.12.1936 у Маскве па адрасе: Срэценскі бульвар, д. 6, кв. 7. Асуджаны 21.8.1937 «тройкай» НКВД як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 21.8.1937 у Маскве на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 21.12.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ДОЎБІК Аляксандр Сафронавіч**

Дырэктар школы ў в. Радунь Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. У ліст.—снеж. 1956 праз пасольствы ў Маскве накіраваў лісты да кіраўнікоў шэрагу ўплывовых краін свету: прэзідэнту ЗША Эйзенхаўэру, прэм'ер-міністру Вялікабрытаніі Ідэну, прэм'ер-міністру Індыі Дж.Нэру. У

лістах Д. крытыкаваў М.Хрушчова і камуністаў, заклікаў замежныя ўрады дапамагчы ў вызваленні савецкага народа, называў імёны вядомых яму ахвяраў савецкага рэжыму. Гэтыя лісты былі перахоплены КДБ. У ліп. 1957 накіраваў ананімны ліст В.Молатаву ў яго падтрымку. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 22.11.1958. 17.7.1959 тэрмін зняволення быў скарочаны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 20.12.1991. Асабовая справа Д. № П-13359 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 86067.

Літ.: *58*[10], с. 486.

**ДОЎНАР Іван Сямёнавіч**

З сялянскай сям'і. У 1923 уступіў у ВКП(б). Арыштаваны ў Мінску 12.9.1933 па адрасе: вул. Камсамольская, д. 23/41, кв. 58. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл., але пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім ППК. Вызвалены 7.6.1946. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Д. № 10182-с (спынена 16.8.1956) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДРАЖВЕЦКІ Дзмітрый Васілевіч**

Нарадзіўся ў студз. 1897 ва ўкраінскай сялянскай сям'і. У 1919—21 ваяваў у складзе Чырвонай арміі. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Ажаніўся, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску 15.12.1935 па адрасе: вул. Свярдлова, д. 40, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 23.2.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны на ст. Сяданка (цяпер Прыморскі край). 8.8.1938 «тройкай» НКВД прыгавораны як «член сабатажнай групоўкі» да ВМП. Расстраляны ў першую пасля прыгавору ноч. Справа Д. № 7747-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДРУЖЧЫЦ Васіль Данілавіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 14.1.1937 у Маскве па адрасе: Варатнікоўскі зав., д. 10, кв. 12. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «член антысавецкай нацыянал-фашысцкай тэрарыстычна-шпіёнскай дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.6.1958. Асабовая справа Д. № 16409-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУБАХ Аляксандр Давыдавіч** [9.7.1883, в. Ботава Маскоўскай губ., цяпер Валакаламскі р-н Маскоўскай вобл. — 1942, Свярдлоўск], вучоны ў галіне меліярацыі і гідралогіі. Доктар сельскагаспадарчых навук. Акадэмік АН БССР (1928). Скончыў Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут (1908). Працаваў інжынерам-гідратэхнікам на меліярацыі сельскагаспадарчых і лясных зямель. З 1920 загадчык кафедры сельскагаспадарчай меліярацыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1927—30 загадчык аддзела Беларускага навуковадаследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. У 1925—30 старшыня Навукова-тэхнічнага савета пры Наркамземе БССР. Працаваў у Ленінградскай лесатэхнічнай акадэміі. Распрацоўваў пытанні лясной гідралогіі балот, уплыў лесу на рачны сцёк і інш. Дзякуючы яго працам гідралогія выдзелілася ў самастойную галіну навукі. Арыштаваны 25.10.1930 і этапаваны ў Маскву. 6.12.1930 пастановай СНК БССР пазбаўлены звання акадэміка. Вызвалены і рэабілітаваны 29.4.1932. Зноў арыштаваны 31.8.1937. Абвінавачваўся ў «падрыве дзяржаўнай прамысловасці, транспарту, гандлю». 29.9.1937 справа спынена. Пасля вызвалення жыў у Свярдлоўску. Адноўлены ў званні акадэміка АН БССР (1978).

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 597.

**ДУБОЎКА Уладзімір Мікалаевіч**

Нарадзіўся ў сям' і рабочага. Старэйшы брат Язэпа *Дубоўкі*.

**ДУБОВІК Сямён Андрэевіч** [парт. псеўданімы: Андрэй, Стары, Балюк; 16.2.1888, в. Нараўшчына Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 28.10.1937, НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі. У 1909 у пошуках работы эміграваў у ЗША. За рэвалюцыйную дзейнасць высланы з ЗША, вярнуўся ў Расію (1911). Працаваў на Ленскіх капальнях. Пасля ленскіх падзей уцёк ад паліцыі, жыў у Маскве. У 1914 і 1917 арыштаваны і сасланы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 працаваў у Петраградзе і Маскве, служыў добраахвотнікам у 171-м запасным палку, потым яго камісар. У грамадзянскую вайну начальнік аддзела забеспячэння 2-й Украінскай брыгады. З 1921 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі, узначальваў Брэсцкую акруговую арганізацыю Камуністычнай рабочай партыі Польшчы. Адзін з заснавальнікаў КПЗБ, удзельнік першай канферэнцыі КПЗБ. У 1923—24 сакратар Брэсцкага акруткама КПЗБ, дэлегат кангрэса Сялянскага інтэрнацыянала ў Маскве (1923). У 1924 арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны да 4 гадоў зняволення. З 1928 у апараце ЦК КПЗБ. З 1930 у СССР, працаваў у прадстаўніцтве ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б. У 1932 высланы ў Алтайскі край. Арыштаваны 21.8.1937. Асуджаны тройкай НКВД 12.10.1937 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957. Яго імем названы вуліцы ў Камянцы, в. Рэчыца Камянецкага р-на; пастаўлены бюст у в. Рэчыца.

Кр.: *ЭГБ*, т. 3.

**ДУБРОЎСКІ Іларыён Карпавіч**

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела газ. «Чырвоная змена». Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Р.Люксем-

бург, д. 34, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.10.1937 за «антысавецкую агітацыю» і як член «контррэвалюцыйнай групоўкі» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 18.12.1954. Асабовая справа Д. № 9936-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУБРЫНСКІ Мацвей Яфімавіч*** [1891, Кіеў — ?], службовец. З сям'і рабочага. Член ВКП(б). Да арышту кіраўнік справамі Кастрычніцкага раённага выканаўчага камітэта ВКП(б). Арыштаваны 21.8.1927 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, д. 27, кв. 12. Асуджаны 25.10.1927 калегіяй АДПУ за «неданясенне аб шпіянажы» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер АДПУ Архангельскай вобл. Далейшы лёс невядомы.

30.8.1927 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, д. 27, кв. 12 арыштавана хатняя гаспадыня Дубрынская Вінцэнціна Казіміраўна (н. ў 1899 у мяст. Ракаў Мінскага пав., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл.), жонка Мацвея *Дубрынскага*. 25.10.1927 за «неданясенне аб шпіянажы» асуджана да 3 гадоў ППК і этапавана ў Салавецкі канцлагер АДПУ. 25.10.1930 выслана на 3 гады ў Вологду (Расія). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана разам з мужам 27.8.1991 пракуратурай БВА. Справа сям'і Д. і іншых № 31796-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУДАР Алесь**

Трэці раз арыштаваны 31.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Праўдная, д. 15а, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай аб'яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.9.1957. Асабовая справа Д. № 10861-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУДЗІЦКІ Уладзімір**

Арыштаваны 24.2.1933. Асуджаны 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Рэабілітаваны па гэтай справе (№ 14618-с, захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956.

**ДУНЕЦ Хацкель Майсеевіч**

Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 5/30, кв. 3. Па першай справе (№ 19688-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 24.1.1967 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР, па другой 2.3.1967.

**ДУРНАВО Мікалай Мікалаевіч**

Тэрмін адбываў, верагодна, у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР.

**ДЫЛА Язэп**

Падчас арышту інспектар наркамата асветы. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Д. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## Е

**ЕМЯЛЬЯНАЎ Несцер Пятровіч**

Нарадзіўся 29.10.1898 у сялянскай сям'і. Падчас арышту аспірант БДУ, супрацоўнік БелАН. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 8.6.1936 у Мінску па адрасе: 6-я лінія, 16 (пасёлак аспірантаў). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 22.7.1936 за «антысавецкую агітацыю» і як «прыхільнік трацкісцкай апазіцыі» да 5 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 11.6.1956.

Асабовая справа Е. № 6598-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЕРМАЛОВІЧ Якуб**

Падчас першага арышту — студэнт 4-га курса МВПІ. Арыштаваны ў Мінску ў пакоі № 24 інстытуцкага інтэрната. Асуджаны тройкай НКВД 3.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да 6 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. Па першай справе (№ 31950-с; захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 26.7.1967 пленумам Вярхоўнага суда СССР.

**ЕСКІН Міхаіл (Ціхан) Раманавіч** [1912, с. Перавессе, Мардовія — ?], артыст. У другой палове 1930-х г. саліст Беларускага тэатра оперы і балета. Асуджаны 16.7.1940 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 10.8.1962.

*Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 398.

## Ж

**ЖАБІНСКІ Іосіф Вікенцевіч** [студз. 1888, мяст. Смаргонь Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Да арышту член ВКП(б), начальнік групы Беларускага ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 20.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Пуліхава, д. 19, кв. 2. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 12.10.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Ж. № 10918-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

29.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пуліхава, д. 19, кв. 2 арыштавана краўчыха, маці траіх дзяцей, Жабінская Ванда

Абрамаўна (н. 15.3.1893 у Сувальскай губ., цяпер Польшча), жонка Іосіфа *Жабінскага*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 28.7.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.2.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ж. № 9979-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖАЛЯЕЎ Сцяпан Сідаравіч** [1915, в. Жаляеўка Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], падчас арышту студэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобл. Арыштаваны ў крас. 1951 (?). Асуджаны 14.11.1951 за «антысавецкую агітацыю» да высылкі ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 27.2.1958 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа Ж. № 15523 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**ЖАМОЙДЗІН Іосіф (Язэп) Іванавіч** [1915, в. Вузбалаць Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 2003, Маладзечна Мінскай вобл.], удзельнік 2-й сусветнай вайны, вязень савецкіх канцлагераў. З бел. сялянскай сям'і. У студз. 1938 мабілізаваны на тэрміновую службу ў 1-ы лёгка-артылерыйскі полк легіёнаў Войска Польскага (Вільня). Удзельнічаў пад Вышкавам у вераснёўскай кампаніі 1939. З кастр. 1939 (?) у савецкім палоне. У вер. 1941 вызвалены і залічаны ў армію пад камандаваннем генэрала У.Андэрса ў лёгка-артылерыйскі полк 5-й пяхотнай дывізіі. З 27.10.1942 — у 11-м Валынскім стралковым батальёне. 17.12.1942 атрымаў званне капрала. 14.4.1943 пераведзены ў 14-ы Віленскі стралковы батальён. Браў удзел ў італьян-

скай кампаніі, у тым ліку ў баях на р. Сандра, бітве за Монтэ-Касіна, баявых дзеяннях на Адрыятычным узбярэжжы, аваloданні Анконаю, узяцці Балоніі. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ-Касіна, медалямі. Дэмабілізаваўся 28.7.1947. Вярнуўся на радзіму. Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.5.1950 у сваёй вёсцы. Асуджаны 8.12.1950 органамі МДБ за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер МДБ Архангельскай вобл. (ст. Ярцава, п/с 233/3). З 1951 на спецпасяленні ў Іркуцкай вобл. 23.2.1955 тэрмін пакарання зніжаны да 5 гадоў. Вызвалены. Вярнуўся ў Беларусь. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 25.3.1966. У 1990-я г. — актыўны сябра Беларускай асацыяцыі ахвяраў паліт. рэпрэсіяў. Асабовая справа Ж. № 20341-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 44.

**ЖАМОЙЦІН Янка**

У 1936—39 вучыўся ў гімназіі ў Варшаве, у 1939—41 у Лідзе. У 1943 кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі накіраваны ў СБМ дзеля пашырэння сярод моладзі ідэі незалежнасці Беларусі. У 1949 у Жэшаве (Польшча) скончыў прафесійны інстытут права і адміністрацыі, атрымаў дыплом магістра адміністрацыі Варшаўскага ун-та. Памёр 25.4.2003. Пахаваны ў Варшаве.

Літ.: Беларускія пісьменнікі ў Польшчы. Мн., 2000.

**ЖАРСКІ Генрык Казіміравіч**

З 1918 член Камуністычнай партыі Польшчы, з 1924 член Камуністычнай партыі Францыі, з 1926 член ВКП(б) (выключаны ў 1936). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 36/43, кв. 26 як «польскі шпіён і актыўны ўдзельнік ПАВ». Верагодна, сапраўднае яго

прозвішча было іншым, бо, як нядаўна стала вядома, ён карыстаўся невядомымі раней псеўданімамі або падпольнымі мянушкамі: «Хаім Вульфавіч Гохберг, Борух Унгер, Альберт Штамель». Удзельнік грамадзянскай вайны (на баку бальшавікоў). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 22.9.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 5.11.1957. Асабовая справа Ж. № 11297-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖАРСКІ Платон Патапавіч**

22.11.1937 у в. Заўшыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл., быў арыштаваны вартаўнік Заўшыцкай школы, бацька траіх дзяцей, Жарскі Ніканор Патапавіч (н. ў 1906), брат Платона *Жарскага*. 17.12.1937 «тройкай» НКВД ён быў асуджаны за «шпіянаж на карысць польскай разведкі» да ВМП і 21.1.1938 расстраляны ў Слуцкай турме НКВД. Рэабілітаваны 17.9.1957 трыбуналам Прыбалтыйскага ВА. Асабовая справа Н.Жарскага № 11465-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖАЎНЯРОВІЧ Ігнат**

Арыштаваны ў канцы (?) 1920-х г. З 1931 у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР.

**ЖАЎРЫД Павел Якаўлевіч**

Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Падчас арышту стыльрэдактар газ. «Звязда». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Вызвалены 21.6.1934. Пасля другога арышту і прысуду, верагодна, этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Ж. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖДАНОВІЧ Антон Паўлавіч**

Падчас арышту акцёр БДТ-1. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 11.12.1937 «тройкай» НКВД як «член ПАВ» да ВМП і 26.12.1937 расстраляны ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны 22.3.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ж. № 11582-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖДАНОВІЧ Радзівон Паўлавіч [**1895 — ?], верагодна, брат А. і Ф. *Ждановічаў*. Арыштаваны 18.9.1937. Асуджаны 6.10.1937 тройкай НКВД за «антысавецкую агітацыю і дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай групоўкі» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны 2.4.1991.

**ЖДАНОВІЧ Фларыян Паўлавіч**

Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Першы раз арыштаваны 18.7.1930. Асуджаны 10.4.1931 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Рэабілітаваны 11.7.1958 Вярхоўным судом БССР. Групавая справа Ж. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖОГАЎ Аляксандр Малахавіч**

16.2.1938 у Мінску была арыштавана хатняя гаспадыня Жогава Марыя Васілеўна (н. ў 1894 у с. Матавілава, цяпер Арзамаскі р-н Ніжагародскай вобл., Расія), жонка Аляксандра *Жогава*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 25.6.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ж. № 10685-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖУКОВІЧ Емяльян Піліпавіч** [1897, в. Аляхновічы Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Бярозаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 24.12.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаў-

ны дзеяч. З 1915 у бежанстве ў Сібіры. З 1917 у арміі, з 1918 у Чырвонай арміі, уступіў у ВКП(б). У 1923—25 вучыўся ў Маскоўскім інстытуце народнай гаспадаркі. У 1925—26 старшыня Пухавіцкага райвыканкама. З 1927 у органах партыйнага і дзяржаўнага кантролю ў Мінску і Магілёве. З 1931 старшыня выканкама Віцебскага гарсавета. З 1932 наркам камунальнай гаспадаркі БССР. У 1934—37 старшыня выканкама Мінскага гарсавета. З чэрв. 1937 наркам фінансаў БССР. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 19.12.1937 да ВМП. Расстраляны.

3.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 23/41, кв. 7 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей, Жуковіч Кацярына Пятроўна (н. ў 1905 у в. Мядзведнікі Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл.), жонка Емяльяна *Жуковіча*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Дуброўны канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 16.4.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ж. № 10225-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ЖУРЫК Сцяпан Іванавіч**

З 1928 дырэктар доследнай станцыі ў Малой Сляпянцы пад Мінскам. У пачатку 1930-х г. прафесар, нам. дырэктара, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута свінагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 12.1.1933 у Малой Сляпянцы. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член антысавецкай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў адзін з Сібірскіх канцлагераў. 2.11.1938 асуджаны ў зняволенні да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа Ж. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Халоднае сіласаванне. Мн., 1928.

**ЖЫЛКА Уладзімір Адамавіч**
З сялянскай сям'і. Падчас арышту супрацоўнік Белдзяржкіно. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Групавая справа Ж. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## З

**ЗАБЕЛА Марыя Кірылаўна** [1919, Крычаў Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], перакладчыца. З бел. сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Арыштавана 7.3.1945. Абвінавачвалася ў тым, што «працавала перакладчыцай у нямецкай камендатуры ў Крычаве». 21.11.1945 вызвалена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 7.9.1990 прэзідыумам Магілёўскага абл. суда. Асабовая справа З. № 13995-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАБЕЛА Тодар Іванавіч**
Верагодна, брат Карнея *Забелы*. Падчас арышту старшыня культурна-гістарычнай секцыі Магілёўскага таварыства БелАН. Арыштаваны 24.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 27.7.1935. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа З. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАДЗЯРНЮК Васіль Іванавіч*** [14.1.1903, в. Туровак (Туравок?) Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. — 24.11.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту загадчык культурна-прапагандысцкага аддзела Мінскага гаркама ВКП(б). Арыштаваны 16.7.1937 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 7, кв. 11. Асуджаны 24.11.1937 «тройкай» НКВД як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа З. № 10813-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 7, кв. 11 арыштавана настаўніца СШ № 11 і № 17 г. Мінска Працэнка-Задзярнюк Надзея Фёдараўна (н. 30.9.1905 у Таганрогу ў сям'і рабочага; атрымала вышэйшую адукацыю, уступіла у ВКП(б), жонка Васіля *Задзернюка*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 13.12.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа П.-З. № 11155-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАЙЦАЎ Вячаслаў Кандратавіч**

Паводле дадзеных следства, на працягу 1970—78 зрабіў больш за 30 лістовак «рэлігійна-містычнага зместу»: «Тайна беззакония (кто сидит на атеистическом престоле)», «Евреи, домой!», «Разбой на дорогах познания», «Тайна беззакония (разгадка числа 666)» і інш. З дапамогай знаёмых размножыў іх і ў ліст. 1978 раскідаў у розных раёнах Масквы. Падчас вобыску канфіскавана каля 1000 лістовак.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 8327.

Літ.: *58[10]*, с. 782.

**ЗАЛЕСКІ Аляксандр Ксаверавіч (Савелевіч)**

У 1938 у Мінску па адрасе: Праезны зав., д. 10, кв. 3 арыштавана хатняя гаспадыня Залеская Марыя Андрэеўна (н. 23.7.1891 у в. Ліпа Навагрудскага пав. Мінскай губ.), жонка Аляксандра *Залескага*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа, прыгаворанага да ВМП» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 31.8.1956 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа З. № 6854-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАМОЦІН Іван Іванавіч**

З сялянскай сям'і. У 1893 скончыў з залатым медалём Пскоўскую гімназію. Першы раз арыштаваны ў 1921, другі ў 1934. Падчас трэцяга арышту акадэмік БелАН. Арыштаваны 4.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 19, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Загінуў 25.5.1942 у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 18.4.1956. Асабовая справа З. № 5890-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАПАСНІК-ВЕСЯЛОЎСКІ Генрых Станіслававіч** [1909, Лодзь, Польшча — ?], фатограф. З рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў ва ўласным фотаатэлье. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 9.10.1944 у Слоніме Гродзенскай вобл. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі АК». Справа спынена. Вызвалены і рэабілітаваны ў ліст. 1944. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа З.-В. № П-459 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАРЭЦКІ Міхась**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Абутковая, д. 23, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «актыўны член нацыянал-фашысцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.12.1957. Асабовая справа К. № 11069-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАХАР'ЯШ Юргіс Мацвеевіч** [1887, Вілкавішскі пав. Сувалкаўскай губ., цяпер Літва — 15.12.1937, Масква, НКВД], літаратар. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 16.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. Манежная, д. 3, кв. 4. Асуджаны 29.11.1937 «тройкай» УНКВД Маскоўскай вобл. за «контррэвалюцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.8.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон*.

**ЗАЯЦ Леанард Іосіфавіч**

Падчас арышту кансультант-інспектар бюджэтнага ўпраўлення наркамата фінансаў БССР. Асуджаны 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю».

**ЗВОНАК Алесь**

З сям'і рабочага. Арыштаваны 14.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвоназвёздная, д. 21, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 за «прыналежнасць да антысавецкай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа З. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗЕДЫНЬ Жан Андрэевіч*** [5.4.1896, Рыга, цяпер Латвія — 30.6.1938, Мінск, турма НКВД], службовец. З латышскай сям'і. Да арышту ўпраўляючы Мінскай гарадской камунальнай гаспадаркай. Арыштаваны 31.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31/2 кв. 10. Асуджаны 30.6.1938 «тройкай» НКВД як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.12.1966 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа З. № 19717-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

31.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31/2 кв. 10 арыштавана інструктар аддзела нацыянальнасцей пры ЦВК БССР Бернард Мільда Аляксандраўна (н. 5.10.1898 у в. Какенгузін Ліфляндскай губ., цяпер Латвія, у сям'і рабочага; атрымала вышэйшую адукацыю, уступіла ў ВКП(б), жонка Жана *Зедыня*. 19.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член латышскай тэрарыстычнай арганізацыі» і за «сувязь з ворагамі народа» да 3 гадоў ППК і этапавана ва Усольскі канцлагер НКВД Іркуцкай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 19.3.1959 трыбуналам БВА. Асабовая справа Б. № 13931-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗІНОЎЕЎ Барыс Савелевіч*** [1907, в. Агібалава ці Азібайлава Курскай або Арлоўскай губ., Расія — ?], службовец. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Да арышту нам. упраўляючага Мінскай райканторы «Белторгплодоовощтрест». Арыштаваны 29.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Замкавая, д. 22, кв. 3. Асуджаны 7.7.1945 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў высылкі ў Краснаярскі край. Вызвалены 29.7.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.4.1990 прэзідыумам Мінскага абл. суда. Асабовая справа З. № 30726-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Разам з З. арыштавана яго жонка хатняя гаспадыня Зіноўева Еўдакія Фёдараўна (н. ў 1910 у в. Агібалава ці Азібайла-

ва; атрымала вышэйшую адукацыю). 7.7.1945 асобай нарадай НКВД асуджана за «сувязь з нямецкай паліцыяй» да 5 гадоў высылкі ў Краснаярскі край. Вызвалена 26.7.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 4.4.1990 прэзідыумам Мінскага абл. суда. Асабовая справа З. № 30727-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗМУДЗІНСКІ Генадзь Яўгеневіч**

Паводле іншых звестак нарадзіўся.ў 1898 у Санкт-Пецярбургу ў сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту працаваў у адной з мінскіх газет. Арыштаваны у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 8, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.9.1938 як «агент польскіх разведвальных органаў» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.10.1957. Асабовая справа З. № 11015-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗНАЁМЫ Сяргей**

Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Новамаскоўская, д. 44/1, кв. 6. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа К. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗЮЗЬКОЎ Андрэй Ігнатавіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «актыўны член антысавецкай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.11.1959. Асабовая справа З. № 14935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІВАНІШЧАНКА Мікалай Агеевіч**

Нарадзіўся ў в. Ліпавы Ручай (цяпер Касцюковіцкі (?) р-н Магілёўскай вобл.). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 54а, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 11.10.1938, як «агент польскіх разведвальных органаў» і за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.5.1956. Асабовая справа І. № 6749-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІГНАТОЎСКІ Усевалад Макаравіч**

26.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Каменная, д. 10, кв. 1 арыштавана хатняя гаспадыня Ігнатоўская Марыя Севасцянаўна (н. 4.12.1884 у в. Баўманава (Байманава) Саратаўскай губ., цяпер Саратаўская вобл., Расія), жонка Усевалада *Ігнатоўскага*. 16.5.1938 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «маці здраднікаў радзімы, прыгавораных да ВМП» да 8 гадоў ППК. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 10.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа І. № 6717-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Каменная, д. 10, кв. 1 арыштаваны слесар завода імя Варашылава Ігнатоўскі Юрый Усеваладавіч (н. 23.11.1911 у Загрыдава Слонімскага пав. Гродзенскай губ.) і тэхнік Белшклазбыта Ігнатоўскі Валянцін Усеваладавіч (н. 26.3.1916 у в. Баўманава (Байманава), сыны Усевалада і Марыі *Ігнатоўскіх*. 22.9.1937 тройкай НКВД яны былі асуджаны як «удзельнікі контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай групы» і за «антысавецкую агітацыю» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Валянціна расстралялі ў Мінскай унутранай турме НКВД 3.10.1937, Юрыя —14.10.1937. Рэабілітаваны браты Вярхоўным судом СССР 6.12.1956. Іх групавая справа № 9848-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІЛЫНСКІ Рыгор Андрэевіч**

Апошняе месца работы — бібліятэкар Томскага краязнаўчага музея. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 4.12.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны 14.12.1937. Рэабілітаваны 25.08.1961.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ІЛЬЮЧОНАК Пётр Вікенцевіч**

Падчас другога арышту (4.10.1937) супрацоўнік планававытворчага аддзела Уралвагонбуда (Ніжні Тагіл Свярдлоўскай вобл.).

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ІСПРАЎНІКАЎ Прохар Іванавіч**

З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.6.1958. Асабовая справа І. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

## К

**КАВАЛЕВІЧ Мікалай Капітонавіч** [1902, Мінск — ?], культработнік. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 22.7.1929 у Мінску па адрасе: Безымянны зав., д. 3, кв. 61. Асуджаны 16.6.1930 як «агент польскай разведкі» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.5.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа К. № 24769-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАВАЛЕНЯ Аляксандр Дзмітрыевіч**

Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.8.1937 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць польскіх разведорганаў» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 16.10.1958. Асабовая справа К. № 13173-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАВАЛЁЎ Захар Ціханавіч*** [1900, в. Узлогі Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Хоцімскі р-н Магілёўскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1922). Падчас арышту сакратар Варашылаўскага РК КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 171, кв. 6. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай арганізацыі тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.11.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10990-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

Кр.: *НАРБ.*

**КАВАЛЬ Васіль**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 2.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 3/2, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.9.1957. Асабовая справа К. № 10898-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАВАЛЬСКІ Уладзімір Антонавіч**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.9.1979. Асабовая справа К. № 20641-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАВАЛЬЧУК Захар Захаравіч*** [1893, в. Крыўляны Пружанскага пав., цяпер Жабінкаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1920). У 1930-я г. — сакратар Аршанскага акруговага камітэта партыі, загадчык аддзела кадраў ЦК КП(б)Б, старшыня ЦК прафсаюзаў БССР, член ЦК КП(б)Б. Падчас арышту дырэктар рыбна-кансервавага завода. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 36/43, кв. 22. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД як «актыўны член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.9.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 7252-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

Кр.: *НАРБ.*

**КАВАЛЬЧУК Мікалай Васілевіч*** [1887, в. Засулле Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 9.12.1937, Мінск, НКВД]. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў настаўнікам у школе пры торфазаводзе «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 13.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 4, кв. 3. Асуджаны 29.10.1937 паводле пастановы калегіі НКВД СССР за «шпія-

наж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Асабовая справа К. № 19067-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.10.1937 (?) у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 4, кв. 3 арыштавана правадніца вагонаў станцыі Мінск-Пасажырскі маці пяцярых дзяцей Кавальчук Соф'я Канстанцінаўна (нар. ў 1898 у в. Гошчава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.), жонка Мікалая *Кавальчука*. 2.11.1937 асобай нарадай НКВД асуджана як «агент польскай разведкі» да 10 гадоў ППК і этапавана ў адзін з канцлагераў каля Чалябінска. Вызвалена ў 1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана разам з мужам 5.11.1964 трыбуналам БВА. Справа сям'і К. № 19067-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАГАН Абрам Борухавіч** [1920, Вільня, цяпер Літва — ?], бібліятэкар. Атрымаў вышэйшую адукацыю, працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна. Арыштаваны 2.8.1940 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 19, кв. 1. Асуджаны 19.11.1940 як «удзельнік антысавецкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Бузулук Арэнбургскай вобл., Расія. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.9.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа К. № 24986-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАГАНАЎ Іосіф Захаравіч** [1888, Чэрыкаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 15.9.1938, тэрыторыя (да 1936) саўгаса НКВД «Камунарка», Маскоўская вобл.], педагог, службовец. Член Бунда. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ун-та (?), нам. дырэктара дэманстрацыйнай залы наркамата ўнутранага гандлю СССР. Арыштаваны 21.3.1938 у Маскве па адрасе: Мерзлякоўскі зав., д. 7/2, кв. 45. Прызначаны да рэпрэсіі па першай катэгорыі (расстрэлу) у спісе «Масква-цэнтр»

№ 125 ад 12.9.1938 на 340 чалавек па прадстаўленню начальніка 1-га спецыяльнага аддзела НКВД І.І.Шапіра і падпісанага Сталіным, Молатавым і Ждანавым. 15.9.1938 абвінавачаны ва «ўдзеле ў контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» і асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.9.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**КАЗАК Аляксей Захаравіч**

Да арышту працаваў настаўнікам у пачатковай школе. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Гарбарная, д. 31, кв. 2. Асуджаны 28.5.1938 пазасудовым органам НКВД за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 10.9.1959. Асабовая справа К. № 14686-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЗЛОЎ Мікалай Сямёнавіч**

З'яўляўся членам ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 24.7.1938 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 5, кв. 13. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 19.2.1940 за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Кулойскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены ў ліп. 1943. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.1.1956. Асабовая справа К. № 5874-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЗЛОЎСКІ Павел Іванавіч*** [20.7.1904, мяст. Шацк Ігуменскага пав., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], ветэрынарны ўрач. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту загадчык Ветэрынарнай паліклінікі. Арыштаваны 22.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Красная, д. 53, кв. 1. Асуджаны 24.10.1937 «тройкай» НКВД як «актыўны член антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі

«правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны 17.3.1959 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 14288-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Красная, д. 53, кв. 1 арыштавана хатняя гаспадыня Казлоўская Любоў Маркаўна (нар. ў маі 1905 у Чэрыкаве Магілёўскай губ. ў сям'і рабочага), жонка Паўла *Казлоўскага*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена ў 1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 14.8.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа К. № 6839-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЛІНА Ігнат Пятровіч*** [1884, мяст. Клімонтаў Радамскай губ., цяпер Польшча — 29.7.1938, Мінск, турма НКВД], службовец, партыйны дзеяч. Член Бунда (1902—17). У 1902—11 — прафесійны партыйны работнік Бунда ў Польшчы. У 1918 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1926—33 — генеральны консул у Данцыгу. Падчас арышту ўпаўнаважаны наркамата замежных спраў СССР пры ўрадзе БССР. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 3. Абвінавачваўся ў «шпіянажы на карысць польскай разведкі». Загінуў у турэмнай бальніцы. Рэабілітаваны 28.8.1956. Асабовая справа К. № 7066-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЛІНІЧЭНКА Марта Іванаўна**

Нарадзілася ў Тыраспалі, цяпер Малдова. У 1929 у суаўтарстве з І.*Мазурам* напісала школьную хрэстаматыю «Чырвоная змена», падручнік, які вытрымаў некалькі выданняў. Пасля вызвалення жыла ў сваякоў у Кіеве. Потым вярнулася ў Беларусь. Працавала выхавальніцай ў школе-інтэрнаце. Атрымала пакой у адной кватэры разам з рэпрэсаванымі ваеннымі. Трагічна загінула (згарэла): 19.1.1961 прыйшла сто-

мленая з работы ў халодную кватэру, накінула на сабе шарсцяную хустку, села каля электраабагравальніка і задрамала. Пахавана ў Мінску на Усходніх могілках.

Таксама быў рэпрэсаваны (асуджаны як «нацдэм і польскі шпіён» да ВМП) муж К. Парук (імя і імя па бацьку невядомы).

**КАЛМАНОВІЧ Майсей Іосіфавіч** [1888, с. Рыбінскае, цяпер Краснаярскі край, Расія — 27.11.1937, Масква, НКВД], удзельнік барацьбы за савецкую ўладу. З купецкай сям'і. З 1904 член партыі эсэраў, з 1917 бальшавік. З 1917 член франтавога камітэта, загадчык арганізацыйнага аддзела Ваеннарэвалюцыйнага камітэта Зах. фронту. Потым начальнік Мінскага гарнізона, камісар па харчаванні Аблвыкамзаха. У 1918 адначасова выконваючы абавязкі старшыні СНК Зах. вобл. і фронту. Член першага ўрада БССР (1919), нам. старшыні ЦВК, наркам харчавання БССР, член Савета абароны, загадчык аддзела харчавання Мінскага губернскага ВРК, старшыня Асобай харчовай камісіі Зах. фронту. Затым наркам харчавання РСФСР, старшыня праўлення Дзяржбанка СССР, наркам збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў СССР. Член ЦБ КП(б)Б (1918—19), член ЦКК ВКП(б) (1927—30), кандыдат у члены ЦК ВКП(б) (1930—37). Член ЦВК БССР (1919—20). Арыштаваны 11.6.1937 у Маскве па адрасе: вул. Герцэна, д. 47, кв. 55. Асуджаны тройкай НКВД 27.11.1937 як «актыўны ўдзельнік у 1933 трацкісцкай арганізацыі, што дзейнічала ў Наркамаце саўгасаў СССР» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках у наступную пасля прысуду ноч. Тамсама ў крэматорыі № 1 было крэміравана цела К. Рэабілітаваны 19.5.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *ЭГБ,* т. 4; *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**КАЛЮГА Лукаш**

Псеўданім, верагодна, узяты ад назвы аднайменнай вёскі, што некалі існавала ва Уздзенскім р-не Мінскай вобл. Пер-

шы раз арыштаваны 24.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Берасцянская, д. 4, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 4.11.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 5 гадоў ППК (заменена ссылкай на 5 гадоў). Этапаваны на Урал. 22.2.1936 паўторна асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа В. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**КАМЛЮК Васіль Радзівонавіч** [13.2.1896, в. Харавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 1943], грамадскі дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1915), тры курсы Мінскага інстытута народнай асветы (1920). Вучыўся ў БДУ. Двойчы па паліт. матывах выключаўся з ун-та. Уваходзіў у Яраслаўлі ў бел. культурна-асветную арганізацыю эсэраўскага кірунку «Наш край» і Яраслаўскае беларускае таварыства. Член арганізацыі «Маладая Беларусь» і Беларускай партыі эсэраў (БПСР). У час польскай акупацыі ў студз. 1920 увайшоў у Беларускую камуністычную арганізацыю. Арганізатар культурна-асветных гурткоў, школ і кааператываў у Ігуменскім пав. 10.8.1920 кааптаваны ў склад КП(б)Б, неўзабаве мабілізаваны ў Чырвоную армію, нам. камісара палка ў Мажайску. У сак. 1921 пераведзены ў Мінск, камандаваў тэрытарыяльным палком, з ліп. ў часцях асобага прызначэння. Падчас партыйнай «чысткі» ў кастр. 1921 выключаны з КП(б)Б за «службу ў царскім войску». З ліп. 1924 кандыдат у члены КП(б)Б. У жн. 1924 — маі 1925 — загадчык сакратарыята ЦК КП(б)Б, пасля інструктар і казначэй Цэнтральнага праўлення Саюза працаўнікоў асветы БССР. Са студз. 1927

загадчык аддзела газ. «Савецкая Беларусь». Паводле задання ЦК КП(б)Б выконваў сакрэтныя даручэнні, звязаныя з Зах. Беларуссю. У 1928 выключаны з кандыдатаў КП(б)Б як «чужы партыі элемент». Арыштаваны 17.9.1930 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 17, кв. 3. Асуджаны калегіяй АДПУ 17.9.1931 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ссылкі. Вярнуўся на радзіму ў 1940. Працаваў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Падчас 2-й сусветнай вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі. Расстраляны немцамі за сувязь з партызанамі. Рэабілітаваны 21.7.1989 пракуратурай БССР. Асабовая справа К. № 27342-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ЭГБ,* т. 4.

**КАМЯНЕЦКІ Гірш Мордухавіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: Калебайкоўскі зав., д. 3, кв. 1. Асуджаны 22.4.1950 асобай нарадай МДБ за «антысавецкую нацыяналістычную дзейнасць» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Брацк). Рэабілітаваны 30.1.1956. Асабовая справа К. № 9959-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАНАНОВІЧ Рамуальд Антонавіч** [1907, в. Ганчары Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], мастак. З рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту працаваў у Лідскай гарадской бальніцы. Арыштаваны 17.5.1940. Асуджаны 19.11.1940 за «ўдзел у антысавецкай паўстанцкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Рэабілітаваны 29.6.1992 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа К. № П-14684 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАНДРАЦЕНКА Павел Канстанцінавіч** [1926, в. Луцішча (?) Магілёўскай губ., цяпер Чавускі (?) р-н Магілёўскай вобл. — ?]. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў у падсобнай гаспадарцы Томскай псіханеўралагічнай бальніцы. Арыштаваны 17.3.1953. Асуджаны 15.4.1953 як «тэрарыст» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 11.11.1992.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**КАНДРАШУК Мікалай Фёдаравіч*** [1897, мяст. Скідзель Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Член ВКП(б) з 1919. Падчас арышту начальнік упраўлення шкляной прамысловасці наркамата лёгкай прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 1.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камуністычная, 3-ці дом Саветаў, кв. 26. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД за «дзейнасць у складзе польскай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.4.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10197-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

У вер. 1937 органамі НКВД арыштаваны інжынер Аршанскага ільнокамбіната Кандрашук Канстанцін Фёдаравіч (н. ў 1894 у мяст. Скідзель), брат Мікалая *Кандрашука*. 20.10.1937 асуджаны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП і 4.11.1937 расстраляны ў Віцебскай турме НКВД. Рэабілітаваны 4.12.1957 трыбуналам БВА. Групавая справа К. і іншых № 10895-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: Атлас гісторыі Беларусі. Мн., 2004.

Кр.: *НАРБ.*

**КАНТАР Саламон Мендзелевіч*** [май 1894, Горкі Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўская вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Член ВКП(б) з 1922. Да арышту дырэктар Белпрамгандлю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 32/1, кв. 11. Асуджаны 29.10.1937 «тройкай» НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10677-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *НАРБ.*

**КАПЛАН Абрам Мееравіч**

З 1921 дырэктар Трэста харчовай прамысловасці ў Мінску. З 1925 старшыня прамысловай секцыі (аддзела) Дзяржплана. Дэлегат IX Усебеларускага з'езда саветаў, член ЦВК БССР. Кіраўнік праектавання першай электрастанцыі ў Беларусі (каля Арэхаўска, Аршанскі р-н Віцебскай вобл.).

Паўторна ўзяты пад варту ў 1937. Этапаваны, верагодна, ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены ў 1939. У пачатку 2-й сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Чыстаполь (Татарская АССР). Выкладаў у сельскагаспадарчым тэхнікуме, адначасова працаваў старшым інжынерам на гадзіннікавым заводзе. З другой паловы 1944 у Мінску. Начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела Беларускага металічнага трэста. З 1947 дацэнт кафедры тэхналогіі металаў Беларускага політэхнічнага інстытута. Памёр 16.4.1971.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 422—423.

**КАПЛАН Якаў Маркавіч** [1889, Мінск — ?], кравец арцелі «Іншвейпрам». Арыштаваны 30.1.1953 у Омску. Асу-

джаны 20.10.1953 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.6.1962 пленумам Вярхоўнага суда СССР з-за адсутнасці складу злачынства.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**КАПУЦКІ Андрэй Рыгоравіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 1, кв. 6. Расстраляны 9.1.1934 або 17.5.1934. Асабовая справа К. № 10182-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРАНЕЎСКІ Язэп Пятровіч**

Арыштаваны 15.7.1937 у Маскве па адрасе: Цвярскі бульвар, д. 10, кв. 5. Этапаваны ў Мінск. Асуджаны 28.10.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай нацыяналістычнай фашысцкай тэрарыстычнай шпіёнскай дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 6.4.1957. Асабовая справа К. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРАЧУН Аляксандр Васілевіч** [1904, Слуцк Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], журналіст. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дзіця. Арыштаваны 5.4.1933 у Слуцку. Асуджаны 4.11.1933 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК (заменена на 5 гадоў высылкі ў Зах. Сібір). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Групавая справа К. і іншых № 14618-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРДАШ Фёдар Іванавіч**

Працаваў у раённай газ. «Чырвоная зара». Арыштаваны 16.8.1956 у Мінску па адрасе: вул. Бабруйская, д. 8. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 18.10.1956 за «антысавецкую агітацыю» да 2 гадоў ППК. Вызвалены 23.8.1957. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 31.1.1989. Асабовая справа К. № 21033-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРДАШЭНКА Майсей Самсонавіч*** [1884, мяст. Касцюковічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і служачага. Падчас арышту начальнік аддзела матфондаў Дзяржплана БССР. Арыштаваны 15.7.1937. Асуджаны 19.12.1937 «тройкай» НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1966 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 19616-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 34 кв. 3 арыштавана прадаўшчыца магазіна № 1, маці траіх дзяцей, Кардашэнка Таццяна Рыгораўна (н. ў 1898 у мяст. Маляцічы Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крычаўскі р-н Магілёўскай вобл. у купецкай сям'і), верагодна, жонка Майсея *Кардашэнкі*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 3.1.1967 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа К. № 19641-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРНІЛАЎ Канстанцін Антонавіч** [1906, Лібава, цяпер Латвія — ?], артыст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю (?). Працаваў салістам у канцэртнай групе Беларускага тэатра оперы і балета. Падчас 2-й сусветнай вайны знаходзіўся на акупаванай тэрыторыі.

Арыштаваны 29.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Мопраўская, д. 83, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 30.6.1945 за «пасобніцтва нямецкім акупацыйным уладам» да 5 гадоў ППК. Вызвалены 29.7.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 27.5.1960 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 16407-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРП Сяргей Венядзіктавіч (Бенядзіктавіч)** [1892, мяст. Астравец Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 30.10.1937, Масква, НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР. З 1912 член яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, уваходзіў у яе кіруючыя органы. З 1912 працаваў у Швейцарыі. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 на савецкай і гаспадарчай рабоце ў Бабруйску, Мінску, Украіне. З 1919 па заданні Цэнтральнага бюро яўрэйскай секцыі (аддзела) пры ЦК РКП(б) ствараў левыя арганізацыі «Паалей Цыёна» ў Аўстрыі, Егіпце, Палесціне. З 1921 загадчык аддзела гарадской гаспадаркі, нам. старшыні, з 1923 старшыня выканкама Мінскага гарадскога савета. З 1924 наркам фінансаў, потым нам. старшыні СНК. Адначасова да 1927 старшыня Дзяржплана, затым Вышэйшага савета народнай гаспадаркі БССР. Член ЦВК БССР (1922—29). Член ЦК КП(б)Б (1927—29). З 1929 старшыня Дзяржплана РСФСР. Арыштаваны 10.7.1937 у Маскве па адрасе: Навінскі бульвар, д. 25, кв. 47. Асуджаны 29.10.1937 як «удзельнік антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі правых» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 22.2.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *ЭГБ,* т. 4; *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**КАРПЕНКА Іван Іванавіч**

Расстраляны 29 або 30.10.1937.

29.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19 была арыштавана ветэрынарны ўрач Віцебскай навукова-

даследчай ветэрынарнай станцыі Карпенка Аляўціна Васілеўна (н. ў 1904 у мяст. Каршуноўка Тамбоўскай вобл., Расія), жонка Івана *Карпенкі*. Верагодна, у канцы 1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў адзін з Мардоўскіх канцлагераў НКВД. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.5.1957 трыбуналам Маскоўскай ВА. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАРУЗА Павел**

Тэрмін адбываў, хутчэй за ўсё, у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР.

**КАСМАЛЬСКІ Пётр Антонавіч**

17.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 46, кв. 1 была арыштавана бухгалтар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва Касмальская Ванда Антонаўна (н. ў 1898 у мяст. Краслаўка Віцебскай губ., цяпер Латвія, у сям'і службоўца), жонка Пятра *Касмальскага*. 11.5.1933 калегіяй АДПУ асуджана за «шпіянаж» да 5 гадоў пазбаўлення волі і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. У перыяд 1.12.1937—22.2.1938 асобай нарадай НКВД прыгаворана да 10 гадоў ППК. Вызвалена 23.1.1948. У перыяд 19.2.1948—16.4.1949 трэці раз арыштавана і выслана на пасяленне. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 21.11.1957 трыбуналам БВА. Справа сям'і К. № 11270-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАСПЯРОВІЧ Мікалай Іванавіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Асуджаны за «антысавецкую дзейнасць». Расстраляны 26.12.1937. Рэабілітаваны

19.9.1958. Групавая справа К. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЎЦЭВІЧ Міхаіл Дзмітрыевіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 2, кв. 9. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 25.10.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1957. Асабовая справа К. № 10666-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАХАНОВІЧ Міхаіл Сілуянавіч**

З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, меў дзіця. Падчас арышту працаваў карэктарам ў друкарні імя Сталіна. Арыштаваны 10.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 20. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа К. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЧАНАЎ Герасім Артамонавіч**

15.11.1937 у Віцебску па адрасе: пл. Леніна, д. 3, кв. 9 арыштавана ветэрынарны ўрач Віцебскага медыцынскага інстытута Качанава Фаіна Сямёнаўна (н. ў 1914 у Рызе), жонка Герасіма *Качанава*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і ворага народа» і «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў ссылкі ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.7.1958 прэзідыумам Віцебскага абл. суда. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КЕРНАЖЫЦКІ Канстанцін Іванавіч**

Гісторык, педагог. Нарадзіўся ў сям'і святара. У пачатку 1920-х г. паступіў у БДУ. Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей.

Арыштаваны ў Мінску 11.12.1937 па адрасе: вул. Свярдлова, д. 49, кв. 34. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.5.1939 як «польскі шпіён» да 8 гадоў ППК. Асабовая справа К. № 11843-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІЙКО Мікалай Фёдаравіч**

З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны ў Мінску 2.12.1935 па адрасе: вул. Рабкораўская, д. 21, кв. 5. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.7.1936 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Ухта-Пячорскім канцлагеры НКВД Комі АССР (пас. Мадмас). Зноў арыштаваны 9.6.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 9.10.1938 «за антысавецкую агітацыю» да ВМП. Асабовая справа К. № 23842-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Покаяние.*

**КІПЕЛЬ Яўхім Яўсеевіч**

Быў жанаты, меў сына. Асуджаны 10.4.1931 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 9.7.1935. 25.7.1935 асобай нарадай пры НКВД асуджаны да 3 гадоў пазбаўлення правоў. Па першай справе (№ 20951-с, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988.

**КІРКЕВІЧ Антон Паўлавіч**

Арыштаваны 22.7.1937 у Мінску па адрасе: Канатны зав. 32. Асуджаны (разам з шэрагам бел. святароў і царкоўных служак) 25.10.1937 паводле пастановы калегіі НКВД за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны 5.4.1989 пракуратурай БВА. Групавая справа

К. і іншых святароў № 23379-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІСЕЛЬ Уладзімір Адамавіч** [20.11.1922, мяст. Клецк Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 24.8.1999, Гродна], педагог, удзельнік антысавецкага падпольнага руху. У другой палове 1930-х г. скончыў сем класаў польскай школы, у 1941 савецкую сямігодку ў Клецку. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе з сябрамі стварыў «Саюз беларускіх патрыётаў». З восені 1944 працаваў настаўнікам на Нясвіжчыне, завочна скончыў педагагічнае вучылішча, паступіў у Гродзенскі педагагічны інстытут. У 1946 удзельнічаў у заснаванні падпольнай патрыятычнай арганізацыі «Саюз змагання за незалежнасць Беларусі», якая дзейнічала ў Нясвіжскім, Клецкім, Стаўбцоўскім, Гродзенскім і інш. раёнах Беларусі. Арыштаваны 25.2.1949 у Гродне. У ліст. 1949 асуджаны трыбуналам БВА да 25 гадоў ППК. Пакаранне адбываў у адным з канцлагераў Казахстана. Вызвалены ў 1960. Вярнуўся ў Гродна, працаваў настаўнікам. Напісаў успаміны пра падзеі ў Клецку і пра сваё лагернае жыццё.

Тв.: Свабода, годнасць — даражэй за жыццё // Ніколі болей. Вільня. 2000.

Літ.: *Антысавецкія рухі*; Беларускі нацыяналізм. Даведнік. [Мн., 2001].

**КІСЛЯКОЎ Іван Андрэевіч**

Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны на ст. Амутная (цяпер Кіраўская вобл., Расія). Вызвалены 1.9.1935. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Групавая спра-

ва К. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІСЯЛЁЎ Барыс Антонавіч*** [1905, в. Гошча Слонімскага пав. Гродзенскай губ, цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — кастр. 1941], педагог, вайсковец. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1932). Да арышту выкладчык акадэміі імя Будзённага ў Ленінградзе. Арыштаваны 23.8.1941. Падчас следства знаходзіўся ў турме НКВД у Ленінградзе. Пазбаўлены воінскага звання «ваенны інжынер 2 рангу». Асуджаны 9.9.1941 асобай нарадай пры НКВД за антысавецкую агітацыю да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Загінуў на этапе. Рэабілітаваны 23.5.1959 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа К. № П-8210 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КЛЕПІК Вікенцій Іосіфавіч** [1890, в. Паток Велькі Келецкай губ., цяпер Польшча – ?], ваенны музыкант. З сям'і службоўца. Служыў у Магілёве ў 99-м стралковым палку. Арыштаваны 20.3.1938. Асуджаны 5.8.1939 асобай нарадай пры НКВД за «здраду радзіме» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26.9.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа К. № 13618-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Літ.: *Памяць: Гісторыка-дакументальаня хроніка Магілёва.* Мн., 1998.

**КЛІНЦЭВІЧ Сямён Аляксандравіч**
Брат Пятра *Гарбацэвіча-Клінцэвіча.*

**КЛІШЭВІЧ Уладзімір Сідаравіч**

Асуджаны 3.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Рэабілітаваны 22.1.1992 Вярхоўным судом Беларусі. Справа К. і іншых дзесяці студэнтаў МВПІ № 31950-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КЛЯЎКО Яфім Іванавіч**

З 1932 да 1945 таксама былі рэпрэсаваны браты Яфіма Кляўко і іншыя яго сваякі.

**КЛЯШТОРНЫ Тодар Тодаравіч**

Быў жанаты на *Яніне Германовіч*, меў трох дачок. Арыштаваны 3.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Фабрычная, д. 10/4, кв. 7. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.6.1957. Асабовая справа К. № 10476-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КОЗЕЛ-ПАКЛЕЎСКІ Ян**

Бацька Уладзіслава *Козел-Паклеўскага*.

**КОНАН Якуб** [н. 28.3.1913, в. Міхалава Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.], удзельнік 2-й сусветнай вайны, вязень савецкіх канцлагераў. З сялянскай сям'і. У 1936—37 адбываў тэрміновую службу ў лёгка-артылерыйскім палку 18-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага ў Востраве–Мазавецкім (цяпер Польшча). У вер. 1939 у складзе 33-га лёгка-артылерыйскага палка 1–й пяхотнай дывізіі браў удзел у абароне Львова. З 22.9.1939 у савецкім палоне. З 10.6.1940 у Паўночна-чыгуначным канцлагеры НКВД Комі АССР (ст. Котлас). У жн. 1941 вызвалены як польскі грамадзянін і 15.9.1941 залічаны ў склад лёгка-

артылерыйскага палка 5-й пяхотнай дывізіі арміі пад камандаваннем генэрала У.Андэрса. З 15.3.1944 на італьянскім фронце, удзельнічаў у баявых дзеяннях, у тым ліку ў бітве за Монтэ-Касіна. 9.3.1945 пераведзены ў 17-ы артылерыйскі полк 7-й пяхотнай дывізіі. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ-Касіна, медалямі. Належаў да г. зв. «групы супрацiву» (польскія жаўнеры, якія адмаўляліся дэмабілізоўвацца, а таксама вяртацца на радзіму, уважаючы, што яны мусяць змагацца далей). У 1948 дэмабілізаваўся і вярнуўся на радзіму. Ажаніўся, пабудаваў хату, гадаваў сына. Арыштаваны органамі МДБ ноччу з 31 сак. на 1 крас. 1951 і разам з жонкай і пяцімесячным сынам дэпартаваны ў Іркуцкую вобл. Пасля вызвалення 30.12.1958 К. атрымаў ваенны білет, у якім у «звестках аб удзеле ў Вялікай Айчыннай вайне і іншых войнах» пазначана: «Не ўдзельнічаў». Цяпер жыве у мяст. Бярэзінскае Маладзечанскага р-на.

Літ.: Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Мн., 2004. С. 44—45, 114—121.

**КОНАНАЎ Канстанцін Дзям'янавіч** [1904, в. Кісялёўка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], лётчык. З бел. рабочай сям'і. Арыштаваны 1.8.1937 у Оршы. Асуджаны 20.12.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 27.6.1967 трыбуналам БВА. Асабовая справа К. № 9290 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КОНІК Дзмітрый Юдавіч** [1898, в. Бухча Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 24.11.1937, Мінск, турма НКВД], службовец, партыйны работ-

нік. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту загадчык аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 1.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, 2-і дом Саветаў, кв. 16. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны 24.11.1937 як «член антысавецкай трацкісцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 13.10.1956 Вярхоўным судом СССР. Асабовая справа К. № 7400-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КОРЧЫК Павел**

15.3.1938 асуджаны да ВМП за «контррэвалюцыйную дзейнасць сярод зняволеных» Ухта-Пячорскага канцлагера НКВД Архангельскай вобл. Асабовая справа К. № 5521-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КОЎШ Зоя Аляксандраўна**

Дачка Аляксандра *Каўша*. Удзельнічала ў Беларускім Студэнцкім Саюзе. Асуджана да 10 гадоў ППК. Памёрла 17.10.1994.

Літ.: *Каўшанка З.* «Fräulein... ад беларускага камітэту» // *Наша Ніва*. 1991. № 4; *Каўшанка З.* Дзесяць месяцаў у адзіночнай камэры Менскай турмы // *Наша Ніва*. 1993. № 10; *Каўшанка З.* «Так мне напісана ў Страшнай Кнізе...» // *Наша Ніва*. 1994. № 10.

**КРАСІНСКІ (ТАМАШОЎ) Мікалай Фаміч**

Падчас арышту сакратар Беларускага таварыства драматургаў і кампазітараў. Арыштаваны 14.3.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Некаторы час пакаранне адбываў у Аханску Пермскай вобл. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Групавая справа К. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРАСКОЎСКІ Іван Ігнатавіч**
Рэабілітаваны Куйбышаўскім абл. судом 22.5.1962.

Кр.: *Белая книга.*

**КРАСНІЦКІ Барыс Васілевіч** [1906, Магілёў — ?], артыст, тэатральны рэжысёр. З сям'і бел. службоўца. Працаваў у Магілёўскім драматычным тэатры. Арыштаваны 23.12.1944. Асуджаны 2.7.1946 асобай нарадай пры МДБ за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны 22.11.1989 пракуратурай Магілёўскай вобл. Асабовая справа К. № 13430-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Літ.: *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Магілёва.* Мн., 1998.

**КРАЧАТОВІЧ Мікалай Мікалаевіч** [1906, Вільня — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я (?) г. дацэнт кафедры электратэхнікі Мінскага політэхнічнага тэхнікума. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 22.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 61, кв. 2. Асуджаны 26.12.1945 асобай нарадай пры НКВД за «здраду радзіме» і «пасобніцтва нямецкім акупацыйным уладам» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 3.2.1956.

**КРАЧКОЎСКІ Кліменцій Станіслававіч**
Эканаміст, інжынер.
Найбольш поўныя звесткі аб К. змешчаны ў т. 3-1.

**КРУКОЎСКІ Аляксандр Іосіфавіч**
Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Член ВКП(б) (да 1935). Арыштаваны 8.12.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 2. Асуджаны

«тройкай» НКВД 30.11.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапаваны, хутчэй за ўсё, ва Ухта-Пячорскі, затым Ухта-Іжэмскі альбо Пячорскі канцлагеры НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.5.1956. Асабовая справа К. № 5949-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРЭЙНІН Лазар Ісакавіч*** [1895, Рагачоў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл. — 24.11.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Да арышту дырэктар «Белхарчгандлю». Арыштаваны 18.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 34, кв. 8. Асуджаны 24.11.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 12.10.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10911-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

8.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Папаніна, д. 10, кв. 5 была арыштавана касір цырульні «Чырвоная зорка», маці дваіх дзяцей, Крэйніна Маша Хламаўна (н. ў 1901 у мяст. Шчадрын Магілёўскай губ. ў сям'і рабочага), верагодна, жонка Лазара *Крэйніна*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «жонка ворага народа» да 5 гадоў ссылкі ў Казахстан. Вызвалена 9.4.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 14.5.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа К. № 10315-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРЭСЦЬЯНАЎ Георгій Паўлавіч*** [1894, Варшава (?) — 27.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], педагог, вайсковец, верагодна, брат Юрыя *Крэсцьянава.* З сям'і землеўласніка. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту выкладчык лётнай школы «Асаавіяхіма», маёр. Арыштаваны 26.4.1938 у Маскве па адрасе: вул. Горкага, д. 84, кв. 7. Асуджаны

27.9.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.5.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**КРЭСЦЬЯНАЎ Юрый Паўлавіч*** [1895, Гродна (?) — ?], педагог, вайсковец, верагодна, брат Георгія *Крэсцьянава.* З сям'і землеўласніка. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў нам. начальніка Ленінградскай вышэйшай школы лётчыкаў. Арыштаваны 12.4.1924 за «здрадніцкія намеры». Вызвалены і рэабілітаваны 10.5.1924. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № П-8756 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**КРЫВІЧАНІН Лявон**

Член ВКП(б) з 1919. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 34, кв. 1. Этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер АДПУ Комі АССР. Вызвалены 14.1.1939. Рэабілітаваны 18.4.1956 трыбуналам БВА. 16.8.1956 пастановай КДБ БССР асабовая справа К. (№ 10182-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) была спынена.

**КРЫНЧЫК Павел Сцяпанавіч**

Муж А.*Лябецкай*. Арыштаваны 26.10.1935. Асуджаны 1.4.1936 «тройкай» НКВД за «сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з Калымскіх канцлагераў. Асабовая справа К. № 6824-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУДЗЕЛЬКА Іван Фадзеевіч**

Партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1914 у арміі. З сак. 1918 у Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б) (1918). З 1922 працаваў на Мінскім чыгуначным вузле. З 1925 сакратар Гарадоцкага,

Глускага райкамаў КП(б)Б. У 1930 сакратар Мазырскай акружной кантрольнай камісіі. З 1932 — загадчык аддзела кадраў ЦК КП(б)Б. У 1933 сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б. З 1935 наркам фінансаў БССР.

22.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 40, кв. 10 арыштавана хатняя гаспадыня Кудзелька Ксенія Якаўлеўна (н. 21.1.1894 у с. Лоцманская Каменка, цяпер Днепрапятроўскай вобл., Украіна), жонка Івана *Кудзелькі*. 8.10.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай ССР (ст. Поцьма). Вызвалена ў 1942. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 12.4.1957 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 10179-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

17.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 40, кв. 10 арыштаваны Кудзелька Уладзімір Іванавіч (н. ў 1921 у Днепрапятроўску), сын Івана *Кудзелькі*. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджаны разам з маці як «член сям'і здрадніка радзімы» да 3 гадоў ППК і этапаваны ва Усольскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. 18.8.1941, верагодна, лагернай «тройкай» прыгавораны за «антысавецкую прапаганду» да 10 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні 10.5.1942. Рэабілітаваны 27.12.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 11320-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

18.11.1937 у в. Крыніца Смілавіцкага р-на Мінскай вобл. арыштаваны Кудзелька Міхаіл Фадзеевіч (н. ў 1897 у в. Рудзенск), верагодна, малодшы брат Іосіфа і Івана *Кудзелькаў*. 15.2.1938 пастановай НКВД асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП і 15.3.1938 расстраляны ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны 15.6.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 10590-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Хранить вечно.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КУДЗІ Якаў Іванавіч*** [1895, в. Дакудава Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], вайсковец, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Ленінградскай ваенна-марской акадэміі. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.6.1940. Асуджаны 10.7.1941 асобай нарадай пры НКВД за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да 15 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 25.6.1957 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа К. № П-8448 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КУЗНЯЦОЎ Васіль Максімавіч** [1895, в. Цюліна Смаленскай губ., цяпер Гжацкі р-н Смаленскай вобл., Расія — ?], падчас арышту матарыст біястанцыі ў Оршы Віцебскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 8.3.1953 у Оршы па адрасе: вул. Заслонава, д. 24. Асуджаны 18.4.1953 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Кімры тагачаснай Калінінскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 12.1.1957 калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 7470-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Административно-территориальное деление союзных республик; Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў.*

**КУЛІКОЎ Іван Міхайлавіч** [1913, в. Новая Горка, цяпер Санчурскага р-на Кіраўскай вобл., Расія — ?], службовец. З рускай сялянскай сям'і. Да арышту начальнік радыёстан-

цыі ў Бабруйску Магілёўскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 26.2.1953 у Бабруйску па адрасе: Палявы зав., д. 2. Асуджаны 31.1.1953 за «антысавецкую агітацыю» і «паклёп на палітыку дзяржавы» да 10 гадоў ППК (заменена на 5 гадоў). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.1.1992 прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 15100 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КУЛЬБАК Майсей Саламонавіч**

Быў жанаты на Зэльдзе *Кульбак*. Гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.9.1937 у Мінску па адрасе: 2-і Аконны (Апанскі?) зав., д. 4б, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай трацкісцкатэрарыстычнай арганізацыі» і за «сувязь з польскімі разведорганамі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.12.1956. Асабовая справа К. № 8179-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЛЬЧЫЦКІ Стафан (Сцяпан) Іванавіч**

Арыштаваны 28.7.1937 у Мінску па адрасе: Маляўскі зав., д. 28. Асуджаны (разам з шэрагам бел. святароў і царкоўных служак) 25.10.1937 паводле пастановы калегіі НКВД за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны 25.3.1989 пракуратурай БВА. Групавая справа К. і іншых святароў Мінскай епархіі № 23379-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУНІЦКІ Сымон Фаміч**

Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Бухарына, д. 10, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай групоўцы і за антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны ва-

еннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.12.1954. Асабовая справа К. № 9936-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУНСКІ Георгій Пятровіч** [1900, Мінск — 10.12.1945, Барысаў, МДБ], музыкант, баяніст. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў у музычнай майстэрні БВА. Арыштаваны 29.11.1944. Абвінавачваўся ў «здрадзе радзіме». Загінуў у Барысаўскай турме падчас следства. Рэабілітаваны 20.6.1997 пракуратурай Мінскай вобл. Асабовая справа К. № 20513-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУПЦЭВІЧ Фелікс Піліпавіч**

Накіраваны ў адзін з канцлагераў НКВД Краснаярскага краю.

**КУЧЫНСКІ Аляксей Сцяпанавіч (Стафанавіч)**

Быў жанаты на Алене *Кучынскай-Старасценка*. У 1917 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту рэктар БДУ. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 7.2.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 23, кв. 44. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай шпіёнска-тэрарыстычнай арганізацыі, удзельнік у падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта над адным з кіраўнікоў дзяржавы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.7.1957. Асабовая справа К. № 10604-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЧЫНСКІ Дзмітрый Аляксандравіч*** [28.6.1898, Мінск — 29.7.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі военачальнік, камдыў (1935). У Чырвонай арміі з 1918. Ваяваў супраць войск Краснова і Дзянікіна, часцей Антонава ў Тамбоўскай губ. (1921). Скончыў Акадэмію Чырвонай арміі (1922). З 1924 у штабе Чырвонай арміі. Са жн. 1928 начальнік штаба 14-га стралковага корпуса. С 1930 начальнік упраўлен-

ня штаба Чырвонай арміі. З 1931 начальнік штаба Украінскай ВА. Член Ваеннага савета наркамата абароны СССР. У 1936—37 начальнік і камісар акадэміі Генеральнага штаба. Арыштаваны 20.9.1937 у Маскве па адрасе: Вялікі Трубяцкой зав., д. 18, кв. 1. Асуджаны 29.7.1938 «тройкай» НКВД за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.8.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: Коммунарка.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КУШНЕР Барыс Анісімавіч** [1888, Віцебск — 3.6.1937, Масква, НКВД], літаратар. Атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у ВКП(б). Арыштаваны ў 1935 у Маскве па адрасе: Рабочы зав., д. 2, кв. 43. Асуджаны 2.6.1937 «тройкай» НКВД за «контррэвалюцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 15.8.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

## Л

**ЛАГОДЗІЧ Мікалай Васілевіч**

З бел. сялянскай сям'і. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Пінску 31.1.1963 па адрасе: вул. Партовая, д. 39, кв. 3. Паводле дадзеных следства, «выношваў пачуццё крыўды за рэпрэсію свайго бацькі — памагатага нямецкіх акупантаў». У 1959—61 пісаў лістоўкі і лісты з заклікамі змагацца супраць камуністаў і савецкай улады, дасылаў іх у дзяржаўныя ўстановы Мінска і іншых гарадоў, раскідваў у грамадскіх месцах. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 29.5.1992. Асабовая справа Л. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 99789.

Літ.: *58[10]*, с. 630.

**ЛАПО Дзмітрый Еўдакімавіч**

Бацька Льва *Лапо*.

**ЛАСТОЎСКІ Вацлаў Юстынавіч**

Былы член ЦК партыі бел. эсэраў, старшыня Рады Міністраў БНР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ссылкі. 23.1.1938 Вярхоўным судом СССР прыгавораны да ВМП (справа № 553618 знаходзіцца ў ФСБ РФ). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Л. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕБЯДА Тодар**

Падчас арышту студэнт 4 курса МВПІ. Асуджаны 3.10.1937 «тройкай» НКВД БССР за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 22.1.1992. Асабовая справа Л. № 31950-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕВІН Саламон Вульфавіч**

Арыштаваны 13.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 9, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР 29.11.1989. Асабовая справа Л. № 28720-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЕНЦНЕР Навум Міхайлавіч**

Нар. ў г.Бадайбо Іркуцкай вобл., Расія. Арыштаваны 1.4.1936 у Днепрапятроўску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 7, кв. 35. Асуджаны 2.10.1936 тройкай НКВД за «контррэва-

люцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны 3.10.1936 у Маскве на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 6.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ЛЁСІК Язэп Юр'евіч**

У 1910-я г. ўваходзіў у партыю бел. эсэраў. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў высылкі. Групавая справа Л. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛІСТАПАД Юрый (Георгій) Іванавіч**

Нарадзіўся 7.4.1897 у бел. сялянскай сям'і.

Падчас трэцяга арышту (28.10.1933) працаваў рахункаводам Ржэўскага збожжанарыхтоўчага пункта (Калінінская вобл. РСФСР). Быў жанаты, меў дзіця. Асуджаны 9.1.1934 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер АДПУ Далёкаўсходняга краю (Свабодны). 31.3.1938 «тройкай» НКВД прыгавораны за «антысавецкую агітацыю сярод зняволеных» да ВМП. Рэабілітаваны 18.4.1956. Групавая справа Л. і іншых (№ 10182-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) спынена 16.8.1956 пастановай КДБ БССР.

23.4.1933 у Слуцку па адрасе: вул. Валадарскага, д. 88 быў арыштаваны аграном Слуцкай міжраённай насенняводчай канторы, бацька траіх дзяцей, Лістапад Пётр Іванавіч (нар. ў 1898 у в. Варкавічы Слуцкага пав.), верагодна, брат Ю.*Лістапада*. 8.5.1933 калегіяй АДПУ ён быў асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў высылкі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.7.1958 трыбуналам БВА. Групавая справа Л. і іншых № 11070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛІХАДЗІЕЎСКІ Сцяпан Іванавіч**

З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Беларускага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 24.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Безымянная, д. 19, кв. 1. Асуджаны калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі». Рэабілітаваны 24.8.1956 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Групавая справа Л. і інш. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛОЙКА Міхаіл Фёдаравіч**

Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 3.12.1936 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 22.9.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «польскі шпіён» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.10.1957. Асабовая справа Л. № 11063-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛУЖАНІН Максім**

Арыштаваны 15.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 25, кв. 4. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 2 гадоў ссылкі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Л. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛУПІНОВІЧ Карл Аляксандр (Карлавіч)**

Нарадзіўся ў Докшыцах (?). У лют. 1931 паўторна арыштаваны і адпраўлены ў ссылку ў Казахстан. Працаваў бухгалтарам у Казахскім геалагічным разведвальным трэсце (Семіпалацінск, Усходне-Казахстанская вобл.). 11.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР прыгавораны (са святаром

Іванам *Вярсоцкім*) за «дапамогу сусветнай буржуазіі, шпіянаж і ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 22.12.1937 (?) у Казахстане. Рэабілітаваны 15.10.1959 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Книга Скорби.*

**ЛЯБЕЦКАЯ Алена Канстанцінаўна**

Падчас арышту студэнтка 4-га курса БДУ. Была замужам за П.*Крынчыкам*, таксама былым членам КПЗБ, гадавала дзіця. Арыштавана 14.10.1937. Асуджана 29.5.1938 «тройкай» НКВД як «агент разведвальных органаў буржуазнай Польшчы, па заданню якіх праводзіла шпіёнскую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Этапавана ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю. Вызвалена 28.12.1942. Рэабілітавана 30.3.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 6714-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯВОННЫ Юрка**

Арыштаваны 30.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Фурманская, д. 9, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1957. Асабовая справа Ю. № 10242-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1938 у Мінску па адрасе: вул. Фурмана, д. 9, кв. 2 арыштавана бухгалтар Белсольэнерга Гольдберг Яўгенія Абрамаўна (н. ў 1907 у Мелітопалі, цяпер Украіна), жонка Юркі *Лявоннага*. 28.11.1938 асобай нарадай НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 2.6.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г. № 6656-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯПІЧ Раман Фёдаравіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 21.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Надзеждзінская, д. 17, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.10.1938 як «член нацыяналістычнай фашысцкай арганізацыі» і за «падрыўную работу» да 8 гадоў ППК. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 8.8.1969. Асабовая справа Л. № 20094-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЛЯЎДАНСКІ Аляксандр Мікалаевіч**

Арыштаваны 20.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Стараслабадская, д. 48. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.8.1937 за «шпіянаж на карысць разведкі буржуазнай Польшчы» да ВМП. Асабовая справа Л. № 13173-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## М

**МАГАРАМ Элізарый (Елізарый) Еўлевіч**

Нарадзіўся 6.11.1899 ў сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дзіця. Арыштаваны 6.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 54а, кв.28. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.6.1955. Памёр у 1962. Асабовая справа М. № 5519-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЁРАЎ Міхаіл Майсеевіч**

Арыштаваны 15.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2, кв. 421. Асуджаны 12.1.1938 «тройкай» НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай тэрарыстычная арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 20.1.1938 у Маскве. Рэабілітаваны 2.6.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**МАЗУРКЕВІЧ Язэп Ігнатавіч**

З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту настаўнік СШ № 1 Віцебска. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 17.9.1937. Асуджаны 20.10.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР як «член ПАВ» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 4.11.1937 у Віцебску. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 16.7.1957. Асабовая справа М. № 10895-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**МАЙЗЕЛЬ Юрый Навумавіч**

З сям'і службоўца. Падчас арышту настаўнік у віцебскіх школах № 4 і № 6. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 22.6.1941 у Віцебску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 47. Асуджаны 6.1.1942 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 22.3.1957. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**МАМОНЬКА Язэп Аляксеевіч**

Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох) Карэла-Фінскай АССР, цяпер Архангельская вобл., Расія.

Кр.: *База даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**МАРАКОЎ Валерый Дзмітрыевіч**

Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.4.1957. Асабовая справа М. № 10234-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Рабінавая ноч: Выбранае. Вершы, паэмы, проза, публіцыстыка, крытыка, пераклады. Мн., 2003.

**МАРАКОЎ Дзмітрый Захаравіч**

З рускай сялянскай сям'і. Рэабілітаваны 24.8.1960 Вярхоўным судом БССР. Справа М. і іншых удзельнікаў арганізацыі «дваццаці пяці» № 31424-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАРГЕЛАЎ Сцяпан Прохаравіч**

Падчас арышту загадчык секцыі геаграфіі Інстытута эканомікі БелАН. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 23.1.1937 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 11. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член (з 1927) антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.7.1957. Асабовая справа М. № 10673-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 11. арыштавана лабарантка Дražджавога завода «Чырвоная зара», маці дваіх дзяцей, Гоманава-Маргелава Серафіма Георгіеўна (н. 27.6.1904 у Горках Магілёўскай губ. ў сям'і рабочага; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Сцяпана *Маргелава*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД прыгаворана як «член сям'і здрадніка радзімы, асуджанага да расстрэлу» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 2.10.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г.-М. № 7215-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАРДВІЛКА Аркадзь Пятровіч**

З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага аўтадарожнага інстытута. Арыштаваны 15.5.1933 у Мінску па адрасе: вул. Міхайлаўская, д. 3/10, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.6.1933 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 20.4.1988. Асабовая справа М. № 20940-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАСЛОЎСКІ Мікалай Паўлавіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Апошняе месца работы — загадчык парткабінета завода імя Варашылава. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31/2, кв. 1. Асуджаны тройкай НКВД як «агент польскай разведкі і адзін з кіраўнікоў шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Асабовая справа М. № 6519-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАТУЛАЙЦІС Кацярына Станіславаўна**

У 1917 уступіла ў ВКП(б). Атрымала вышэйшую адукацыю. У 1926—29 працавала ў сістэме НКВД у Маскве і Ленінградзе. Выйшла замуж за кіраўніка НКВД Саратаўскага краю Піляра, потым за сакратара ЦК КПЛ К.Пажэлу. Арыштавана ў Мінску 9.8.1937 па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 41. Асуджана «тройкай» НКВД 12.4.1938 як «агент літоўскай разведкі» і за «выдачу інфармацыі пра падпольную кампартыю Літвы» да ВМП. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.12.1956. Справа М. № 9844-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАТУЛАЙЦІС Стасіс Юргевіч (Станіслаў Юр'евіч)**

З літоўскай сялянскай сям'і. Арыштаваны 16.12.1937 (?) у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 41. Асабовая справа М. № 11289-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАТУСЕВІЧ Мітрафан Рыгоравіч**

У 1918—22 служыў у Чырвонай арміі (17-ая стралковая дывізія ў Віцебску). Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску 30.7.1938 па адрасе: вул. Маладзечанская, д. 17, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 23.7.1940 за «ўдзел у антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР (пас. Важаель). Вызвалены (хутчэй за ўсё, з Манчагорскага канцлаге-

ра) у 1946. З 1949 у ссылцы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.5.1955. Асабовая справа М. № 5973-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МАЦЮКЕВІЧ Іосіф Ігнатавіч**

Быў членам партыі левых эсэраў, бел. арганізацыі «Гай» (Адэса). У 1925 уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 31.10.1933 у Мінску па адрасе: Падгорны зав., д. 4/1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа М. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЕЛЬНІК Сцяпан Паўлавіч**

Арыштаваны 28.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 90, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа М. № 10904-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІКУЛІЧ Барыс Міхайлавіч**

Быў членам ВЛКСМ. Падчас арышту загадчык аддзела газ. «Літаратура і мастацтва». Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвоназвёздная, д. 7, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны 29.12.1954. Асабовая справа М. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МІНІН Яўхім (Яфім) Сямёнавіч**

Арыштаваны 1.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Ветэрынарная, д. 34. Асуджаны 19.11.1937 асобай нарадай пры

НКВД СССР як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны ў Віцебску. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА 19.5.1958. Групавая справа М. і іншых № 4105-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**МІСКО Якуб (Якаў) Герасімавіч**

Арыштаваны органамі НКВД 1.11.1939 як «правакатар». Вызвалены і рэабілітаваны ў перыяд з 20.4.1940 да 26.4.1940 УНКВД тагачаснай Баранавіцкай вобл. Асабовая справа М. № П-5991 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

25 сак. або крас. 1940 у в. Чамяры быў арыштаваны селянін-аднаасобнік Міско Іван Герасімавіч (н. ў 1905), брат Я.*Міско*. 11.12.1940 ён быў асуджаны як «правакатар» да 8 гадоў ППК. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.9.1957 Вярхоўным судом БССР. Асабовая справа І.Міско № П-5368 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**МІЦКЕВІЧ Адам Юр'евіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Малмыж (цяпер Кіраўская вобл., Расія). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа М. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МРЫЙ А.**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту стыльрэдактар газ. «Звязда». Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 21.2.1934 у Мінску па адрасе: Стаўпецкі зав., д. 6, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 26.3.1934 як «член антысавецкай контррэвалюцыйнай арганізацыі і падазроны

ў шпіянажы» да 5 гадоў ППК. 5.6.1940 зноў арыштаваны і 13.8.1940 асуджаны асобай нарадай НКВД СССР да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 23.9.1943. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 15.1.1957. Асабовая справа Ш. № 10194-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МУРЗО Сяргей Мікітавіч**

Нарадзіўся ў 1912 у Маскве ў сям'і рабочага. Да арышту працаваў настаўнікам у СШ у Краснаполлі Магілёўскай вобл. Арыштаваны 3.11.1936. Асуджаны 28.10.1937 «тройкай» НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 29.10.1937. Рэабілітаваны 10.11.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 3929 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**МЯЖЭВІЧ Уладзімір Навумавіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31, кв. 7. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 15.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. 19.7.1947 асуджаны спецыяльным судом Краснаярскага канцлагера да 4 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 26.1.1955. Асабовая справа М. № 4877-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЯЛЕШКА Міхаіл Вінцэнтавіч**

Падчас арышту нам. загадчыка Цэнтральнага архіва БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 18.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ссылкі. Тэрмін ад-

бываў у Самары. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа М. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЯЛЕШКА Сяргей Міронавіч**

Нарадзіўся ў Мінску. Апошняе месца работы — рахункавод трубнага цэха завода «Свободный сокол» у Ліпецку. Арыштаваны і асуджаны да ВМП за «антысавецкую агітацыю».

Кр.: Помнить поименно. Книга памяти жертв политических репрессий Липецкого края с ноября 1917 года. Липецк, 1997. Т. 1.

**МЯРКІЦЕ (МЯРКІТЭ) Аляксандра Антонаўна**

З сям'і літоўскага рабочага. Атрымала сярэднюю адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 22.7.1937 у Мінску па адрасе: Ваенны гарадок артпалка, д. 81. Асуджана пазасудовым органам НКВД 3.7.1938 як «агент нямецкай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.12.1957. Асабовая справа М. № 11518-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**МЯТЛА Пётр Васілевіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 89. Рэабілітаваны 18.4.1956 трыбуналам БВА. Справа М. (№ 10182-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) спынена пастановай КДБ БССР 16.8.1956.

## Н

**НЕКРАШЭВІЧ Сцяпан Міхайлавіч**

Групавая справа Н. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НЕМЦАЎ (НЯМЦОЎ) Аляксандр Гаўрылавіч**

Нарадзіўся 12.9.1898 у сям'і рабочага. Падчас арышту працаваў настаўнікам у школе № 36 у Асіповічах Магілёўскай вобл. Арыштаваны 28.3.1938. Асуджаны 26.4.1938 «тройкай» НКВД за «шпіёнскую і антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны 4.6.1938. Рэабілітаваны 9.3.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Н. № 5105 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**НЁМАНСКІ Янка**

Паводле іншых звестак нарадзіўся 13.4.1890 (па новым стылі). Арыштаваны 27.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д.21/52, кв. 25. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.3.1957. Асабовая справа П. № 10052-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 11 Ліпеня, д. 18/7, кв. 2 арыштаваны навучэнец Мінскага дарожнамеханічнага тэхнікума Пятровіч Андрэй Іванавіч (н. 10.7.1922 у Ноўгарадзе, Расія), сын Янкі *Нёманскага* і Глафіры *Пятровіч*. 28.11.1937 «тройкай» НКВД асуджаны як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 9.5.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа П. № 6594-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НІКАЛАЕЎ-АСТРАВЕЦКІ Аляксандр Мікалаевіч**

Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у КПЗБ (1925), выбраны сакратаром райкама. Арыштаваны 12.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ніжняя Усцінская (?), д. 39а, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа

Н.-А. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НІКАНОВІЧ Мікола**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзвюх дачок. Арыштаваны 4.3.1933 у Мінску. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Н. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**НОВІК-ПЯЮН Сяргей**

Да арышту дырэктар Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музея. Асуджаны за «здраду радзіме». Вызвалены і рэабілітаваны ў перыяд з 5.11.1958 да 18.12.1958. Асабовая справа Н.-П. № П-5614 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

## П

**ПАВАРОТНЫ Дзмітрый Сямёнавіч**

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 2.4.1933 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 101, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа П. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Прыгожая, д. 19, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.10.1937 за «ўдзел у контррэва-

люцыйнай групоўцы і антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Тэрмін адбываў, хутчэй за ўсё, ва Унжэнскім канцлагеры НКВД Горкаўскай вобл. Зноў арыштаваны 13.12.1948. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.12.1954. Асабовая справа П. № 9936-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАНКЕВІЧ Павел Якаўлевіч**

Быў членам ВКП(б). Гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д.148/19, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «шкодніцкую работу ў галіне планавання» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.5.1956. Асабовая справа П. № 5945-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАРЭЧЫН Рыгор Яўхімавіч**

У 1920 уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску 24.1.1937 па адрасе: вул. Няміга, д. 16/2, кв. 10. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 за «шкодніцкую работу ў навуковых установах БССР» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны ў мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.8.1957. Асабовая справа П. № 10776-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАЎЛЮКЯВІЧУС Банавентура**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 24, кв. 9. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.3.1938 як «агент літоўскай і нямецкай разведак» да ВМП. Расстраляны ў мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 27.9.1957. Асабовая справа П. № 11136-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПАШКОВІЧ Іван Феліксавіч**

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.2.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва, антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Угліччы. Пасля вызвалення працаваў настаўнікам у СШ. Другі раз арыштаваны 9.9.1937 ва Угліччы па адрасе: вул. Леніна, д. 10. і асуджаны НКВД Яраслаўскай вобл. да ВМП. Па першай справе № 20951-с (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960, па другой — ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.5.1958.

Кр.: *Не предать забвению.*

**ПІВАВАРАЎ Зяма**

Арыштаваны 13.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чычэрына, д. 30, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі», за «антысавецкую прапаганду» і «ўдзел (з 1934) у тэрарыстычнай групоўцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.3.1958. Асабовая справа П. № 11556-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПІВАВАРАЎ Уладзімір Іванавіч**

З бел. сялянскай сям'і. Член ВКП(б). Кандыдат навук (1936). Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Асуджаны 29.5.1940 за «шкодніцтва ў галіне народнай асветы і школьнага будаўніцтва» да 15 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у канцлагеры (параліч сэрца). Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.12.1954.

**ПЛАТНЕР Ісак**

З 1916 па 1920 член арганізацыі «Паалей-Цыён». Быў жанаты, меў дзіця. Узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў ВАВ». Арыштаваны 8.6.1949 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 24/38. Асуджаны 22.4.1950 за «шпіянаж і антысавецкую нацыяналістычную дзейнасць» да 25 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Азёрны канцлагер НКВД Іркуцкай вобл. (Брацк). Вызвалены ў 1956. Рэабілітаваны Цэнтральнай камісіяй па перагляду спраў 30.1.1956. Асабовая справа П. № 9959-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЛАТУН Антон Мартынавіч**

З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны і асуджаны, хутчэй за ўсё, у другой палове 1937.

27.8.1937 у Мінску быў арыштаваны член ВКП(б) фрэзероўшчык фабрыкі імя Тэльмана Платун Іван Мартынавіч (н. ў 1903 у в. Амлынцы), брат А.*Платуна*. 9.11.1937 «тройкай» НКВД ён быў асуджаны як «агент польскай разведкі» да ВМП і 18.11.1937 расстраляны ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны 16.6.1960 трыбуналам БВА. Асабовая справа І.Платуна № 16466-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

6.11.1939 у в. Амлынцы быў арыштаваны селянін-аднаасобнік Платун Канстанцін Мартынавіч (н. ў 1910 у в. Амлынцы), брат А.*Платуна*. 29.6.1940 ён быў асуджаны як «агент польскай разведкі» да 8 гадоў ППК і этапаваны ў Паўночначыгуначны канцлагер МДБ Комі АССР. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.5.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа К.Платуна № 23983-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПОТАШ Майсей Абрамавіч**

З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, меў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 11.12.1937 у

Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 1, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.8.1939 як «актыўны член антысавецкай трацкісцкай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Асабовая справа П. № 5724-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПРАКУЛЕВІЧ Уладзімір Міхайлавіч**

Паўторна арыштаваны НКВД Свярдлоўской вобл. за «антысавецкую агітацыю» і «шкодніцтва». Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Справа П. і іншых №20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Таксама ў 1938 быў арыштаваны і расстраляны малодшы брат П. Вячаслаў.

**ПРАТАСЕНЯ Рыгор Іванавіч**

З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 15. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцка-тэрарыстычнай шпіёнска-шкодніцкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.8.1957. Асабовая справа П. № 10820-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПУЧКАР-ХМЯЛЕЎСКІ Адам Янавіч (Іванавіч)**

Нарадзіўся ў 1890 або ў 1891. Арыштаваны 3.8.1933 (паводле іншых крыніц 26.6.1933) у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 28, кв. 2. Асуджаны 24.2.1934 (разам з рымска-каталіцкімі святарамі Адольфам *Кржавіцкім,* Мечыславам *Сабачынскім* і інш.) асобай нарадай АДПУ як «член ПАВ» і «за шпіянаж на карысць Польшчы» да 10 гадоў ППК. З сак. 1934 знаходзіўся ў Дзмітраўскім канцлагеры АДПУ

Маскоўскай вобл., потым этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер АДПУ Карэльскай АССР. Рэабілітаваны 30.10.1956 трыбуналам БВА. Справа П. і іншых № 9939-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПУШЧА Язэп**

Старэйшы брат Ізідара Плашчынскага. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у Чэбаксарах, Шадрынску. Вызвалены 24.7.1935. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.1.1956. Групавая справа П. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ПЯНТКОЎСКІ Вацлаў Іванавіч**

Асуджаны (разам са святаром Мікалаем Юзвюком 2.12.1950 асобай нарадай МДБ за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Сцяпны канцлагер МДБ Казахскай ССР (ст. Навагрудная). Вызвалены 4.1.1956. Рэабілітаваны 23.11.1994 пракуратурай Брэсцкай вобл. Асабовая справа П. № 13359-с захоўваецца ў архіве КДБ Брэсцкай вобл.

**ПЯТКЕВІЧ Язэп (Іосіф) Станіслававіч**

Падчас арышту настаяцель касцёла ў мяст. Капыль (цяпер райцэнтр Мінскай вобл.). Арыштаваны 17.3.1933. Асуджаны 3.6.1933 асобай нарадай пры АДПУ за «антысавецкую агітацыю і як член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з паўночных канцлагераў АДПУ. 2.9.1937 «тройкай» НКВД Беламорска-Балтыйскага канцлагера (Мядзведжагорскі р-н Карэльскай АССР) прыгавораны (верагодна, разам са святарамі Фамой *Глінскім* і

Рыгорам *Ляўчуком*) за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Па першай справе (№ 26931-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 31.5.1989 пракуратурай БВА, па другой 30.11.1989 пракуратурай Карэльскай АССР.

## Р

**РАВУН Іосіф Ізраілевіч**

У 1919—20 служыў у Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 31.7.1936 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 5, кв. 15. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 14.12.1936 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Другі раз арыштаваны 21.1.1949. Асуджаны 20.4.1949 да высылкі ў Краснаярскі край (Туруханскі р-н, пас. Чулкава). Рэабілітаваны па першай справе судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 16.9.1955, па другой — судовай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.8.1958. Асабовая справа Р. № 5561-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАГАЧЭЎСКІ Пятро Іванавіч**

З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту працаваў у Белдзяржкіно. Арыштаваны 23.2.1933 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 4.11.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Р. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАКІТА Сяргей**

Меў сярэднюю адукацыю. Арыштаваны 20.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Гарбарная, д. 33, кв. 8. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацы-

янал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Р. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАК-МІХАЙЛОЎСКІ Сымон Аляксандравіч**

У 1918—19 член бел. вайсковай камісіі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арганізатар і член ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Беларускай народнай рады. Уступіў у ВКП(б). Член ЦВК БССР. Падчас арышту дырэктар Беларускага дзяржаўнага гістарычнага музея. Арыштаваны 16.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, 2-і Дом Саветаў. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 9.1.1934 як «арганізатар і кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП (заменена на 10 гадоў ППК). Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Р. № 10182-с (спынена 16.8.1956) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАМАНОЎСКАЯ Ганна Пятроўна (Антонаўна)**

Апошняе месца работы — бібліятэкар Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя У.Леніна. Арыштавана ў Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 50, кв. 6. Асуджана як «сацыяльна-небяспечны элемент і падазроная ў сувязях с разведорганамі Літвы» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Этапавана ў Новасібірскую вобл. Вызвалена ў 1941. Асабовая справа Р. № 6867-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАМЕНСКІ Фёдар (Феадосій) Яўграфавіч**

З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту епіскап Беларускай аўтакефальнай царквы. Арыштаваны 28.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Пажарная, д. 8. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.10.1937 за «антысавецкую

дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.3.1989. Асабовая справа Р. № 23379-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РАФАЛЬСКІ Міхаіл Фадзеевіч**

Даты арышту і смерці дакладна невядомыя.

15.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 87 арыштавана хатняя гаспадыня Рафальская Яўгенія Маркаўна (н. ў 1887 у Макараве Кіеўскай губ., цяпер Украіна, у сям'і служачага), верагодна, жонка Міхаіла *Рафальскага*. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «жонка здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 24.7.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 18.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа № 7157-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РЖЭЎСКІ Баніслаў Андрэевіч**

Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 16.1.1957. Асуджаны да 7 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР (п/с 385/7-11). Рэабілітаваны 29.3.1990 пленумам Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Р. № П-13124 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**РОЗНА Алесь**

З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік газ. «Чырвоная змена». Арыштаваны 28.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 27, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Асабовая справа Р. № 9934-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**РУСАКОВІЧ Сяргей Фёдаравіч**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў у Вайсковым выдавецтве (?). Арыштаваны 23.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 63б, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Р. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## С

**САБІЛА Эрнст Канстанцінавіч**

Падчас першага арышту — студэнт 1-га курса Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 29.6.1951 у Мінску па адрасе: вул. Вакзальная, д. 12, кв. 1. Асуджаны 22.9.1951 за «антысавецкую агітацыю» да 25 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Вызвалены 23.4.1956. Рэабілітаваны 6.12.1991 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа С. № 31937-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САК Аляксандр Мікалаевіч**

Нарадзіўся ў в. Сегда (?) Навагрудскага пав. Мінскай губ. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю і шкодніцтва» да 5 гадоў ППК. Пасля вызвалення вярнуўся ў Мінск. Працаваў прарабам ў Трэсце № 1 «Белбудматэрыялы». Паўторна арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 25.8.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны ў ноч з 26 на 27 жн. 1937 у мінскай турме НКВД. Па першай справе рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі 19.9.1960, па другой — трыбуналам БВА 26.10.1962. Асабовая справа С. № 17935-с

і групавая справа С. і іншых № 20951-с (з фотаздымкам) захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі.

**САЛАГУБ Алесь (Аляксей) Феафілавіч**

Верагодна, сваяк Андрэя *Салагуба*. У 1923 уступіў у ЛКСМБ, затым у КПЗБ. Арыштаваны 10.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Садовая, д. 10, кв. 8. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа С. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

2.9.1933 была арыштавана Салагуб Вольга Феафілаўна (н. ў 1913), сястра А.*Салагуба*. 9.1.1934 калегіяй АДПУ яна была асуджана як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Варкуцінскі канцлагер АДПУ Архангельскай вобл. Вызвалена 14.2.1939. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 18.4.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**САЛАНЕВІЧ Іван Лук'янавіч**

Удзельнічаў у грамадзянскай вайне (на баку «белых»). Першы раз арыштаваны ЧК разам з сям'ёй у 1920. У 1934 уцёк з канцлагера з сынам і малодшым братам. Пасля высылкі ўрадам Перона ў пачатку 1950-х г. (?) з Аргенціны, жыў ва Уругваі (Монтэвідэа), дзе і памёр у Італьянскім шпіталі ад рака страўніка. Ягоная кніга «Россия в концлагере» перакладзена на 17 моваў, вытрымала 6 рускіх выданняў.

Кр.: інф. І.Вароніна (газ. «Монархист»).

**САХАРАЎ Сяргей Пятровіч**

З 1935 да 1938 зрабіў гісторыка-статыстычнае апісанне «Православные церкви в Латгалии» (па заданні сінода Лат-

війскай праваслаўнай царквы) і даследаванне «Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў». Арыштаваны 9.7.1945. Абвінавачваўся ў «антысавецкай агітацыі» і інш. Асуджаны да 5 гадоў зняволення.

Тв.: Рижские православные архипастыри за сто лет (1836—1936). Рыга, 1937.

Літ.: Мартиролог православных священнослужителей Латвии, репрессированных в 1940—1952 гг. М., 1999.

**СЕМАШКЕВІЧ Раман Мацвеевіч**

Нарадзіўся 1.10.1900. Брат Алены *Семашкевіч*. Арыштаваны 1.11.1937 у Маскве па адрасе: Успольны зав., д. 17, кв. 9/10. Асуджаны 20.12.1937 «тройкай» НКВД за «контррэвалюцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны 22.12.1937 у Маскве. Рэабілітаваны 2.6.1958. Альбомы С. выдадзены ў Маскве яго жонкай.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Літ.: *Васільева Н.* Двойчы забіты // *Мастацтва*, 1998. № 1; *Казлоўскі М.* Як птушка нябесная... // *ЛіМ*. 2003. № 14.

**СЕРАДА Янка**

Малодшы брат Сяргея *Серады*. З сям'і святара. Нарадзіўся ў в. Задзвея Мінскай губ. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 9.7.1935. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 10.6.1988. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СКАБЛОЎ (СКОБЛАЎ) Фёдар Аляксеевіч**

Паводле іншых звестак, нарадзіўся ў 1905. Падчас арыш-

ту навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі БелАН. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 25.5.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 5.10.1957. Асабовая справа С. № 10945-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СКАНДРАКОЎ Сяргей Вячаслававіч (Васілевіч)**

Быў жанаты, меў дзіця. Падчас арышту прафесар Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Яраслаўлі. Вызвалены 15.11.1934. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СКАРДЗІС Вікенцій Іосіфавіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 10.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 19.8.1938 як «член літоўскай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Асабовая справа С. № 10983-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СКРЫГАН Ян**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 14.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маркаўская, д. 9, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа С. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: Слова пра Яна Скрыгана. Успаміны. Мн., 2005

**СЛАБАДЗЕЦКІ Антон Лявонцевіч**

Паводле іншых звестак нарадзіўся 24.12.1904. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 8.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 48, кв. 18. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 22.2.1938 як «агент польскіх разведорганаў» да 10 гадоў ППК. Асабовая справа С. № 5548-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЛУЧАНІН Лявон**

З сялянскай сям'і. Арыштаваны 29.9.1937. Асуджаны 2.12.1937 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў папраўча-працоўны канцлагер «Волгабуд» НКВД Яраслаўскай вобл. 28.10.1939 пастановай Чэрыкаўскага раённага аддзела НКВД БССР вызвалены і рэабілітаваны. Асабовая справа С. № 5550 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**СМОЛІЧ Аркадзь Антонавіч**

З сям'і святара. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. 10.6.1938 Асуджаны да ВМП. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СНЕЖКА (БЕЛЫ) Дзмітрый Сямёнавіч**

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: Мэблевы зав., д. 4, кв. 2. Асуджаны за «антысавецкую агітацыю». Асабовая справа С. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТАШЭЎСКІ Васіль**

Быў жанаты на Лідзіі *Сташэўскай*. 28.10.1937 асуджаны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа С. № 10477-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СТЭФАНОВІЧ Аляксандр Піліпавіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту рэдактар газ. «Бальшавік Барысаўшчыны». Арыштаваны 30.10.1935 у Барысаве па адрасе: вул. 3-га Інтэрнацыянала, д. 50. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 11.8.1936 за «супрацоўніцтва з польскай палітычнай паліцыяй» да 6 гадоў ППК і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.6.1956. Асабовая справа С. № 9989-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУКАЛА Іосіф Пятровіч**

З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў настаўнікам у Гулявіцкай школе. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 30.5.1929 у в. Гулявічы. Асуджаны 10.11.1929 асобай нарадай пры АДПУ як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шпіянаж» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер АДПУ Карэльскай АССР. Вызвалены 23.3.1932. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 2.3.1992. Асабовая справа С. № 31969-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СУШЫНСКІ Язэп (Іосіф) Францавіч**

Быў жанаты, гадаваў пяцярых дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**СЦЕРНІН Мікалай Клеафасавіч**

Арыштаваны 11.6.1938. Пад следствам знаходзіўся ва ўнутранай турме НКВД у Мінску. Вытрымаў больш за сорак допытаў, якія суправаджаліся страшнымі катаваннямі. Вызвалены 11.7.1939.

Кр.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска.* У 4 кн. Кн. 3-я. Мн., 2004. С. 525—526.

## Т

**ТАКАРЧУК Юры**

З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дзіця. Падчас арышту адказны сакратар радыёгазеты «Апошнія паведамленні». Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: Омскі зав., д. 6/1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 15.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. 2.5.1942 тэрмін пакарання быў зніжаны да 8 гадоў. Загінуў 31.7.1942 у Табольскай турме НКВД Цюменскай вобл. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 26.1.1955. Асабовая справа Т. № 4877-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТАМІЛЬЧЫК Мітрафан Лукіч**

Бацька члена-карэспандэнта НАН Беларусі фізіка Льва Тамільчыка. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 4.2.1958. Асабовая справа Т. № 11427-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТАЎБІН Юлій**

Паводле іншых звестак, у першай палове 1930-х г. вучыўся ў БДУ.

**ТАЧЫЦКІ Адольф Герасімавіч**

З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю (у 1931 або 1932). Быў жанаты, меў сына Рычарда. Падчас арышту працаваў інжынерам-механікам. Арыштаваны 31.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Р.Люксембург, д. 14, кв. 17. Асуджаны

15.2.1938 паводле пастановы калегіі НКВД СССР як «агент буржуазнай польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Варонежскай ВА 6.9.1957. Асабовая справа Т. № 10791-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТАЧЫЦКІ Іван Герасімавіч**

Скончыў Мядзельскую гімназію, Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. Быў жанаты, гадаваў трох сыноў: Якава, Леанарда і Эдуарда (цяпер — член-карэспандэнт НАН Беларусі). Падчас арышту навуковы супрацоўнік Аграглебавага інстытута БелАН. Арыштаваны 31.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Пралетарская, д. 12, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 15.2.1938 як «агент буржуазнай польскай разведкі» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам Варонежскай ВА 6.9.1957. Асабовая справа Т. № 10791-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТРАМПОВІЧ Павел Віктаравіч**

Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Падчас арышту дацэнт медыцынскага ф-та БДУ. Арыштаваны 9.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у Астрахані. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Т. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТУРБОВІЧ Дора Рыгораўна** [1899, мяст. Індура Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., цяпер вёска ў Гродзенскім р-не — 20.12.1937, Мінск, НКВД], педагог, гісторык. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 2.3.1937 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 13.

Асуджана пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.12.1966. Асабовая справа Т. № 19636-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТЭЙФ Майсей Саламонавіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту працаваў у Доме пісьменніка. Арыштаваны 23.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 45, кв. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за «шпіянаж на карысць Польшчы» і як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Варкуцінскі канцлагер НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.5.1989. Асабовая справа Т. № 25669-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, былі рэпрэсаваны і сваякі Т.

**ТЭРАЎСКІ Уладзімір Васілевіч**

Арыштаваны 3.9.1921 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.9.1921 як «неданосчык» да ВМП (заменена на 5 гадоў ППК). Этапаваны ў Смаленскі папраўчы дом. Вызвалены 24.5.1923. Рэабілітаваны 6.8.1996. Асабовая справа Т. № 20479 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## У

**УЛАСАЎ Аляксандр Мікітавіч**

Паводле іншых звестак, нарадзіўся ў Вільні. З сям'і бел. землеўласніка. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны ва ўласным маёнтку Мігаўка, цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. Асуджаны як «былы член ЦК буржуазнай Беларускай грамады» і за тое, што ў «перыяд нямецкай акупацыі (1918—19) быў членам рады БНР». Загінуў ад параліча сэрца пры этапаванні ў Сібірскі канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. Рэ-

абілітаваны 6.1.1961 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа У. № 16861-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**УЛАШЧЫК Мікалай**

22.10.1929 у в. Востраў (паводле іншых звестак, у в. Возера) тагачаснага Самахвалавіцкага (цяпер Дзяржынскага?) р-на Мінскай вобл. былі арыштаваны селянін-аднаасобнік Улашчык Юльян Феліцыянавіч (н. ў 1860) і ягоны сын Улашчык Яўген Юльянавіч (н. ў 1904). 13.1.1930 калегіяй АДПУ яны былі асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі і за сувязь з польскай разведкай» да 3 гадоў высылкі ў Паўночны край. Далейшы лёс Ю.Ф.Улашчыка невядомы. Я.Ю.Улашчык пасля вяртання на радзіму працаваў брыгадзірам збожжанарыхтоўкі ў Асіповічах Магілёўскай вобл. Зноў арыштаваны 18.7.1937 і 7.9.1937 «тройкай» НКВД прыгавораны за «ўдзел у кулацкай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Далейшы ягоны лёс таксама невядомы. Ю.Ф.Улашчык і Я.Ю.Улашчык па групавой справе (№ 29033-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 19.7.1989 пракуратурай БВА. Па сваёй асабовай справе (№ 7570-сн; захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) Я.Ю.Улашчык рэабілітаваны пастановай Магілёўскага абл. суда 10.2.1962.

5.2.1930 у в. Віцкаўшчына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. былі арыштаваны брат Ю.Ф.Улашчыка селянін-аднаасобнік Улашчык Мікалай Феліцыянавіч (н. ў 1861) і яго старэйшы сын, бацька пяцярых дзяцей Улашчык Павел Мікалаевіч (н. ў 1895), брат М.М. і Н.М. *Улашчыкаў*. 10.3.1930 калегіяй АДПУ яны былі асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі і сувязь з польскай разведкай» да 3 гадоў высылкі ў Паўночны край. Далейшы іх лёс невядомы. Рэабілітаваны па групавой справе (№ 24806-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) пракуратурай БВА 12.6.1989.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**УСПЕНСКІ Яўген Канстанцінавіч**

З сям'і службоўца. У 1917 уступіў у ВКП(б). У 1925—36 прафесар БДУ. У 1935 выключаны з ВКП(б) за «прытупленне класавай пільнасці і адрыў ад партыйнага жыцця». Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 97, кв. 12. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «актыўны член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай шпіёнска-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.7.1957. Асабовая справа У. № 10764-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.11.1937 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 23 арыштавана касір Аптэкаўпраўлення Белмедінструментаў Успенская Ксенія Міхайлаўна (н. 13.11.1892 у Вільні ў сям'і службоўца), жонка Яўгена *Успенскага*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5.9.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 12.6.1956. Асабовая справа У. № 6686-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

19.11.1937 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 23 арыштаваны сыны У. — Рыгор (н. 5.5.1919, вучань Мінскай СШ № 4) і Уладзімір (н. 28.7.1916, студэнт фізіка-матэматычнага ф-та БДУ). 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР асуджаны як «члены сям'і расстралянага ворага народа» да 5 гадоў ППК і этапаваны (хутчэй за ўсё, разам з маці) у Карагандзінскі канцлагер Казахскай ССР. Уладзімір вызваліўся 19.11.1942. Пра далейшы лёс Рыгора нічога невядома. У 1956 трыбуналам БВА былі рэабілітаваны. Іх асабовыя справы № 6660-с (Уладзіміра) і № 6662-с (Рыгора) захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**Ф**

**ФАЛЬСКІ Усевалад Сцяпанавіч**

Нарадзіўся ў в. Лошыца Мінскага пав. Мінскай губ. (цяпер у межах Мінска). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты. Арыштаваны 3.9.1921 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.9.1921 за «дапамогу ў шпіянажы» да ВМП (заменены на 5 гадоў пазбаўлення волі). Этапаваны ў Смаленскую турму. Вызвалены 30.5.1923. Рэабілітаваны 6.8.1996. Асабовая справа Ф. № 20479-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ФАМІН Сяргей Уладзіміравіч**

Арыштаваны 8.2.1935. Асуджаны 28.4.1935 «тройкай» НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Па першай справе (№ 15523; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) рэабілітаваны 27.2.1956 Вярхоўным судом БССР.

**ФІЛІСТОВІЧ Янка (Іван Андрэевіч)**

Асуджаны да ВМП 5.11.1953. Расстраляны.

Кр.: Беларускі рэзыстанс. 2004. № 1. С. 36.

**Х**

**ХАДЫКА Уладзімір Марцінавіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 25, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Х. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХАРУЖАЯ Вера Захараўна**

У 1935 выключана з партыі па даносу мужа, Скульскага (Мертэнса) Станіслава Адамавіча. Арыштавана органамі НКВД 10.8.1937. Два гады знаходзілася ў Мінскай унутранай турме НКВД. Вызвалена 15.8.1939.

Літ.: *Селеменев В., Селицкая Л.* Ордер № 37. Как Вера Хоружая не стала «польской шпионкой» // *Народная газета*. 2001. 9 лют.

**ХАРЫК Ізі**

У 1916—23 член арганізацыі «Паалей-Цыён». У другой палове 1920-х г. уступіў у ВКП(б). Гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Савецкая, Дом спецыялістаў. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцка-зіноўеўскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.6.1956. Асабовая справа Х. № 6870-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 52 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей, Дзіна Звулаўна Харык (н. ў 1911 у Бабруйску), жонка Ізі *Харыка*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Вызвалена ў 1946. Вярнулася на радзіму. Рэабілітавана 14.8.1956. Асабовая справа Х. № 6846-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХАТУЛЁЎ Пятро**

Быў членам ВЛКСМ. Арыштаваны 3.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Р.Люксембург, д. 44, кв. 12. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.9.1966. Асабовая справа Х. № 19561-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХАЦКЕВІЧ Рыгор Мікітавіч**

З сялянскай сям'і. Працаваў настаўнікам у Крупскай бел. СШ Мінскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.11.1936 у пас. Крупкі. Асуджаны 28.5.1938 асобай нарадай пры НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалены ў 1942. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1957. Асабовая справа Х. № 10395-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХВЕДАРОВІЧ Мікола**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. У 1936 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны 3.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 24, кв. 10. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 16.7.1940 за «ўдзел у антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Нарыльскі канцлагер НКВД Краснаярскага краю. Вызвалены 28.9.1955. Рэабілітаваны 24.9.1955. Асабовая справа Ф. № 5828-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ХВЕЦЬКА Люцыян**

Памёр 28.4.1944.

**ХУРСІК Сымон Аляксеевіч**

У канцы 1920-х г. сакратар час. «Маладняк». Арыштаваны 18.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 13.10.1958. Групавая справа Х. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВІКЕВІЧ Аляксандр Іванавіч**

Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў высылкі. 14.7.1935 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР прыгавораны да ВМП. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа і іншых Ц. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВІКЕВІЧ Іван Іванавіч**

Паводле іншых звестак, нарадзіўся ў ліст. 1894. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Асуджаны 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Другі раз прыгавораны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.7.1938 да ВМП. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Асабовая справа Ц. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЦВЯТКОЎ Леў Мікалаевіч**

Нарадзіўся ў 1881 у Яраслаўскай губ. ў бел. сям'і. У 1930-я г. працаваў настаўнікам у пас. Надва Руднянскага р-на Смаленскай вобл. Арыштаваны 27.9.1937. Асуджаны 17.11.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны 28.11.1937 у Смаленску.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ЦЕРАХ Адам Адамавіч**

Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 25.5.1938 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 24.7.1989.

Асабовая справа Ц. № 30511-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



**ЧАРЖЫНСКІ Уладзіслаў Вікенцевіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 28.6.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Ч. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЧАРНЕНКАЎ Антон Іванавіч**

Нарадзіўся 14.6.1902 у сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 31.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 62. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 9.2.1940 як «член нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 11.6.1942. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 2.4.1957. Асабовая справа Ч. № 10161-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЧАРНЕЦКІ Мікола Антонавіч**

З 1919 актывіст Грамады беларускай моладзі ў Гродне, сябра БПС-Р. З 1921 жыў у Празе, удзельнічаў у бел. студэнцкім руху. Скончыў курсы на атрыманне атэстата за сярэднюю школу ў Юзафове. Сябра Аб'яднання бел. паступовага студэнцтва.

**ЧАРОТ Міхась**

Стрыечны брат Іосіфа і Івана *Кудзелькаў*. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1920 уступіў у ВКП(б). Быў жанаты,

гадаваў траіх дзяцей. Падчас арышту загадчык літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Арыштаваны 24.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 35, кв. 1, адначасова выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.12.1956. Асабовая справа К. № 8153-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 47, кв. 2 арыштавана хатняя гаспадыня Дадыка Ефрасіння Тарасаўна (н. ў 1903), жонка Міхася *Чарота*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Загінула ў зняволенні ў першай палове 1940-х г. Рэабілітавана 11.3.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ч. № 10102-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## Ш

**ШАЛАЙ Макар Ксенафонтавіч**

З сялянскай сям'і. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Другі раз арыштаваны 17.11.1936 у мяст. Расоны Віцебскай вобл. Асуджаны 28.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1957. Асабовая справа Ш. № 6742-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ШАСТАКОЎ Павел Пятровіч**

Нарадзіўся ў в. Манастыршчына. Брат Сяргея *Шастакова*. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас арышту нам. наркама асветы БССР, старшы кансультант Белдзяржкіно

БССР.Арыштаваны 30.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, 16 (2-гі Дом Саветаў). Асуджаны 28.10. 1937 як «член дыверсійна-шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 29.10.1937. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.11.1956. Асабовая справа Ш. № 7772-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 як «член сям'і здрадніка радзімы» арыштаваны сын Ш., Вадзім Паўлавіч Шастакоў, 1921 г. нараджэння, вучань адной з мінскіх школ. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР шаснаццацігадовага падлетка асудзілі да 5 гадоў ППК. Далейшы яго лёс невядомы.

**ШАТЭРНІК Мікалай Васілевіч**

Паводле апошніх звестак, рэпрэсаваны не быў, памёр ад запалення лёгкіх.

**ШАШАЛЕВІЧ Васіль Антонавіч**

Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Паўторна арыштаваны 28.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Вызвалення, д. 13, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Асабовая справа Ш. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШКІЛЬТЭР Карл Юр'евіч**

З сям'і латышскага рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту часова выконваў абавязкі дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна. Арыштаваны 3.12.1937 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.9.1940 за «шпіянаж на карысць буржуазнай Латвіі» да 5 гадоў ППК. Памёр у канцлагеры ад запалення лёгкіх. Рэабілітаваны су-

довай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.6.1957. Асабовая справа Ш. № 10480-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЛОСБЕРГ Яфім Паўлавіч**

У 1930-я г. ўступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Узнагароджаны трыма ордэнамі і чатырма медалямі. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН, загадчык кафедры гісторыі МВПІ. Арыштаваны 6.11.1948 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 47, кв. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 23.4.1949 за «прыналежнасць да антысавецкай групоўкі і антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа Ш. № 5905-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЛЮБСКІ Аляксандр Ануфрыевіч**

З сям'і святара. У 1918—21 служыў у Віцебскім (?) камісарыяце. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Групавая справа Ш. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШУКАЙЛА Паўлюк**

З беднай сялянскай сям'і. Кіназнаўца, прафесар. Падчас арышту ў Маскве 1.11.1938 — «бомж» (!). Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.4.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны ў Маскве на «Камунарцы» ў наступную пасля прысуду ноч.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ШУКЕВІЧ-ТРАЦЦЯКОЎ Радыён Канстанцінавіч**

З 1918 служыў у Чырвонай арміі. Некаторы час займаў пасаду загадчыка Беларускага радыёкамітэта. Падчас арышту метадыст фізічнай культуры і спорту СНК БССР. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 17.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 104, кв. 3. Загінуў у Паўночна-Усходнім канцлагеры НКВД Далёкаўсходняга краю.

**ШУШКЕВІЧ Станіслаў Пятровіч**

Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту супрацоўнік аддзела культуры газ. «Звязда». Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Сляпянская, д. 29, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 за «прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Некаторы час пакаранне адбываў у Сібірскім канцлагеры. 22.8.1949 зноў арыштаваны і 10.12.1949 асобай нарадай МДБ СССР асуджаны да высылкі ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Ш. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЧАКАЦІХІН Мікола Мікалаевіч**

Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН, дацэнт БДУ, гадаваў дваіх дзяцей. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.1.1956. Групавая справа Ш. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЧАРБАКОЎ Васіль Паўлавіч**

Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас арышту акадэмік БелАН. Арыштаваны 21.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 76. Асуджаны пазасудовым органам

НКВД 29.6.1938 за «шпіянаж на карысць польскіх разведорганаў» і як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.7.1957. Асабовая справа Ш. № 10759-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ШЫДЛОЎСКІ Усевалад Аляксандравіч**

Паводле некаторых звестак, магчыма, сапраўднае імя — Вячаслаў.

## Ю

**ЮДЭЛЬСОН Арон Ісакавіч**

Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 11.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 98. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцкай арганізацыі, які рыхтаваў тэрарыстычны акт» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.4.1957. Асабовая справа Ю. № 10266-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 (?) у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 98, кв. 2 арыштавана інспектар Дзяржаўнага банка, маці дваіх дзяцей, Шур Бася Саламонаўна (н. ў 1902 у пас. Урэчча Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. у сям'і службоўца; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Арона *Юдэльсона*. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Вызвалена ў жн. 1946. Рэабілітавана 10.6.1957. Яе асабовая справа № 10394-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЮРГЕЛЕВІЧ Пётр Якаўлевіч**

Да 1917 у рускай дзеючай арміі, з 1917 член ВКП(б), радавы 7-га сібірскага дывізіёна. З 1919 на Заходнім фронце ў скла-

дзе Беларуска-літоўскай (?) дывізіі. Падчас арышту меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 2.11.1935 ў Мінску. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 31.3.1936 за «контррэвалюцыйную дзейнасць і незаконнае захоўванне зброі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны (не раней 1938) ў Вяцкі канцлагер НКВД Кіраўскай вобл. Вызвалены 2.11.1940. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 25.11.1960. Асабовая справа Ю. № 16797-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## Я

**ЯКУБЧЫК Сямён Міхайлавіч**

Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 15.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, кв. 9. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.10.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Асабовая справа Я. № 11055-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯКШЭВІЧ Аляксандр Іванавіч**

З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Грамадская, д. 30/6, кв. 2. Асуджаны 5.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Я. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЯРАШЭВІЧ Міканор (Ніканор) Казіміравіч**

Нар. 11(24).7.1885 у мяст. Новы Свержань Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. Бел. грамадска-паліт. дзеяч, аграном, педагог, верагодна, брат І.*Ярашэвіча*. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Глухаўскі настаўніцкі (1910) і Мас-

коўскі сельскагаспадарчы (1912) інстытуты. У час вучобы ў Маскве ўваходзіў у склад бел. студэнцкага гуртка, дасылаў лісты ў газ. «Наша ніва». Працаваў аграномам, чытаў лекцыі па аграноміі ў навучальных установах Мінскай, Смаленскай і Харкаўскай губ. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 адзін з кіраўнікоў Мінскай губернскай земскай управы. У пачатку сак. 1918 у складзе мінскай земскай групы кааптаваны ў Раду БНР, аднак 25.3.1918 разам з іншымі прадстаўнікамі земстваў, гарадскога самакіравання і нацыянальных меншасцей выйшаў з яе складу ў знак нязгоды з прыняццем Трэцяй Устаўнай граматы. Адзін з аўтараў праекта стварэння ў Мінску ун-та. У час польска-савецкай вайны 1919—20 узначаліў Мінскую губернскую земскую ўправу, выкладаў у Мінскім політэхнічным вучылішчы. 18.9.1919 у час прыезду ў Мінск Ю.Пілсудскага пры сустрэчы апошняга з грамадскасцю ў памяшканні былога Мінскага дваранскага сходу адзіны, хто выступіў з публічным пратэстам супраць польскай акупацыі краю, заявіў, што «палякам няма чаго шукаць у Беларусі». Ва ўмовах польскай акупацыі і фактычнай перамогі бальшавікоў у грамадзянскай вайне падтрымліваў утварэнне суверэннай Беларускай рэспублікі. У пачатку 1920-х г. у складзе «расійскай сацыялістычнай групы» беспаспяхова ўдзельнічаў у выбарах у Мінскі гарадскі магістрат. З аднаўленнем савецкай улады ў ліст. 1920 прызначаны першым рэктарам новаўтворанага Беларускага політэхнічнага інстытута (БПІ), адначасова выкладаў у Мінскім інстытуце народнай адукацыі (МІНА), Бел. рабочым тэхнікуме, выконваў абавязкі загадчыка аддзела наркамата асветы БССР. Ініцыятар стварэння і першы старшыня Беларускага вольна-эканамічнага таварыства. Выступаў супраць т.зв. прымусовай беларусізацыі, быў прыхільнікам паступовага пераводу выкладання ў навучальных установах Беларусі на бел. мову. У канцы 1920 — пачатку 1921 намагаўся

аднавіць дзейнасць эсэраўскай арганізацыі «абласнікоў». Арыштаваны 9.3.1921. Абвінавачваўся ў антысавецкай дзейнасці. Дзякуючы заступніцтву 38 выкладчыкаў БПІ, МІНА і Беларускага рабочага тэхнікума праз 2 месяцы вызвалены (паводле іншых звестак 18.11.1922 асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 2 гадоў пазбаўлення волі; вызвалены 28.3.1924). У другой палове 1920-х г. працаваў у Сярэднеазіяцкім ун-це, Інстытуце ірыгацыі і механізацыі сельскай гаспадаркі Узбекскай ССР. Пасля чарговага арышту ў 1930 выселены разам з сям'ёй з Ташкента ў сельскую мясцовасць, але ў 1933 зноў дазволена вярнуцца назад. У 1937 арыштаваны за «шпіянаж на карысць замежных разведак» і прыгавораны да 10 гадоў ППК. Паводле слоў жонкі, знаходзіўся ў адным з пунктаў Краснаярскага канцлагера НКВД. Загінуў у зняволенні. Па першай справе (№ 36730-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 8.12.1995.

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**ЯРАШЧУК Еўдакім Лявонцевіч**

Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа Я. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

## A

## Б

**В**

## Г

## Д

## Е Ё



## Ж

## З

## І

## К

## Л

**М**

## Н

О



П

**Р**

## С

## У



## Ф

**Х**

**Ц**

## Ч

## Ш

## Э



## Ю

## Я

У працэсе збору інфармацыі для 3 тома даведніка, дзякуючы некаторым расійскім архівам, а таксама мемарыяльным сайтам, што з’явіліся ў Інтэрнеце ў апошнія гады, былі сабраны новыя звесткі пра лёсы тысяч пакутнікаў сталінскага тэрору, інтэлектуальнай эліты нашай нацыі, грамадскіх, палітычных, гаспадарчых, культурных дзеячаў, навукоўцаў, святароў, лекараў, настаўнікаў, інжынераў, юрыстаў і г.д. У сувязі са сказаным вышэй 3 том даведніка не стане апошнім. Ужо рыхтуюцца 4, 5, 6 і 7 тамы. Пошукі працягваюцца.

Даведачнае выданне

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**

# Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991.

***Энцыклапедычны даведнік***
***Том 3. Кн. 2***
***Лабадаеў—Яцына***

Том I:

Прадмова, біяграфіі і пералік асноўных твораў (калі адшуканы) рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары А — К).

Том II:

Біяграфіі і пералік асноўных твораў рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары Л – Я).

Том III:

Біяграфіі рэпрэсаваных беларускіх літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, звесткі і факты пра якіх на час выхаду першых двух тамоў не былі ўдакладнены і сістэматызаваны, або наогул адшуканы ў самы апошні момант, а таксама папраўкі і ўдакладненні да персаналіяў, уключаных у тамы I, II, III-1.

*Карэктары: Мікола Савік, Аксана Спрынчан*
*Камп'ютэрная вёрстка: Вінцэсь Ліпскі*

Падпісана да друку 21.8.2005. Афсетны друк. Фармат 60х84/$_{16}$.
Гарнітура Century Schoolbook. Ум. друк. арк.   . Ул.-выд. арк.   .
Тыраж 50 экз. Замова №     .
Смаленская абласная друкарня імя Смірнова, г.Смаленск, пр.імя Ю.Гагарына, 2.